902.6
Т48

Рэдактар
доктар гістарычных навук П. А. Раппапорт

Рэцэнзенты:
кандыдат архітэктуры Т. І. Чарняўская,
кандыдат гістарычных навук Г. В. Штыхаў

**Ткачоў М. А.**

Т 48 Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Рэд. П. А. Раппапорт. Мн., «Навука і тэхніка», 1978.

144 с. з іл. (АН БССР. Ін-т гісторыі).

У кнізе на багатым фактычным матэрыяле, з шырокім выкарыстаннем архіўных і пісьмовых крыніц паказваюцца вытокі беларускага ваеннага дойлідства, характарызуюцца асноўныя этапы яго развіцця, сувязі і ўзаемаўплывы з дойлідствам бліжніх і далёкіх суседзяў Расказваецца аб замках Гродзенскім, Навагрудскім, Лідскім, Крэўскім, Мірскім і інш., дзе аўтарам праведзены археалагічныя раскопкі Значная ўвага ўдзяляецца прыстасаваным да абароны Маламажэйкаўскай і Сынковіцкай царквам, Камайскаму касцёлу і іншым помнікам гэтага рэгіёна. Разглядаюцца абарончыя ўмацаванні прыватнаўласніцкіх і вольных каралеўскіх гарадоў — Нясвіжа, Слуцка, Койданава (Дзяржынск), Брэста і інш.

Разлічана на навуковых супрацоўнікаў, гісторыкаў, археолагаў, выкладчыкаў школ, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца мінулым Беларусі.— Бібліягр. у падрадк. заўвагах.

Т $\frac{10604—009}{М316—78}$ 18—77 902.6

© Выдавецтва «Навука і тэхніка», 1978 г.

## УВОДЗІНЫ

Старажытная архітэктура з'яўляецца неад'емнай часткай нацыянальнай беларускай культуры. Асаблівае месца ў ёй займаюць помнікі ваеннага дойлідства — старадаўнія замкі і ўмацаванні гарадоў. З поўным правам іх можна лічыць актыўнымі ўдзельнікамі многіх бітваў беларускага народа з ворагамі, непасрэднымі сведкамі нялёгкіх перамог. Гэта не толькі помнікі патрыятызму, гераічнай барацьбы і каласальнай працы, укладзенай у справу абароны кроўных інтарэсаў роднай зямлі. Адначасова гэта і яркае сведчанне высокай культуры нашых продкаў, стварыўшых сапраўдныя архітэктурныя шэдэўры. Архітэктурна-гістарычная традыцыя ўзнесла абарончыя збудаванні на далоні высокіх маляўнічых пагоркаў. Нават цяпер яны ўражаюць унушальнай магутнасцю, вабяць вока цікавымі архітэктурнымі і планава-кампазіцыйнымі рашэннямі, знітаванасцю і суладдзем з навакольнай прыродай. На землях Заходняй Беларусі, якая на працягу стагоддзяў была арэнай жорсткіх бітваў з чужаземнымі захопнікамі, знаходзілася асабліва многа замкаў. Яны спрадвеку адыгрывалі ролю заслоны ад крыжацкай і шведскай агрэсіі.

Першыя пісьмовыя звесткі, а зрэдку і апісанні ўмацаванняў заходнебеларускіх гарадоў і замкаў трапляюцца на старонках розных усходнеславянскіх летапісаў, беларуска-літоўскіх, польскіх і рыцарскіх хронік XI — XVI стагоддзяў, у нататках ваенных дзеячоў, паслоў і падарожнікаў больш позняга часу [1].

Нягледзячы на тое што беларускія землі былі далучаны да Расіі яшчэ ў канцы XVIII ст., гісторыя беларускага народа і яго матэрыяльная культура фактычна сталі аб'ектам даследавання толькі пасля паўстання 1863 г. Патопленае самадзяржаўем у крыві, яно ў той жа час раскрыла факт наяўнасці ў Паўночна-Заходнім краі вастрэйшай барацьбы паміж польскай нацыяналістычнай шляхтай і рускімі шавіністычнымі коламі за правы валодаць гэтымі землямі. Калі польска-шляхецкія сілы вялі барацьбу пад лозунгам аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., дык царызм разам з мураўёвымі-вешальнікамі доказ-

---

[1] Полное собрание русских летописей (далей ПСРЛ), т. 1. М., 1962, стб. 20, 159, 300; СПб, 1908, стб. 63, 64, 132, 232, 282, 816, 876, 878, 927; т. 29. М., 1956, стб. 300; т. 32. М., 1975, стб. 19, 23, 132, 135; Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzska i wszystkiej Rusi, t. 1—2. Warszawa, 1846—1848; Gwagninus A. Kronika Sarmaceje Europskiej. Kraków, 1611; Герберштейн С. Записки о московитских делах. СПб, 1908, с. 223, 228, 243; Гейденштейн Р. Записки о Московской войне (1578—1582). СПб, 1889, с. 3, 6—7, 44, 50, 53; Второе хождение дьяка Трифона Коробейникова в святые земли.—«Чтения ОИДР при Московском университете», кн. 1, ч. 2. М., 1897, л. 5—7.

ваў «спрадвечнасць» правоў рускага самадзяржаўя на тутэйшыя «исконно русские земли», бязмежна «сапсаваныя» палякамі [2].

Факт гістарычнага існавання беларускага народа, не гаворачы ўжо пра яго матэрыяльную культуру, абодва бакі рашуча ігнаравалі.

Дзеля дасягнення сваіх мэт царскі ўрад праводзіў палітыку гвалтоўнай русіфікацыі і ваяўнічай прапаганды праваслаўя. «Пакуль царызм, —па словах савецкага гісторыка В. Т. Пашуты, — шматаў і ўродваў Беларусь, Літву, Украіну і іншыя народы ў рэальным жыцці, гісторыкі рабілі тое ж самае з гісторыяй гэтых народаў у сваіх працах» [3].

Абставіны, якія склаліся ў Паўночна-Заходнім краі ў другой палове XIX ст., выклікалі ўзмоцненую ўвагу і цікавасць да помнікаў старажытнасці. Гарадзішчы, курганы і рэшткі старадаўніх пабудоў XI—XIV стст. разглядаліся і прапагандаваліся як сведчанне «православной старины» і з гэтага пункту гледжання ўсяляк супрацьпастаўляліся больш позним помнікам, у якіх бачылі ўплывы польскай каталіцкай культуры. Найбольшую цікавасць да археалагічных помнікаў праяўлялі рэакцыйныя колы праваслаўнай царквы.

Гісторыя беларускага народа і яго культура трактаваліся з адкрытых манархічных, клерыкальных і вялікадзяржаўных пазіцый. Яркім сведчаннем таму з'яўляюцца дзейнасць Віленскай Археаграфічнай камісіі, выданне Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў і іншых зборнікаў дакументаў [4].

Пры ўсёй памылковасці агульных пазіцый і вывадаў дарэвалюцыйная гістарыяграфія сабрала і сістэматызавала значны фактычны матэрыял па гісторыі і культуры Беларусі. Тут неабходна адзначыць даволі шматлікія гісторыка-краязнаўчыя нарысы аб гарадах Беларусі і асобных помніках манументальнага дойлідства, што публікаваліся ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Яны змяшчалі цікавыя матэрыялы і часам былі выдатна ілюстраваны. Сярод такіх выданняў вылучаюцца «Жывапісная Расія», т. III (СПб, 1882), дзе ёсць багаты гістарычны і іканаграфічны матэрыял па Камянцу, Крэўскім, Лідскім, Мірскім, Навагрудскім і іншых замках; «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі» (СПб, 1861 — 1864), сабраныя па Гродзенскай, Віленскай і Мінскай губернях; «Помнікі праваслаўя Паўночна-Заходняга краю» (СПб, 1890); гравюры В. В. Гразнова; шматлікія выданні А. П. Сапунова аб старажытнасцях Віцебшчыны: «Віцебская старына», т. 1—4 (Віцебск, 1883—1888), «Рака Заходняя Дзвіна» (Віцебск, 1893) і інш.; «Расія, поўнае геаграфічнае апісанне нашай Айчыны», т. 9 (СПб, 1905) і іншыя выданні і артыкулы [5].

---

[2] Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973, с. 70.

[3] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. М., 1959, с. 166.

[4] Акты, издаваемые Археографической комиссией, высочайше утвержденною в Вильно (далей АВАК), т. 1—39. Вильно, 1865—1915; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Могилевской и Витебской, вып. 1—32. Витебск, 1871—1906; Документы, объясняющие историю Северо-Западного края и его отношение к России и Польше. СПб, 1865; Акты, относящиеся к истории Западной России. Вильно, т. 1—5, 1846—1853; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. 1—14. Вильно, 1867—1904 і інш.

[5] Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. СПб, 1858; Описание каменной башни близ Каменца.— «Вестник Западной России», т. 2, 1870, с. 332; Балабушевич В. Краткий исторический очерк Каменца-Литовского и современное состояние... построенной в XIII в. каменной башни.— «Литовские Епархиальные ведомости», 1881, № 24, 15; Старый замок и Коложская церковь.— «Памятная

Але ў вывучэнні беларускіх старажытнасцей прымалі ўдзел і выдатныя вучоныя свайго часу, якія ўнеслі вялікі ўклад у археалогію. Сярод іх трэба адзначыць братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, Адама Кіркора, В. З. Завітневіча, В. Шукевіча, Ф. В. Пакроўскага. Дзейнасць большасці з іх была цесна звязана з Археалагічнай камісіяй пры Віленскім музеі старажытнасцей, якая ў 1856—1865 гг. правяла першыя сістэматычныя даследаванні ў Беларускім Панямонні. Важнай падзеяй у археалагічным жыцці Паўночна-Заходняга краю стаў IX Археалагічны з'езд у Вільні (1893). Яго вынікам было выданне археалагічных карт Віленскай і Гродзенскай губерняў, зробленых Ф. В. Пакроўскім.

У пачатку XX ст. цікавае даследаванне па гісторыі асобных помнікаў абароннага дойлідства правёў І. І. Іядкоўскі. Ім былі апублікаваны абмерныя чарцяжы Мірскага замка, Сынковіцкай, Маламажэйкаўскай і Супраслеўскай цэркваў і некаторых іншых помнікаў[6].

Такая павышаная ўвага да помнікаў матэрыяльнай культуры беларускіх зямель, здаецца, павінна была б і далей спрыяць правядзенню спецыяльных фундаментальных даследаванняў. Але гэтага не здарылася, паколькі рэлігійныя і нацыянальныя супярэчнасці ў Беларусі паступова затухалі на фоне ўсё ўзрастаючай класавай барацьбы; царскі ўрад здолеў знайсці агульнае як з польскімі панамі і шляхтай, так і з каталіцкай царквой. З гэтым і прапала ў царскіх чыноўнікаў цікавасць да помнікаў «истинно русской, православной старины», а сапраўдныя вучоныя перасталі знаходзіць падтрымку ўрада.

Такім чынам, ужо ў дарэвалюцыйны час у Расіі былі праведзены збор і сістэматызацыя значнага фактычнага матэрыялу, які так ці інакш асвятляў гісторыю матэрыяльнай культуры на беларускіх землях і, у прыватнасці, помнікаў ваеннага дойлідства. Аднак асобна гэта пытанне нікім не ставілася і не вырашалася.

Польская буржуазная гістарычная навука XIX і XX стст. праводзіла сваю нацыяналістычную лінію і адстойвала свой погляд на гісторыю і культуру беларускага народа. Пачынаючы ад папулярных выданняў, ілюстраваных часопісаў і газет, якія ў значнай колькасці выдаваліся ў другой палове XIX ст., і канчаючы фундаментальнымі працамі энцыклапедычнага і агульнагістарычнага характару[7], інтэнсіўна вар'іравалася думка, што на тэрыторыі колішняй Рэчы Паспалітай існавала толькі культура польская, у меншай ступені літоўская. Пра беларускую культуру гаворкі ўвогуле не вялося. Больш аб'ектыўна асвятлялі гісторыю беларускіх зямель К. Тышкевіч і У. Сыракомля[8]. Тым не менш бясспрэчным з'яўляецца той факт, што польская гістарыяграфія дакастрычніцкага перыяду, таксама як і руская, сабрала вялікі фактычны матэрыял, зрабіла першыя спробы па яго крытычнаму разбору. Сведчаннем

---

книжка Гродненской губернии на 1890 г.». Гродно, 1889; «Виленский календарь на 1908 г.» Вильно, 1908; Авенариус Н. П. Башня волынского князя Владимира Васильковича в Каменце-Литовском.— «Труды о-ва исследователей Волыни», т. 1. Житомир, 1902 і інш.

[6] Иодковский И. И. Замок в Мире.— У кн.: Древности, т. 6. М., 1915; яго ж. Храмы, приспособленные к обороне на Литве и Литовской Руси.— Там жа.

[7] Olgebranda Encyklopedia Powszechna, t. 1—27. Warszawa, 1859—1868; Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego, t. 1—14. Warszawa, 1880—1895.

[8] Tyszkewicz K. Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej.— «Teka Wileńska». Wilno, 1858, № 4—6; Syrokomla W. Podróż po niegdyś mojim okolicam. Wilno, 1853.

гэтага з'яўляецца шэраг высоканавуковых артыкулаў, прысвечаных галоўным чынам царкоўнай архітэктуры [9].

У буржуазнай Польшчы (1918—1939) заходнебеларускія землі, якія ўваходзілі ў яе склад, разглядаліся санацыйным урадам як «усходнія крэсы» краіны. Адпаведна з гэтым і помнікі матэрыяльнай культуры сярэдневякоўя па традыцыі аб'яўляліся помнікамі польскай культуры. У 20-я і асабліва ў 30-я гады польскія вучоныя — гісторыкі, архітэктары і археолагі — правялі ў Заходняй Беларусі пэўныя работы па вывучэнню старажытнасцей і іх папулярызацыі. Работы па кансервацыі і добраўпарадкаванню тэрыторыі вяліся ў Навагрудскім замку. Археалагічнае абследаванне замчышча Р. Гюртлерам дазволіла выявіць лініі сцен замка, рэшткі дзвюх невядомых веж і падмуркі сярэдневяковага храма [10]. Група архітэктараў на чале з Е. Ромэрам і Ст. Лёрэтцам кіравала кансервацыяй руін [11]. Тады ж частковая кансервацыя праводзілася ў Лідскім, Крэўскім і Мірскім замках [12].

У час падрыхтоўкі да святкавання юбілею Стэфана Баторыя на Замкавай гары ў Гродна распачаліся археалагічныя работы. Былі адкрыты цікавыя помнікі манументальнай архітэктуры сярэдневякоўя, даследаваны і закансерваваны руіны замка [13]. Нязначныя даследаванні праводзіліся і ў Ваўкавыску [14]. Тады ж польскі археолаг Р. Якімовіч правёў раскопкі ў Давыд-Гарадку, дзе пры прарэзцы вала выявіліся вельмі цікавыя ўнутрывальныя канструкцыі [15].

У 30-я гады ў Польшчы выдалі даволі значную колькасць турыстычных даведнікаў і шэраг прац, у якія былі ўключаны звесткі пра выдатныя помнікі ваеннага дойлідства Заходняй Беларусі, а таксама гістарычныя нарысы многіх гарадоў. Сярод такіх выданняў сваёй навуковасцю вылучаюцца работы О. Гедэмана, М. Марэлёўскага, З. Жмігродскага, Ст. Лёрэнтца і інш. В. Таўрагіньскі прысвяціў дзве працы Нясвіжу, гісторыю Навагрудчыны вывучаў Х. Лаўмяньскі [16].

Прыкметна прасунуўшы наперад даследаванні па гісторыі асобных гарадоў і помнікаў манументальнага дойлідства, вышэйпамянёныя аўтары пакінулі многія пытанні нявысветленымі, паколькі першакрыніцы для іх вырашэння часта маглі быць атрыманы толькі ў ходзе архітэктурна-археалагічных даследаванняў. Аднак слабая вывучанасць помні-

---

[9] Szyszko-Bogusz A. Warowne zabytki architektury kościelnej w Polsce i na Litwie. Sprawozdania Komisji Historii Sztuki (SKHS), t. 9, z. 3—4. Kraków, 1904; Sokołowski M., Worobjew G., Zubrycki J. Kościoły i cmentarze warowne w Polsce.— SKHS, t. 7, Kraków, 1906; Balaban M. Bożnice obronne we wschodnich kresach Rzeczy Pospolitej. Warszawa, 1927.

[10] Gürtler R. Roboty konserwatorskie na górze Zamkowej w Nowogródku.— «Ochrona zabytków» (OZ). Warszawa, 1930—1931, z. 1—4; Lorentz St. Konserwacje ruin zamkowych w Wileńszczyźnie i Nowogródczyźne.— Там жа.

[11] Remer J. Architektura monumentalna w w-wie Nowogródskim. Nowogródek, 1926.

[12] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 3, адз. зах. 511, 542, 525, 530, 574.

[13] Wojcechowski J. Stary zamek w Grodnie. Warszawa, 1938; Durczewski Z. Stary zamek w Grodnie w swietle wykopalisk. Grodno, 1939.

[14] Jodkowski J. Grodzisko Wołkowyskie. Grodno, 1925.

[15] Jakimowicz R. Dawidgródek. Pińsk, 1931.

[16] Hedemann O. Historia powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930; яго ж. Drissa i Druja, magdeburgskie miasta. Wilno, 1934; яго ж. Głębokie. Wilno, 1935; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki Wileńskiej od gotyki do neoklasicyzmu. Wilno, 1938—1939 г; Żmigrodski J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1931; Lorentz St. Wycieczki Słonimskie. Słonim, 1933; Taurogiński B. Nieśwież. Warszawa, 1937; Z dziejów Nieświeża. Warszawa, 1937; Łowmiański H. Rys historyczny województwa Nowogródskiego w jego dzisiejszych granicach. Wilno, 1935.

каў культуры была характэрнай рысай гісторыі Заходняй Беларусі даваеннага перыяду.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя адкрыла новы этап у даследаванні гісторыі беларускага народа. Маладая беларуская гістарычная навука з вялікім энтузіязмам і запалам распачала вывучэнне гісторыі сваёй зямлі. Савецкая гістарыяграфія паставіла ўсю праблему гісторыі Беларусі на грунтоўны і трывалы падмурак марксісцка-ленінскага разумення законаў грамадскага развіцця і гістарычнага




*Рыс. 1. Карта рэгіёна даследаванняў*

працэсу, акцэнтуючы ўвагу на ацэнцы творчай дзейнасці народных мас як галоўнай рухаючай і стваральнай сілы гісторыі. З гэтых прынцыповых пазіцый пачалося і вырашэнне праблемы развіцця феадальнага грамадства Беларусі, сацыяльна-эканамічнага развіцця гарадоў, якія з'явіліся адной з перадумоў фарміравання і развіцця беларускай народнасці і яе культуры.

Археалагічнае вывучэнне помнікаў матэрыяльнай культуры Беларусі па-сапраўднаму пачалося ў 20-я гады супрацоўнікамі сектара археалогіі Інстытута беларускай культуры (пазней АН БССР) і Беларускага Дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Узнікла шырокая сетка краязнаўчых гурткоў і музеяў. Вялікую ролю ў папулярызацыі помнікаў адыгралі навуковыя выданні Інбелкульта і часопіс «Наш край» (паз-

ней «Савецкая краіна»). Намаганнямі А. М. Ляўданскага, А. З. Каваленi, С. С. Шутава, М. М. Улашчыка, В. Р. Тарасенкі, А. Рынейскага і іншых была абследавана значная тэрыторыя Беларусі, праведзена археалагічнае вывучэнне асобных помнікаў.

Адным з першых зрабіў спецыяльныя даследаванні па гісторыі і гістарычнай тапаграфіі Полацкага, Барысаўскага і Аршанскага замкаў Д. І. Даўгяла. Шэраг цікавых артыкулаў на падобную тэму быў змешчан у часопісе «Наш край»[17].

Вывучэнне помнікаў беларускай старажытнай архітэктуры вялося таксама і ў плане мастацтвазнаўчым. Вялікую работу ў гэтым напрамку правёў М. М. Шчакаціхін. Яго праца «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва», т. 1 (Менск, 1928) упершыню абагульніла ўсе тагачасныя звесткі па ваеннаму дойлідству Беларусі XIII — XVI стст., вызначыўшы галоўныя напрамкі яго развіцця. Знаходжанне многіх помнікаў за межамі Савецкай Беларусі, у буржуазнай Польшчы (замкі Мірскі, Навагрудскі, Лідскі, Крэўскі і інш.), немагчымасць правядзення натурных абмераў і вывучэння саміх помнікаў, на жаль, паклала пэўны адбітак на гэту таленавітую працу першага беларускага даследчыка і ў асобных месцах прывяла да не заўсёды пераканаўчых вывадаў. Аднак многія думкі М. М. Шчакаціхіна, выказаныя ім на падставе глыбокага стылістычнага аналізу архітэктуры помнікаў, былі археалагічна пацверджаны ўжо ў нашы дні.

Новы этап у вывучэнні архітэктурнай спадчыны распачаўся на Беларусі ў пасляваенныя гады. Ён характарызуецца далейшым пашырэннем крыніцазнаўчай базы, правядзеннем новых архітэктурных абмераў помнікаў і шматлікімі натурнымі абследаваннямі. Сярод прац агульнага характару неабходна адзначыць кнігу Ю. А. Ягорава «Горадабудаўніцтва Беларусі» (М., 1954), у якой змешчана значная колькасць новых чарцяжоў, выяўленых у розных архівах краіны.

У кнізе М. С. Кацара «Беларуская архітэктура» (Мінск, 1956) зроблена спроба з мастацтвазнаўчых пазіцый разгледзець пытанне перыядызацыі гісторыі беларускай архітэктуры, у тым ліку і ваеннага дойлідства.

Помнікі беларускага ваеннага дойлідства ўпершыню сталі непасрэдным і галоўным аб'ектам даследавання архітэктара А. Я. Міцяніна. Яго праца аб Мірскім замку з'яўляецца грунтоўным даследаваннем. Аўтар увёў у навуковы ўжытак абмерныя чарцяжы гэтага выдатнага помніка нашай культуры, выкананыя з вялікай дакладнасцю і прафесіяналізмам. Абароннаму дойлідству А. Я. Міцянін прысвяціў шэраг артыкулаў[18]. Яны з'явіліся важнай вехай на шляху далейшага вывучэння сярэдневяковых абарончых збудаванняў Беларусі.

---

[17] Даўгяла З. Polоceae moenia.— «Запіскі аддзела гуманітарных навук», кн. 3, т. 2. Менск, 1928; яго ж. Барысаўскі замак.— У кн.: Працы археалагічнай камісіі, т. 2. Менск, 1930; яго ж. Аршанскі замак.— Там жа; Адзярыха М. Апісанне Койданаўскага замку.— «Наш край», 1926, № 1; Даўгяла З. І. Стары Менск.— «Наш край», 1928, № 1, 2.

[18] Митянин А. Я. Замок в Мире. Автореф. канд. дис. Минск, 1954; его ж. Оборонительные сооружения Белоруссии XIII—XVII вв.— «Сборник научных работ Института строительства и архитектуры АН БССР», вып. 1. Минск, 1958; Митянин А. Я., Чантурия В. А. Выдающиеся памятники белорусского зодчества.— У кн.: Строительство и архитектура Белоруссии, вып. 2. Минск, 1958; Митянин А. Я., Вараксин Н. Н. К вопросу о деревянном замковом строительстве в Белоруссии (XVI—XVII вв.).— «Сборник научных работ Института строительства и архитектуры АН БССР», вып. 3. Минск, 1960.

50 — 60-я гады былі гадамі шырокіх натурных абследаванняў і вывучэння манументальнай спадчыны шэрагам навуковых экспедыцый Інстытута будаўніцтва і архітэктуры АН БССР і Беларускага політэхнічнага інстытута. У час экспедыцый рабіліся архітэктурныя абмеры старых і нававыяўленых помнікаў. Заканамерным вынікам такіх даследаванняў стала навуковая апрацоўка багацейшых матэрыялаў і выхад у свет (першага выдання) «Гісторыі беларускай архітэктуры»[19]. Несумненнай вартасцю кнігі з'яўляецца з'яднанне, абагульненне матэрыялаў па архітэктуры беларускіх зямель усяго дарэвалюцыйнага перыяду. Знайшла адлюстраванне тут гісторыя ваеннага дойлідства Беларусі.

Важнае значэнне меў выхад у свет «Усеагульнай гісторыі архітэктуры», т. 6 (М., 1968). Раздзелы па гісторыі архітэктуры Беларусі XIV — XVIII стст., напісаныя Е. Д. Квітніцкай, вызначаюцца высокім навуковым узроўнем, гістарычнай дакладнасцю, шэрагам цікавых графічных рэканструкцый, добрым і глыбокім веданнем фактычнага матэрыялу.

Пасляваенныя гады, асабліва 50-я і 60-я, былі перыядам інтэнсіўных археалагічных даследаванняў гарадоў Беларусі, даўшых гісторыі матэрыялы першаразраднай важнасці і значэння. Аб'ектам даследаванняў сталі і ўмацаванні старажытных паселішчаў. М. М. Варонін правёў раскопкі ў Гродзенскім замку[20]. Былі вывучаны ўмацаванні гарадзішча ў Вязынцы; у Мінску выяўлены цікавыя драўляныя канструкцыі земляного вала, вядомыя ў навуцы як «руставыя канструкцыі»[21].

П. А. Раппапорт вывучаў помнікі ваеннага дойлідства Турава-Пінскай зямлі, Чорнай Русі і Полацкай зямлі. Асобная праца была прысвечана выдатным збудаванням XIII ст., у тым ліку і Камянецкай вежы[22]. Аўтар выкарыстаў цікавыя архіўныя матэрыялы і чарцяжы пачатку XX ст., зробленыя ў перыяд першай рэстаўрацыі помніка, асэнсаваў і вызначыў месца Камянецкай вежы ў шэрагу падобных пабудоў. У Навагрудку і Ваўкавыску даследчык правёў прарэзку валаў. Усе гэтыя матэрыялы былі абагульнены ў фундаментальнай працы, прысвечанай помнікам заходнерускіх зямель X—XIV стст.[23]

Пэўнае месца абарончым збудаванням тэрыторыі беларускіх зямель адвёў у сваёй працы «Рускае абароннае дойлідства» (М., 1962) В. В. Костачкін.

Вялікі ўклад у справу вывучэння помнікаў Беларускага Панямоння зрабіў Славяна-літоўскі атрад археалагічнай экспедыцыі Ленінградскага аддзялення Інстытута археалогіі АН СССР на чале з Ф. Д. Гурэвіч[24].

Значныя работы па непасрэднаму вывучэнню ўмацаванняў асобных гарадоў эпохі Кіеўскай Русі былі праведзены беларускімі археолагамі Г. В. Штыхавым, П. Ф. Лысенкам, Я. Г. Зверугам[25]. Помнікі ваеннага

---

[19] Чантурия В. А. История белорусской архитектуры. Минск, 1969.

[20] Воронин Н. Н. Древнее Гродно.— «Материалы и исследования по археологии СССР» (далей МИА). М., 1954, № 41.

[21] Митрофанов А. Г. Городище в Вязынке.— У кн.: Материалы по археологии БССР, т. 1. Минск, 1957, с. 155—164; Загорульский Э. М. Древний Минск. Минск, 1963.

[22] Раппопорт П. А. Волынские башни.— МИА, 1952, № 31.

[23] Раппопорт П. А. Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв.— МИА, 1967, № 140.

[24] Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. М.—Л., 1962; Гуревич Ф. Д. и др. Раскопки Новогрудского детинца.— «Археологические открытия 1971 г.» (далей АО). М., 1972, с. 30—31.

[25] Штыхов Г. В. Древний Полоцк. Минск, 1975; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли. Минск, 1975; Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. Минск, 1975.

дойлідства Беларусі больш позняга перыяду часткова разглядаліся асобнымі нямецкімі і літоўскімі вучонымі[26]. У навейшым фундаментальным даследаванні літоўскіх вучоных «Літоўскія замкі»[27] разглядаюцца асобныя замкі Заходняй Беларусі — Лідскі, Крэўскі і Навагрудскі галоўным чынам у якасці аналогій з літоўскімі помнікамі.

Нясвіжскаму замку і ўмацаванням Нясвіжа прысвяцілі свае артыкулы польскія вучоныя Ф. Маркоўскі і А. Грушэцкі[28]. А. Грушэцкі і Б. Міськевіч, вывучаючы структуру і прынцыпы абароны польскіх зямель, у якасці аналогій разглядаюць многія помнікі з тэрыторыі Беларусі[29]. Ст. Александровіч і Е. Ахманьскі[30] апублікавалі шэраг цікавых артыкулаў па сярэдневяковай гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У цэлым польскія даследчыкі ўзбагацілі гістарычную навуку вялікай колькасцю новых архіўных матэрыялаў і дакументаў, выказалі шэраг трапных і навукова абгрунтаваных думак па асобных пытаннях гісторыі фартыфікацыі, сацыяльна-палітычнага і эканамічнага развіцця сярэдневяковай Беларусі, Літвы і Украіны. Сярод прац на агульнагістарычныя тэмы, якія разглядаюць у розных аспектах прынцыпы абароны гарадоў Беларусі, вылучаюцца багаццем новавыяўленых архіўных матэрыялаў працы А. П. Грыцкевіча і А. М. Мальцава[31].

Значная разбуранасць і слабая вывучанасць многіх помнікаў ваеннага дойлідства Заходняй Беларусі XIII—XVIII стст. фактычна перадвызначылі іх архітэктурна-археалагічныя раскопкі ў якасці галоўнага метаду дадзенага даследавання. Аўтарам вывучаліся Навагрудскі, Гродзенскі, Лідскі, Крэўскі, Мірскі, Геранёнскі, Мядзельскі, Іказненскі і іншыя замкі. Адначасова была абследавана вялікая колькасць сярэдневяковых помнікаў у Брэсцкай, Гродзенскай, Мінскай і заходняй частцы Віцебскай абласцей. Вывучаліся храмы, прыстасаваныя да абароны, паколькі яны выразна характарызуюць беларускае сярэдневяковае дойлідства.

Атрыманыя ў ходзе даследаванняў новыя даныя спалучаліся з разнастайнымі дакументамі і пісьмовымі матэрыяламі, выяўленымі аўтарам у архівах, рукапісных фондах бібліятэк і ў музеях краіны.

---

26 Schmidt B. Burgen in Litauen. Der Burgwart. Bd. XLIII. Markburg b. Braubach, 1942; Абрамаускас С. С. К вопросу генеза крепостных сооружений типа «кастель» в Литве.— У зб.: Строительство и архитектура. Вильнюс, 1963, т. 3, № 3; яго ж. Развитие каменного строительства в Литве в XIII—XVI вв. Автореф. канд. дис. Каунас, 1965.

27 Lietuvos pilys. Vilnius, 1971.

28 Markowski F. Zamek Mikołaja Krzysztofa Radziwilla Sierotki w Nieświeżu.— «Kwartalnik architektury i urbanistyki» (KAU), 1964, t. 9; Gruszecki A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu.— KAU, 1965, t. 10.

29 Gruszecki A. Bastionowie zamki w Małopolsce. Warszawa, 1962; Miśkiewicz B. Rozwój stałych punktów oporu w Polsce do połowy 15 w. Poznań, 1964.

30 Aleksandrowicz St. Ordynacje miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1647 roku.— Rocznik Białystocki (RB), t. 3. Białystok, 1962; яго ж. Opis zabudowy m-ka Lubcza w 1644 г.— «Kwartalnik historii kultury materialnej» (KHKM), 1962, z. 3—4; яго ж. Nowe źródło ikonograficzne do oblężenia Połocka w 1579 г.— KHKM, 1971, № 1; Ochmański J. Organizacja obrony w Wielkim Księstwie Litewskim przed napadom tatarów krzymskich w 15—16 wieku.— Studia i materiały do historii wojskowości, t. 5. Warszawa, 1960.

31 Hryckiewicz A. Milicje miast magnackich na Białorusi i Litwie w 17—18 ww.— «Kwartalnik historyczny» (KH). Warszawa, 1970, 1; яго ж. Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie.— «Przegląd historyczny» (PH), 1970, 11; Мальцев А. М. Россия и Белоруссия в XVII веке. М., 1973.

Комплексна выкарыстоўваючы археалагічныя даныя і гістарычныя звесткі, аўтар бачыў свае важнейшыя задачы ў высвятленні асноўных этапаў і напрамкаў развіцця ваеннага дойлідства заходнебеларускіх зямель, яго характэрных асаблівасцей і стварэнні навукова абгрунтаванай гісторыі, шчыльна звязанай з сацыяльна-палітычным, гаспадарчым і культурным развіццём краіны, з тагачаснай ваеннай думкай.

Храналагічнымі межамі даследавання вызначаны XIII — XVIII стст., што фактычна супадае з перыядам знаходжання Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Аднак аўтар палічыў неабходным звярнуць пэўную ўвагу і на вывучэнне помнікаў больш ранняга перыяду.

Аўтар выказвае глыбокую ўдзячнасць усім, хто дапамагаў яму карыснымі парадамі і кансультацыямі, і асабліва навуковаму рэдактару доктару гістарычных навук Паўлу Аляксандравічу Раппапорту.

# І. РАЗВІЦЦЁ ВАЕННАГА ДОЙЛІДСТВА ЗАХОДНІХ ЗЯМЕЛЬ БЕЛАРУСІ Ў XIII— ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XIV ст.

•

## КАРОТКІ НАРЫС ВАЕННАГА ДОЙЛІДСТВА ДАФЕАДАЛЬНАЙ І РАННЕФЕАДАЛЬНАЙ ПАРЫ

Першыя абарончыя збудаванні на землях сённяшняй Беларусі з'явіліся ў перыяд першабытнаабшчыннага ладу. Паўночную і цэнтральную Беларусь насялялі тады балтамоўныя плямёны. Яны пакінулі пасля сябе помнікі культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культуры, якія датуюцца VII ст. да н. э. — III — V стст. н. э.[1]

Пастаянныя пагрозы нападаў з боку ваяўнічых суседзяў прымушалі тагачаснае насельніцтва прымаць меры па арганізацыі абароны сваіх сародзічаў і матэрыяльных багаццяў. Археалагічным сведчаннем іх энергічнага ваенна-абарончага будаўніцтва з'яўляюцца рэшткі ўмацаваных пасяленняў-гарадзішчаў.

Форма гарадзішча шмат у чым залежала ад прыроднай канфігурацыі выбранага ўчастка. Для гарадзішчаў пагоркавай паўночнай Беларусі найбольш характэрна астраўное размяшчэнне. У цэнтральнай Беларусі з яе больш спакойным рэльефам, наадварот, пераважаюць гарадзішчы мысавага тыпу. Найлепшая прыродная абарона — вось важнейшы фактар, які ўлічваўся пры выбары месца для пасялення.

Развіццё сістэмы ваенна-абарончых збудаванняў на гарадзішчах абедзвюх культур адбывалася па лініі павелічэння трываласці і абараназдольнасці ўмацаванняў і прайшло некалькі этапаў[2].

У канцы I тыс. да н. э. і ў першых стагоддзях н. э., відаць, у сувязі з узрослай ваеннай небяспекай на гарадзішчах паўночнай і цэнтральнай Беларусі ўзнікла даволі складаная сістэма штучных умацаванняў. Мысавыя гарадзішчы з напольнага боку і па краях пляцоўкі сталі ўмацоўвацца магутнымі валамі і равамі ў 2 — 3 і больш радоў. На стрэлках палогіх мысоў рабіліся тэрасападобныя ўступы. Гарадзішчы астраўнога тыпу ўмацоўваліся кальцавымі валамі, якія насыпалі на схілах ці ля падэшвы гары ў адзін або ў некалькі радоў.

Каб прадухіліць абсыпанне валаў, іх схілы абкладаліся дзёрнам, каменнямі даволі значных памераў, глінай, часам слоем жэрдак або тонкіх бярвенняў.

Ускладненне разгалінаванай сістэмы ўмацаванняў у сярэдзіне і другой палове I тыс. н. э., яе ўдасканаленне з'яўляюцца, несумненна, як адлюстраваннем росту ваенных сутыкненняў унутры плямён, так і вынікам узмацнення знешняй небяспекі.

---

[1] Очерки археологии Белоруссии, ч. 1. Минск, 1970, с. 186.

[2] Аб гэтым больш падрабязна гл.: Ткачев М. А. Оборонительные сооружения городищ северной Белоруссии дофеодальной поры; я г о ж. Оборонительные сооружения городищ средней Белоруссии дофеодальной поры. Тезисы к конференции по археологии Белоруссии. Минск, 1969, с. 106—121.

У сярэдзіне I тыс. н. э. жыццё на пасяленнях паўночнай і цэнтральнай Беларусі спынілася. Толькі ў глухіх лясных раёнах у IV — V стст. н. э. захаваліся адны з самых позніх пасяленняў. Іхнія ўмацаванні вызначаліся магутнасцю і вялікімі памерамі.

Затым на гэтай тэрыторыі распаўсюджваюцца помнікі культуры іншага характару, якія толькі ў пэўнай ступені маюць пераймальную сувязь са сваімі папярэднікамі.

Насельніцтва Беларусі VI — VIII стст. знаходзілася на заключнай стадыі разлажэння першабытнаабшчынных адносін і пераходу ад бяскласавага да класавага грамадства.

Археалагічныя помнікі эпохі ранняга феадалізму на тэрыторыі Заходняй Беларусі шматлікія і разнастайныя. Гэта селішчы, сельскія гарадзішчы, феадальныя замкі-сядзібы, парубежныя замкі і гарады. Абарончыя збудаванні гэтай пары грунтоўна вывучаны П. А. Раппапортам, таму адзначым толькі асноўныя моманты ў іх развіцці.

Як паказалі даследаванні, помнікі ваеннага дойлідства Заходняй Беларусі IX — XI стст. падзяляюцца на дзве асноўныя групы, якія маюць розныя ваенна-інжынерныя традыцыі. Помнікі Полацкай зямлі, у тым ліку і яе заходняй часткі, падобны да абарончых збудаванняў усходніх раёнаў Русі: Ноўгарадскай зямлі, Смаленшчыны, сярэдняга Падняпроўя і часткова Прыбалтыкі. Усе яны ўзведзены па аднаму агульнаму прынцыпу — поўнае падпарадкаванне сістэмы абароны ўласцівасцям прыроднага рэльефу. Таму ў асноўным гэта ўмацаванні астраўнога і мысавага тыпаў.

Помнікі ж Панямоння і Тураўскай зямлі, як і Валыні, дзе шмат гарадзішчаў правільнай круглай формы, сведчаць аб цесных культурных сувязях гэтых раёнаў з заходнеславянскім светам — Польшчай і Чэхіяй. Такая лакалізацыя груп помнікаў ваеннага дойлідства на землях Беларусі, відаць, адлюстроўвае нейкія старажытныя, яшчэ плямённыя традыцыі. Аднак усе яны адпавядаюць адзінай тактычнай схеме асады і абароны, якія ў той час былі аднолькавымі на ўсёй тэрыторыі ўсходнеславянскіх зямель [3].

Паралельна з працэсам феадальнага драблення і складвання самастойных княстваў у другой палове XI — першай палове XIII ст. на беларускіх землях адбыліся значныя змены ў развіцці планавых тыпаў абарончых збудаванняў. У Полацкай зямлі, у прыватнасці, пачалі будавацца круглыя ўмацаванні. На землях Панямоння захаваліся некаторыя своеасаблівасці і будаўнічыя традыцыі — тут па-ранейшаму ўзводзіліся круглыя збудаванні з канцэнтрычнымі валамі. Увогуле ў гэты перыяд на беларускіх землях назіраецца працэс нівеліроўкі мясцовых асаблівасцей планавай структуры ўмацаванняў. Прычыны гэтага як у аслабленні старых, магчыма, яшчэ плямённых, ваенна-інжынерных традыцый і іншаземных уплываў, так і ва ўсталяванні тут агульных тактычных схем абароны, якія дыктавалі выбар планавай структуры ўмацавання [4].

З узнікненнем і станаўленнем гарадоў пачаўся новы якасны этап у развіцці ваеннага дойлідства беларускіх зямель.

Як і большасць усходнеславянскіх гарадоў, гарады Беларусі мелі дрэваземляныя ўмацаванні. На валах стаялі сцены ў выглядзе вастра-

---

[3] Раппопорт П. А. Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв.— МИА, 1967, № 140, с. 202.
[4] Там жа, с. 202—203.

колу або венчатых канструкцый, як правіла, з адной вежай-брамай. У насыпах валаў некаторых гарадоў ужываліся каменна-гліняныя канструкцыі ў выглядзе падпорных сценак (Полацк), а таксама драўляныя субструкцыі (Мінск[5], Пінск, Давыд-Гарадок, Ваўкавыск[6]). Драўляныя сцены на земляных валах гарадоў у залежнасці ад стратэгічных якасцей мясцовасці былі неаднолькавымі па сваёй структуры. На прыкладзе старажытнага Навагрудка, сістэма ўмацаванняў якога добра вывучана, можна сцвярджаць, што менш умацаваныя прыродай участкі абароны мелі трывалыя сцены ў выглядзе двухрадавага вастраколу або гарадняў, пярэднія сценкі якіх секліся ў 2—3 бервяны. Адначасова на ўчастках з добрымі самароднымі крэпасцямі сістэма ўмацаванняў мела выгляд простага вастраколу.

З XII ст. у лінію дрэваземляных умацаванняў пачалі ўключаць мураваныя вежы (Гродна), якія ўзводзіліся з валуноў і цэглы. Палявы камень на Беларусі быў найбольш даўнім і найбольш распаўсюджаным будаўнічым матэрыялам пры фартыфікацыйных работах. Як правіла, ім брукаваліся схілы земляных валаў і пешаходныя дарожкі ўздоўж іх, а нярэдка і замкавыя падворкі[7]. У XIII—XVI стст. з яго ўзводзіліся муры многіх магутных замкаў. Земляныя валы старажытных гарадоў Заходняй Беларусі ў XI — XIII стст. дасягалі вышыні ад 2 — 3 да 6 — 8 м і шырыні ад 6 — 7 да 20 — 30 м.

Стварэнню гарадскіх умацаванняў у тыя часы надавалася вялікае значэнне. Менавіта тут у першую чаргу выкарыстоўваліся ўсе навейшыя дасягненні тэхнікі і будаўнічага мастацтва. У ваенным дойлідстве яны ўкараняліся раней, чым у культавым і грамадзянскім будаўніцтве.

Пад аховай сваіх умацаванняў гарады Заходняй Беларусі к сярэдзіне XIII ст. сталі палітычнымі, эканамічнымі і рэлігійнымі цэнтрамі, магутнымі ачагамі шматграннай матэрыяльнай і духоўнай творчасці мясцовага насельніцтва.

XIII стагоддзе было не толькі эпохай уздыму і развіцця беларускіх і іншых усходнееўрапейскіх зямель, але і перыядам вялікіх падзей і змен у іх лёсе. У гэты неспакойны і бурны век на землі Усходняй Еўропы накінуліся полчышчы татара-мангольскіх заваёўнікаў. У Прыбалтыку праніклі нямецкія крыжаносцы, якія пашырылі сваю агрэсію супраць мясцовых народаў і Полацкай зямлі. На гістарычную арэну выйшла маладое Літоўскае княства, утварэнню якога спрыялі ўнутраныя перадумовы сацыяльна-эканамічнага і палітычнага характару. Вялікую ролю ў гэтым працэсе адыгралі і знешнія абставіны, якія паскорылі ўтварэнне Літоўскага княства і аказалі ўплыў на яго форму. За кароткі час Літва апынулася ў акружэнні феадальна развітых краін — Полацкай зямлі, Польшчы, нямецкага Ордэна і, нарэшце, Залатой Арды. Гэта рабіла аб'яднанне літоўскіх зямель Аўкштайты і Жэмайты ў адзіную дзяржаву неабходным для далейшага існавання літоўскага народа[8]. Гібель прусаў, страта свабоды латгаламі і эстамі былі прыкладам таму.

Не выклікала сумненняў гэта жорсткая рэчаіснасць і ў насельніцтва Беларусі. Трагічны лёс Герцыкскага і Кукенойскага княстваў—фарпо-

[5] Штыхов Г. В. Древний Полоцк. Минск, 1975, с. 25; Загорульский Э. М. Древний Минск. Минск, 1963, с. 27—28.
[6] Лысенко П. Ф. Города Туровской земли. Минск, 1975, с. 79—81, 119—121; Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. Минск, 1975, с. 20.
[7] Воронин Н. Н. Древнее Гродно.— МИА, 1954, № 41, с. 129—137; Ткачев М. А. Исследования памятников военного зодчества Белоруссии.— АО 1969 г., 1970, с. 312.
[8] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. М., 1959, с. 6.

стаў Полаччыны ў нізоўях Заходняй Дзвіны, якія першымі прынялі ўдар нямецкага Ордэна, трагедыя суседніх усходніх і паўднёва-ўсходніх раз'яднаных рускіх зямель ставілі на парадак дня пытанне саюза феадальна раздробленай Беларусі з Літвою. Гэта была аб'ектыўная неабходнасць, якая адпавядала жыццёва важным і надзённым інтарэсам абодвух народаў. Ф. Энгельс адзначаў, што беларускія і ўкраінскія землі «знайшлі сабе абарону ад азіяцкай навалы, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства» [9].

У аснову аб'яднання быў накладзен прынцып «рада» — дагавора, паводле якога Літва, што не мела дастатковых эканамічных і палітычных сіл для трывалага падпарадкавання Беларусі, абавязалася тут «не рухаць старыны і не ўводзіць навіны». Пазней літоўскія князі шырока выкарыстоўвалі дыпламатыю, матрыманіяльныя сувязі, палітыку рэлігійнай верацярпімасці і сілу зброі, што дало ўладу над новымі тэрыторыямі.

Пачуццё глыбокай павагі выклікае больш чым 120-гадовая барацьба за незалежнасць, якую плячо ў плячо вяло насельніцтва Беларусі і Прыбалтыкі супраць рыцарскага Ордэна. Узброеныя сілы Беларусі разам з літоўскім войскам на працягу 1283—1340 гг. адбівалі націскі рыцараў у напрамку Жэмайтыі і Чорнай Русі. Асабліва цярпелі землі Беларускага Панямоння. Рыцарскія атрады падверглі іх шматразовым спусташэнням у 1284, 1295, 1305 гг., двойчы ў 1306, тройчы — у 1311 г., у 1314, 1324, 1328 гг. [10] У сваю чаргу беларуска-літоўскае войска рабіла адказныя сумесныя паходы ў 1306, 1311 і 1315 гг. [11]

Беларусы і народы Прыбалтыкі ўнеслі значны ўклад у агульную справу вызваленчай барацьбы народаў Усходняй Еўропы супраць агрэсіі рыцараў-крыжаносцаў, а тым самым і ў міжнародны нацыянальна-вызваленчы рух сярэдніх вякоў. Берагі рэк Нёмана і Заходняй Дзвіны шчодра паліты крывёю іх лепшых сыноў, а самі гэтыя рэкі сталі сімвалам іх нацыянальнай незалежнасці і баявой супольнасці.

Гістарычны лёс народаў-братоў залежаў не толькі ад жорсткіх бітваў у адкрытым полі. У значна большай ступені ён вырашаўся пад сценамі гарадоў і замкаў. Упартыя баі за кожную пядзю зямлі прымусілі Ордэн выкарыстаць у поўнай меры вопыт, атрыманы імі ў час барацьбы з арабамі, — прасоўванне з дапамогай замкаў [12]. На заваяванай тэрыторыі яны ўзводзілі замак, які рабіўся зыходным пунктам далейшага наступлення. Гэтыя дзеянні спалучаліся з сістэматычнымі набегамі як арганізаваных войскаў, так і дробных рабаўнічых бандаў.

Беларусы і літоўцы ў сваю чаргу procіпаставілі крыжаносцам тактыку пабудовы магутных замкаў на асноўных напрамках рыцарскай экспансіі. Ужо ў першай палове XIV ст. паўсталі магутныя мураваныя замкі ў Лідзе, Крэве, Медніках, пазней былі рэканструяваны Навагрудскі і Гродзенскі, узведзены Віленскі і Тракайскія замкі. Будаўніцтва першакласных (па тых часах) замкаў было магчымым толькі на аснове мясцовых, існуючых здаўна традыцый народнага дойлідства і творчага пераасэнсавання навейшых будаўнічых дасягненняў суседніх народаў.

Канчатковая перамога народаў Усходняй Еўропы, у тым ліку і беларускага, над захопнікамі кавалася не толькі рукамі адважных воі-

---

[9] Маркс К., Энгельс Ф. Сочинения. Изд. 2-е, т. 22, с. 19.
[10] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства, с. 414.
[11] Skriptores Rerum Prussikarum (SRP), t. 1. Leipzig, 1861, s. 200—213.
[12] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства, с. 416.

наў, але і тымі бязвеснымі дойлідамі-мулярамі з простага народа, які цяжкай працай і гераізмам вырашыў свой лёс, адстаяў свабоду і будучыню сваёй зямлі.

## ВЕЖЫ-ДАНЖОНЫ

У XIII ст. у развіцці ваенна-інжынернага мастацтва ўсходніх славян адбыліся істотныя зрухі. Тактыку пасіўнай аблогі, якая поўнасцю панавала ў XII ст., змяніла новая тактыка асады, больш актыўная і плённая. Асноўным метадам і прыёмам захопу ўмацаванняў стаў актыўны штурм з дапамогай новай ваеннай тэхнікі — камнямётных машын — парокаў. Новая тактыка была яркім сведчаннем развіцця не толькі ваенна-інжынернага мастацтва, але і ўсёй ваеннай арганізацыі на ўсходнеславянскіх землях. Зразумела, гэта не прайшло бясследна і для тактыкі абароны. Яна таксама стала больш актыўнай, тым больш што ў XIII ст. распаўсюдзілася і новая стралковая зброя — самастрэл. З дапамогай самастрэла цяпер можна было паражаць праціўніка на дальніх падыходах да гарадскіх сцен [13].

Першыя звесткі аб выкарыстанні парокаў у час асады адносяцца да XI ст. У Ноўгарадскім IV летапісу пад 1065 г. ёсць наступны запіс: «Князь Усяслаў Полацкі быў ля Пскова рацցю і персі біў парокамі» [14]. Праўдападобнасць існавання персяў у XI і нават X ст. археалагічна даказана зусім нядаўна [15]. Думаецца, што факт выкарыстання палачанамі парокаў таксама не павінен насцярожваць. Вядома, што славяне, у тым ліку крывічы, радзімічы і дрыгавічы, не раз у час паходаў на Візантыю яшчэ ў VI — X стст. добра засвоілі складаную тэхніку камнямётаў і ўдала іх выкарыстоўвалі пры асадах візантыйскіх гарадоў [16]. Было б дзіўным, калі б яны, валодаючы такой ваеннай тэхнікай і разумеючы яе моц і сілу, адмовіліся ад ужывання парокаў дома, у час аблогі гарадоў праціўніка. Тым больш што сувязі Візантыі з Полацкай і іншымі землямі Русі пасля прыняцця хрысціянства значна ўзмацнелі.

У XIII ст. кідальныя машыны сталі прывычнай зброяй для войск беларускіх князёў. Так, у 1206 г. князь Уладзімір Полацкі ўжыў камнямёты пры асадзе рыцарскага замка Гольм [17]. У 1224 г. яго сын, кукенойскі князь Вячка, абараняючы горад Юр'еў, здолеў проціпаставіць нямецкай асаднай тэхніцы сваю тэхніку, пабудаваўшы шмат баліст і патэрэл, якія наносілі значны ўрон «хрысціянам» [18].

Стральба з гарадскіх сцен была ў тыя часы асноўным сродкам абароны; іменна яна не дазваляла ворагу наблізіцца ўшчыльную да сцен і ўзабрацца на іх. Цяпер жа з дапамогай камнямётаў стральбу можна

---

[13] Раппопорт П. А., Косточкин В. В. К вопросу о периодизации истории древнерусского военного зодчества.— Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та истории материальной культуры АН СССР (далей КСИИМК), вып. 59. М., 1955, с. 25; Раппопорт П. А. Волынские башни.— МИА, 1952, № 31, с. 205—220; яго ж. Оборонительные сооружения Западной Волыни XIII—XIV вв.— Swiatowit, t. 24. Warszawa, 1962, str. 619; яго ж. Военное зодчество..., с. 161; яго ж. Древнерусская архитектура. М., 1972, с. 126—128.

[14] ПСРЛ, т. 4, с. 122.

[15] Макеев Г. Я. Что такое перси Пскова.— «Архитектурное наследство». М., 1972, № 19, с. 27—31.

[16] Кирпичников А. Н. Метательная артиллерия Древней Руси.— МИА, 1958, № 77, с. 9—11.

[17] Латвийский Генрих. Хроника Ливонии. М., 1938, с. 90.

[18] Там жа, с. 225—238.

было паралізаваць. Для гэтага ўдарамі парокаў імкнуліся разбурыць участак сцяны або збіць з яе бруствер, разбурыць забаролы і пазбавіць абаронцаў прыкрыцця.

Несумненна, што такі значны паварот у тактыцы асады — пераход ад пасіўнай абароны да штурму — не мог не прывесці да істотных змен у арганізацыі абароны, а таксама і ў пабудове саміх умацаванняў. Гэта асабліва прыкметна ў заходніх раёнах Беларусі, на землях колішніх княстваў Гродзенскага, Навагрудскага, Берасцейскага, Тураўскага. На гэтых землях, якія не зведалі спусташальных рэйдаў татара-мангольскіх войскаў, у другой палове XIII — пачатку XIV ст. назіраўся хаця і кароткачасовы, але яркі росквіт[19]. У радзе гарадоў пачалося будаўніцтва каменных і цагляных абарончых веж, узвядзенне якіх спалучалася з далейшым удасканаленнем прыродных абарончых рубяжоў. Магутныя мураваныя вежы павысілі стратэгічныя якасці гарадоў. Яны мала паддаваліся ўдарам камнямётных машын і былі практычна непрыступнымі для асаднай тэхнікі таго часу. Разам з тым, высока ўзнімаючыся над горадам, вежы давалі абаронцам магчымасць весці з лукаў і самастрэлаў прыцэльную стральбу па нападаючых і іх камнямётах, забяспечвалі больш інтэнсіўную стралковую абарону[20]. Акрамя таго, значна павялічвалася дальнасць стральбы, змяншаліся так званыя мёртвыя зоны абстрэлу, можна было весці кругавы, а ў некаторых выпадках і фланкіруючы агонь па найбольш небяспечных участках з напольнага боку ўмацаванняў[21].

У некаторых мураваных вежах меліся памяшканні, якія служылі не толькі для размяшчэння, але і для жылля абаронцаў. У гэтым яны нагадвалі вежы-данжоны краін Скандынавіі, Цэнтральнай і Заходняй Еўропы і Прыбалтыкі XII — XIII стст. У паўночных і заходніх раёнах Еўропы такія вежы пачалі ўзводзіцца з IX ст., а ў X ст. яны былі ўжо шырока распаўсюджаны.

У Польшчы данжоны шырокае распаўсюджанне атрымалі ў XIII ст. Да 1257 г. адносяцца звесткі аб мураваных вежах у Вроцлаве. Другой паловай XIII ст. датуюцца вежы-данжоны ў замках Глогуў, Левіньскі, Вленьскі і інш.[22] На землях Чэхіі і Венгрыі[23] будаўніцтва данжонаў таксама прыпадае на XIII ст.

Значнае распаўсюджванне вежы-данжоны атрымалі ў другой палове XIII ст. на Валыні, з якой асобныя беларускія землі доўгі час былі цесна звязаны. Вядома, што такія вежы існавалі ў Чартарыйску, Белавіне, Стоўп'і, Халму і іншых месцах[24].

Нешматлікасць веж — характэрная рыса многіх абарончых сістэм краін Еўропы і Прыбалтыкі. Па адной вежы ў пачатку XIII ст. мелі замкі Турайда, Феліна і Рэвель. Адна вежа існавала ў Пейдэ на востраве Эзель (Саарэмаа); яе ўзвялі рыцары нямецкага Ордэна. У 40-х гадах XIV ст. была адна вежа ў замку Віндава і Вайсенштэйн, а таксама на

---

19 Пашуто В. Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950, с. 287.
20 Раппопорт П. А. Военное зодчество..., с. 163.
21 Раппопорт П. А. Оборонительные сооружения Западной Волыни XIII—XIV вв., с. 625.
22 Guerquin B. Zamki Śląskie. Warszawa, 1957, str. 19, 47, 57—58, 81.
23 Reichertova K. K problematice výzkumu středověké tvrze. Památky archeologicke, r. LII. Praha, 1961, č. 2, str. 601; Gerö L. Magyarországi várépitészet. Budapest, 1955, s. 119—136.
24 Раппопорт П. А. Волынские башни.— МИА, 1952, № 31, с. 205—220.

беразе р. Амоўжы[25]. Такія ж адзіночныя вежы ў XIV ст. меліся і ў землях паўночна-заходняй Русі: Пскове, Ізборску, Арэхаве, Карэле і іншых гарадах[26].

Замкі з вежамі-данжонамі не звязваюцца з канкрэтнымі нацыянальнымі асаблівасцямі: яны будаваліся як у Еўропе, так і на арабскім Усходзе. Шмат іх узводзілася на Каўказе і ў Закаўказзі[27]. Такое шырокае распаўсюджанне веж-данжонаў тлумачыцца тым, што яны цалкам адпавядалі як ваенным, так і сацыяльным патрабаванням эпохі: гэта быў ідэальны тып умацаванага жылля феадала[28]. Таму абсалютна зразумелым з'яўляецца пранікненне гэтага тыпу абарончых збудаванняў на землі Беларусі, сацыяльны лад якой амаль нічым не адрозніваўся ад заходніх суседзяў — Польшчы, Чэхіі і Венгрыі, а таксама зямель Прыбалтыкі і паўночнай Русі.



*Рыс. 2. Камянец. Выгляд вежы ў сярэдзіне XIX ст.*

Унікальным помнікам абароннага дойлідства другой паловы XIII ст. з'яўляецца вежа-данжон, якая захавалася да нашага часу ў г. п. Камянец Брэсцкай вобласці. Гэта адзіная цэлая пабудова з групы так званых валынскіх веж, што некалі існавалі ў радзе беларускіх гарадоў.

Камянецкая вежа («Камянецкі стоўп») стаіць на высокім пясчаным пагорку на левым беразе р. Лясной. Яе гістарычны лёс цесна звязан з

[25] Вартберг Герман. Ливонская хроника. Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края (далей Сб. МСИПК), т. 2. Рига, 1879, с. 89; Рюссов Бальтазар.— Там жа, с. 243; Нейман В. И. Военное зодчество в Прибалтийском крае в средние века.— Труды IX Археологического съезда в Вильне 1893 г., т. 1. Вильна, 1893, с. 36—37; Псковские летописи, вып. 2. М., 1955, с. 59, 220.

[26] Косточкин В. В. Русское оборонное зодчество (конец XIII—начало XVI вв.). М., 1962, с. 96—97.

[27] Усейнов М., Бретаницкий Л., Саламзаде А. История архитектуры Азербайджана. М., 1963, с. 59, 121; Умаров С. П. Средневековая материальная культура горной Чечни XIII—XVII вв. Автореф. канд. дис. М., 1970, с. 16.

[28] Раппопорт П. А. Военное зодчество..., с. 205.

г. Камянцом, узнікшым як пагранічны апорны пункт валынскага князя Уладзіміра Васількавіча супраць літоўскага князя Трайдэна, з якім не раз даводзілася ваяваць. У 1276 г., пасля чарговага прымірэння з Трайдэнам, Уладзімір Васількавіч вырашыў залажыць на р. Лясной «град». З гэтай прычыны сюды быў пасланы разам з мясцовымі жыхарамі вядомы «градаруб Алекса», які яшчэ пры бацьку Уладзіміра Васількавіча шмат гарадоў «зрубіў». Хутка ў новым горадзе быў збудаван «столп камен высотою 17 сажней. Подобен удивлению всем зрящим на нъ»[29]. Па звестках Іпацьеўскага летапісу вежу ўзвялі паміж 1276 і 1288 гг.



*Рыс. 3. Сітуацыйны план*

Таўшчыня сцен 30-мятровага «стаўпа» 2,5 м, вонкавы дыяметр 13,5 м. Вежа складзена з брусчатай цэглы памерам 26,5×13,5×8 см цёмна-чырвонага і жаўтаватага колераў, якая мае характэрныя падоўжныя барозны на адной з пасцелей. Муроўка балтыйская — чаргаванне двух лажкоў і аднаго тычка. Захавалася вялікая колькасць прамавугольных гнёздаў ад «пальцаў» рыштаванняў у сценах як знадворку, так і ўнутры. Унутры ёсць гнёзды ад драўляных бэлек, якімі вежа спачатку дзялілася на пяць ярусаў. Перакрыцці II і III ярусаў былі падвойнымі.

Сцены вежы прарэзаны байніцамі. У I ярусе іх дзве, у II і III — пятры, а ў IV ярусе дзве байніцы і адзін вялікі праём спічастага завяршэння, які некалі выводзіў на балкон. Байніцы чатырох ніжніх паверхаў вузкія, шчылінападобныя і пашыраюцца ўнутр. Пяты ярус прарэзаны чатырма байніцамі. Форма іх амбразур спічастая, але моцна ак-

[29] ПСРЛ, т. 2, стб. 876, 925.

ругленая і мае нязначную стралу пад'ёму. Амбразуры V яруса ў адрозненне ад усіх ніжніх расшыраюцца не толькі ўнутр, але і вонкі. Паміж гэтымі байніцамі з вуліцы размешчаны чатыры плоскія нішы з паўцыркульным завяршэннем, якія ў старажытнасці тынкаваліся і бяліліся. Гэта надавала строгаму будынку рысы сціплай прыгажосці. Над V ярусам у вежы захаваліся адначасныя ёй рэшткі цаглянага купальнага скляпення з патоўшчанымі рэбрамі. Яны заканчваюцца ўнізе невялікімі краштэйнамі і вузкім паяском, які праходзіць кругом па сцяне вежы. На ўзроўні пазух скляпення, у сценах вежы, ёсць 4 адтуліны-каналы для адводу вады.




*Рыс. 4. Разрэз вежы*

З V яруса пачынаецца цагляная лесвіца. Яна ідзе ў тоўшчы сцяны, асвятляецца двума вузкімі акенцамі і выводзіць на самы верх вежы, на баявы праход, прыкрыты 14 зубцамі. Усе зубцы маюць скразныя адтуліны, а ў двух зроблены вузкія вокнападобныя праёмы. Адтуліны, размешчаныя ў розных месцах і на рознай вышыні, верагодней за ўсё служылі абаронцам вежы ў якасці назіральных шчылін у час інтэнсіўнага абстрэлу ворагам.

Камянецкай вежы, як і большасці ваенных пабудоў той пары, уласцівы выцягнутыя ўверх прапорцыі, лаканічнасць і прастата. Лёгкія штрышкі раннеготычных архітэктурных форм—спічастыя праёмы і вокны з трохлопасцевым завяршэннем, архівольт аркі дзвярнога праёму IV яруса, нервюрныя скляпенні на «гірках» — тонка прарысоўваюцца на магутным целе збудавання разам з паўцыркульнымі аркамі плоскіх ніш і байніц раманскага стылю.

Завяршэнне вежы, падпаясанае зубчастай стужкай старажытнаславянскага парэбрыка з чатырох радоў цаглін, пакладзеных на вугал, пераклікаецца з арнаментальнымі матывамі народнага мастацтва. Гэта як бы падкрэслівае першапачатковасць мясцовых будаўнічых традыцый і вытокі іх своеасаблівасцей, на базе якіх пачаўся паступовы пераход ад раманскага стылю да готыкі.

На долю Камянца і яго абарончай вежы выпала нямала выпрабаванняў. Неаднаразова пачынаючы з 1373 г. горад падвяргаўся нападам

рыцараў-крыжакоў. У 1375 г. атрад рыцараў на чале з комтурам з Бальгі Тэадорам фон Эльснерам абрабаваў ваколіцы Камянца і захапіў шмат палонных і жывёлы. Праз тры гады, у 1378 г., ім удалося ўзяць горад штурмам і спаліць яго. У 1379 г. яны зноў паўтарылі свой напад[30].

У 1382 г. Камянец захапіў польскі князь Януш Мазавецкі. Толькі праз год, пасля тыднёвай аблогі, яго вярнуў назад літоўскі князь Ягайла. У час доўгай звады паміж Ягайлам і Вітаўтам, у 1390 г., Ягайлу зноў давялося браць горад штурмам. Камянец быў важным стратэгічным пунктам, які да таго ж стаяў на скрыжаванні гандлёвых дарог. Таму яго ўмацаванні хутка адбудоўвалі і трымалі ў належным парадку. Цэнтрам гарадской абароны была вежа. Яна размяшчалася ўнутры кальцавога вала з драўлянымі ўмацаваннямі на ім. «Камянец — горад з каменнай вежай у драўляным замку»[31], — адзначаў у пачатку XVI ст. у сваіх падарожных нататках вядомы дыпламат С. Герберштэйн.

У сярэдзіне XVII ст., у час вайны паміж Рэччу Паспалітай і Рускай дзяржавай, горад і яго ўмацаванні падвергліся такому жорсткаму разбурэнню, што сейм быў вымушан у 1661 г. вызваліць Камянец ад выплаты падаткаў на 4 гады[32]. У 1771 г. горад складаўся з «места» і замка. Значыць, умацаванні яго адбудоўвалі. У пачатку XIX ст. вакол Камянецкай вежы яшчэ існавалі рэшткі старажытнага драўлянага замка, які з трох бакоў абкружаў роў, а з чацвёртага — абараняла рака[33]. З боку р. Лясной, відаць, і знаходзіўся ўваход у Камянецкі замак. Характэрны для ўваходу разрыў паміж валамі добра відаць на малюнку невядомага мастака сярэдзіны XIX ст., калі старажытныя валы яшчэ былі цэлыя. У 1903 г., пад час рэстаўрацыйных работ, гэтыя валы зніклі. Тады ад вежы адкінулі 3-мятровы пласт зямлі — культурны слой, які нарос тут за стагоддзі існавання горада. Бяследна зніклі старажытны вал і абарончы роў. Вакол вежы насыпалі новы кольцападобны вал і забрукавалі яго. У валу зрабілі для дрэнажу тры мураваныя каналы.




*Рыс. 5. 1 — абмерны чарцёж вежы, 2 — схема размяшчэння байніц верхняга яруса бою*

---

[30] Encyklopedia powszechna, t. 26, 1864, str. 891; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska, t. 3. Warszawa, 1846, str. 750. Stryjkowski M. Kronika Polska..., t. 2, str. 726—765.

[31] Герберштейн С. Записки о Московии. СПб, 1866, с. 225.

[32] АВАК, т. 3, с. 361, т. 4, док. № 160.

[33] ЦДГА БССР у Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 63, с. 9 адв.

У 1903 г. над I і II ярусамі вежы разабралі познія скляпенні. Іх цэгла і раствор рэзка адрозніваліся ад тых, што былі ў муроўцы самой вежы. Акрамя таго, аб іх познім узвядзенні сведчыць той факт, што пяты гэтых скляпенняў закрывалі некаторыя байнічныя праёмы вежаў. Перакрыцці I і II ярусаў, як ужо адзначалася, рабіліся ў старажытнасці па бэльках. Ад іх да нашых дзён на ўнутранай паверхні сцен захаваліся гнёзды.

Хаця кіраўнік рэстаўрацыйных работ акадэмік В. В. Суслаў не пакінуў ніякіх заўваг адносна часу ўзвядзення гэтых позніх скляпенняў, думаецца, што вызначыць яго прыблізна можна. Як сведчыць дакумент агляду Камянецкай вежы ў 1827 г., у ёй не было ніякіх скляпенняў; толькі адзначалася, што ў сярэдзіне верхнія «драўляныя падлогі разбурыліся»[34].

Краязнаўца Н. П. Авенарыус, які ў маі 1889 г. наведаў вежу, паведамляў, што над I яе ярусам існавала скляпенне даволі добрай захаванасці, якое служыла падлогай верхняму паверху. Акрамя таго, існавала частка скляпенняў II яруса[35]. Гэта дае падставы меркаваць, што скляпенчатыя перакрыцці I і II ярусаў Камянецкай вежы былі зроблены паміж 1827 і 1889 гг.

Як высветлілася ў ходзе работ, праведзеных у 1903 г., тое, што Н. П. Авенарыус і В. В. Суслаў лічылі падвалам, аказалася I ярусам вежы. Ніжэй яго ляжыць яшчэ адзін, як бы цокальны, паверх, дзе няма байніц. На чарцяжы В. В. Суслава «Разрэз Камянецкай вежы па лініі АВ», які, дарэчы, даецца і Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй[36], ён чамусьці паказан няправільна. На самай справе непасрэдна ніжэй бэлечных перакрыццяў I яруса няма ніякага падмурка з выступам, а ідзе роўная сцяна нулявога паверха вышынёй 2,4 м. Цікава, што ўнутраная паверхня сцяны зроблена з палявога каменю на вапне, а са знешняга боку выкладзена з цэглы. Фундамент вежы, адкрыты археалагічнымі раскопкамі 1970 г., быў зроблен з палявога каменю, перасыпанага чыстым дробным пяском белаватага колеру. Вышыня фундамента 2,3 м, таўшчыня 3,7 м, а дыяметр дасягае 15,9 м.

Археалагічнае даследаванне падмурка дазволіла зрабіць прамер вышыні вежы ад зубцоў да пачатку фундамента. Яна аказалася роўнай 30,15 м (±5 см). Гэта амаль дакладна адпавядае летапісным звесткам аб вышыні Камянецкага стаўпа ў 17 сажняў пры ўмове, калі лічыць сажнямі махавымі (1 сажань = 177 см)[37].

Што датычыцца назвы «Белая вежа», якая вельмі трывала замацавалася за Камянецкай вежай, то яна з'явілася ў XIX ст. Вежай як помнікам «истинно русского православия» зацікавіліся царскія ўлады і сам цар у час прыездаў у Белавежскую пушчу на паляванне. У 1903 г. з'явілася кніга Г. Карцова «Белавежская пушча», дзе зусім памылкова пісалася, што Камянецкая вежа стаіць не на р. Лясной, а на р. Белай. Ад яе быццам бы і атрымала сваю назву вежа. З гэтае прычыны нібыта і стала бліжэйшая пушча называцца Белавежскай[38]. Згодна другой версіі, прыдуманай мясцовым свяшчэннікам Л. Паеўскім, вежу назвалі «Белая» та-

---

[34] ЦДГА БССР у Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 63, с. 9 адв.

[35] Авенариус Н. П. Башня волынского князя Владимира Васильковича в Каменце-Литовском.— Труды Общества исследователей Волыни, т. 1. Житомир, 1902, с. 19.

[36] БелСЭ, т. 5, с. 362.

[37] Рыбаков Б. А. Русские системы мер длины.— «Советская этнография», 1949, № 15, с. 68.

[38] Карцов Г. Беловежская пуща. СПб, 1903, с. 9.

му, што яе ў старажытнасці бялілі [39]. На самай жа справе яе ўпершыню пабялілі ў нашы дні.

Рэшткі мураваных абарончых збудаванняў XIII ст. адкрыты ў ходзе археалагічных работ у г. Навагрудку. Пры вывучэнні цэнтральнай вежы мураванага замка Шчытоўкі, якая датуецца XIV ст., было ўстаноўлена, што яна мела папярэдніцу — больш старажытную вежу. Магутнае цела гэтай вежы, схаванае на 7,5 м у зямлі, паслужыла Шчытоўцы надзейным і трывалым падмуркам [40].

Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што старажытная вежа існавала ў другой палове XIII ст. Яна, відаць, адносіцца да таго ж, што і Камянецкая, тыпу валынскіх веж. Аднак у адрозненне ад Камянецкай ве-



*Рыс. 6. Камянец XIII ст. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

жы Навагрудская вежа была цалкам збудавана з вялікіх часаных камянёў, пакладзеных на вапне. Яна мела 4-вугольную форму ў плане, з бакамі, блізкімі да квадрата 12×12 м. Фундамент вышынёй 3,5 м ляжыць на падушцы з вапнавага раствору і галькі. Камень, з якога складзен падмурак, дасягае 1 м у папярэчніку і не вызначаецца высокай ступенню апрацоўкі. Прасветы паміж камянямі замазаны вапнай.

Фундамент мае 30-сантыметравы цокаль. Вышэй яго ідзе сцяна, якая захавалася на вышыню да 4 м. Яна вымуравана з камянёў сярэдніх памераў, добра апрацаваных і падагнаных адзін да аднаго. Прасветы паміж імі запоўнены дробна паколатым каменем, кавалкамі цэглы і зароблены вапнай [41].

Разглядаючы месца вежы ў сістэме ўмацаванняў Навагрудскага замка, можна заўважыць, што яна стаяла з поўначы, ля старажытнага ўваходу. Яна як бы замыкала кольца землянога вала XIII ст., крыху выступаючы ўперад.

---

39 Виленский календарь на 1896 г. Вильно, 1895, с. 84.
40 Ткачев М. А. Об археологических исследованиях 1970 г.— АО 1970 г., 1971, с. 340.
41 Там жа, с. 341.

Вежа была разбурана хутчэй за ўсё ў XIV ст. у час невядомых нам падзей. Рэшткі яе пазней былі пахаваны ў насыпу вала і сталі падмуркам новай, больш магутнай цаглянай вежы. Верагодней за ўсё, апошнюю ўзвялі мясцовыя майстры, таму што мураваныя будынкі для Навагрудка тых часоў не былі навіной. Ужо ў XII ст. тут мелася Барысаглебская царква. Новую вежу ўзвялі з палявога каменю—традыцыйнага тутэйшага будаўнічага матэрыялу.

Руіны падобнай баявой вежы адкрыты і на тэрыторыі навагрудскага Малога замка. Гэта пакуль што адзінае мураванае збудаванне, што калісьці стаяла ў лініі дрэваземляных умацаванняў, акаляючых горад. Будаўнікі не выпадкова ўзвялі вежу з напольнага боку. Маючы ў аснаванні прамавугольнік 10,9×12,3 м, складзеная з вялікіх валуноў і цэглы-пальчаткі, яна магутна ўзвышалася над краем гары і над старажытным уездам на тэрыторыю Малога замка. Сцены вежы мелі таўшчыню 2,6 м. Па тэхніцы ўзвядзення падмурка гэта вежа вельмі блізкая да веж Навагрудскага замка XIV ст.—Шчытоўкі і Касцельнай. Аднак, як сведчаць археалагічныя матэрыялы, вартавую вежу Малога замка пабудавалі ў канцы XIII — пачатку XIV ст. На мяжы XV і XVI стст. яе разбурылі і перабудавалі: да сценак падмурка зрабілі прыкладкі таўшчынёю 1 м і на пашыраным аснаванні ўзвялі цагляную 8-кантовую вежу. Праіснаваўшы да сярэдзіны XVII ст., яна зноў была разбурана ў час ваенных падзей, а цэглу выкарысталі пры ўзвядзенні на старым падмурку будынка млына-ветрака [42].

Абарончая вежа тыпу «данжон» мелася і ў Гродне. Так, Іпацьеўскі летапіс пад 1277 г. паведамляе: «Столп бе бо камен высок стоя пред вороты города. И бяху в немъ заперлися Прузи и не бысть имъ мимо нъ поити к городу, побивахуть бо со столпа того» [43]. Гэтыя скупыя словы даюць падставу думаць, што вежа знаходзілася перад гарадскімі варотамі, але наўрад каб літаральна перад самымі варотамі; відаць, яна толькі абараняла падыход да іх. Верагодней за ўсё, вежа стаяла крыху на поўнач ад варот, там, дзе яна намалявана на гравюры XVI ст. [44] Несумненна адно, што вежа знаходзілася з напольнага боку крэпасці, дапамагаючы бараніць адказны ўчастак горада — гарадскую браму.

На жаль, Гродзенская вежа была разабрана ў XVI ст. у час пабудовы замка караля Стэфана Баторыя, і мы можам меркаваць пра яе архітэктурна-будаўнічыя асаблівасці толькі па гравюры 1568 г. На гравюры вежа мае цыліндрычную форму, крыху звужаную ўверсе. Пакрыта яна шатровым дахам. Можна думаць, што тут былі 4 ярусы бою і верхняя баявая пляцоўка, размешчаная за зубцамі вежы. Гэтым Гродзенская вежа падобная на Камянецкую. Аднак, мяркуючы па гравюры, вежа Гродзенскага замка была значна ніжэйшай. Ведаючы вышыню цяперашніх рэштак муроў замка, можна дапусціць, што вышыня Гродзенскага «стаўпа» дасягала не больш 20 м. Згодна з апублікаваным планам Я. Вайцэхоўскага, вежа мела дыяметр каля 12 м і таўшчыню каля 3 м. Гэтыя памеры, нягледзячы на некаторую гіпатэтычнасць плана, зусім верагодныя.

Архіўныя пошукі прывялі яшчэ да адной вежы XIII ст. — «стаўпа» ў Брэсце. Праўда, сляды гэтыя чыста графічныя, але яны дазваляюць гаварыць яшчэ аб адной цікавай пабудове.

---

[42] Ткачев М. А. Работы отряда по изучению военного зодчества Белоруссии.— АО 1973 г., 1974, с. 382.
[43] ПСРЛ, т. 2, стб. 878.
[44] Воронин Н. Н. Древнее Гродно, с. 153, 189.

Вядома, што Брэсцкая вежа XIII ст. была разабрана ў 1831 г. пры пабудове фартоў новай крэпасці [45]. Аднак планы горада Брэста канца XVIII — пачатку XIX ст. захавалі абрысы гэтай вежы.

Як цяпер устаноўлена раскопкамі П. Ф. Лысенкі, гарадзішча старажытнага Брэста знаходзілася на мысе правага берага р. Буг пры ўпадзенні ў яе р. Мухавец [46]. На паўднёва-ўсходнім краі мыса, з напольнага боку, і быў у часы князя Уладзіміра Васількавіча пастаўлен «столп высотою яко и Каменецкий». Вежа паказана на многіх архіўных планах г. Брэста: 1798, 1800, 1803, 1828, 1830 і іншых гадоў [47]. Асабліва добра відаць вежу на каляровым плане 1828 г. з загалоўкам на французскай мове: «План старажытнага замка Брэст і ваколіц паўднёвага берага паміж Бугам і Мухаўцом». Ружовай фарбай паказаны на ім «старажытныя пабудовы», да ліку якіх адносіцца вежа на паўднёва-ўсходнім краі замка і адрэзак мураванай сцяны, што ідзе перад ёю па самым краі стромкага схілу замка [48]. Гэты план дазволіў амаль дакладна вызначыць памеры вежы, якія аказаліся блізкімі да 5,9 м×6,3 м; таўшчыня сцен — каля 1,3 м. Месцаразмяшчэнне вежы з напольнага боку сведчыць аб тым, што абстрэл з яе быў накіраваны на найбольш адказны ўчастак абароны — замкавы ўезд.




*Рыс. 7. План Брэсцкага замчышча канца XVIII ст.: □ — вежа XIII ст.*

Па сваіх планава-фартыфікацыйных асаблівасцях Брэсцкая вежа найбольш блізкая да такой жа самай пабудовы ў Стоўп'і на Валыні. Вежа ў Стоўп'і мае памеры 5,8×6,3 м пры таўшчыні каля 1,4 м і вышыні 19,5 м [49]. Праўда, летапісец недвухсэнсоўна паведамляе, што вежа ў Бярэсці была вышынёй «яко столп Каменецкий», г. зн. 30 м. Аднак яе аснова намнога меншая за аснову Камянецкай вежы, і таму малаверагодна, каб яна мела такую вышыню. Хутчэй за ўсё Берасцейская вежа

---

[45] Семенов П. П. Географично-статистический словарь Российской империи. СПб, 1863, с. 314.

[46] Лысенко П. Ф. К вопросу об исторической топографии древнего Бреста.— Материалы IX конференции молодых ученых. Минск, 1965, с. 82—87; яго ж. Города Туровской земли. Минск, 1975, с. 155.

[47] ПСРЛ, т. 2, стб. 927; Цэнтральны дзяржаўны архіў Ваенна-Марскога Флоту СССР (далей ЦДА ВМФ) у Ленінградзе, ф. 3, воп. 23, спр. 1671; Цэнтральны дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў СССР у Маскве (далей ЦДВГА), ф. ВУА, спр. 21528, ч. 6, арк. 4; спр. 7881—7882; спр. 7887; ЦДГА СССР у Ленінградзе, ф. 1293, воп. 166, спр. 5, 6.

[48] ЦДВГА СССР, ф. ВУА, спр. 7881—7882; Ткачоў М. А. Вежы валынскага тыпу і іх распаўсюджванне на Беларусі.— У зб.: Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972, с. 325, мал. 5.

[49] Раппопорт П. А. Волынские башни, с. 215.

была блізкая па вышыні да вежы ў Стоўп'і — 19,5 м. Але форма яе — выцягнутая і тонкая — рабіла вежу як бы вышэйшай, асабліва калі глядзець на яе зблізку. Магчыма, такое ўражанне і дазволіла летапісцу параўнаць Берасцейскую вежу з Камянецкай.

Лінія ўмацаванняў старажытнага Турава таксама ўключала высокую мураваную вежу. У 30-х гадах XIX ст. яна была разбурана[50]. Пры абследаванні замчышча старажытнага Турава ўстаноўлена, што ў паўднёва-заходняй частцы пляцоўкі дзядзінца з напольнага боку сапраўды маецца ўзвышэнне амаль правільнай круглай формы, дыяметрам каля 11 м. На плане гарадзішча, зробленым у свой час П. А. Раппапортам, яно добра бачна[51]. Далейшыя археалагічныя даследаванні, магчыма, дазволяць адшукаць рэальныя сляды і гэтай пабудовы.

Трэба адзначыць, што на малюнку Полацка, зробленым С. Пахалавіцкім у 1579 г., у паўночнай частцы і ў цэнтры Полацкага замка паказаны дзве вежы. Не звязаныя са сценамі замка, яны стаялі асобна і дазвалялі весці кругавы абстрэл.

Як бачым, у другой палове XIII — XIV ст. на землях Заходняй Беларусі былі распаўсюджаны ўмацаванні з адзіночнымі мураванымі вежамі-данжонамі. Іх узнікненне звязана як з далейшым развіццём мясцовага ваенна-інжынернага мастацтва і ўсталяваннем актыўнага штурму з дапамогай камнямётных машын, так і з пранікненнем сюды ўплываў заходнееўрапейскага ваеннага дойлідства.

## ЗАМКІ-КАСТЭЛІ

Першая палова XIV ст. была перыядам шматлікіх феадальных войнаў, драпежніцкіх нападаў рыцараў-крыжаносцаў. Тэўтонскі ордэн стаў сур'ёзнай пагрозай для Польшчы, Літвы і іншых краін Усходу[52]. Заваяваўшы Прыбалтыку і Прусію, нямецкія рыцары не пакідалі надзей захапіць землі Літвы і Беларусі.

З многіх краін Заходняй Еўропы тэўтонцы атрымлівалі дапамогу, якая асабліва ўзрасла ў другой палове XIV ст. Яны мелі памагатых з ліку рыцараў Германіі, Англіі, Францыі, Галандыі, Скандынаўскіх краін, Італіі, Венгрыі, Чэхіі, благаслаўлёных і накіраваных рымскімі папамі і імператарамі[53]. Пагроза нямецкай агрэсіі паставіла перад беларускім і літоўскім народамі задачу рашучай барацьбы супраць Тэўтонскага ордэна, які пагражаў фізічным знішчэннем цэлым народам. У гэтай барацьбе актыўны ўдзел прымала насельніцтва Украіны і паўночна-заходняй Русі.

Свой галоўны ўдар крыжаносцы накіроўвалі ў раёны беларуска-літоўскага Панямоння, спалучаючы сістэматычныя паходы буйных шматтысячных атрадаў і набегі дробных рабаўнічых бандаў. Асабліва цярпелі ад крыжацкіх налётаў Гродзенская і Навагрудская землі. У 1284 г. вялікае рыцарскае войска пад кіраўніцтвам магістра Конрада Тырнберга спустошыла Гродна і яго ваколіцы. Гэта ж паўтарылася ў 1295 і 1296 гг.[54]

---

50 Балабушевич В. Каменецкий столб.— «Литовские Епархиальные Ведомости», 1881, № 24, с. 210.
51 Раппопорт П. А. Военное зодчество..., с. 77, рыс. 80.
52 Архив К. Маркса и Ф. Энгельса, т. 5, с. 347.
53 Ючас М. А. Литовское Великое княжество во второй половине XIV—начале XV в. и борьба литовского народа за независимость. Автореф. канд. дис. М., 1956, с. 11.
54 Skriptores Rerum Prussikarum (SRP), t. 1, str. 223, 260.

Зімой 1304 г. войскі магістра Конрада Зака прайшліся па Гродзеншчыне «з агнём і мечам», захапілі вялікую здабычу і спалілі пасад, але замка ўзяць не здолелі[55]. Затым зноў у 1306 г. двойчы, у 1311 — тройчы, у 1314, 1324 і 1328 гг. палала агнём пажарышчаў зямля Гродзеншчыны[56].

У 1314 г. крыжацкія войскі асаджалі Навагрудскі замак, абарону якога ўзначальваў гродзенскі стараста Давыд. Спробы крыжакоў былі дарэмнымі. Панёсшы вялікія страты, рыцары мусілі адступіцца, спаліўшы прыгарад[57].

Разумеючы, што захапіць, а тым больш утрымаць пад сваёй уладай літоўска-беларускія землі немагчыма, рыцары вырашылі прымяніць тактыку захопу і ўтрымання зямель з дапамогай замкаў. Яны ўзводзілі іх на мяжы заваяванай тэрыторыі каля буйных населеных пунктаў або на асноўных гандлёвых шляхах і скрыжаваннях стратэгічных дарог. Замкі былі своеасаблівымі гаспадарча-стратэгічнымі тыламі для крыжацкіх атрадаў. У час небяспекі яны маглі схавацца пад надзейныя замкавыя муры. Тут захопнікі размяшчаліся для часовага пастою, папаўнялі правіянт за кошт прадуктаў, якія пастаўляла заваяванае насельніцтва[58].

Рыцарскія замкі з вышэйпамянёнымі функцыямі адносяцца да замкаў тыпу «кастэль». Іх звычайна будавалі ў цяжкадаступных месцах, адводзячы для гэтага вялікія прамавугольныя ўчасткі. Абарона кастэляў складалася з драўляных або мураваных сцен, земляных валаў і равоў, якія часта абвадняліся[59].

Замкі такога тыпу былі вядомы ўжо ў XII ст. у розных месцах Германіі, Даніі, на поўдні Скандынавіі і ў іншых землях[60]. Прататыпамі еўрапейскіх кастэляў, на думку некаторых аўтараў, паслужылі, з аднаго боку, старажытнарымскія ваенныя лагеры, а з другога — абарончыя збудаванні Бліжняга Усходу[61]. У перыяд ранняга сярэдневякоўя кастэлі на землях Заходняй Еўропы існавалі амаль адначасова з аднавежавымі замкамі. Узнікненне і распаўсюджанне кастэляў было для ўсіх народаў Заходняй і Усходняй Еўропы новым значным крокам у развіцці і ўдасканаленні ваеннага дойлідства.

На землях, якія непасрэдна мяжуюць з Беларуссю, першы кастэль быў узведзен у канцы XII ст. Гэта быў замак Гольм у Латвіі, пабудаваны на адным з астравоў Заходняй Дзвіны ў 1186 г. рыцарамі Лівонскага ордэна. Ён займаў прамавугольны ўчастак зямлі памерам 40,15×34,25 м, абведзены мураванай сцяной таўшчынёй 3,0—3,35 м. Акрамя таго, з трох бакоў кастэль дадаткова бараніўся ровам[62]. У верхняй частцы сцяны знаходзіліся рад байніц і драўляная галерэя-памост для воінаў. Крыху пазней з унутранага боку да сцяны была прыбудавана

---

55 Stryjkowski M. Kronika Polska..., t. 1, str. 344, 346,

56 SRP, t. 1, str. 223, 260, 266, 267, 292, 308, 322, 349.

57 Liv—Esth—und Curlandisches Urkundenbuch... Bd. 2, str. 140; Bd. 6, str. 468.

58 Tuulse A. Burgen in Estland und Lettland. Dorpat, 1942, s. 15.

59 Абрамаускас С. К вопросу генеза крепостных сооружений типа «кастель» в Литве.— У зб.: Строительство и архитектура. Вильнюс, 1963, с. 100; яго ж. Развитие каменного строительства в Литве в XIII—XVI веках. Автореф. канд. дис. Каунас, 1965, с. 10.

60 Glasen K. H. Die mittelalterlache Kunst im Gebiste des Deutsch ordensstaaten Preussen. I. Die Burgbauten. Königsberg, 1927, s. 13—28.

61 Tuulze A. Burgen in Estland und Lettland, s. 16; Абрамаускас С. К вопросу генеза крепостных сооружений..., с. 100, 107.

62 Tuulze A. Burgen in Estland und Lettland, s. 27.

прамавугольная ў плане нарожная вежа, якая яшчэ больш узмацніла абараназдольнасць кастэля. Агульная сістэма плана замка і яго будаўніча-тэхнічныя асаблівасці маюць шмат агульнага з аналагічнымі пабудовамі паўднёвай Скандынавіі. Гэта, відаць, тлумачыцца тым, што ўсе будаўнічыя работы тут былі выкананы майстрамі, запрошанымі з Готланда [63].

У XIII і XIV стст. крыжаносцы ўзвялі на тэрыторыі куршаў у Латгаліі, Земгаліі і на іншых прыбалтыйскіх землях шэраг кастэляў. Сярод іх вызначаліся замкі Валькенберга, Кандау, Тукум, Альсунга, Дурбан, Альтона, Арайшы і інш. [64]

У першай палове XIV ст. замкі, падобныя на рыцарскія кастэлі, пачалі ўзводзіць і на землях Беларусі і Літвы. Вялікі князь Гедымін, які пайшоў на збліжэнне з Лівоніяй, з дапамогай рыжан звярнуўся са спецыяльнымі лістамі-пасланнямі да жыхароў гарадоў Ганзейскага саюза. У гэтых пасланнях Гедымін адкрываў свабодны доступ у сваё княства ўсялякага роду рамеснікам, прычым асабліва падкрэслівалася пажаданасць прыезду кавалёў, майстроў па пабудове балістаў і каменячосаў [65]. Гедымін разумеў неабходнасць мець у княстве сучаснае ўзбраенне і замкі, якія б адпавядалі тактыцы нападу тагачасных войскаў. Акрамя таго, трэба ўлічваць вандроўных будаўнікоў Прыбалтыкі, якія прапаноўвалі свае паслугі ўсім, хто добра плаціў [66]. У канцы XIV — пачатку XV ст. запрашэнне кваліфікаваных майстроў з Прыбалтыкі для пабудовы замкаў на землях Беларусі было звычайнай справай [67].




*Рыс. 8. План Лідскага замка*

У 1323 г. князь Гедымін загадаў залажыць у Лідзе мураваны замак. Новы абаронны фарпост Панямоння ўзводзіўся некалькі гадоў. Яго будаўнікі, узяўшы за аснову тып рыцарскага кастэля, творча падышлі да вырашэння складанай задачы: на аснове мясцовых будаўнічых традыцый стварылі магутны замак, прыдатны для патрэб абароны. Дойліды ўдала скарысталі рэльеф мясцовасці, узвёўшы замак на штучнай пясчанай выспе, насыпанай на балоцістай нізіне ў сутоцы рэк Лідзеі і Каменкі [68].

Сцены замка ў плане нагадваюць трапецыю, большае аснаванне якой нацэлена на поўнач, туды, адкуль найчасцей чакалася ваенная небяспека. Перад паўночнай сцяной быў глыбокі і шырокі роў, які залі-

[63] Tuulse A. Burgen in Estland und Lettland, s. 26—30, 354.
[64] Ibidem, s. 226, 229, 231, 233, 237, 238, 240—241.
[65] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства, с. 265—267.
[66] Tuulse A. Burgen in Estland und Lettland, s. 18.
[67] Codex Epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376—1430). Kraków, 1882, str. 147, 150.
[68] Ткачоў М. А. Лідскі замак.— «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» (далей ПГКБ). Мінск, 1971, № 2, с. 15.

ваўся вадою. Паўднёвую сцяну прыкрывалі балоцістыя берагі і воды Каменкі і Лідзеі. З усходу замак надзейна бараніўся водамі рэк, падпёртых плацінаю.

Памеры паўночнай сцяны Лідскага замка — 93,5 м, усходняй — 83,5, паўднёвай — каля 80 і заходняй — 84 м. Таўшчыня іх не перавышала 2 м.

Замак меў два ўваходы, якія праразалі тоўшчу ўсходняй сцяны непадалёку ад яе паўночна-ўсходняга кута. Меншая брама пры шырыні 2,5 м і вышыні 3 м мела спічастую арку. Большая брама, моцна пашкоджаная ў час войнаў, цяпер замуравана. Яна мела прыблізна 4,5 м шырыні і каля 6 м вышыні. Па графічных малюнках XIX ст. можна меркаваць, што гэта брама мела паўцыркульную арку.



*Рыс. 9. Абмерныя чарцяжы замкавых муроў, пачатак XX ст.*

Наяўнасць у замку двух уваходаў, размешчаных блізка адзін пры адным, іх розныя памеры наводзяць на думку, што яны выконвалі не аднолькавыя функцыі. Меншая брама, верагодна, служыла для паўсядзённых патрэб, была як бы «чорным» ходам. Другая, размешчаная бліжэй да вежы, магла быць парадная і адчынялася для ўрачыстай сустрэчы князя або яго гасцей.

У паўднёвай сцяне замка, на вышыні каля 2 м ад зямлі, захаваліся сляды паўцыркульнага праёму шырынёй 2,5 м і вышынёю каля 3,1 м. Нельга не звярнуць увагу на тое, што ён знаходзіцца ў найбольш бяспечным месцы. Гэты бок замка быў добра абаронены прыродай і не патрабаваў дадатковых штучных умацаванняў. Усё гэта дае падставу меркаваць, што праём з'яўляецца нічым іншым, як запасным выхадам для раптоўных вылазак гарнізона або для скрытага выхаду з замка ў крытычныя моманты абароны.

Паўднёвая сцяна цікавая для нас яшчэ тым, што тут захаваліся (праўда, часткова і ў змененым выглядзе) байніцы, якія некалі меліся на ўсіх сценах. Яны бескамерныя і на плане маюць выгляд трапецый, звернутых шырокім аснаваннем у бок замкавага двара. Пры аднолька-

вай вышыні байніцы былі рознай шырыні і тры іх тыпы чаргаваліся на сцяне праз кожныя 2,4 м. Улічваючы час пабудовы замка, зразумела, што байніцы прызначаліся для стральбы з лукаў і арбалетаў, а пазней — і для лёгкай вогнестрэльнай зброі.

Ніжэй байніц да гэтага часу ўцалелі скразныя адтуліны ад кансольных бэлек памерамі 40×40 см. Яны служылі апорай драўлянай галерэі-памосту для воінаў, якая ішла па перыметру замкавых сцен. Кавалкі дубовых бэлек былі яшчэ бачны ў пачатку нашага стагоддзя[69].

Адначасова са сценамі ў замку пабудавалі вежу. Яна паўстала ў найбольш бяспечным паўднёва-заходнім рагу. Таўшчыня сцен вежы,



*Рыс. 10. Натурны здымак, канец XIX ст.*

якая ў плане блізкая да квадрата памерамі 11,3×11,3 м, унізе дасягала 3 м.

Цяжка ўявіць сабе архітэктурныя і фартыфікацыйныя асаблівасці вежы, ад якой уцалеў толькі фундамент. Некаторыя графічныя і фотадакументы канца XIX ст., калі асобныя фрагменты вежы былі цэлымі, дазваляюць сцвярджаць, што яна была вышэй 12-мятровых замкавых сцен. Яе апошні паверх, выкладзены з цэглы, меў байніцы, якія знаходзіліся на адным узроўні з байніцамі насценнага бою. Паколькі вежа не выступала за перыметр сцен, яна павінна была мець вокны, што выходзілі ў двор.

Паводле накаторых даных, можна меркаваць, што менавіта ў гэтай вежы, і хутчэй за ўсё ў яе дольнім паверсе, знаходзілася праваслаўная замкавая царква. Т. Нарбут паведамляе, што царква размяшчалася ў адной з веж з дня заснавання замка і да 1533 г., калі яе перанеслі ў горад і назвалі ў гонар Георгія Пабеданосца[70]. Памеры ўнутры вежы (8,3×8,3 м) для размяшчэння невялікай замкавай царквы зусім дастатковыя. У час археалагічных пошукаў на падлозе колішняга першага

---

[69] Szukiewicz W. Zamek w Lidzie.— «Ziemia», 1911. Kraków, t. 2, str. 748.
[70] Narbutt T. Dzieje narodu Litewskiego. Wilno, 1839, t. 5, dodatek I, str. 2.

паверха вежы былі знойдзены рэшткі абліцовачных плітак з белай палівай і абломак каменнага аздаблення.

Другая, паўночна-ўсходняя, вежа дайшла да нашых дзён у выглядзе руін, дасягаючых сёння вышыні каля 4 м. Дакладна вызначыць час яе ўзвядзення цяжка. Яна магла быць пабудавана ці пасля 1384 г., калі крыжаносцы часткова разбурылі замак, ці на рубяжы XIV і XV стст., калі паўсюдна на Беларусі, напярэдадні рашучага адпору крыжаносцам, назіраліся ўзмацненне і пераробка існаваўшых абарончых збудаванняў. План вежы мае выгляд перакошанага рознабаковага чатырохвугольніка памерамі 12 : 12,5 : 12,3 : 12,15 м. Археалагічнае вывучэнне стыку фундаментаў вежы і сцяны замка выявіла адсутнасць іх канструк-



*Рыс. 11. Лідскі замак. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

цыйнай сувязі і розныя ўзроўні залягання, што з'яўляецца важкім доказам разначасовасці іх узвядзення. Высветлена таксама, што гэта вежа была ўзведзена метадам так званай лусковай муроўкі, якая шырока бытавала на Беларусі і ў Літве. Сутнасць яе ў тым, што «шчокі» сцен выкладваліся з цэглы, а ўнутры была забутоўка з валуноў і шчэбня на вапне. Абліцоўка вежы, якая пачыналася ад цокаля фундамента, зроблена з велікамернай цэглы. Вежа мела вокны з паўцыркульнымі аркамі.

Дах вежы быў накрыт чарапіцай. Рэшткі яе знойдзены ў час раскопак. З іншых знаходак хацелася б адзначыць кавалкі непаліванай і паліванай кафлі, абломак паліхромнай пліткі са слядамі роспісу чырвонага і чорнага колераў, рэшткі глінянага і шклянога посуду, якія датуюцца XIV—XVII стст. Усё гэта робіць бясспрэчным той факт, што некаторыя паверхі вежы выкарыстоўваліся пад жыллё. Знаходкі пацвярджаюць сведчанне гісторыка Т. Нарбута аб наяўнасці ў вежы, на верхнім паверсе, цудоўнай залы і пакояў. У ніжніх жа паверхах, паводле яго звестак, размяшчаліся суд, архіў і турма [71].

У Лідскім замку аднačасова з готыкай ёсць элементы раманскай архітэктуры: паўцыркульныя аркі, стрыманасць у выкарыстанні дэталей, манументальнасць сцен. Адзіным яе ўпрыгожаннем з'яўляўся аркатурны фрыз, які ішоў пад байніцамі ўсходняй і паўночнай сцен.

---

[71] Narbutt T. Dzieje narodu Litewskiego, t. 8, str. 477.

Для ўзвядзення Лідскага замка спатрэбілася каля 23 000 м³ валуноў і каля паўтара мільёна штук цэглы, мноства пяску, жвіру і вапны, якая прывозілася з-пад Жырмун. З цэглы рабіліся толькі завяршэнні сцен, веж, байніц, брам і вуглы сцен. На пасцелі большасці цаглін ёсць барозны — «пальчатка», якія рабіліся для лепшай счэпкі з вапнавым растворам. Памеры цэглы наступныя: (32—32,5—34) × (8,5—9,5—10) × (16—16,5) см.

Характэрнай канструкцыйнай асаблівасцю фундамента сцен замка з'яўляюцца нязначныя памеры і малая глыбіня залягання. Ён зроблен з вялікіх камянёў грубай чоскі памерамі 90—100×60—80 м, пакладзеных на вапне. Глыбіня яго залягання не перавышае 1,1 м. Падмурак ляжыць на падушцы з дробнага жвіру і гліны.

Замкавы двор забрукаваны. З вуліцы выкладзены каменем усе адхоны замкавага ўзвышша і схілы рова [72].

Раскопкі ў замку паказалі, што культурны слой тут невялікі і бедны археалагічнымі знаходкамі. Яго таўшчыня вагаецца ад 0,8 м пры ўваходзе ў замак і да 0,4—0,3 м у сярэдзіне двара. Адсутнасць слядоў жыцця людзей наводзіць на думку, што замак меў чыста утылітарнае прызначэнне і з'яўляўся месцам сховішча насельніцтва на перыяд ваеннай небяспекі. Магчыма, далейшыя, больш шырокія раскопкі ўнясуць некаторыя карэктывы.

Пасля смерці Гедыміна Ліда стала сталіцай удзельнага княства. Першым яе князем быў Альгерд. Пры яго сыне Ягайле паміж князямі пачаліся доўгія звады за велікакняжаскі прастол. Гэта выкарысталі крыжакі. У 1384 г. пасля працяглай аблогі і штурму яны ўзялі замак і часткова яго разбурылі [73]. У снежні 1392 г. атрады рыцараў на чале з камандорамі Янам Румпенгаймам, Конрадам Ліхтэнштэйскім і Вітаўтам пераправіліся ля м. Аліта цераз Нёман і праз скаваныя марозамі балоты падышлі да сцен Ліды. Паспытаць рабаўнічага шчасця на беларускай зямлі разам з імі прыцягнуліся і англійскія рыцары, якіх узначальваў малады граф П. Нортумберлендскі [74].

Запаліўшы падзамча і абрабаваўшы горад, ворагі аблажылі замак. Князь Дзмітры Карыбут, што кіраваў яго абаронай і меў дастаткова сіл для гэтага, напалохаўся. Прычакаўшы глухой ночы, гарнізон разам з князем выйшаў з замка і падаўся ў бок Навагрудка. Рыцарам дасталася вялікая колькасць зброі і ваеннага рыштунку [75].

Такі ж раптоўны напад быў паўтораны зімой 1394 г. Акрамя нямецкіх рыцараў, якіх вёў граф Ляйнінген, у паходзе ўдзельнічалі англічане на чале з графам Бэдфордам і атрад французаў. Але на гэты раз чужынцам пажывіцца не ўдалося: жыхары Ліды самі спалілі горад, зачыніліся ў замку і мужна адбілі ўсе штурмы [76].

З 1396 па 1399 г. у Лідзе жыў выгнаны з Залатой Арды хан Тахтамыш. 5 жніўня 1406 г. пад сценамі Ліды з'явіліся атрады смаленскага князя Юрыя Святаслававіча. Князь ішоў выручаць з няволі сваю сям'ю, якую год назад паланіў пры захопе Смаленска Вітаўт. Пасля некалькіх беспаспяховых штурмаў смаляне асаду знялі. Не паддаўся замак у

[72] Т к а ч е в М. А. Исследования памятников оборонного зодчества Белоруссии.— АО 1970 г., 1971, с. 308.
[73] Е г о р о в Ю. Градостроительство Белоруссии. М., 1954, с. 24—25.
[74] N a r b u t t A. Dzieje narodu Litewskiego, t. 5, str. 485.
[75] Материалы для географии и статистики России. Виленская губерния. СПб, 1862, с. 736.
[76] Słownik Geograficzny Królewstwa Polskiego (SGKP), t. 5, str. 216; R e m e r J. Architektura monumentalna w w-wie Nowogródskim. Nowogródek, 1926, str. 44.

1433 г. і князю Свідрыгайлу, які вёў доўгую вайну з Сігізмундам. З 1434 па 1443 г. замак стаў прыбежышчам яшчэ аднаго хана-выгнанніка Даўлет Хаджы-Гірэя. Праўда, лёс яго быў шчаслівейшы за Тахтамышаў: з дапамогай вялікага князя ён стаў ханам перакопскіх татар[77].

Пасля доўгага зацішша, толькі ў 1506 г., пад сценамі Ліды апынуўся адзін з загонаў крымскіх татар. Але яны не рызыкнулі пачаць штурм.

У 1568 г. лідская шляхта прасіла караля Сігізмунда-Аўгуста, «абы суды земскія ў... павеце Лідскім отправованы былі ў замку, а не па корчмам на месце». Затым, у 1638 г., для захавання кніг Лідскага земскага суда ў замку ля адной з яго сцен пабудавалі спецыяльны склеп[78].

У XVI—XVII стст. замак фактычна страціў сваё колішняе ваеннастратэгічнае значэнне, аднак па-ранейшаму даглядаўся і ахоўваўся тутэйшай шляхтай. Тут праводзіліся суды, павятовыя сеймікі, захоўваліся архівы Лідскага земскага суда, а сутарэнні паўночна-ўсходняй вежы былі ператвораны ў турму.

У час зацяжных войнаў паміж Рэччу Паспалітай і Рускай дзяржавай каменныя сцены замка зноў адчулі моц навейшай асаднай тэхнікі. Ліда была ўзята войскамі І. Залатарэнкі. Летам 1659 г. 30-тысячнае войска князя І. А. Хаванскага з дапамогай артылерыі ўзяло замак прыступам. Моцна пашкоджаны, ён быў яшчэ больш разбураны ў 1702 г., калі адзін са шведскіх атрадаў падарваў замкавыя вежы[79]. Пад час вайны з Карлам XII, у 1710 г., Лідскі замак стратэгічнай ролі ўжо не адыгрываў, але ён яшчэ раз быў спалены шведамі[80]. Замак паступова пачаў разбурацца, ператвараючыся ў руіны. Аднак ва ўцалелых памяшканнях захоўваліся гродскія акты і адбываліся суды. Яшчэ ў канцы XVIII ст. амаль поўнасцю, на ўсю вышыню, былі цэлымі сцены замка з байніцамі і аркатурным поясам на паўночнай і ўсходняй сценах. Да вышыні трэцяга паверха ўцалелі асобныя вежавыя сцены. Канчаткова замак быў разбуран у 1794 г., калі засеўшыя там паўстанцы Т. Касцюшкі, маючы 18 гармат, вялі бой з царскімі войскамі. Старажытны архіў горада Ліды, што захоўваўся ў замку, быў вывезен у Смаленск, дзе згарэў у 1812 г.[81]

У канцы XIX ст. мясцовыя ўлады, не разумеючы гістарычнага значэння гэтай старажытнай пабудовы-помніка, пасля пажару ў горадзе ў 1891 г. нават наладзілі распрадажу і разборку замкавых муроў, выкарыстоўваючы іх для будаўніцтва. З адхонаў замкавага пагорка бралі пясок. Толькі ўмяшанне Археалагічнай камісіі спыніла гэты вандалізм. Для часовай кансервацыі ў 1909 г. былі адпушчаны невялікія сродкі — 943 рублі[82].

Няма сумнення, што замак у Лідзе будаваўся ў першую чаргу самімі гараджанамі, а таксама сялянамі навакольных вёсак. Паколькі гэта быў важны стратэгічны фарпост барацьбы супраць крыжацкай навалы, можна думаць, што для нарыхтоўкі жвіру, каменю, вапны і цэглы прыцягваліся рабочыя рукі і з суседніх тэрыторый Беларусі і

---

[77] Шмелевич М. Город Лида и Лидский замок. Вильно, 1905, с. 40—41; Zamki w Lidzie i Miednikach.— «Kraj», № 32. Wilno, 1904, str. 5.

[78] Там жа, с. 45.

[79] Ткачоў М. А. Лідскі замак, с. 15—16.

[80] Zamki w Lidzie i Miednikach.— «Kraj», 1904, 32, str. 5.

[81] Шмелевич М. Город Лида и Лидский замок, с. 51.

[82] ЦДГА СССР у Ленінградзе, ф. 1284, воп. 186, 1905 г., спр. 3, арк. 24; Lorentz St Konserwacja ruin zamków w Wileńszczyźnie i Nowogródczyźnie, str. 161.

Літвы. Не выключана, што сюды маглі запрасіць будаўнікоў з Прыбалтыкі.

Між тым з лёгкай рукі гісторыкаў Т. Нарбута і П. М. Бацюшкава ў навуцы ўсталявалася думка, быццам будаўнікамі Лідскага замка былі майстры-кіяўляне і палонныя валыняне [83]. Думаецца, што гэта сцверджанне памылковае. Калі будаўнікамі лічыць кіяўлян, то ў той зямлі, адкуль яны прыйшлі, павінны былі б захавацца хоць нейкія сляды праабразаў каменных кастэляў з іх тыповымі будаўніча-тэхнічнымі асаблівасцямі. У сапраўднасці ж там нічога падобнага не выяўляецца.

Тым больш пазбаўлены якіх-небудзь падстаў сцверджанні аб «палонных валынянах». Яны не маглі існаваць у пачатку XIV ст., таму што



*Рыс. 12. Крэўскі замак. З гравюры Н. Орды сярэдзіны XIX ст.*

ў Валыні ў той час «правілі члены літоўскай дынастыі, князі Гедымінавічы... падпарадкаваныя вялікаму князю літоўскаму» [84].

Замак-кастэль у Крэве (Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.) ляжыць у даліне паміж высокіх пагоркаў, што расцягнуліся ланцугом абапал рачулкі Крэвянкі. Тут, на нізкім поплаве, у сутоцы ракі Крэвянкі і ручая Шляхцянкі і быў у 20-я гады XIV ст. пабудаван мураваны замак [85].

Крэва было сталіцаю ўдзельнага княства, якое ў 1338 г. Гедымін аддаў свайму сыну Альгерду [86]. Крэўскі замак у сваёй планіроўцы мае шмат агульнага з Лідскім. У плане ён нагадвае няправільную трапецыю, звернутую большым аснаваннем у напольны бок. З усходу, поўдня, часткова захаду і поўначы замак бараніўся водамі рачулак, падпёртых плацінаю. Як і ў Лідскім замку, тут былі ўсяго дзве вежы, размешчаныя па дыяганалі. Аднак Крэўскаму замку ўласцівы некаторыя асаблівасці. Ён меў адну вялікую — Княскую — вежу («вежа Кейстута») памерамі 18,65×17 м, якая выступала ў паўночна-заходнім куце

---

[83] N a r b u t t T. Dzieje narodu Litewskiego, t. 8, dodatek I, str. 1; Б а т ю ш к о в П. Н. Белоруссия и Литва. Примечания, с. 129; Е г о р о в Ю. Градостроительство Белоруссии. М., 1954, с. 24 і інш.

[84] Очерки истории СССР. XIV—XV вв. М., 1953, с. 511.

[85] B a l i ń s k i M., L i p i ń s k i T. Starożytna Polska, t. 3, str. 233—238; ПСРЛ, с. 32, с. 41.

[86] Z a h o r s k i W. Zamek w Krewie.— «Ziemia», t. 3. Kraków, 1912, str. 774—777.

за перыметр замкавых мурoў, фланкіруючы заходнюю і паўночную з брамай сцены. Тут было не менш трох паверхаў і склеп-турма. У вежы жылі князь, яго чэлядзь і начальнік замкавай варты. Княжаскія пакоі размяшчаліся на другім паверсе, дзе вокны значна больш і шырэй, чым на астатніх паверхах. Трэці паверх выконваў абарончыя функцыі. Над ім, відаць, меўся яшчэ адзін ярус бою. Аб гэтым сведчаць існаваўшыя яшчэ ў XIX ст. рэшткі каменнай лесвіцы ў тоўшчы вежавай сцяны, якая вяла наверх[87]. Гэта маглі быць або яшчэ адзін паверх, або баявыя пляцоўкі, размешчаныя на самым версе вежы. Вежа пры таўшчыні сцен 3 м унізе і 2,5—2,6 м на ўзроўні трэцяга паверха мела вышыню больш 25 м, таму што сёння ўцалелыя рэшткі яе дасягаюць вышыні каля 17,5 м.

Вялікая вежа мае падмурак вышынёю ў 3 м, складзены з вялікіх камянёў грубай чоскі, пакладзеных на вапнавым растворы. Асабліва вялікія вуглавыя камяні, якія дасягаюць памераў 1—1,3 м. Падмурак мае паўмятровую падушку з дробнага камення і гліны, пад якія падасланы дубовыя і сасновыя лаўжы і галлё.

Аснаванне вежы на вышыню 3 м ад цяперашняй паверхні вымуравана з каменю. Вышэй ідзе лусковая муроўка з велікамернай цэглы. Таўшчыня цагляных «шчок» каля 0,7 м. Вышыня колішніх паверхаў вежы дасягала 4,8—5 м. Перакрыцці паміж імі былі зроблены на бэльках 30×30 см.



*Рыс. 13. Княская вежа. Здымак пачатку XX ст.*

Унутры вежавых сцен бачны каналы ад драўляных брусоў памерамі 40×40 см. Брусы закладаліся для ўмацавання сцен, прадухілення нераўнамернасці асадкі і іншых дынамічных уздзеянняў.

Княжаскія пакоі былі, відаць, распісаны фрэскамі. Ва ўсякім разе, яшчэ ў мінулым стагоддзі аконныя ліштвы захоўвалі сляды тынкоўкі з фрэскавым жывапісам.

Сцены Крэўскага замка розныя па памерах. Паўночная сцяна, размешчаная з прыступнага боку, мела даўжыню 85 м; усходняя сцяна найбольшая — 108,5 м, паўднёвая — 71,6 м і заходняя, якая перад вялікай вежай мае невялікае адхіленне ад асноўнай трасы, — 97,2 м.

Таўшчыня замкавых муроў дасягае 2,75 м. Яны маюць 2-мятровы падмурак з 30-сантыметравым цокалем. Падмурак зроблен на вапне з камянёў сярэдняй велічыні і ляжыць на дубовых і сасновых лаўжах.

[87] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska, t. 3, str. 235; Baliński M. Krewo. Starodawni zamek w Litwie.— Pismo historyczne, t. 4, 1843, str. 165.

Замкавыя сцены да вышыні 4 м складзены з каменю. Вышэй, з вонкавага боку, ідзе 65-сантыметравая цагляная абліцоўка. У заходняй сцяне выяўлены адтуліны ад брусоў унутранай драўлянай сувязі, аналагічныя тым, што маюцца ў Княскай вежы. Яны ішлі ўнутры муру паралельна яго трасе.

Раней сцены Крэўскага замка дасягалі вышыні 12—13 м. Цяпер толькі асобныя фрагменты паўночнай сцяны маюць вышыню каля 10 м. Прынцып абароны замкавых сцен такі ж, як і ў Лідзе. На вышыні 10 м уздоўж іх па ўсяму перыметру на драўляных бэльках ішла баявая галерэя-памост. Сляды гэтых бэлек яшчэ выразна былі відаць у XIX ст. [88] Абарона замка вялася праз байніцы, размешчаныя ў сценах на адлегласці 2,4 м адна ад адной. Форму і абрысы байніц выявіць нельга, паколькі верх сцен разбураны, але можна меркаваць, што яны аналагічныя лідскім.

На стыку ўсходняй і паўднёвай сцен, знутры замкавага двара, стаяла яшчэ адна вежа памерамі 11×10,65 м. Яна прыбудавана да сцен і адрозніваецца ад іх глыбінёй залягання фундаментаў. Аб яе больш познім узвядзенні сведчыць той факт, што сцены гэтай вежы закрылі частку бэлечных адтулін галерэі-памосту для воінаў.



*Рыс. 14. План Крэўскага замка*

У канцы XIX ст. вежа яшчэ ўзвышалася над замкавымі сценамі [89]. Цяпер яе вышыня дасягае толькі 6,6 м. Яна таксама, як і Княская вежа, мела перакрыцці па бэльках, ад якіх захаваліся ў сценах адтуліны памерамі 30×30 см. Вышыня колішняга першага паверха раўнялася 3,5 м, другога — 2,3, трэцяга — не менш 3 м. Існаваў, несумненна, яшчэ адзін, чацвёрты, паверх, аднак аб ім мы нічога не ведаем. Унутры вежа, відаць, была абмуравана цэглай.

У паўднёвай сцяне Крэўскага замка, падобна Лідскаму, меўся запасны выхад-праём. Цяпер ён не існуе, паколькі сцяна ў гэтым месцы абвалілася. Але на фотаздымках і малюнках канца XIX—пачатку XX ст. ён добра бачны. Яго памеры — 4,26×2,84 м [90].

Заходнюю сцяну ля самага долу праразае яшчэ адзін праём спічастай формы, які мае вышыню каля 2,5 м і шырыню 2,25 м. Некаторыя даследчыкі лічаць яго адтулінай для ўпуску вады ў замкавы стаў — сажалку [91]. На нашу думку, тут была запасная брама замка.

Археалагічныя даследаванні, зробленыя на тэрыторыі Крэўскага замчышча, паказалі, што культурны слой тут нязначны. Яго таўшчыня 0,5 — 0,7 м. Кераміка позняя — XIV — XVI стст. Сустракаюцца кавалкі

[88] B a l i ń s k i M. Krewo. Starodawni zamek w Litwie, str. 165; SGKP, t. 4, str. 667.
[89] J a n k o w s k i Cz. Powiat Oszmiański, cz. 2. Peterburg, 1897, str. 203.
[90] П л а в с к и й Д. Местечко Крево.— «Виленский вестник», 1871, № 116.
[91] B a l i ń s k i M. Krewo. Starodawni zamek w Litwie.— Pismo historyczne, t. 4 i dodatki, 1843, str. 24.

паліванай і непаліванай кафлі, шкло. У шурфах каля веж знойдзена чарапіца, якой пакрывалі дах. У адрозненне ад Лідскага замка ў Крэве не ўвесь замкавы двор выкладзены каменем. Толькі ад уваходнай брамы, якая праразала тоўшчу паўночнай сцяны, ішла да малой паўднёва-ўсходняй вежы выбрукаваная дарога шырынёй каля 8 м[92]. Паколькі паўднёва-ўсходні ўчастак замкавага двара быў балоцістым і мокрым, дарогу «забралі» ў каркас з бярвення вышынёй 80 см. Справа ад гэтай дарогі, у паўднёва-заходнім куце двара, верагодна, знаходзілася тая сажалка, аб якой пісалі даследчыкі і гісторыкі XIX ст.



*Рыс. 15. Руіны малой вежы. Фота В. Ждановіча*

На замкавым падворку ёсць толькі два ўзвышэнні. Адно прылягае да вялікай вежы, займаючы паўночна-заходні кут двара плошчай 50×35 м. Пясчаная выспа забрукавана. Тут, верагодна, стаялі княжаскія гаспадарчыя службы.

На другім пясчаным узвышэнні, насыпаным у нізкім паўднёва-ўсходнім куце двара, была пастаўлена пазнейшая малая вежа. Увогуле ўвесь усходні ўчастак тэрыторыі, які прымыкае да ўсходняй сцяны, крыху падвышан. Асабліва гэта прыкметна з вуліцы. Невялікі вонкавы адхон тут забрукаваны, каб яго не размывала вада става, які з гэтага боку падступаў да самых муроў.

За сваю гісторыю Крэўскі замак быў сведкай многіх гістарычных падзей. У 1382 г. тут, у падзямеллі Княскай вежы, быў задушан па загаду Ягайлы яго дзядзька князь Кейстут, асноўны прэтэндэнт на велікакняжаскі прастол і галоўны праціўнік Ягайлы[93]. У 1385 г. у Крэўскім замку былі прыняты ўмовы аб'яднання Літвы і Польшчы пад уладай Ягайлы

[92] Ткачев М. А. Исследования памятников оборонного зодчества Белоруссии.— АО 1970 г., 1971, с. 308.
[93] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska, t. 3, str. 236.

(вядомае ў гісторыі як Крэўская унія). У 1443 г. замак быў узят войскамі князя Свідрыгайлы, які ваяваў за вялікакняжаскі прастол з князем Жыгімонтам[94]. У 1503 — 1506 гг. замак абкладалі і значна разбурылі войскі перакопскіх татар. Пазней тут, у Княскай вежы, жыў беглы князь Андрэй Курбскі[95]. Аднак ужо ў XVI ст. вядомы дыпламат Сігізмунд Герберштэйн адзначаў, што Крэва — горад «з пакінутым замкам»[96].

Замак паступова страціў сваё значэнне як абарончы пункт. У XVIII ст. значна была разбурана вялікая вежа, дах і перакрыцці праламіліся, абвалілася частка ўсходняй сцяны.



*Рыс. 16. Крэўскі замак. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

Асабліва пацярпеў замак у час першай сусветнай вайны. Праз Крэва больш 3 гадоў праходзіла лінія фронту. Замак знаходзіўся на нямецкім баку абароны. Тут парабілі бетонныя сховішчы (у малой вежы і ля паўднёвай сцяны), назіральныя пункты, у час абстрэлу якіх сцены замка і вялікая вежа былі разбіты, завяршэнні сцен разбураны[97]. Цагляная абліцоўка многіх участкаў сцен адслаілася і месцамі паабвальвалася. Паўночная ж сцяна замка пахілілася да 10°. У 1929 г. гэту сцяну ўмацавалі контрфорсам шырынёй у 2 м і закансервавалі. Абліцоўка галоўнай вежы была звязана жалезнымі заццяжкамі, а шчыліны заліты вапнай. Тады ж падмуравалі рэшткі паўночна-ўсходняй сцяны, падмацаваныя эскарпам, а таксама правялі шэраг іншых кансервацыйных і рэстаўрацыйных работ[98].

Пасля Вялікай Айчыннай вайны стан замкавых муроў значна пагоршыўся. Помнік патрабуе неадкладнай рэстаўрацыі і кансервацыі.

У адным радзе з Лідскім і Крэўскім стаіць замак-кастэль у Медніках (цяпер Мядзінінкай Літоўскай ССР), які таксама ўзнік у пачатку

[94] ПСРЛ, т. 32, с. 84.
[95] SGKP, t. 4, str. 667; Lorentz St. Wycieczki po województwie Wileńskim. Wilno, str. 39—41; Zahorski W. Zamek w Krewie, str. 777.
[96] Герберштейн С. Записки о Московии. СПб, 1866, с. 212.
[97] Lorentz St. Konserwacje ruin zamkowych w Wileńszczyźnie i Nowogródczyźnie.— OZ, 1930—1931, z. 1—4. Warszawa, str. 162.
[98] Ibidem, str. 162—163.

XIV ст. Медніцкі замак стаіць на штучнай пясчанай выспе, для чаго спатрэбілася каля 65 000 м³ грунту. Замкавыя муры акружаюць плошчу каля 2 га. Разам з абарончымі равамі і валамі ён займае 6,5 га.

Сцены Медніцкага замка адрозніваюцца сваімі памерамі. Так, яго паўночная сцяна мае даўжыню 128,7 м, усходняя — 161,2, паўднёвая — 127,7, заходняя — 147,9 м. У замку існавала дзве вежы. Вялікая мела ў плане форму прамавугольніка памерамі 15×14 м пры таўшчыні сцен 2,9—3 м унізе і 2,4—2,6 м уверсе. Другая вежа, прыбудаваная да паўночнай сцяны, мела памеры 9×8,5 м [99].

Медніцкі замак быў разбураны і ў 1514 г. ужо стаяў пусты.

Як паказваюць даследаванні, на землях Заходняй Беларусі ў XIV ст. усталяваўся тып мураваных замкаў-кастэляў, якія адыгралі важную ролю ў абароне беларускіх і літоўскіх зямель ад крыжацкай навалы. Яны з'явіліся новым важным



*Рыс. 17. План Медніцкага замка (паводле С. Абрамаўскаса)*



*Рыс. 18. Медніцкі замак. Рэканструкцыя С. Абрамаўскаса*

крокам на шляху далейшага развіцця айчыннага ваеннага дойлідства. Тут атрымаў пачатак прынцып фланкіруючага агню з веж, вынесеных за перыметр сцен. Планавая кампазіцыя 4-вугольнага абарончага збудавання на нізкім рэльефе стане характэрнай асаблівасцю ваеннага дойлідства XV—XVI стст.

---

[99] Jurginis J. Medininku pilys. Lietuvos pilys. Vilnius, 1971, s. 174, 176, 178.

## II. ЗАМКІ АГУЛЬНАДЗЯРЖАЎНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIV—XVII ст.

●

У другой палове XIV—XVII ст. адбыліся значныя змены ў сферы ўзбраення, у тактыцы аблогі і абароны. Велізарнае значэнне набыла вогнестрэльная зброя. Да канца XVI ст. у Еўропе ўжо не існавала войскаў, якія не мелі б сваёй артылерыі і часцей, не ўзброеных аркебузамі. Гэта выклікала ў сваю чаргу істотнае ўдасканаленне сістэмы ўмацаванняў.

Аднымі з першых ва Усходняй Еўропе пазнаёміліся з вогнестрэльнай зброяй войскі Вялікага княства Літоўскага, у складзе якіх знаходзіліся ўзброеныя сілы з беларускіх зямель. Вядома, што ўжо ў 1338 г. рыцары Тэўтонскага ордэна прымянілі яе ў Прусіі[1]. Пад час паходаў на крыжаносцаў велікакняжаскае войска магло пераканацца ў дзейснасці новай зброі. У 1341 г., калі яно асадзіла крыжацкі замак Баербург, з вогнестрэльнай зброі — рушніцы быў забіты князь Гедымін.

Летам 1377 г. рыцары Лівонскага ордэна рушылі ўверх па Дзвіне і на адлегласці каля 11 міль ад Дзінабурга асадзілі адзін з замкаў Полаччыны — «Новы замак» (магчыма, Друю). Акрамя асадных машын крыжакі выкарысталі тут таксама гарматы[2].

У 1382 г. войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з князем Кейстутам ужо самі падверглі штурму ўласнымі бамбардамі ордэнскі замак Георгенбург.

Пад час вядомай бітвы князя Вітаўта з татарамі на р. Ворксле ў 1399 г., дзе прымалі ўдзел таксама і дружыны беларускіх князёў Андрэя Полацкага, Андрэя Друцкага і інш., у абозе велікакняжаскага войска мелася ўжо нямала пішчалей і гармат[3].

У 1428 г. у войску Вітаўта, якое асаджала ноўгарадскі горад Порхаў, былі «пушки, и тюфяки, и пищали». Сярод іх вылучалася сваімі памерамі «...пушка велика велми, Галка именем, везяху ея на сороце конех». Ядро, пушчанае з гэтай гарматы, разбурыла адну з абарончых веж, пашкодзіла царкву і, збіўшы зубцы сцяны, упала ў лагеры свайго ж войска, што стаяла з другога боку горада. Пры гэтым загінуў полацкі ваявода і «...коней многое множество раздрази»[4].

У другой палове XIV ст. крыжаносцы актывізавалі свае напады і зрабілі 97 знішчальных паходаў на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага. Прычым на 1370—1380 гг. прыпадае 40 набегаў. Рыцары ўрываліся ў глыб дзяржавы, дасягаючы Вільні, Трокаў, Меднікаў, Ліды,

---

[1] Энгельс Ф. Избранные военные произведения. М., 1958, с. 235.
[2] Вилинбахов В. Б., Мурьянов М. Ф. Новый факт знакомства Руси с огнестрельным оружием.— «Вопросы истории», 1960, № 8, с. 218—219.
[3] ПСРЛ, т. 11, 1965, с. 173—174.
[4] ПСРЛ, т. 12, 1965, с. 8.

Навагрудка, Гродна, Бельска і Камянца. З 1380 па 1410 г. было зроблена яшчэ 14 набегаў, пад час якіх Гродна, Ліда і Навагрудак зноў неаднаразова падвергліся нападам.

Таму канец XIV — пачатак XV ст. адзначан дзейснай падрыхтоўкай беларуска-літоўскіх і польскіх зямель да разгрому Тэўтонскага ордэна. Тут пачалі ўзводзіць новыя і перараблягць старыя замкі, рамантаваць дарогі. Каля галоўных перапраў і брадоў праз Нёман, Вілію і іншыя рэкі рабіліся складаныя сістэмы ўмацаванняў з валаў, драўляных завалаў, веж і іншых перашкод з зямлі, каменю і дрэва. Праз штучныя вадаёмы, азёры і балоты пракладваліся замаскіраваныя пешаходныя і праезджыя дарогі і брады, вымашчаныя бярвеннямі і буйным каменнем. Даўжыня такіх падводных дарог дасягала 0,5—0,7 км, шырыня — ад 2,7 да 4—5 м [5]. Адзін з такіх падводных брадоў знаходзіўся ў раёне возера Нарач, вядомы сярод насельніцтва пад назвай «Чортава грэбля» [6].

У снежні 1409 г. у Брэсце Ягайла і Вітаўт распрацавалі падрабязны план генеральнай бітвы з крыжакамі. 15 ліпеня 1410 г. ля Грунвальда адбылася адна з буйнейшых бітваў еўрапейскага сярэдневякоўя. Аб'ядданае войска палякаў, беларусаў, рускіх, літоўцаў, украінцаў, чэхаў і татар ушчэнт разбіла крыжацкае войска.

Грунвальдская бітва мела велізарнае гістарычнае значэнне. Падарваўшы ваенна-палітычную магутнасць Тэўтонскага ордэна, яна прыпыніла агрэсію нямецкіх феадалаў супраць насельніцтва зямель Вялікага княства Літоўскага. Перамога над крыжаносцамі дала мірную перадышку і паспрыяла эканамічнаму развіццю гэтых зямель, іх усё большаму ўцягненню ў міжнародны гандаль у басейне Балтыйскага мора.

Але мір, заваяваны Вялікім княствам Літоўскім, быў нядоўгім. Беларусь, якая знаходзілася на стыку розных дзяржаў і ўладанняў, яшчэ неаднаразова станавілася арэнай ваенных дзеянняў.

Вельмі часта ў межы Беларусі ўрываліся загоны перакопскіх татар, якія ішлі ў багатыя і густанаселеныя беларускія землі для захопу здабычы і палонных. Перакопскія татары за 95 гадоў (з 1474 па 1569 г.) зрабілі 75 паходаў на землі Вялікага княства Літоўскага. Толькі з 1500 па 1530 г. яны 14 разоў нападалі на Беларусь. Прычым у 1503 і 1508 гг. набегі рабіліся двойчы ў год [7]. У няволю вывозіліся дзесяткі тысяч чалавек. У 1502, 1503, 1505 і 1506 гг. войскі Перакопскай Арды пустошылі паўднёвыя і цэнтральныя раёны Беларусі, даходзячы да Навагрудка і Ліды. Вельмі небяспечным быў набег у 1505 г., калі татарскае войска на чале з султанам Біці-Гірэем аблажыла Навагрудак. У чэрвені 1506 г. 50-тысячнае войска Біці-Гірэя і Бурнаш-Салтана зноў паявілася пад Навагрудкам і Лідай. Але ў бітве пад Клецкам, у мясцовасці пад назвай «Чырвоны стаў», велікакняжаскае войска, якое ўзначальваў князь Міхаіл Глінскі, разбіла захопнікаў ушчэнт. У крывавым баі было забіта каля 20 тысяч татар, некалькі тысяч узята ў палон. Шмат тысяч жыхароў беларускіх вёсак і гарадоў, якіх татары гналі ў палон, было адбіта і вернута дадому [8].

---

[5] Lietuvos karas su kryžicečiais. Vilnius, 1964, s. 104, 105.

[6] Сапунов А., Друцкий-Любецкий В. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896, с. 131.

[7] Ochmański J. Organizacje obrony w W. K. L-im przed napadami tatarów krzymskich w 15—16 wieku.— Studia i materiały do historyi wojskowości. Warszawa, 1960, t. 5, str. 362—364.

[8] Gwagninus A. Cronika Sarmaceye Europskiej. Kraków, 1611.

XVI і першая палова XVII ст. у гісторыі Беларусі былі перыядам узмацнення прыгонніцтва, феадальнай анархіі, паслаблення аўтарытэту вярхоўнай улады, росту падаткаў, абвастрэння знешнепалітычнага становішча Вялікага княства Літоўскага і затым Рэчы Паспалітай, што прывяло да шэрагу разбуральных войнаў.

У выніку вострых класавых супярэчнасцей і ўзаемных тэрытарыяльных дамаганняў паміж пануючымі класамі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, з аднаго боку, і Рускай дзяржавы — з другога, у сярэдзіне XVI і XVII ст. адбыліся кровапралітныя войны. Ваенныя дзеянні, якія адбываліся галоўным чынам на тэрыторыі Беларусі і асабліва на яе ўсходніх землях, вылiлiся для беларусаў у нацыянальную катастрофу: велізарныя спусташэнні гарадоў і вёсак, непазбежная гібель жыхароў, грабёж, неўраджаі, голад і эпідэміі прывялі да таго, што колькасць насельніцтва тут з 2,9 млн. у 1650 г. зменшылася да 1,4 млн. чалавек у 1667 — 1673 гг. У гады Паўночнай вайны (для Беларусі 1699—1717 гг.) яе гарады і вёскі не толькі падвергліся новым разбурэнням, але і моцна пацярпелі ад пабораў саксонскага войска і цяжкай кантрыбуцыі шведскай арміі, а таксама ад масавых эпідэмій. Колькасць насельніцтва, якое да 1700 г. павялічылася да 2,2 млн. чалавек, пасля Паўночнай вайны зноў скарацілася да 1,5 млн. [9]

Абарона ад знешняй агрэсіі, частыя міжусобныя феадальныя звады і народныя хваляванні прымушалі гараджан, велікакняжаскія, а потым і каралеўскія ўлады, а таксама асобных феадалаў узводзіць умацаванні і замкі. Асабліва значнае будаўніцтва назіралася на беларускіх землях з першай паловы XVI і да канца XVII ст. Манументальнае дойлідства гэтага перыяду нясе на сабе выразныя абарончыя рысы.

Беларусь, край старажытнай будаўнічай культуры, мела вопытныя кадры дойлідаў. У другой палове XVI ст. гарадскія будаўнікі пачалі арганізоўвацца ў цэхі. Пабудовы ўзводзіліся галоўным чынам з дрэва. З гэтага матэрыялу рабілася ўсё — ад жылля да гарадскіх умацаванняў і замкаў феадалаў. Вядома, што пераважна драўлянымі былі ўмацаванні Брэста, Мінска, Полацка, Дзісны, Радашковіч і іншых гарадоў. Драўляныя збудаванні тых часоў не захаваліся, таксама як і фахверкавыя будынкі «прускага муру» і глінабітныя пабудовы [10].

У каменным дойлідстве выкарыстоўвалі палявы камень. З другой паловы XIV ст. усё шырэй пачынае ўжывацца так званая паласатая муроўка. Сутнасць яе ў тым, што рады камянёў выраўноўваліся радамі цэглы звычайна тычкамі да знешняга боку. Цэглай запаўнялі таксама вертыкальныя шчыліны паміж камянямі. Так складзены сцены і падмуркі замкаў у Навагрудку, Гродна, Міры, Любчы, Геранёнах і іншых месцах. Асноўным тэхнічным прыёмам узвядзення цагляных сцен стала так званая лусковая муроўка, калі ядром сцяны з'яўлялася забутоўка, а «шчокі» выкладваліся з велікамернай цэглы — «пальчаткі». Вонкавая паверхня будынкаў не тынкавалася. Дахі спачатку пакрываліся гонтам, а потым, з канца XIV ст.,— плоскай чарапіцай — «дахоўкай». Акрамя таго, выраблялася карытчатая і фасонная чарапіца, неабходная для за-

---

[9] Карпачев А. М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв. Автореф. докт. дис. Минск, 1970, с. 32; Карпачев А. М., Козловский П. Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв. Тезисы докладов и сообщений десятой сессии симпозиума по аграрной истории Восточной Европы. М., 1968, с. 99.

[10] Квитницкая Е. Д. Белоруссия. Архитектура XIV—XVI вв.— У кн.: Всеобщая история архитектуры, т. 6. М., 1968, с. 453.

вяршэння вуглоў і верху дахаў. Такая чарапіца знойдзена аўтарам у Навагрудку, Лідзе, Крэве, Геранёнах і іншых месцах.

Мураваных замкаў, якія з'яўляліся цэнтрамі абароны гарадоў, было няшмат: Лідскі і Крэўскі (пачатак XIV ст.), замкі ў Навагрудку, Гродна (канец XIV ст.). Іх узвядзенне дыктавалася агульнадзяржаўнымі інтарэсамі і ў першую чаргу задачамі адпору крыжакам. Пасля Грунвальдскай бітвы будаўніцтва дзяржаўных замкаў зменшылася.

Пачынаючы з першай паловы XVI ст. у замкавым будаўніцтве выявіліся дзве характэрныя тэндэнцыі. Першая мела цягу да ўзораў еўрапейскай бастыённай фартыфікацыі (замкі ў Заслаўі, Нясвіжы, Гальшанах, Ляхавічах і іншых месцах), другая — да мясцовых традыцый (замкі ў Любчы, Міры, Геранёнах, Іказні).

У XIV—XVII стст. старажытныя назвы «дзядзінец» і «горад» («град») паступова былі выцеснены новымі — «замак» і «места» («вялікае места»). Тэрмін «места», як лічаць некаторыя польскія даследчыкі, з'явіўся ў час распаўсюджання Магдэбургскага права ў гарадах Польшчы і Чэхіі XIII—XIV стст. [11] Затым, відавочна, у канцы XIV ст., пасля надання такога ж права беларускім гарадам, ён атрымаў «прапіску» і ў Беларусі. Местам называліся буйныя гандлёва-рамесныя цэнтры, якія былі размешчаны звычайна на старых гандлёвых шляхах і мелі ўласныя ўмацаванні. Цэнтр абароны места атрымаў назву «замак». Гэта не што іншае, як колішнія дзядзінцы, сістэма абарончых збудаванняў якіх была мадэрнізавана адпаведна патрабаванням часу і ваеннай навукі.

Паступова замкамі сталі называцца ўсе віды ўмацаванняў у Беларусі. Прычым у «местах вялікіх» (Полацк, Віцебск і інш.) было па два замкі — «Горны» і размешчаны ля яго «Дольны». З канца XV — пачатку XVI ст. замкам называлі і ўмацаванае жыллё феадала.

Такім чынам, тэрмін «замак», акрамя ваенна-архітэктурнага аспекту, набыў яшчэ і аспект сацыяльны — адміністрацыйны. Разам з тэрмінам «места» ён стаў найбольш пашыраным азначэннем усіх умацаваных пасяленняў на Беларусі аж да канца XVIII ст.

Некаторыя даследчыкі ў адносінах да беларускіх замкаў і мест XIV—XVII стст. карыстаюцца тэрмінам «крэпасць», а абароннае дойлідства называюць «крапасным» [12]. Думаецца, што такія фармуліроўкі не адпавядаюць гістарычнай рэчаіснасці і гістарычнай тэрміналогіі. Тым больш што словы «крэпасць» і «крапасны» ў сучасным іх разуменні ў XIV—XVII стст. ніколі не ўжываліся не толькі на Беларусі, але і ў Маскоўскай дзяржаве. Слова «крэпасць» з'явілася ў рускіх афіцыйных актах толькі з XVII ст. і да канца XVIII ст. азначала асобныя элементы абарончых умацаванняў. Пераважна гэта былі «крэпасці самародныя», г. зн. прыродныя перашкоды: высокія і стромкія схілы, балоты, імхі, «патопы або вада» [13]. Умацаванні рускіх гарадоў называліся «деревянный город», «каменный город», «острог», «детинец», «кром» і надзвычай рэдка — «кремль».

---

[11] Miśkiewicz Benon. Rozwój stałych punktów oporu w Polsce do połowy 15 wieku. Poznań, 1964, str. 17—18.

[12] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Минск, 1969, с. 26, 29, 33, 35 і інш.

[13] Михайлов Онисим. Устав ратных, пушечных и др. дел, касающихся до военной науки (1607—1621 гг.), ч. 1. СПб, 1777, с. 92; Ласковский Ф. Материалы для истории инженерного искусства в России, ч. 1. СПб, 1858, с. 19; Фриман Л. История крепости в России (до начала XIX в.). СПб, 1895, с. 1.

Не называліся крэпасцямі і ўмацаванні, пабудаваныя па загаду Івана Грознага ў 1566—1567 гг. вакол Полацка-Туроўля, Суша, Сітна, Сокал і інш. Паводле рускай ваеннай тэрміналогіі тых часоў, яны называліся «городки» або «городцы», што азначала жылое месца нязначнай працягласці, якое мела агароджу, падобную на гарадскую [14]. Пра ўмацаванне Дрысу, напрыклад, у свой час пісалася так: «Дрысь — городок, а ставили тот городок Дрысь при Довойне... лет пятнадцать» [15].

Такім чынам, тэрмін «крэпасць» у адносінах да беларускіх замкаў і мест XIV—XVIII стст. неправамерны.

## Навагрудак

Старажытны замак у Навагрудку з'яўляецца унікальным помнікам абароннага дойлідства эпохі сярэдневякоўя. Вывучэнне яго ўмацаванняў паказала, што гэта свайго роду жывы летапіс беларускай ваеннай архітэктуры. Умацаванні Навагрудскага замка прайшлі шлях ад прасцейшай агароджы-частаколу да магутнейшага шматвежавага замка.

У 20-я гады нашага стагоддзя польскія даследчыкі праводзілі тут рэстаўрацыйна-кансервацыйныя і археалагічныя работы. У выніку была ўстаноўлена лінія замкавых сцен, знойдзены рэшткі дзвюх нарожных веж і адкрыты фундаменты некаторых будынкаў на дзядзінцы. Датай узвядзення муроў яны лічылі першую палову XV ст. [16] Архітэктурна-археалагічныя даследаванні 1969—1973 гг. далі новыя цікавыя вынікі, якія істотна дапаўняюць ранейшыя даныя.

Старажытнейшай мураванай вежай Навагрудскага замка з'яўляецца вежа-данжон, пабудаваная ў XIII ст., верагодней за ўсё, у другой яго палове. Аб яе існаванні гістарычныя крыніцы нічога не паведамляюць. Між тым вядома, што ў канцы XIII—XIV ст. замак ні разу не быў узят варожымі войскамі, і ў гэтым, трэба думаць, немалая заслуга і старой вежы. Так, Іпацьеўскі летапіс, апісваючы пад 1274 г. штурм Навагрудка галіцка-валынскімі і татарскімі войскамі, адзначае, што дзядзінец города захапіць не ўдалося. У 1314 г. атрад крыжакоў на чале з магістрам Генрыкам фон Плоцке асадзіў Навагрудак. Захопнікі спалілі горад, а жыхары зачыніліся ў сваім замку і мужна бараніліся. Гэтак жа марна закончыліся намеры крыжакоў у 1391 г., якіх прывёў магістр Конрад Валенрод, і ў 1394 г. на чале з магістрам Конрадам фон Юнінгемам [17]. Магчыма, пад час гэтых паходаў мураваная вежа Навагрудскага замка ўсё ж была пашкоджана. Шурф, закладзены з усходняга боку вежы, адкрыў яе старажытную каменную сцяну, якая на вышыні 4 м ад цокаля фундамента як бы коса ссечана.

Відаць, тады ж, у канцы XIV ст., гэта вежа была адбудавана, але ўжо не з каменю, а з цэглы. Вежу ўзвялі на руінах папярэдніцы ў традыцыйнай тэхніцы лусковай муроўкі і зрабілі ў ёй праезджую браму. Такая пабудова была характэрна для еўрапейскага абароннага дойлід-

[14] Л а с к о в с к и й Ф. Материалы..., с. 9—15.

[15] Писцовые книги, издаваемые императорским Русским географическим обществом, ч. I, отд. 2. СПб, 1895, с. 435.

[16] G ü r t l e r R. Robota konserwatorska na górze Zamkowej w Nowogródku.— OZ, 1930—1931, z. 1—4, cz. 1, str. 181—188; L o r e n t z St. Konserwacja ruin zamków w Wileńszczyźnie i Nowogródczyźnie.— Там жа, str. 161—163; R e m e r J. Architektura monumentalna..., str. 44.

[17] B a l i ń s k i M. Historia miasta Wilna. 1836, t. 1, str. 154; D y b o w s k i B. Dwie Switeze.— «Ziemia». Kraków, 1911, t. 2, str. 131; L o w m i a n s k i H. Rys historyczny w-wa Nowogródskiego w jego dzisiejszych granicach. Wilno, 1935, str. 12.

ства XIV ст. Новая вежа была 5-павярховай з перакрыццямі па бэльках, ад якіх уцалелі адтуліны памерамі 35×35 см; агульная вышыня каля 25 м. Дах пакрываўся спачатку гонтам, а потым, відаць, з XV ст.— плоскай чарапіцай — «дахоўкай». Для завяршэння верху і вуглоў даху ўжывалася карытчатая і фасонная чарапіца, кавалкі якой былі знойдзены пры раскопках.

Па форме вежа нагадвала 4-кантовую прызму, якая паступова звужалася і патанчалася на конус. Калі таўшчыня яе сцен на ўзроўні I паверха раўнялася 2,75 м, то на ўзроўні II паверха — 2,6 м.

Тоўшчу сцен вежы праразалі байніцы спічастых абрысаў, а ўнізе — праёмы замкавай брамы. Цяпер праём паўночнай сцяны замураван. Мяркуючы па ўсяму, брама наглуха зачынялася знутры вежы. Такім чынам, вежа ў час асады ператваралася ў самастойны апорны пункт, выконваючы адначасова і ролю галоўнага дазорнага і каманднага пункта. На ўсходняй сцяне вежы на ўзроўні IV паверха захаваліся сляды невялікага эркера. Гэта вежа вядома ў гістарычнай літаратуры пад назвай Шчытовая, Шчытоўка і Цэнтральная.

У тоўшчы паўднёвай сцяны Шчытоўкі ішла ўгору мураваная лесвіца. Пачыналася яна ў паўднёва-заходнім куце вежы, які цяпер, на жаль, разбураны, і, відаць, ішла далей скрозь усе паверхі, маючы, натуральна, на кожным з іх выхад. Сляды яе захаваліся і ва ўсходняй сцяне вежы на ўзроўні IV і V паверхаў. У небяспечны час гэтымі лесвіцамі карысталіся воіны. Не выключана, што ўнутры вежы, паміж паверхамі, меліся і драўляныя лесвіцы для штодзённага карыстання, паколькі, несумненна, асобныя паверхі выкарыстоўваліся пад жыллё.



*Рыс. 19. Навагрудак. Вежа Шчытоўка*

Відаць, да канца XIV ст. Шчытоўка была адзіным мураваным умацаваннем замка. Яна стаяла ў кольцы драўляных сцен. Рэшткі гэтых збудаванняў у выглядзе абвугленых бярвенняў дубовага палісаду сустрэты ў розных месцах пры даследаваннях вала яшчэ да вайны польскімі вучонымі і ў 1969—1970 гг. аўтарам [18]. Разглядаючы ўмацаванні Навагрудка той пары, неабходна адзначыць яшчэ адзін важны элемент яго фартыфікацыі — земляны вал і роў, якія ляжалі ля паўночнай асновы замкавай гары. Іх узвядзенне адносіцца да пачатку XIII ст., калі яны засланялі дзядзінец Навагрудка. Пазней, хутчэй за ўсё ў XIV ст., вал апаясаў падножжа Малога замка.

---

[18] Gürtler R. Robota konserwatorska..., str. 186—187; Ткачев М. А. Исследования памятников военного зодчества Белоруссии.— АО 1969 г., 1970, с. 312; яго ж. Исследования памятников оборонного зодчества Белоруссии — АО 1970 г., 1971, с. 307.

У канцы XIV — пачатку XV ст. у Навагрудскім замку распачаліся вялікія будаўнічыя работы, якія супалі з агульнай падрыхтоўкай усёй дзяржавы да рашучага адпору і разгрому рыцараў Тэўтонскага ордэна.

Узвядзенне замкавых муроў у Навагрудку праходзіла ў некалькі этапаў. Спачатку былі ўзведзены тры мураваныя вежы і сцены паміж імі. Прычым на ўчастку паміж Шчытоўкай і паўночна-заходнім кутам абарончага вала доўгі час захоўваліся драўляныя ўмацаванні.

Справа, на ўсход ад Шчытоўкі (калі глядзець знутры замка), над высокім стромкім схілам гары паўстала высокая прызмападобная Касцельная вежа. У яе аснаванні закладзен квадрат з бакамі 9×9 м. Яна мела толькі тры паверхі з перакрыццямі па драўляных бэльках. На кожным паверсе было па чатыры байніцы, якія формай, памерамі і абрысамі на-




*Рыс. 20. План 1810 г.: 1 — замак, 2— Малы замак, 3 — вежа-«млын», 4 — гродскі суд, 5 — храм Барыса і Глеба XII ст., 6— ніжні земляны вал, 7 — фарны касцёл XIV—XVIII стст., 8 — гара Міндоўга*

гадвалі байніцы Шчытоўкі. Вежа мае даволі значны фундамент вышынёй у 3 м, складзены з валуноў грубай чоскі на вапне. Асабліва вялікімі памерамі (да 1,0—1,15 м) вызначаюцца вуглавыя камяні. Прамежкі паміж імі старанна закладзены дробнаколатымі каменьчыкамі і замазаны растворам. На вышыню 4 м Касцельная вежа складзена з каменю. Далей ідзе абліцоўка велікамернай цэглай. Яе сцены, як і сцены Шчытоўкі, паступова патанчаюцца ўверх, але значна ім уступаюць у таўшчыні, дасягаючы толькі 2,15 м. Прасла сцяны паміж гэтымі дзвюма вежамі мае даўжыню 30 м і таўшчыню 2 м. Фундамент сцяны залягае на адным узроўні з падмуркам Касцельнай вежы і перавязан з ім. Са Шчытоўкай сцяна не звязана, а толькі прыкладзена да яе. Муроўка сцяны паласатая.

З усходу ад Касцельнай вежы, па строме гары, ішло другое прасла мураванай сцяны даўжынёю каля 80 м і таўшчынёю 2,5 м, якое вяло да наступнай вежы, так званай Малой брамы. З прычыны вялікай стромкасці схілу сцяна з усходняга боку была падпёрта контрфорсамі — «быкамі», узведзенымі ўжо пасля пабудовы муру. Каб прадухіліць апаўзанне грунту ад падмуркаў сцен, ужылі спецыяльную канструкцыю: ушчыльную да падмурка паклалі пласт гліны таўшчынёй 20 см і шырынёй 1,5 м. У гліну «ўтапілі» драўляныя брусы памерамі 25×20 см. Пасля таго як гліна высахла, утварылася канструкцыя, якая надзейна ўмацавала вяршыню схілу.

Малая брама была адкрыта польскімі даследчыкамі ў час археалагічных работ 1924—1925 гг. Аб яе архітэктурных дэталях з прычыны вялікага разбурэння можна сказаць няшмат. У плане яна мае форму прамавугольніка з бакамі 8×10 м пры таўшчыні сцен 2 м, падмурак

вышынёю каля 2 м пабудаван з палявога каменю на вапне[19]. Уваход у браму замыкалі дзверы на дубовых брусах-засаўках, якія «ўтапляліся» ў тоўшчы сцен. Уваходныя праёмы мелі шырыню 1,60 м і вышыню каля 3 м. З вуліцы ў вежу заходзілі па цагляных прыступках.

Налева ад уваходу ў вежу, калі глядзець з боку замкавага двара, у сцяне ёсць адтуліна ад кансольнай бэлькі. На яе абапіраўся балкончык, на які з зямлі вялі драўляныя ўсходкі. Па іх узыходзілі на балкон, а з яго праз невялікі праём шырынёй 94 см траплялі ўнутр вежы на другі паверх.

Мяркуючы па памерах, Малая брама, таксама як і Касцельная вежа, магла мець паверхі з перакрыццямі па бэльках, за выключэннем першага. Ён меў мураванае скляпенне.

Паварочваючы ад Малой брамы на захад, ідзе 70-мятровае прасла сцяны таўшчынёй 2,6 м, канструкцыйна звязанае яшчэ з адной вежай — Пасадскай. У аснаванні яна мае форму квадрата памерамі 7,7×7,7 м і таўшчыню 2,6 м. Унутр вежы вёў праход шырынёй 1,5 м. Пасадская вежа таксама была знішчана ўшчэнт і таму пра яе знешні выгляд мы нічога сказаць не можам. Архіўныя матэрыялы сведчаць, што злева ад вежы ў тоўшчы сцяны меўся спецыяльны праём — гарматная байніца шырынёй 1,0 м і вышынёй 1,30 м. Вежа і байніца былі адкапаны ў 1925 г.[20]

Правае прасла сцяны вяло ад Пасадскай вежы да паўночнага краю гары і змыкалася ў паўночна-заходнім куце замкавага вала з драўлянымі ўмацаваннямі, якія ішлі да Шчытоўкі. Гэты адзіны ўчастак драўляных умацаванняў існаваў тут, як сведчаць археалагічныя матэрыялы, аж да канца XV ст. Чым жа растлумачыць такую з'яву? Прычыну трэба шукаць перш за ўсё ў стратэгічна выгадным размяшчэнні дадзенага ўчастка абароны замка. Справа, з усходу, гэты 50-мятровы адрэзак землянога вала, які, дарэчы, месцамі дасягае і цяпер 5 м вышыні, надзейна бараніўся Шчытоўкай. Вежа свабодна фланкіравала яго з любога роду зброі. З поўначы ён бараніўся ніжнім, падэшвенным, валам, перадзамкавым ровам і схілам гары. Апошні, дарэчы, мае тут найбольшую вышыню — звыш 27 м, вялікую стромкасць і працягласць у 50 м. Калі ж да гэтага дадаць моц высокіх драўляных сцен-горадняў, то прычына такой прыхільнасці да традыцыйных драўляных умацаванняў стане зразумелай. Нарэшце, трэба ўлічыць яшчэ і эканамічны фактар. Мураванае будаўніцтва было ўсё ж вельмі дарагім. З гэтай прычыны там, дзе не патрабавалі абставіны, драўляныя абарончыя збудаванні добра суіснавалі з каменнымі. Вядома, што крэпасць Пскоўскай зямлі Велье ў XIV—XVI стст., якая згадваецца ў Пскоўскіх летапісах, таксама мела ўмацаванні і драўляныя і мураваныя.

На жаль, да нашага часу абарончыя сцены Навагрудскага замка на поўную вышыню не захаваліся. Праўда, на фотаздымку 1900 г. адзін фрагмент сцяны левага прасла Шчытоўкі бачны прыблізна да вышыні II паверха, г. зн. каля 8 м[21]. На нашу думку, вышэйшай сцяна і не была. Знешняя паверхня ніжняй зоны сцен замка, мяркуючы па ўцалелых фрагментах і рэштках веж, была зроблена са змяшанай бутацаглянай муроўкі. У верхніх зонах сцен, як у Лідскім і Крэўскім замках, аблі-

---

19 Lorentz St. Konserwacje ruin zamkowych..., str. 162
20 ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 3, спр. 573, л. 9.
21 Там жа, спр. 574, л. 27.

цоўка была цаглянай. Цаглянымі, несумненна, былі і завяршэнне сцен і праёмы байніц, прыстасаваных для абстрэлу з тагачаснай зброі.

Узвядзеннем сцен і веж закончыўся першы будаўнічы этап на Навагрудскім замку, які, на нашу думку, датуецца канцом XIV ст.

Другі этап узвядзення ўмацаванняў Навагрудскага замка прыпадае на пачатак XV ст. Ён звязан з пабудовай ля асновы замкавай гары Калодзежнай вежы і яшчэ аднаго прасла сцяны.

Праблема водазабеспячэння — адна з важнейшых задач, якая заўсёды стаяла перад будаўнікамі сярэдневяковых гарадоў і замкаў. У На-



*Рыс. 21. Навагрудскае замчышча. Малюнак сярэдзіны XIX ст.*

ваградскім замку, размешчаным на высокай гары, калодзежа не было, але вада мелася ля падножжа, дзе на ўсходнім схіле білі моцныя крыніцы. Над адной з іх і была пастаўлена патаемная Калодзежная вежа, якая праслам сцяны злучалася з замкам.

Калодзежная вежа ў плане мае форму квадрата 8×8 м. Тэхніка муроўкі сцен лусковая. Ад самага цокаля фундамента вежа абліцавана велікамернай брусковай цэглай. Таўшчыня цагляных «шчок» 35 см. Забутоўка сцен зроблена з сярэдніх памераў камянёў і вапнавага раствору. Муроўка «балтыйская» з чаргаваннем 2 лажкоў і 1 тычка. Падмурак Калодзежнай вежы вышынёй каля 2,5 м складзен з камянёў грубай чоскі на вапне. Шчыліны паміж камянямі старанна замазаны растворам.

Калодзежная вежа злучаецца з замкам праслам сцяны таўшчынёй 2 м, даўжынёй 21 м. Унутры яе меўся скрыты праход да вады. Шырыня праходу 1,06 м, прыступкі каменныя шырынёй 30 см са спускам на 15 см. Вышыню гэтага, несумненна, скляпеністага праходу вызначыць нельга з прычыны поўнага разбурэння сцяны. Аднак само прасла мае амаль 1,5-мятровы каменны падмурак, па тэхніцы муроўкі падобны да падмурка вежы. Прасла сцяны прыкладзена да верхніх замкавых муроў, прычым назіраецца вялікі перапад узроўняў залягання фундаментаў. Гэта яскрава сведчыць аб розначасовасці іх узвядзення.

Чарговы этап умацавання Навагрудскага замка прыпадае, як паказваюць даследаванні, на канец XV — пачатак XVI ст. Ён быў выклікан хутчэй за ўсё частымі нападамі перакопскіх татар на беларускія землі. У 1505 г. Навагрудскі замак вытрымаў аблогу татарскіх войскаў, якія ўзначальваў султан Біці-Гірэй. Абаронай замка тады кіравалі ваявода В. Гаштольд і гараднічы Маскевіч. Моцнай стральбой з замка жыхары нанеслі вялікія страты татарам. Напад паўтарыўся ў 1506 г., калі татары дасягнулі раёна Ліды.

Тады, у пачатку XVI ст., у паўночна-заходнім куце Навагрудскага замка была ўзведзена магутная мураваная вежа Дазорца памерамі



*Рыс. 22. Навагрудскі замак. З гравюры А. Аляшчынскага пачатку XIX ст.*

14×14 м. Археалагічнае вывучэнне яе рэштак паказала, што канструкцыйна яна не звязана з правым праслам Пасадскай вежы і з'яўляецца самастойным будынкам больш позняга часу. У адрозненне ад іншых веж замка 4-мятровы падмурак Дазорцы мае ганкападобную форму. У якасці падушкі выкарыстан палявы камень сярэдняга памеру, пакладзены насуха. Сам падмурак узведзен на вапнавым растворы з каменю і цэглы ў традыцыйнай тэхніцы паласатай муроўкі.

Аблічча вежы можна рэканструяваць па гравюры мастака А. Аляшчынскага, зробленай з натуры ў першай трэці XIX ст.[22] На ёй мы бачым вежу з квадратным аснаваннем, якая вышэй падмурка пераходзіць у васьмярык. У ніжняй частцы меліся байніцы для гармат. Вежа Дазорца вельмі нагадвае наробжныя вежы Мірскага замка, узведзенага ў пачатку XVI ст. Мяркуючы па значных памерах фундамента, новая вежа Навагрудскага замка была даволі высокай. Параўноўваючы яе з вежамі Мірскага замка, можна дапусціць, што яна мела вышыню, блізкую да 30 м.

Адначасова з новай вежай узвялі прасла сцяны паміж ёю і Шчытоўкай, якое замкнула, такім чынам, кольца замкавых муроў. Сцяна мае даўжыню 51 м і таўшчыню 2 м. Падмурак сцяны па магутнасці і глыбі-

[22] Mickiewicz A. Warszawa, 1957, str. 22.

ні залягання не ідзе ў параўнанне ні з адным участкам сцен. Ён мае вышыню 1,5 м, у той час як прасла сцяны, што злучае Шчытоўку і Касцельную вежы,— 3-мятровы падмурак. Як устаноўлена, новай мураванай сцяне папярэднічалі драўляныя ўмацаванні, якія датуюцца XIV—XVI стст.

Хуткае развіццё артылерыі і ўдасканаленне тактыкі асады на працягу XV і XVI стст. зрабілі Малую браму замка, якая звязвала яго з «местам», не зусім надзейнай. Калодзежная вежа, хаця і фланкіравала падыходы да замкавай брамы, але ў новых умовах гэтага было ўжо недастаткова. Між тым брама па-ранейшаму заставалася найбольш важным і адказным участкам абароны замка. Гэта прымусіла ў пачатку XVI ст. распачаць будаўніцтва дадатковай вежы ля паўднёва-ўсходняга схілу гары, якая бараніла з боку «места» подступы да ўваходу ў замак. Злучыўшыся праслaмі сцен з Калодзежнай і Малой брамай, новая Меская




*Рыс. 23. План Навагрудскага замка: А — вежа Шчытоўка XIII—XIV стст.; 1 — пабудовы канца XIV—XV ст., 2 — пабудовы канца XV—XVI ст., 3 — месцы раскопак*

вежа-брама стала цэнтрам своеасаблівага мураванага бастыёна — «форбурга». Гэтыя дадатковыя ўмацаванні значна павысілі фартыфікацыйныя якасці Навагрудскага замка. Толькі прайшоўшы праз браму, можна было трапіць на тэрыторыю форбурга, пад аховай якога цяпер знаходзілася дарога ў замак.

Сёмая вежа знойдзена ў 1970 г. Сцены вежы зроблены з добра абчасаных камянёў, прамежкі паміж якімі старанна замураваны кавалкамі цэглы і вапнавым растворам. Вызначыць сапраўдныя памеры сёмай вежы з прычыны шчыльнай забудовы тэрыторыі цяпер немагчыма.

Меская вежа звязана праслам мураванай сцяны з Калодзежнай. Даўжыня сцяны крыху больш за 50 м, таўшчыня 3 м. Муроўка цаглянай сцяны гатычная (чаргаванне 1 лажка і 1 тычка). Другое прасла — да малой уваходнай вежы на замку — дэталёва не вывучана. Шурфоўкай толькі вызначан яго агульны напрамак. Выказваліся думкі, што фарны касцёл, размешчаны ля падэшвы Замкавай гары, на рубяжы XVI—XVII стст. уваходзіў у агульную сістэму ўмацаванняў замка [23].

У XVI ст. Навагрудскі замак меў 7 веж і быў адным з магутнейшых на Беларусі.

Узбраенне гарнізона замка ў 1551 г. складалася з гакаўніц, гармат сярэдняга калібру. Дакументы канца XVI ст. паведамляюць, што тут меліся фальканет вялікі 2-фунтовік, фальканет сярэдні з ядрамі ў 1 фунт

[23] Wiadomości konserwatorskie. O zabytkach Nowogródka.— «Kresy». Wilno, 1923, № 4, str. 5—6.

і серпянтына, якая страляла паўфунтовымі ядрамі[24]. Каменныя ядры розных памераў знойдзены аўтарам пры раскопках у вежы Шчытоўцы. У 20-я гады 27 ядраў знайшлі польскія археолагі.

У час руска-польскай вайны 1654—1667 гг. рускія войскі двойчы бралі Навагрудак. У 1655 г., у пачатку верасня, яго занялі казакі І. Залатарэнкі. Пры гэтым замак і горад вельмі пацярпелі пад час асады. Часткова ўзноўлены ў 1660 г. замак зноў быў занят войскамі князя А. І. Хаванскага — на гэты раз без бою: наёмны гарнізон, які не атрымаў своечасова плату за службу, адчыніў браму ворагу. Вежы замка Меская, Калодзежная, Малая брама і Пасадская, а таксама праслы



*Рыс. 24. Навагрудскі замак. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

сцен былі разбураны да падмуркаў. Канчаткова ўдар па замкавых мурах нанеслі шведы ў час Паўночнай вайны.

З прычыны моцных разбурэнняў і спусташэння Навагрудка сейм Рэчы Паспалітай у 1661 г. вызваліў горад ад падаткаў на 4 гады.

У царскай Расіі не клапаціліся аб ахове старажытных помнікаў ваеннага дойлідства. Аб гэтым сведчыць цікавы факт, які датычыцца Навагрудскага замка. У 1802 г. гродзенскі губернатар Бенігсан даў дазвол навагрудскаму гарадлічаму Скалону разабраць рэшткі замкавых веж з умовай, што каменнем з іх вымасцяць вуліцы горада. Відаць, работа ішла марудна, бо ў 1828 г. у данясенні Літоўска-гродзенскаму губернскаму праўленню паведамлялася, што ў Навагрудскім старажытным замку яшчэ ёсць «две башни довольно... крепкие, немного вверху поврежденные, состоящие в ведомстве Новогрудской экономии»[25].

У канцы XIX ст. на тэрыторыю замчышча праз пралом у мурах пачалі звозіць з усяго Навагрудка смецце, якое пакрыла больш як 2-мятровым пластам руіны старажытных пабудоў.

---

[24] N o w a k T. Z dziejów techniki wojennej w dawnej Polsce. Warszawa, 1965, str. 112, 119.
[25] ЦДГА БССР у Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 63, л. 9 адв.

У 1906 г. рухнула Касцельная вежа. Дзякуючы намаганням мясцовага аматара старажытнасцей Т. Корзана рэшткі вежы былі падпёрты двума эскарпамі. У гады першай сусветнай вайны абвалілася паўднёвая сцяна Шчытоўкі.

Толькі ў 1921 г. Навагрудскі замак быў, нарэшце, узят пад ахову, а ў наступныя 1922—1930 гг. праведзена частковая кансервацыя ўцалелых рэшткаў веж. Прычым сцены Касцельнай вежы былі фактычна складзены нанава.

Навагрудскі замак, як і іншыя замкі, цяпер зноў патрабуе кансервацыі.

## Гродна

Яркае ўяўленне аб абаронным дойлідстве канца XIV — пачатку XV ст. дае Гродзенскі замак, руіны якога захаваліся да нашых дзён. Гісторыкі называюць яго важнейшым замкам, «ключом да літоўскіх уладанняў з боку Мазовіі і Тэўтонскага ордэна, авалодаць якім крыжаносцы спакушаліся няспынна»[26].

Пабудова замкаў накшталт Гродзенскага была вялікай дзяржаўнай справай, таму ажыццяўлялася сіламі феадальна залежнага насельніцтва, якое забяспечвала як здабычу і выраб матэрыялаў, так і непасрэдныя будаўнічыя работы. Да «работы на будованье городов... новых потребных, а старых поправлениа» прыцягвалася ўсё працаздольнае насельніцтва, у тым ліку знаць і духавенства. Аб гэтым яшчэ ў 1387 г. абвясціў вялікакняжаскі прывілей, які пазней неаднаразова пацвярджаўся князямі і каралямі [27].

Пачынаючы з 1284 г., калі магістр тэўтонцаў Конрад Тырнберг упершыню са сваім войскам асадзіў Гродзенскі замак, паходы крыжаносцаў адбываліся ў 1296, 1306, 1311, 1312, 1328, 1361, 1363, 1373, 1375, 1377 і 1390 гг. Прычым толькі тройчы (у 1284, 1328 і 1390 гг.) замак удавалася захапіць.

На працягу другой паловы XIV і ў пачатку XV ст. сцены Гродзенскага замка неаднаразова вытрымлівалі штурмы. У пачатку 1393 г. вялікае рыцарскае войска, узмоцненае іншаземнымі папаўненнямі, асадзіла Гродна і пасля трохдзённага штурму ўсё ж авалодала замкам, спаліла яго і захапіла шмат палонных. Адноўлены па загаду Вітаўта, драўляны замак у 1398 г. згарэў у час вялікага пажару. Відаць, пасля гэтага і быў узведзен новы, мураваны замак, які разам з Навагрудскім, Троіцкімі (на востраве і паўвостраве), Вільнюскім і іншымі павінен быў адыграць істотную ролю ў разгроме Тэўтонскага ордэна. Ужо ў 1402 г. Гродзенскі замак вытрымаў новую асаду войска крыжацкага.

Перабудаваны ў 1580 г. пры польскім каралі Стэфане Баторыі, Гродзенскі замак двойчы падвергся асадзе шведамі — у 1655 і 1708 гг.— і ператварыўся ў руіны.

Археалагічныя даследаванні на Гродзенскім замчышчы пачаліся ў 1932 г. і працягваліся да 1939 г. польскімі вучонымі І. Іядкоўскім і З. Дурчэўскім. У 1949 г. гэтыя работы былі закончаны групай савецкіх археолагаў на чале з М. М. Вароніным, вынікі раскопак апублікаваны ў асобнай кнізе «Старажытнае Гродна»[28].

[26] Антоневич В. Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV в. Киев, 1878, с. 46.
[27] Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства. М., 1910, с. 56; Законодательные акты Великого княжества Литовского XV—XVI вв. Л., 1936, с. 8—9.
[28] «Материалы и исследования по археологии СССР». М., 1954, № 41.

У ходзе археалагічных раскопак былі вывучаны і рэшткі мураванага замка эпохі Вітаўта. Атрыманыя даныя ў спалучэнні з гравюрай Мацвея Цюндта 1568—1572 гг. дазваляюць скласці даволі поўнае ўяўленне аб Гродзенскім замку тых часоў.

Гродзенскі мураваны замак быў магутным абарончым збудаваннем. Яго сцены, узведзеныя па перыметру замкавай гары, утварылі няправільны ў плане трохвугольнік. Сцяна, якая звернута да Нёмана, роўная 120 м, сцяна з боку Гараднічанкі — 90 м; трэцяе прасла сцяны, узведзенай з боку горада, складалася з дзвюх частак — 46 м і 24 м. Таўшчыня сцен ад 2,5 да 3 м. Высокія і стромкія схілы гары, якія дасягаюць 30 м над чэрвеньскім узроўнем вады р. Нёман (паўднёвы схіл), яшчэ больш узмацнялі фартыфікацыйныя якасці збудавання.

У замку было пяць веж. Вежа-брама, пад якой размяшчалася турма, мела пад'ёмны мост праз сухі 50-мятровы роў, якім яна аддзялялася ад горада. У верхняй частцы брамы былі навісаючыя байніцы-абламы, а за зубцамі — баявая пляцоўка.

Другая вежа стаяла на поўдзень ад першай, трэцяя — на заходнім баку гары, на мысе па-над Гараднічанкай, чацвёртая—у паў-



*Рыс. 25. Гродзенскі замак у XIV ст. Рэканструкцыя*

ночна-ўсходнім нарожніку з боку горада, пятая — у заломе муроў з усходняга боку паблізу ўязной вежы. Пятая вежа была круглая, астатнія — квадратныя (каля 12×12 м).

Паміж чацвёртай і пятай вежамі знаходзіўся палац Вітаўта памерам 45×15 м. Ён быў двухпавярховы, меў тоўстыя сцены. Пакоі ў палацы размяшчаліся ў адзін рад. У сцяне, звернутай у бок горада, вокны другога паверха мелі выгляд вузкіх байніц.

Цяпер ні адна вежа не існуе. Уязная і круглая («стоўп», узведзены ў XIII ст.) былі разбураны ў 1580 г. у час пабудовы палаца С. Баторыя. У канцы XVI ст. у замку стаялі толькі дзве вежы. У інвентары 1578 г. вежа на мысе ўжо не ўпамінаецца зусім, а ў інвентары 1653 г. яна называецца «старой знесенай вежай». Разбураны і астатнія вежы [29].

Цікавыя звесткі аб стане і выглядзе Гродзенскага замка падае інвентар за 1650 г. З яго вынікае, што перад мураваным замкам, як бы закрываючы падыходы да яго, размяшчаўся драўляны замак. Ён стаяў на ўскрайку гары і быў абнесен парканам. Цераз сухі абарончы роў, што раздзяляў замкі, меўся мост на пяці мураваных апорах. Каб трапіць на

[29] W o j c e c h o w s k i J. Stary zamek w Grodnie. Biulleteń historii sztuki i kultury (BHSK), r. 6. Warszawa, 1938, str. 133—138.

мост, неабходна было прайсці праз спецыяльную ахоўную браму, збудаваную ў самым яго пачатку.

З абодвух бакоў мост агароджвалі мураваныя парапеты з прарobленымі ў іх байніцамі — па 8 з кожнага боку. Папярэчныя ахоўныя сценкі надзейна закрывалі стралкоў у час бою. Гэта дазволіла пісару, рабіўшаму інвентарызацыю, назваць такія агнявыя пункты невялікімі вежамі.

Апошні пралёт маста — перад самай брамай — быў драўляны і, відаць, падымаўся. Адсюль траплялі ў браму, вымураваную чэсаным каменем. Палотнішчы варот віселі на 12 завесах. Злева пры ўваходзе ў




*Рыс. 26. План замка XIV ст.*



*Рыс. 27. Выгляд Гродзенскага замка ў XVI ст.*

браме знаходзілася памяшканне для размяшчэння пад'ёмнага калаўрота. Другі варотны праём зачыняўся палотнішчамі, абабітымі жалезам (у інвентары паведамляецца, што яны ўвогуле былі «жалезнымі») [30].

Гродзенскі замак той пары ўжо страціў сваю былую моц і веліч.

Адначасова з мураванымі сценамі, якія патроху абсыпаліся, існавалі драўляныя парканы. Ніякай ролі не адыгрывалі яго дзве вежы, якія ўжо ў сярэдзіне XVII ст., верагодна, не існавалі. Ва ўсякім разе, у 1657 г. рускія ваяводы, якія занялі горад, дакладвалі цару Аляксею Міхайлавічу, што ў Гродна «...городовые и острожные крепости погнили и обвалились, а каменная городовая стена обрушилась. И тайники и колодежи зарушились...» Таму давялося «те рухомые места... сделать и... острог поставить, где преж сего бывал... И четыре башни срубить до третьих боев и колодез выкопать и от Нёмана реки к колодезу вал завалить...» [31]

У 1971 г. былі зроблены спробы адшукаць сляды драўлянага Гродзенскага замка, які папярэднічаў мурам, і землянога вала той пары.

На паўднёвым схіле гары пад мураванай сцяной замка выяўлены рэшткі абарончых драўляных сцен канца XIV ст. Пласт абвугленага дрэва таўшчынёй каля 1 м пакрыў увесь схіл старажытнага вала, пачынаючы ад яго вяршыні. Пасля разборкі і расчысткі дрэва стала зразумела, што гэта, верагодней за ўсё, частка навальнай венчатай сцяны-горадні, ссечанай з дубовых бярвенняў таўшчынёй да 20—25 см. Была выяўлена абгарэлая канструкцыя з дубовых брусоў 15×15 см і сасновых дошак, змацаваных каванымі жалезнымі цвікамі. Гэта, відаць, рэшткі гонтавай стрэшкі-навесу над баявым насценным ходам [32].

Драўляныя сцены-горадні вянчалі вяршыню вала, насыпанага са жвіру і пяску. Каб прадухіліць разбурэнне і спаўзанне вала, яго знешні схіл забрукавалі каменнем. Такі прынцып умацавання валаў з'яўляецца традыцыйным і шырока распаўсюджаным на Беларусі ва ўсе часы.

Пасля пажару, якім, магчыма, і быў той памятны пажар 1398 г., калі ледзь не згарэў сам Вітаўт, тут распачаліся вялікія будаўнічыя работы. Пажарышча засыпалі тоўстым пластам жвіру і пяску, а на вяршыні гары, на земляным вале, пачалі ўзводзіць мураваныя сцены новага замка. У адрозненне ад Навагрудскага замка тут зусім невялікі падмурак, у сярэднім вышынёй каля 1 м. Ён складзен з добра абчасаных камянёў на трывалым вапнавым растворы, сцены ж замка ўзведзены ў тэхніцы традыцыйных муровак — лусковай і паласатай. Пасля ўзвядзення сцен і веж муры былі дадаткова ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Стромкасць схілаў гары прымусіла зноў умацаваць схіл вала, забрукаваўшы яго паверхню, пачынаючы ад самых падмуркаў сцен.

Пад паўднёвым праслам сцяны знойдзен патаемны вылаз з замка. Ён меў выгляд прамавугольнага праёму памерамі 1,75×1 м, які праразаў тоўшчу падмурка сцяны і выводзіў на схіл гары.

Шматвежавыя замкі ў Навагрудку і Гродна з'яўляюцца яркімі ўзорамі беларускага сярэдневяковага абароннага дойлідства эпохі яго найбольшага росквіту і развіцця. Увасобіўшы ўсе найноўшыя дасягненні мясцовага ваенна-інжынернага мастацтва, яны доўгі час былі надзейнымі агульнадзяржаўнымі цытадэлямі на шляху іншаземнай агрэсіі.

---

[30] Писцовая книга Гродненской экономии, ч. 2. Вильно, 1882, с. 2.

[31] Цэнтральны Дзяржаўны архіў старажытных актаў (далей ЦДАСА), ф. 210, стб. 272, лл. 159—160.

[32] Зверуго Я. Г., Ткачев М. А. Археологические исследования в Гродно.— АО 1971 г., 1972, с. 407—408.

## III. ПРЫВАТНАЎЛАСНІЦКІЯ ЗАМКІ КАНЦА XV—XVIII СТ.

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

Канец XV—XVI ст. праходзіў на Беларусі пад знакам няспынных войнаў паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай і спусташальных рэйдаў у глыб беларускіх зямель загонаў перакопскіх татар.

Феадальныя звады і міжусобіцы, вострая рэлігійная барацьба перыяду Рэфармацыі і Контррэфармацыі стымулявалі энергічнае будаўніцтва прыватнаўласніцкіх замкаў, за магутнымі сценамі якіх феадалы шукалі надзейнага паратунку. Ведаючы цану справядліваму гневу сваіх прыгонных, яны будавалі замкі-сядзібы воддаль населеных пунктаў, аддзяляючыся ад іх водамі рэк і штучных ставаў, грэблямі і пад'ёмнымі мастамі. Замак стаў асноўным месцам знаходжання феадала, яго сталай рэзідэнцыяй. З гэтай прычыны за замкавымі мурамі сталі ўзводзіць велічныя палацы, а сам замак паступова пачаў набываць выразныя рысы свецкасці, аздабляцца, адпавядаючы адначасова і задачам ваенным, і задачам прадстаўніцтва. Плоскія арачныя нішы пакрываюць высокія, складаныя па форме і сіметрычна пастаўленыя цагляныя вежы. Магутныя сцены і вежы зліваюцца ў закончаны ансамбль (Мір, Геранёны, Любча). Жылыя памяшканні павялічваюцца, у іх з'яўляюцца вялізныя парадныя залы, дэкор набывае рэнесансны характар (палац караля С. Баторыя ў Старым замку ў Гродна).

Такім чынам, замак, які служыў феадалу адначасова цытадэллю і жыллём,— адна з характэрных з'яў беларускага жыцця эпохі сярэднявякоўя.

Шырокі размах набыло палацава-замкавае будаўніцтва пасля Люблінскай уніі 1569 г., паводле якой Польшча і Вялікае княства Літоўскае аб'ядналіся ў адзіную дзяржаву — Рэч Паспалітую, а ўлада караля была абмежавана вышэйшым органам дзяржавы — сеймам, у склад якога ўваходзілі буйнейшыя феадалы і выбарныя прадстаўнікі ад шляхты. Дзяржавай фактычна кіравалі магнаты. Багацце і палітычная сіла дазвалялі ім мець уласныя гарады, дзесяткі тысяч прыгонных сялян, сотні служак, а таксама войскі ў некалькі тысяч чалавек, якія па ўзбраенню не ўступалі каралеўскай арміі. Нажыўшы велізарныя багацці на эксплуатацыі народа, магнаты атрымалі магчымасць будаваць магутныя замкі і велічныя палацы, якія па моцы, хараству і раскошы ўбрання былі не горшымі за каралеўскія. Гэта асабліва стала прыкметным у канцы XVI—XVII ст., калі магнаты пачалі запрашаць з-за мяжы выдатных архітэктараў і высокакваліфікаваных майстроў мастацтва.

У XV—XVII стст. на Беларусі існавала вялікая колькасць прыватна-

ўласніцкіх замкаў. Адны з іх узводзіліся ў традыцыях мясцовага ваеннага дойлідства з дрэва і каменю. У аснове іх архітэктурна-планіровачнай кампазіцыі ляжаў тып 4-вугольнай пабудовы з нарожнымі шмат'яруснымі фланкіруючымі вежамі, вынесенымі за перыметр сцен. Такая планавая кампазіцыя, якая акрэслілася яшчэ ў першай палове XIV ст. у замках Крэўскім, Медніцкім, а ў канцы XIV ст.— у Навагрудскім і Гродзенскім, у XV—XVII стст. атрымала на беларускіх землях далейшае развіццё. Характэрна, што большасць прыватнаўласніцкіх замкаў гэтага часу пабудавана на нізкім рэльефе і мае дадатковыя ўмацаванні ў выглядзе равоў і валаў з драўлянымі абарончымі канструкцыямі. Так былі ўзведзены драўляныя замкі ў Лыскаве, Мышы, Радуні, Запрудах, Гарадку і іншых месцах і мураваныя замкі ў Міры, Геранёнах, Любчы, Іказні, Гайцюнішках. Такая ж планавая кампазіцыя лягла ў аснову храмаў-замкаў — Полацкай Сафіі, Супраслеўскага, Сынковіцкага і Маламажэйкаўскага.

Да гэтай вялікай групы помнікаў прымыкаюць феадальныя замкі, узведзеныя на высокіх пагорках (Гальшаны, Лоск) або на астравах рэк (Радашковічы), лінія сцен якіх іррэгулярна.

Другая група замкаў сярэдзіны XVI—XVII ст. мае цягу да ўзораў еўрапейскай фартыфікацыі, тым больш што асобныя з іх узводзіліся непасрэдна архітэктарамі, запрошанымі з-за мяжы. Уплывалі і актыўныя культурныя сувязі з заходнееўрапейскімі краінамі, дзе вылучалася галандска-фламандская архітэктурная школа. У гэту групу помнікаў уваходзяць у асноўным замкі з бастыённай сістэмай умацаванняў: Заслаўскі, Нясвіжскі, Новы Слуцкі, Жаберскі, Ляхавіцкі, Гальшанскі Новы і інш. Аднак у кожным канкрэтным выпадку прыёмы заходнееўрапейскага фартыфікацыйнага мастацтва адчувалі моцныя ўплывы мясцовых будаўнічых традыцый і асаблівасцей.

## Лыскава

У 500 м ад вёскі Лыскава Пружанскага раёна ва ўрочышчы пад назвай «Гарадзішча» знаходзяцца рэшткі сярэдневяковага феадальнага замка. У мінулым стагоддзі ён быў абследаван Ф. В. Пакроўскім, які адносіў яго да каралеўскіх [33].

Замак знаходзіцца на правым беразе р. Шчыбы (Муха), на балоцістым поплаве. З поўначы, усходу і поўдня ён надзейна бароніцца балотамі. У плане пляцоўка гарадзішча квадратная, памерамі 68×68 м. Захаваліся рэшткі земляных валаў і вадзяных равоў. З заходняга боку вал уцалеў параўнальна добра. Ён узвышаецца над пляцоўкай замка на 2,5—3 м і мае шырыню аснавання каля 10 м. На вяршыні вала пляцоўка да 2 м шырыні. Насыпан вал з пяску і часткова з гліны. На кожным рагу вала стаялі драўляныя вежы дыяметрам каля 8 м. Глыбіня рова з гэтага боку дасягае 4,5 м і шырыня — 10 м. Пасярэдзіне вала захаваўся старажытны ўезд на замак.

Роў і вал з паўднёвага боку па сваіх параметрах і структуры адпавядаюць заходнім. Аднак з усходняга боку вал амаль поўнасцю скапан і разаран. Толькі ў асобных месцах захаваліся яго рэшткі, якія ўзвы-

---

[33] Покровский В. Ф. Археологическая карта Гродненской губернии.— Труды предварительного комитета IX археологического съезда, отд. 2. Вильна, 1895, с. 183.




шаюцца над узроўнем балота на 1,5—2 м. Роў з усходу заплыў, але месцамі мае глыбіню 1,8 м. Паўночны вал напалову скапаны, абарончы роў амаль поўнасцю засыпан і толькі месцамі дасягае 1 м глыбіні.

Адразу ж за вадзяным ровам існуе яшчэ адзін невялікі абарончы вал, які захаваўся з заходняга і паўднёвага бакоў. Ён мае вышыню 1—1,5 м і шырыню аснавання каля 4 м.

Важным элементам абароны былі дугападобныя вал і роў, якія знаходзяцца на адлегласці 90 м ад замка і сваімі канцамі ўпіраюцца ў дрыгвяністае балота. Гэта свайго роду форбург — перадавая лінія абароны. Роў дасягае глыбіні да 5 м і шырыні 10—12 м (заходняя частка). Вал мае вышыню 5—5,5 м пры шырыні аснавання да 10—11 м. У цэнтры вала захаваўся колішні праезд. Каля яго знаходзіцца вежавае ўзвышэнне. На пляцоўцы паміж знешнім валам і замкам размяшчалася пасяленне.

*Рыс. 28. Лыскава. План замка*

## Гарадок

Вельмі цікавым помнікам з'яўляецца феадальны замак у в. Гарадок Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.

Замчышча размешчана ў паўночнай частцы вёскі паблізу дарогі на Маладзечна і займае пляцоўку памерамі 60×40 м. З усіх бакоў гэта пляцоўка абкружана вадзяным ровам шырынёй 25—30 м, над якім замчышча ўзвышаецца на вышыню да 5 м. Ніякіх слядоў землянога вала на краю замчышча не прасочваецца.

За ровам ідзе магутны 10-мятровы абарончы вал, які з трох бакоў (поўдня, захаду і поўначы) узвышаецца над пляцоўкай замчышча і поўнасцю закрывае яе ад абстрэлу з боку поля. З усходу вал часткова разбуран. Тут маецца невялікая круглая пляцоўка дыяметрам каля 7 м, дзе, відаць, стаяла вежа, што вартавала ўваход на тэрыторыю замчышча. Каб трапіць у замак, трэба было ехаць па спецыяльнай тэрасе, якая прымыкае да ўнутранага схілу вала. З поўдня ўгадваюцца сляды ўезду ў замак. Ён ішоў з тэрасы на мост цераз вадзяны роў. Такім чынам, дарога ў замак была пад двайным абстрэлам — з вала і замка.

Папярэдне помнік датуецца XIV—XVII стст.



*Рыс. 29. План замчышча ў в. Гарадок Маладзечанскага р-на паводле Я. Г. Звяругі*

## Запруды

Помнікам, абарона якога асноўвалася на якасцях балоцістага рэльефу і штучных земляных умацаваннях, з'яўляецца сярэдневяковы замак у в. Запруды Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. Сядзіба феадала з чатырох бакоў баранілася падвойнымі валамі і вадзянымі равамі, што стварала значную перашкоду на шляху нападаючых. На вяршыні валаў стаялі драўляныя ўмацаванні, хутчэй за ўсё частакол. Цяпер валы дасягаюць вышыні ад 1,5 да 2 м і шырыні ў аснаванні да 4 м. Вадзяныя равы маюць глыбіню да 2,5 м і шырыню каля 5 м.

У плане равы і валы нагадваюць упісаныя адзін у адзін прамавугольнікі, якія з усходу мелі бакі ў выглядзе паўдуг, што зыходзіліся ў месцы ўезду ў замак. Валы з гэтага боку знівеліраваны.

Помнік датуецца XIV—XVII стст.



*Рыс. 30. Запруды. План замка*

## Мыш

Адным з магутнейшых замкаў таго часу можна справядліва лічыць замак Мыш (Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл.).

Паселішча Мыш да XVI ст. уваходзіла ў склад каралеўскіх маёнткаў. У 1568 г. кароль Сігізмунд Аўгуст аддаў Мыш і ваколіцы за ваенныя заслугі Яну Хадкевічу, які пабудаваў там замак з магутнымі абарончымі элементамі.

Пад замак быў выбран высокі правы карэнны бераг р. Мышанкі. Ён узвышаецца над рачной далінай больш чым на 20 м. Пляцоўку памерамі 50×50 м абвялі з трох бакоў земляным валам шырынёй каля 15 м у аснаванні і вышынёй 3,5—4 м. З чацвёртага боку, з поўначы, землянога вала не было. Адсюль ён прыкрываўся дрыгвяністымі берагамі р. Мышанкі, якая некалі бегла пад самай гарою, і высокім стромкім схілам. Таму тут меліся толькі драўляныя ўмацаванні.




*Рыс. 31. Мыш. План замчышча паводле М. М. Чарняўскага*

З усходу, поўдня і захаду перад замкам ляжыць абарончы роў, які месцамі дасягае 15-мятровай глыбіні і 30-мятровай шырыні пры стромкасці схілаў да 45°. На вуглах замка засталіся ўпадзіны ад колішніх веж. Драўляныя навальныя канструкцыі ў спалучэнні з магутнымі валамі і равамі былі надзейным заслонам для жыхароў замка. У паўднёвым куце замкавага двара існаваў калодзеж, ад якога захавалася варонка.

Замак Мыш, знаходзячыся на важным стратэгічным шляху — Варшаўскім гасцінцу, заўсёды прыцягваў увагу праціўніка, які баяўся пакідаць у тыле такую магутную цытадэль. Не дзіўна, што ў час руска-польскай вайны сюды былі накіраваны значныя сілы рускіх войск. У 1654 г. замак Мыш быў імі аблажан. Навагрудскі ваявода Пётр Вяжэвіч, які ўзначальваў абарону замка, уцёк з часткай войска ў бок Слоніма. Рэшта гарнізона асады не вытрымала, аб чым мы даведваемся з данясення рускіх ваявод цару: «В городке Мыши литовских людей всех побили, которых зостали, и языков взяли многих людей. И город Мышь выжгли и совсем разорили без остатку...» [34] З таго часу замак не аднаўляўся.

## Радунь

Па свайму планаваму размяшчэнню замчышча Радунь нагадвае вышэйразгледжаныя замкі. Ён быў цэнтрам абароны старажытнага горада Родыня, вядомага па дакументах з XIV ст.[35]

[34] ЦДАСА, ф. 210, стб. 274, л. 124.

[35] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. М., 1965, с. 263.

Радунскае замчышча знаходзіцца ў 2 км на паўднёвы ўсход ад г. п. Радунь у цэнтры в. Гарадзішча непадалёку ад р. Радунькі — прытоку Дзітвы. Чатырохвугольная пляцоўка памерамі 85×60 м абведзена валам вышынёй 3 м. З паўднёва-ўсходняга боку яго вышыня больш 5 м. За валам ляжыць роў шырынёй 8—10 м і глыбінёй 2,5—3 м, які абкружае замчышча з усіх бакоў.

У ходзе даследаванняў тут выяўлен нязначны культурны пласт — 25—40 см з матэрыяламі XIV—XVII стст. Знешнія схілы валаў абкладзены палявым каменем. На вяршыні з паўднёвага ўсходу вала выяўлены сляды драўляных сцен.

## Радашковічы

Пісьмовыя крыніцы згадваюць Радашковічы ў 1447 г., затым у 1467 г. Горад належаў Гаштольдам, каралеве Боне, Глябовічам, Агінскім, Радзівілам. У 1569 г. Радашковічы атрымалі Магдэбургскае права [36].

Адзін з інвентароў Радашковіч 1549 г. данёс да нас цікавыя і важныя даныя аб тутэйшым замку. Тады кароль Зыгмунт Аўгуст правёў «спісанье і выведанье замкаў, двароў і валасцей», у тым ліку «замку Радашкоўскага».

Паводле інвентара, Радашковіцкі замак знаходзіўся паміж двух ставоў, зробленых на рэках Гуі і Вязыні, на «капцы сыпанам» і быў збудаван накшталт карабля. Вада кругом «аблівала» замак, і прайсці ў замкавую браму можна было толькі па пад'ёмным мосце, перакінутым праз роў перад брамай. Яна мела памеры 4×10 сажняў (каля 8,52×21,30 м), была «рубленая с протесья великого доброго» вышынёй у 4 паверхі. Першы паверх вежы праразала брама. На другі паверх вёў «усход», праз які трапялі ў «сені», прыстасаваныя да абароны. Тут жа, мяркуючы па аналогіі з Мірскім і іншымі замкамі, мог быць калаўрот, які падымаў ланцугамі «ўзвод» — мост. На гэтым жа паверсе знаходзілася «вялікая святліца» з паліванаю печчу і 2 сталамі. Трэці паверх быў таксама прыстасаваны да абароны. Тут мелася невялікая гармата — «дельцо железное семи пядей, куля якобы гусиное яйцо, в ложы чорной на козлох деревяных».

З дакумента далей вынікае, што «с тое ж сени троха вышей вежа кругло будована з окнами, ку обороне». Аднак некаторыя даследчыкі лічаць, што вежа з вышыні трэцяга паверха пераходзіла ў васьмярык [37].

Гэты паверх быў адначасова і «свирном»: тут захоўваліся, відаць, правіянт, розны ваенны рыштунак і іншыя патрэбныя для абароны рэчы. Дах вежы быў абабіты «белым железом».

Злева ад вежы-брамы, на адлегласці 20 сажняў, стаяла другая, 3-павярховая вежа, дзе меліся «свіран» (першы паверх), пустая капліца (другі паверх), а трэці паверх быў прыстасаван да абароны, бо тут мелася «дело железное полдевяти пяди, куля большая, нижли кулак, в ложы чорном железом окованом, на кожле деревяном». Вежа была квадратная, памерамі 5×5 сажняў (10,65×10,65 м). Злучалася яна з вежай-брамай сцяною, якая складалася з 12 горадняў.

---

[36] Документы московского архива Министерства юстиции, т. 1. М., 1897, с. 90—119.

[37] Митянин А. Я., Вараксин Н. В. К вопросу о деревянном замковом строительстве в Белоруссии (XVI—XVII вв.).— Сборник научных работ Ин-та строительства и архитектуры АН БССР, вып. 3, 1960, с. 206, рис. 2.

На адлегласці 40 сажняў ад другой вежы ў куце Радашковіцкага замка стаяла трэцяя вежа, сечаная з бярвення. Яна злучалася 19 гараднямі з другой вежай і 11 гараднямі з чацвёртай — «круглай». Гэта апошняя вежа замка злучалася 28-сажневай сцяной (13 гарадняў) з уваходнай вежай-брамай. Цікава, што ў замку мелася яшчэ адна вежа, не звязаная са сценамі замка. Яна стаяла асобна на падворку і мела 4 паверхі. Тры паверхі выкарыстоўваліся пад гаспадарчыя патрэбы, а чацвёрты — для мэт абароны. Маючы даныя «попісу», можна падлічыць даўжыню адной гарадні. Яна дасягае каля 3,55 м.



*Рыс. 32. Замак у Радашковічах. Рэканструкцыя А. Я. Міцяніна*

Важныя звесткі падае інвентар аб баявых завяршэннях гарадняў і «всих хором» замка. Яны мелі на версе «бланки», «обланки з вязью рубленые» — г. зн. баявыя пляцоўкі, пярэднія сценкі якіх былі з бярвення. У другім выпадку гэтыя сценкі, звернутыя ў бок ставу, былі «дошками перепые», г. зн. загароджаны дошкамі і, відаць, не малой таўшчыні. «На тых обланках дельце железное пол 8 пяди в нём, куля с курачое яйцо, на деревяном козле, ложе железом окованое, смолою облито, нижли ложе попсовалосе». Меліся ў замку для абароны свінец («2 камени»), порах («бочечка одна малая, якобы полбарыла, у другой дежечце ручничного пороху 20 фунтов, особливе теж у лукне 50 фунтов...»), а таксама «гаковниц великих 3 по 9 пядей, с формами и со всими приправами, коротшых (гакаўніц.— *М. Т.*) 5 по 5 пядей... кули большые зо всими приправами... ку обороне, кий старосвецкий, ручниц 7 зо всими приправами, а 10 гаркабузов...»[38]

Радашковіцкі замак у момант яго «попісу» быў яшчэ «добрага будованья, не гнилого», а значыцца, і ўзведзен недзе каля сярэдзіны XVI ст. Яго інвентар дазваляе нам скласці даволі поўнае ўяўленне аб прынцыпе пабудовы і абароны сярэдневяковых драўляных замкаў на Беларусі.

---

[38] Замкавы «пушкар» павінен быў штогод даваць па 200 фунтаў пораху ручнічнага і дзельнага.

## Мірскі замак

Даўнія традыцыі каменнага дойлідства і высокае прафесіянальнае майстэрства мясцовых будаўнікоў — знакамітых «муралёў-дойлідаў» — знайшлі сваё ўвасабленне ў манументальных замках, памураваных з каменю і цэглы. Найбольш яркім узорам ваеннага будаўніцтва тых часоў з'яўляецца велічны Мірскі замак. Гэта адзіны замак, які амаль цалкам захаваўся да нашых дзён.

Мірскі замак з'яўляецца найбольш яркім узорам прыватнаўласніцкага ваеннага будаўніцтва XVI ст. на Беларусі і мае найважнейшае



*Рыс. 33. Мірскі замак. З літаграфіі сярэдзіны XIX ст.*

значэнне для разумення асаблівасцей і характэрных рыс беларускага дойлідства той пары.

Замак знаходзіцца на ўсход ад г. п. Мір Гродзенскай вобласці, на процілеглым ад яго правым беразе рачулкі Міранкі.

Мір як горад упамінаецца ўпершыню ў 1395 г., калі крыжаносцы на чале з гросмайстрам Тэўтонскага ордэна Конрадам фон Юнінгемам, не здолеўшы ўзяць Навагрудак, напалі на Ліду і Мір і спустошылі іх ушчэнт. У 1434 г. вялікі князь літоўскі Сігізмунд Кейстутавіч падараваў Мір баярыну С. Гедыгольдавічу, ад якога ён у 1490 г. перайшоў да роду князёў Ільінічаў [39].

У 1506—1510 гг. (па іншых звестках у 1508—1510 гг.) князь Юрый Ільініч, маршалак і ваявода брэсцкі, пабудаваў сабе 5-вежавы замак, які па тых часах быў, несумненна, адным з самых магутных на Беларусі.

---

[39] Baliński M. Historia m. Wilna, t. 1. Wilno, 1836, str. 154; Рукапісны аддзел бібліятэкі АН ЛітССР (далей РАБАН), ф. 9-3032, л. 30; Syrokomla Wł. Wędrówki po niegdyś moich okolicach. Wilno, 1853, str. 40; Mir.— «Kresy». Wilna, 1923, № 13, str. 3.

Для яго ўзвядзення ў вёсках Прапашы і Бірбашы адкрылі 2 цагельні. Вапну дастаўлялі са Свержаня каля Стоўбцаў [40].

Род Ільінічаў валодаў замкам да 1568 г., потым ён перайшоў да Радзівілаў нясвіжскай лініі і належаў ім да канца XVIII ст. Пасля ім валодалі розныя асобы і князі Гогенлоэ, Вітгенштэйны, а з другой паловы XIX ст. і да 1939 г. ён належаў князям Святаполк-Мірскім.

На працягу стагоддзяў замак не раз быў аб'ектам аблог і штурмаў. У 1655 г. ён пацярпеў ад працяглай аблогі шведскімі войскамі. Пад час Паўночнай вайны ў 1706 г. шведы зноў бралі замак штурмам і спалілі



*Рыс. 34. Замак у Міры. Малюнак Я. Драздовіча*

яго. У 1794 г. замак узялі прыступам войскі А. В. Суворава. Найбольш замак быў разбуран у Айчынную вайну 1812 г. 9—14 ліпеня 1812 г. пад яго сценамі адбыліся жорсткія баі паміж ар'ергардам 2-й рускай арміі П. І. Баграціёна — кавалерыяй генерала М. І. Платава — і французскай кавалерыяй маршала Даву. Замак моцна пацярпеў: была ўзарвана паўночна-ўсходняя вежа, разбуран і спален палац, пашкоджаны земляныя валы. 10—11 лістапада 1812 г. тут зноў адбыліся баі паміж арміяй адмірала П. В. Чычагава і французамі [41].

У 1870 г. на чатырох вежах замка (акрамя ўзарванай) пабудавалі шатровыя дахі, а пазней аднавілі палац, у якім жылі да 1939 г. У канцы XIX ст. быў зрыт паўднёвы вал і каля замка выкапан вялізны стаў.

У пачатку 50-х гадоў нашага стагоддзя Мірскі замак дэталёва вывучаўся архітэктарам А. Я. Міцяніным, які зрабіў абмерныя чарцяжы і апублікаваў шэраг змястоўных артыкулаў аб архітэктуры замка.

Летам 1971 г. даследаванні археалагічнага характару былі праведзены аўтарам.

Мірскі замак у плане нагадвае сабой некалькі перакошаны 4-вугольнік, утвораны замкавымі мурамі. На вуглах, выступаючы за перыметр сцен, узвышаюцца чатыры магутныя вежы. Пятая — праезджая — вежа размешчана пасярэдзіне заходняй сцяны, звернутай у бок горада. Усе вежы маюць шматлікія байніцы. Магутныя абарончыя прыстасаванні

---

[40] Калнін В. В., Трэпет Л. В. Мірскі замак.— ПГКБ, 1975, № 1, с. 30—31.
[41] Митянин А. Я. Замок в Мире. Автореф. канд. дис. Минск, 1954, с. 9.

знаходзіліся і на замкавых сценах. Унутры замкавага двара стаіць 3-павярховы палац, прыбудаваны да паўночнай і ўсходняй сцен замка. Вакол замка насыпан магутны земляны вал.

Сцены і вежы стаяць на масіўных падмурках, складзеных з вялікіх камянёў, памеры якіх дасягаюць 1,5—1,6 м. Глыбіня закладання падмуркаў, калі адлічваць ад дзённай паверхні пачатку XVI ст., раўняецца 2,5 м. Аднак ніжняя зона веж да вышыні ад 4—4,5 да 7,3 м (улічваючы і вышыню фундаментаў) выкладзена змешанай муроўкай — камень і цэгла на вапне. Прычым памеры камянёў паступова змяншаліся. Сцены змешанай муроўкі дасягаюць вышыні 8 м.




*Рыс. 35. План і абмерныя чарцяжы замка паводле А. Я. Міцяніна і аўтара*

Мірскі замак узводзіўся з велікамернай брусковай цэглы — «пальчаткі» памерамі 30—30,5×13,5—14—14,5×9—9,5—10 см і меншымі — 28×14×10.

Як паказалі археалагічныя шурфы, фундаменты веж, і ў прыватнасці паўднёва-заходняй, складзены ў тыповай тэхніцы паласатай муроўкі, якая шырока ўжывалася пры пабудове Навагрудскага, Гродзенскага і іншых замкаў.

Цагляная абліцоўка вежы зроблена ў тэхніцы гатычнай муроўкі— чаргаванне аднаго лажка і аднаго тычка. Замкавыя сцены ўзведзены ў тэхніцы лусковай муроўкі, пры якой ядро сцяны забутоўвалася дробным каменнем і бітай цэглай на вапнавым растворы. Толькі «шчокі» сцен Мірскага замка ў адрозненне ад іншых помнікаў (Навагрудак, Гродна) цалкам выкладзены з камянёў і цэглы.

Усе вежы Мірскага замка маюць аднолькавую аб'ёмную будову — ніжняя 4-гранная частка ўверсе пераходзіць у 8-граннік, памалу памяншаючыся ў аб'ёме. Тып такой вежы быў шырока распаўсюджан на Беларусі (вежы Віцебскага замка XVII ст., вежа ў Любчы, Ятвяжскі слуп, навагрудская вежа Дазорца і інш.).

Акцэнт мастацкага афармлення Мірскага замка зроблен на вежах. Архітэктурная апрацоўка іх фасадаў грунтуецца на чаргаванні розных па форме і велічыні дэкаратыўных ніш і арнаментальных паясоў. Такі прыём быў шырока распаўсюджан у беларускай архітэктуры XVI ст.

(франтоны Сынковіцкага, Маламажэйкаўскага і Супраслеўскага храмаў і інш.).

Арнаментальныя паясы веж падхопліваюцца ідэнтычнымі па малюнку і тэхніцы выканання паясамі на замкавых сценах і лініяй паўцыркульных ніш на ўзроўні сярэдняга бою сцен. Дзякуючы гэтаму ўсе элементы замка звязваюцца ў цэльную архітэктурную кампазіцыю.

Маляўнічасць Мірскага замка, якая ствараецца багаццем і разнастайнасцю архітэктурных дэталей, яшчэ больш узмацняецца каляровым афармленнем. Унутраныя плоскасці ніш і паясоў былі атынкаваны ў белы колер, што ў спалучэнні з цёмна-чырвонай фактурай асноўнага



*Рыс. 36. Натурны здымак замка. Фота В. Ждановіча*

поля цагляных сцен і праёмаў вежавых байніц садзейнічала выразнасці архітэктуры замка. Дзякуючы гэтаму ўсе вежы Мірскага замка, якія па стылю і канструкцыі вельмі блізкія адна да адной, маюць свой індывідуальны архітэктурны воблік. Прыгажосць і велічнасць веж як бы адводзілі магутнасць сцен на другі план, ствараючы разам з імі адзіны вобраз непаўторнага збудавання [42].

Багаты дэкор Мірскага замка выгадна адрознівае яго ад простых і суровых гарадскіх умацаванняў, надае яму выразны характар палацавай пабудовы.

Мірскі замак адпавядаў усім патрабаванням ваеннай навукі XVI—XVII стст., якія ўзніклі ў сувязі з развіццём артылерыі. Яго вежы пастаўлены з разлікам вядзення флангавага агню ўздоўж сцен і былі даволі магутнымі, бо большасць байніц прызначалася для стральбы з гармат. Усе вежы разглядаліся як вузлы абароны; на выпадак прарыву праціўніка ў замак яны мелі з усіх бакоў байніцы для кругавога абстрэлу. На кожнай вежы было 5 ярусаў баёў з вялікай колькасцю байніц і складаная сістэма пераходаў. Вежы завяршаліся байніцамі-машыкулямі, праз якія кідалі камяні, лілі вар або смалу да падэшвы сцен.

[42] Митянин А. Я. Мирский замок, с. 12.

Самая цікавая з усіх веж Мірскага замка галоўная. Па сваіх формах і арнаментыцы фасадаў яна найбольш дасканалая.

Аснова вежы ў плане блізкая да квадрата памерамі 12×12 м. Вежа 6-ярусная. Пяць верхніх ярусаў маюць шматлікія байніцы, накіраваныя ў розныя бакі. Вышыня каля 25 м. Фасады ўпрыгожаны паясамі і дэкаратыўнымі нішамі рознай велічыні і формы: круглымі, 3-часткавымі з вісячымі гіркамі, паўцыркульнымі, спічастымі, прамавугольнымі і інш. [43]

Першы паверх вежы праразае адзіны ў замку праезд. Ён запіраўся дзвюма дубовымі брамамі — адной пры ўездзе ў вежу, другой — пры выездзе ў двор. Акрамя таго, брама баранілася спецыяльнай засцерагальнай рашоткай — герсай, якая апускалася з другога паверха праз спецыяльны праём памерамі 0,4×2,8 м. Палотнішчы брамных створаў запіраліся на велізарныя драўляныя брусы. Ад іх у бакавых сценах захаваліся спецыяльныя гнёзды памерамі 30×30 см. У паўночнай сцяне першага паверха мелася мушкетная байніца, якая давала магчымасць фланкіраваць прасла сцяны, што ішла да паўночна-заходняй вежы. Пад вежай знаходзіўся склеп. У сценах праезду ёсць чатыры нішы для вартаўнікоў брамы. Тут жа пачынаецца каменная лесвіца.

На другім паверсе цэнтральнай вежы ёсць 4 мушкетныя, 2 гарматныя байніцы і 4 нішы. Сюды ж паднімалася герса. З другога паверха можна было трапіць у галерэю сярэдняга бою заходніх праслаў сцен. Пазней тут размяшчалася замкавая капліца.

На трэцім паверсе ёсць тры гарматныя і чатыры ружэйныя байніцы, з якіх можна было страляць унутр замкавага двара. Тут знаходзіўся гадзіннік з боем, звернуты цыферблатам у бок палаца [44]. Астатнія тры паверхі па сваёй планіроўцы падобныя паміж сабой. Яны мелі міжпавярховыя перакрыцці па бэльках. На кожным з іх ёсць па 8 гарматных байніц. Завяршалася вежа поясам абламаў — машыкуляў, якія існавалі да пераробкі і рамонту вежы ў другой палове XIX ст. Цэнтральная вежа замка праз нейкі час была ўзмоцнена. Да яе прыбудавалі барбакан — абарончую сцяну ў выглядзе падковы, якая надзейна засланіла браму ад прамога агню праціўніка. Узведзен барбакан з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі з чаргаваннем лажкоў і тычкоў, што надзейна датуе час яго пабудовы не пазней сярэдзіны XVI ст.[45] У сувязі з гэтым датаванне барбакана канцом XVI—XVII ст. і сцверджанне, што ён пабудаван з пясчаніку, беспадстаўнае [46]. Барбакан згадваецца ў інвентары замка за 1688 г., адкуль вынікае, што па цэнтру яго мелася брама на два палотнішчы, якая запіралася драўляным брусам. Унутры барбакана быў выкапаны 2-мятровай глыбіні катлаван. Праходзілі ў замак толькі па пад'ёмным мосце. Ён паднімаўся і апускаўся на двух ланцугах спецыяльным калаўротам, размешчаным на трэцім паверсе вежы. Апускаючыся, мост закрываў катлаван унутры барбакана, а ў паднятым становішчы быў своеасаблівай дадатковай абаронай замкавай брамы. Сцяна барбакана, як паказалі разведачныя раскопкі, дасягала таўшчыні каля 1,25 м і глыбіні залягання падмурка 2,65 м.

---

[43] Митянин А. Я. Оборонные сооружения Белоруссии XIII—XVII вв.— «Сборник научных работ Ин-та строительства и архитектуры АН БССР», вып. 1, 1958, с. 153.

[44] Рукапісны аддзел бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта (далей РАБВДУ), ф. 4, спр А-937, л. 2.

[45] Ткачев М. А. Исследования в Гродненской и Витебской областях.— АО 1972 г., 1973, с. 369.

[46] Калнін В. В., Трэпет Л. В. Мірскі замак.— ПГКБ, 1975, № 1, с. 30—31.

Зыходзячы з формы і памераў барбакана, можна меркаваць, што пад'ёмны мост меў заступападобную форму, даўжыню каля 9,75 м і шырыню 9,5 м. Падняты, ён поўнасцю закрываў браму. Вышыня барбакана дасягала 10 м. Тэхніка гатычнай муроўкі і памеры цэглы (27,5—27) × (6,5—6) × (12,5—12) см дазваляюць лічыць, што барбакан узвялі не пазней сярэдзіны XVI ст.

З узбраення цэнтральнай вежы інвентар 1688 г. называе 3 няспраўныя гарматы. Дакументы сведчаць, што барбакан існаваў яшчэ ў 1805 г.[47]

Паўднёва-заходняя вежа захавалася з XVI ст. амаль поўнасцю. У аснаванні яна мае крыху перакошаны квадрат памерамі 10×10 м. Вышыня вежы каля 23 м. Падзелена яна перакрыццямі на 5 ярусаў. Пад вежай ёсць сутарэнні са скляпеністым зводам. На першым паверсе 7 гарматных байніц, з іх адна — ва ўсходняй сцяне. Гэта дазваляла фланкіраваць замкавую браму, заходнюю і паўднёвую сцены, а таксама весці франтальны агонь.

На другі паверх вяла мураваная лесвіца, якая цяпер не існуе. Адтуль можна было трапіць у галерэю сярэдняга бою заходняй і паўднёвай сцен. На гэтым паверсе мелася 6 гарматных байніц, частка якіх была перароблена ў XX ст. у вялікія аконныя праёмы. Перакрыцце скляпеністае.

Трэці, чацвёрты і пяты паверхі мелі драўляныя перакрыцці. Тут таксама ёсць гарматныя байніцы, месцамі перарobленыя ў вокны. На чацвёртым паверсе 4-вугольныя сцены вежы пераходзяць у васьмярык. На версе вежавай сцяны месцамі захаваліся напаўзакладзеныя «варавыя» вокны.

Астатнія вежы замка адрозніваюцца ад вышэйназваных і ахарактарызаваных памерамі аснаванняў і аб'ёмам памяшканняў. Аднак, за выключэннем некаторых дэталей, па ўнутранай планіроўцы, аб'ёмнапрасторавым рашэнні, прызначэнню памяшканняў і насычанасці агнявымі сродкамі яны паміж сабой вельмі блізкія і падобныя.

Па размяшчэнню вежавых байніц можна меркаваць, што сістэма агню ў Мірскім замку была найбольш масіраваная на важнейшых напрамках, асабліва ў бок горада, на захад.

Агнявая магутнасць 5 замкавых веж адпавядала моцы агню, які вёўся з 10-мятровай вышыні сцен. Непаўторнай асаблівасцю арганізацыі агню са сцен Мірскага замка з'яўлясцца наяўнасць тут трох ярусаў бою. Ніжнія зоны ўсіх чатырох сцен былі прарэзаны гарматнымі байніцамі ніжняга бою, якія маюць выгляд камер-пячур. Самым магутным быў першы ярус бою: у заходняй сцяне мелася, відаць, каля 5 байніц, у паўночнай — 9, ва ўсходняй — 9 і ў паўднёвай — 8. Такія байніцы вядомы і ў некаторых помніках рускага ваеннага дойлідства — Івангародскай, Ладажскай, Арэхаўскай і іншых крэпасцях [48]. Але там яны адзінкавыя. У Мірскім жа замку гэта сістэма.

Арыгінальны сярэдні ярус бою. Унутры сцен, прыкладна на вышыні 8 м ад зямлі, ідзе калідор-галерэя, якая мае паўцыркульнае скляпенне і вышыню крыху больш 2 м. Галерэя злучала паміж сабою сцены і вежы замка. У абедзвюх сценах галерэі меліся шматлікія ружэйныя байніцы

---

[47] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 2, спр. 4488, л. 14; РАБВДУ, ф. 4, спр. А-937, л. 10.
[48] Косточкин В. В. Русское оборонное зодчество конца XIII—начала XVI веков. М., 1962, с. 212—213.

для вядзення агню як з вонку, так і ўнутры двара на выпадак прарыву праціўніка.

Верхні ярус бою складаўся з баявой пляцоўкі, якую з напольнага і надворнага бакоў сцяны прыкрывалі цагляныя парапеты. Сцяна завяршалася прамавугольнымі зубцамі, якія з канца XIV ст. пачынаюць шырока ўжывацца ў каменным дойлідстве.

Аб зубцах Мірскага замка ўпамінаецца ў інвентары 1681 г. Таўшчыня замкавых муроў уверсе 2,2 м, унізе — каля 3 м. На заходняй сцяне, злева ад цэнтральнай вежы, захаваліся машыкулі.



*Рыс. 37. Мірскі замак. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

Як і сцены веж, замкавыя муры не былі пазбаўлены архітэктурнага ўбрання. Па ўсяму іх перыметру на вышыні каля 8 м ад узроўню зямлі праходзіў арнаментальны пояс шырынёй каля 70 см (6 радоў цаглянай муроўкі). Верхні і ніжні рады пояса зроблены ў выглядзе парэбрыка. Паміж імі праходзіць паласа паглыбленай муроўкі. Пабелены вапнай, гэты пояс выразна чытаўся на чырвоным фоне цаглянай сцяны.

Другі пояс, таксама простага малюнка, ішоў па самым версе сцен. Ніжні рад гэтага арнаментальнага пояса пададзен у выглядзе выпушчаных на 5 см тычкоў цаглін, якія адстаяць адна ад адной на 40 см. Над імі з такім жа напускам пакладзена па цагліне лажком. Па лажках ужо вялася суцэльная лінія з такім жа напускам цэглы над плоскасцю сцяны.

Будаўніцтва Мірскага замка падзяляецца на тры этапы.

Пачатковы адносіцца да першага дзесяцігоддзя XVI ст. Тады былі ўзведзены сцены і вежы замка, а ў паўднёва-заходнім куце замкавага двара пабудавалі цагляны аднапавярховы будынак. Другі этап датуецца 20—30-мі гадамі XVI ст., калі прыбудавалі да паўднёвай і ўсходняй сцен аднапавярховы корпус са скляпамі пад ім, які заняў амаль палову плошчы двара. Тады ж зрабілі і барбакан. У другой палове XVI — першай палове XVII ст.— трэці будаўнічы этап — аднапавярховы корпус надбудавалі да трох паверхаў. Знешнімі сценамі палаца сталі паўночная і ўсходняя. У іх былі замураваны байніцы сярэдняга бою, а на ўзроўні другога і трэцяга паверхаў прабіты вялікія аконныя праёмы. Унутры памяшкання праведзена некаторая рэканструкцыя. З прычыны розначасовасці ўзвядзення пабудоў замка тут выразна бачны рысы готыкі, рэнесансу і барока. Гэта праследжваецца ў каменным абрамленні вокнаў, парталаў і балконаў і ў барочнай ляпніне XVIII ст.[49]

---

[49] R e m e r J. Architektura monumentalna..., str. 45.

Важнымі элементамі абароны Мірскага замка былі земляныя валы, якія ў выглядзе 4-вугольніка акружалі яго з усіх бакоў. На ўсіх вуглах гэтага дадатковага ўмацавання ўзвялі бастыёны галандскага тыпу, добра бачныя яшчэ ў пачатку XIX ст.[50] Час іх узвядзення — канец XVI ст.

Па рэштках валаў можна меркаваць, што яны ў плане стварылі 4-вугольнік з бакамі 170×150 м. Іх насыпы, вышынёй да 9 м і стромкасцю схілаў да 45°, верагодна, мелі спецыяльныя земляныя брустверы для стралкоў. Акрамя таго, ля аснавання вала быў вадзяны роў, які цяпер заплыў. Спецыяльная плаціна р. Міранкі рэгулявала тут узровень вады.

У валах размяшчалася невялікая ўваходная брама. Яна знаходзілася з заходняга боку пад аховай бастыёна. Аднак ступень разбуранасці валаў Мірскага замка, асабліва паўднёвага, не дазваляе вывучаць гэты цікавы элемент абароны.

Кожны замак, акрамя брамы, павінен быў мець патаемныя выхады, якія б дазвалялі рабіць вылазкі, здабываць ежу, рабіць разведку. Праз іх у крытычныя моманты можна выйсці з акружанай цытадэлі. Два падземныя хады знойдзены і ў Мірскім замку. Адзін са склепа пад галоўнай вежай вёў да р. Міранкі, другі з-пад паўночна-заходняй вежы выводзіў за паўтара кіламетра ў мясцовы лес[51].

Мірскі замак, як бачым, быў у свой час магутным ваенным збудаваннем, дзе знайшлі прымяненне амаль усе вядомыя элементы сярэднявяковай фартыфікацыі, а таксама традыцыі замкавага дойлідства Польшчы і Літвы. На жаль, высветліць імя несумненна таленавітага архітэктара-будаўніка да гэтых дзён не ўдалося. Хутчэй за ўсё будаўніком замка, як справядліва лічаць даследчыкі, быў таленавіты народны майстар, які валодаў багатым мастацкім густам і пачуццём прапорцый, быў добра знаёмы з архітэктурай суседніх народаў. Не маючы спецыяльнай інжынернай падрыхтоўкі і інструментаў, ён не змог зрабіць дакладнай разбіўкі як планаў, так і фасадаў. Але гэта не пашкодзіла дойліду стварыць першакласнае для таго часу ваенна-інжынернае збудаванне, аздобіўшы яго суровае аблічча цудоўнай гармоніяй фарбаў і разнастайных архітэктурных дэталей. Прыгажосць, непаўторнасць і нацыянальны каларыт замка здзіўлялі сучаснікаў, якія называлі яго «сапраўднай кветкай сярэдневякоўя».

Цікава, што мястэчка Мір яшчэ ў XVI ст. таксама было абведзена земляным валам і мела 4 уязныя брамы: Віленскую, Менскую, Слонімскую і Замкавую. Паводле звестак за XVII ст., брамы былі мураванымі[52]. Цяпер, на жаль, гэтыя ўмацаванні не існуюць.

## Любча

Паселішча Любча (Любч, Любеч) вядома як гандлёвы цэнтр на Нёмане з сярэдзіны XIII ст., калі яно было надана князем Міндоўгам кіеўскаму баярыну Андрэю Васільевічу Кіяну, уцёкшаму ў Навагрудак ад татарскай навалы. Пры Гедыміне Любча была ўжо велікакняжаскім уладаннем. У 1499 г. вялікі князь Аляксандр даруе «двор Любч» дзяр-

---

[50] ЦДГА БССР у Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 63, л. 9 адв.; РАБВДУ, ф. 4, спр. А-937, л. 2.
[51] Митянин А. Я. Оборонительные сооружения Белоруссии XIII—XVII вв., с. 151.
[52] РАБАН ЛітССР, ф. 9-3032, л. 30; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Минск, 1975, с. 216; ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, спр. 1035; л. 105, 107.

жаўнаму падскарбію Фёдару Храптовічу [53]. Ул. Сыракомля лічыць, што ў канцы XV ст. Любча была «местам»[54].

У шэрагу дакументаў 1517—1528 гг. Любча называецца мястэчкам. У 1528 г. яго купіў віленскі ваявода О. Гаштольд, а ў 1547 г.— Ян Кішка, які заснаваў тут друкарню. Вядома, што ў 1590 г. Любча атрымала Магдэбургскае права. У XVII ст. мястэчка належала Радзівілам.

Відаць, у пачатку XVI ст. і ўзнік на ўскраіне мястэчка на высокім пагорку замак. Ён заняў участак памерамі, блізкімі да квадрата, 85×80 м на левым беразе р. Нёман. Замчышча абведзена з трох бакоў ровам шырынёй да 30 м і глыбінёй ад 7—8 м (захад і поўдзень) да 10 м (усход). Зямля з рова хутчэй за ўсё пайшла на падсыпку пляцоўкі замчышча. У выніку гэтага пляцоўка прыўзнята за ваколіцай на 2—2,5 м.

Цяпер на паўднёва-заходнім і паўднёва-ўсходнім рагах замчышча стаяць дзве магутныя мураваныя вежы. Паўднёва-заходняя вежа была праезджай. Яна зроблена ў выглядзе куба, які на вышыні каля 8 м пераходзіць у 8-кантовую прызму. У аснове вежы закладзен квадрат памерамі 10,15×9,8 м. Вежа мела 4 ярусы баёў. На першым ярусе 8 ружэйных байніц, на другім — 12 гарматных. Восем такіх жа байніц на трэцім паверсе. Пад дахам вежы ў кожнай з васьмі сцен па 2 байніцы для ружэйнага агню. Па сваёй аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі гэта вежа вельмі блізкая да веж Мірскага замка і некаторых абарончых веж Віцебскага замка [55]. Мяшаная гатычна-рэнесансная муроўка датуе вежу другой паловай XVI ст.



*Рыс. 38. Замак у Любчы. Вежа-брама*

Падмурак вежы складзен з вялікіх камянёў на вапне і дасягае 3 м вышыні. Спачатку вежа была, відаць, адзінай у драўляным замку. Аб гэтым ускосна сведчыць не толькі прасла мураванай сцяны, якое да яе прыкладзена, але і другая нарожная паўднёва-ўсходняя вежа. Апошняя адрозніваецца не толькі сваёй формай і памерамі (квадратная — 8,3×

---

[53] J a n k o w s k i Cz. Powiat Oszmiański. Peterburg, 1898, cz. 3, str. 98; SGKP, t. 5, str. 393; A l e k s a n d r o w i c z St. Ordynacja m-ka Lubcza nad Niemnem z 1647 roku.— RB, t. 3. Białystok, 1962, str. 439—440.

[54] S y r o k o m l a Wł. Niemen od źródła do ujścia. Wilno, 1861, str. 32.

[55] К в и т н и ц к а я Е. Д. Белоруссия. Архитектура XVII в.— У кн.: Всеобщая история архитектуры, т. 6. М., 1966, с. 478.

×8,3 м, тры ярусы бою і інш.), але, галоўнае, муроўкай, якая тут рэнесансная (чаргаванне суцэльных радоў лажкоў і тычкаў). Раней чым у канцы другой паловы XVI ст. вежа з'явіцца не магла. Верагодней за ўсё, паўднёва-ўсходнюю вежу ўзвялі ў пачатку XVII ст. Ва ўсякім разе, на гербе, які атрымаў горад у 1644 г., намаляваны 2 вежы [56]. Як і праезджая вежа, яна стаіць на падмуроўцы вышынёй каля 4 м. У вежы меліся тры ярусы бою. На першым паверсе — 4 ружэйныя байніцы, на другім — 4 гарматныя, на трэцім — 12 ружэйных байніц. Прасла замкавай сцяны паміж вежамі таксама рэнесанснай муроўкі і мае нязначную таўшчыню — каля 1,3 м. У паўночным баку замчышча панад Нёманам паміж дзвюма невялікімі вежамі стаяў палац. Паводле інвентара замка 1661 г., усе вежы мелі бляшаныя дахі з купаламі, на якіх знаходзіліся флюгеры з гербам Радзівілаў. Паўднёва-заходняя ўязная вежа запіралася дубовай брамай, перад ёю цераз роў быў мост. Пад вежаю знаходзіўся скарбец і вязніца. На сцяне, звернутай у бок



*Рыс. 39. Рэканструкцыя замка паводле малюнка XVII ст.*

замкавага падворка, мясціўся гадзіннік. Справа ад уваходу размяшчалася кардыгарда.

Мястэчка было абгароджана парканам і мела дзве брамы так званага прускага муру — з дрэва і цэглы [57].

У 1655 г. Любчанскі замак быў узят казакамі І. Залатарэнкі і моцна пацярпеў. Паводле апісання замка за 1813 г., тут ужо было толькі 2 вежы, два масты злучалі замак з мястэчкам і фальваркам [58].

### Іказнь

Цікавым помнікам сярэдневяковага абароннага дойлідства з'яўляецца мураваны замак у вёсцы Іказнь Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Ён стаіць на паўднёва-ўсходнім краі вострава на возеры Іказнь на пагорку, які ўзнімаецца над востравам на 5 м.

Паселішча Іказнь вядома з 1499 г., калі нехта «Ігнат» прадаў яго за 200 коп «грошаў шырокіх» браслаўскаму старасце Я. Сапегу. Праз год вялікі князь Аляксандр надаў Я. Сапегу прывілей на зямлю і лю-

---

[56] Aleksandrowicz St. Ordynacja m-ka Lubcza..., str. 442.
[57] Rewieńska W. Miasta i miasteczka w północno-wschodniej Polsce. Wilno, 1938, str. 42.
[58] РАБВДУ, ф. 4, спр. А-966, л. 2.

дзей іказненскіх, а ў 1504 г. дазволіў залажыць тут «места» і замак [59]. У 1515 г. замак аблажыла войска рускіх ваявод і спаліла горад. А. Гваньіні пісаў у той час: «Іказнь — замак мураваны і места драўлянае, над ракой тае ж назвы, ад Браслава ў 2 мілях ляжыць»[60]. У час Лівонскай вайны, у 1561 г., у замку стаяў значны гарнізон наёмных войскаў [61].

Пасля Я. Сапегі часткаю Іказні валодалі князі Пронскія, Страбоўскія, Сіняўскія. У 1589 г. князі Езлавецкія прадалі замак разам «з арматамі і стрэльбамі» за 15 тысяч злотых Яну Сапегу. У 1654 г. замак быў узят рускімі войскамі, разбуран і страціў сваё ваеннае прызначэнне.



*Рыс. 40. Замак у Іказні. Малюнак з карты пачатку XVII ст.*

Планава-кампазіцыйная сістэма Іказненскага замка цікавая і арыгінальная. Пагорку, на якім стаіць замак, штучна прыдадзена форма прамавугольніка памерамі 55×30 м. Замак складаецца з мураванага палаца, сцен, акаляючых унутры двор, і дзвюх нарожных веж, размешчаных з напольнага боку. Астатнюю частку вострава займае падзамак, які з поўдня і паўднёвага захаду быў абведзен земляным валам вышынёю да 2 м і адыгрываў ролю форбурга. У падзамку мясціліся гаспадарчыя службы. Пад самым замкам з паўночна-заходняга боку размяшчалася сажалка памерамі 47×17 м для гадавання рыбы, злучаная спецыяльнай пратокай з возерам. Дно і берагі сажалкі даўней былі абкладзены тоўстымі дошкамі.

Палац займаў паўднёвы край пагорка, меў памеры 20×18 м, таўстыя 2-мятровыя сцены, узведзеныя ў тэхніцы паласатай муроўкі, што ўказвае на прыдатнасць яго да патрэб абароны. Верагодна, палац быў 2-павярховы, адным бокам прымкнуты да замкавай сцяны.

Абарончыя сцены замка памураваны з каменю і цэглы ў аднолькавай з палацам тэхніцы. Іх таўшчыня 2 м. Важна адзначыць, што замак меў мур толькі з паўночнага і напольнага ўсходняга бакоў. З захаду праходзіў невысокі гліняны вал з каменнай субструкцыяй, на якім стаялі драўляныя сцены. З гэтага боку замак бараніўся падзамчам, і таму лінія абароны тут слабейшая. Па цэнтру заходняй сцяны знаходзіўся ўезд у замак. Ён ішоў па драўляным мосце, перакінутым праз сажалку, якая, такім чынам, мела пэўнае значэнне ў абароне замка. Пры пабудо-

[59] Hedemann O. Historia powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930, str. 19, 387—388; Карамзин Н. История государства Российского, т. 7, примеч. 168. СПб, 1817.
[60] Gwagninus A. Cronika Sarmaceye Europskiej, str. 571.
[61] Любавский М. Литовско-русский сейм. М., 1960, с. 615.

ве замка выкарыстана велікамерная баразёначная цэгла розных памераў. Даўжыня яе вар'іруецца ад 26 да 32,5 см, шырыня — ад 11,5 да 16,5 см, таўшчыня — ад 7 да 10,2 см.

Падмуркі сцен зроблены з каменю на вапне. Яны маюць вышыню 80 см і два 10-сантыметравыя ўступы: першы на вышыні 50 см і другі на вышыні 80 см. Схілы замкавага пагорка з усходу, пачынаючы ад самых муроў, умацаваны каменнем.

Як паказваюць даследаванні, праз нейкі час пасля ўзвядзення замак быў умацаван з напольнага боку драўлянай вежай (у паўднёвым куце), пастаўленай на высокі курганападобны насып. Потым ва ўсход-



*Рыс. 41. План замка*

нім куце ўзвялі 5-вугольную вежу-рандэль, сцены якой мелі 2-мятровую таўшчыню. У XIX ст. мур рандэля амаль поўнасцю разабралі, у выніку чаго гліняна-пясчанае ўзвышша, на якім ён стаяў, аплыло, абсунулася і ўтварыла курганападобны насып.

Замак злучаўся з берагам драўляным мостам на палях, які ў выпадку небяспекі лёгка разбіраўся.

Іказненскі замак, нягледзячы на яго ярка выражаны прыватнаўласніцкі характар, быў для свайго часу, несумненна, значным абарончым пунктам. Дасягалася гэта ўдалым спалучэннем штучных мураваных умацаванняў і натуральных перашкод.

## Геранёны

Уплывы заходнееўрапейскай фартыфікацыі выразна прасочваюцца ў беларускіх помніках і ў пачатку XVI ст. Адным з такіх помнікаў з'яўляецца замак у в. Геранёны Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці.

Паселішча Геранёны па пісьмовых крыніцах вядома з першай паловы XV ст. У 1403 г. Геранёнамі валодаў віленскі ваявода Монвід [62]. У 1433 г. Сігізмунд Кейстутавіч, вялікі князь літоўскі, падараваў Геранёны разам з Дзявенішкамі, Меднікамі і Тыкоцінам Яну Гаштольду. Аднак несумненна, што паселішча ўзнікла намнога раней 1403 г., тым больш што ў 1,5 км на ўсход ад цяперашніх Геранён, вядомых у гісторыі

[62] Ateneum Wileński. Wilno, 1923, str. 259—260.

як «Геранёны мураваныя», ёсць мясцовасць пад назвай «Старыя Геранёны» — цяперашняя в. Суботнікі.

У 1493 г. польскі кароль Аляксандр пацвердзіў прывілей на права валодаць Геранёнамі Войцаху Гаштольду, які быў у той час канцлерам Вялікага княства Літоўскага і віленскім ваяводам. Мяркуецца, што пры ім і быў пабудаван замак.

Гаштольды валодалі замкам да 1542 г., калі памёр Ольбрых Гаштольд. Потым ён перайшоў да караля Зыгмунта I, а ад яго — да Зыгмунта Аўгуста. Да 1588 г. Геранёнамі валодалі розныя асобы, затым Сапегі, а з 1643 г.— падскарбій Мікалай Кішка.

Пад час руска-польскай вайны 1654—1667 гг. замак разбурыла маскоўскае войска, але, відаць, хутка ён быў зноў адноўлен. Вядома, напрыклад, што ў 1670 г. князь Міхаіл Пац аддаў Геранёны разам з Ліпнішкамі ў дзяржаўнае ўтрыманне, а грашовыя прыбыткі з іх ішлі на карысць велікакняжаскай артылерыі. Пад час




*Рыс. 42. План Геранёнскага замка*

Паўночнай вайны, у 1708 г., з атрадам шведскіх войскаў у замку размяшчаўся польскі кароль Станіслаў Ляшчынскі [63].

У пачатку XIX ст. у замку ўжо не жылі, у сярэдзіне стагоддзя значную частку руін разабралі для ўзвядзення ў Ліпнішках розных гаспадарчых пабудоў. Вядомы беларускі мастак Н. Орда, які замалёўваў у тыя гады розныя старадаўнія будынкі, застаў руіны Геранёнскага замка вышынёй толькі да першага паверха. Да нашых дзён не захавалася і гэтага.

На руіны Геранёнскага замка ў канцы 30-х гадоў нашага стагоддзя звярнуў увагу польскі даследчык М. Марэлёўскі. Ён абследаваў замак і паспрабаваў даць яго рэканструкцыю. Праведзеныя ў Геранёнскім замку археалагічныя даследаванні зрабілі відавочнай памылковасць некаторых яго вывадаў.

Геранёнскі замак быў узведзен, верагоднай за ўсё, на рубяжы XV і XVI стст. Ён пабудаван на штучнай выспе, насыпанай з зямлі, выкінутай з рова, які апаясаў замчышча. Перад ровам ёсць яшчэ адна штучная перашкода — земляны вал вышынёй да 9—10 м і аснаваннем да 15 м шырыні. Па перыметру ён вышэй 700 м. Такая планавая схема падобная да схемы замка ў в. Гарадок Маладзечанскага раёна, але там вал мае амаль круглую форму. Тут жа вал у плане нагадвае выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі. Адрозніваецца Геранёнскі замак і тым, што яго абарона амаль зусім не разлічана на прыродныя перашкоды і не мела ніякага штучнага абваднення — для гэтага проста няма

[63] J a n k o w s k i Cz. Powiat Oszmiański, cz. 3, str. 108, 112—113; M o r e l o w s k i M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyki do neoklasicyzmu. Wilno, 1930, str. 228.

ўмоў. Знешні абарончы роў у Геранёнах толькі на асобных участках мог напаўняцца вадой у час таяння снягоў або ўвосень, калі ішлі дажджы.

Характар першапачатковых навальных канструкцый высветліць не ўдалося, але, відаць, мы не памылімся, калі дапусцім, што гэта былі звычайныя драўляныя сцены.

Сам жа замак пабудаван у выглядзе квадрата 27×27 м, на кожным рагу якога стаялі мураваныя вежы. Археалагічнае вывучэнне ўцалелых рэштак сцен і веж паказала, што яны былі складзены ў традыцыйнай для Беларусі тэхніцы паласатай муроўкі з шырокім выкарыстаннем каменю і цэглы, якая ўжывалася ў асноўным для абліцоўкі веж. Вапнавы раствор мае нязначны дамешак тоўчанай цэглы і вызначаецца трываласцю.

Сцены замка таўшчынёй 1,4 м на асобных участках дасягаюць цяпер да 4 м вышыні. Цяжка меркаваць аб іх першапачатковай вышыні. Ва ўсякім разе, яны былі не намнога вышэй знешняга абарончага вала, бо ён прызначаўся, відаць, у першую чаргу для таго, каб прыкрыць замак ад прамога абстрэлу. Завяршэнне замкавых сцен было, верагодней за ўсё, цагляным.

Падмуркі зроблены з вялікіх камянёў памерамі 70×50 см, пакладзеных на вапне. Прамежкі паміж імі старанна зароблены кавалкамі цэглы і раствору. Вышыня падмуркаў не перавышае 1 м.

Вежы Геранёнскага замка мелі цыліндрычную форму і дыяметр 8 м. Двухмятровай таўшчыні сцены, складзеныя з каменю метадам лусковай муроўкі, звонку абліцаваны цэглай, муроўка гатычная. Таўшчыня вапнавага раствору 2—3,5 см. Цэгла — велікамерная, баразёначная, памерамі 29,5× (13—14) × (6—8,5) см.

Глыбіня залягання падмурка веж і сцен аднолькавая — каля 1 м. Падмуркі перавязаны, а лініі каменнай і цаглянай муроўкі супадаюць. Аднолькавыя не толькі тэхніка муроўкі, але і памеры цэглы. Гэта з'яўляецца важкім доказам адначасовасці ўзвядзення сцен і веж.

Рэшткі паўночна-заходняй вежы сведчаць, што ў ёй мелася скляпеністае перакрыцце, якім раздзяляліся два ніжнія паверхі. Захаваўся аконны праём ніжняга паверха вышынёй у 1 м і шырынёй 0,6 м з гатычнай аркай.

Да паўднёвай сцяны замка прыбудаван палац, які ўзведзен хутчэй за ўсё ў канцы XVI ст. Вядома, што ў 1565 г. панскі палац у замку быў яшчэ драўляны. Яго абслугоўвалі шмат служак, сярод якіх, напрыклад, былі мастак Мікалай, будаўнік Міхаіл, гадзіннікавы майстар («зегармайстар») Себасцян Станіслававіч, высокакваліфікаваны токар і інш.[64]

Інвентар замка 1765 г. паказвае палац як 2-павярховы будынак на 12 вакон, у якім былі розныя службы на першым паверсе і парадныя пакоі на другім. Дах вянчалі па вуглах бляшаныя зоркі, а па цэнтры — флюгер у выглядзе бляшанага бусла. Аднак сцены замка ўжо былі значна пашкоджаны [65].

У ходзе раскопак знойдзена чарапіца — плоская і карытчатая, якой пакрываліся дахі веж, дахі над баявым ходам сцен і палац.

Геранёнскі замак узводзіўся ў тыя часы, калі роля артылерыі ў ходзе баявых дзеянняў значна ўзрасла і стала вельмі эфектыўнай. Паколькі спадзявацца на магутнасць замкавых муроў цяпер не прыходзілася,

---

[64] M o r e l o w s k i M. Zarysy syntetyczne..., str. 228.
[65] ЦДГА ЛітССР, ф. СА, спр. 3790, л. 2 адв.; J a n k o w s k i Cz. Powiat Oszmiański, cz. 3. Peterburg, 1889, str. 108, 112—113.

асноўны цяжар абароны сталі пераносіць на знешнія ўмацаванні — равы і валы. Прычым валы пачалі ўзводзіць настолькі высокімі, каб яны надзейна закрывалі асноўную частку замкавага будынка. Да таго ж яны значна аддаляліся. У Геранёнах яны аддалены на 80 м, у Міры — каля 60 м. Аднак у Мірскім замку асноўнымі пунктамі адпору былі вежы і сцены. У Геранёнскім мы бачым як бы крок наперад па шляху развіцця тактыкі абароны замкаў. Цэнтр абароны тут акцэнтаваны на знешнім вале, які і цяпер яшчэ дасягае 10-мятровай вышыні. Непаўторнай асаблівасцю пабудовы вала з'яўляецца тое, што з унутранага боку




*Рыс. 43. План вежы-рандэля*

ўзведзена мураваная сцяна таўшчынёй 1,25 м, прызначэнне якой было разнастайным. У першую чаргу яна выконвала ролю падпорнай сценкі. Дасягаючы вышыні 4,5 м, яна надзейна прадухіляла апаўзанне вала ўнутр замкавага двара. Акрамя таго, пад яе заслонай у час асады маглі перамяшчацца воіны гарнізона, аб чым сведчыць невялікая брукаваная дарожка, якая ідзе ля самага нізу сцяны. Пасля адной з падсыпак вала будаўнікі былі вымушаны падмацаваць сценку невялікімі контрфорсамі — «бычкамі», узведзенымі амаль праз кожныя 3—3,5 м. І сама падпорная сцяна, і «бычкі» выкананы ў традыцыйнай тэхніцы паласатай муроўкі з выкарыстаннем вялізных (да 1 м) абчасаных камянёў і цэглы, пакладзеных на вапне. Цэгла, як і на замку, баразёначная, памерамі (29—30)×13,5(7,5—8,5) см.

Зыходзячыся ў вуглах вала, адрэзкі падпорнай сценкі пераходзілі ў 7-кантовыя вежы-рандэлі, якія былі важнымі агнявымі пунктамі. Таўшчыня сценак рандэляў раўняецца 1,75 м[66].

Мяркуючы па ўцалелых фрагментах рандэляў і іх памерах, можна лічыць, што яны былі не больш, чым 2-павярховыя, з бэлечным перакрыццем. Прычым ніжні паверх вышынёй каля 4,5 м поўнасцю знаходзіўся ў тоўшчы вала. Тут, напэўна, хавалі і розныя ваенныя прыпасы і рыштунак. Другі паверх пачынаўся ад дзённай паверхні вала і нагадваў 7-кантовы мураваны бастыён з перыметрам сцен каля 25 м. Гэта дазваляла размясціць тут некалькі гармат або некалькі дзесяткаў салдат. Трапляла на другі паверх па прыступках муравай лесвіцы, якая пачыналася ля самага нізу падпорнай сцяны, у стыку яе з рандэлем.

Немалую агнявую сілу можна было сканцэнтраваць і на самім земляным вале. На асобных участках, асабліва з усходу, дзе быў уезд у

[66] Ткачев М. А. Исследования памятников оборонного зодчества Белоруссии.— АО 1972 г., 1973, с. 408.

замак, шырыня вяршыні вала дасягае нават цяпер 6—7 м. На такой пляцоўцы можна было пры жаданні размясціць ці традыцыйныя драўляныя сцены венчатай або парканнай канструкцыі, ці характэрныя для XVI—XVII стст. земляныя брустверы.

Уезд у Геранёнскі замак знаходзіўся з усходняга боку, дзе вал асабліва вызначаецца сваімі стратэгічнымі якасцямі, а абарончы роў нават цяпер дасягае 4 м глыбіні і 15 м шырыні. Уязная замкавая брама размяшчалася ў ніжнім паверсе паўднёва-ўсходняга рандэля, сцены якога мелі таўшчыню каля 2,2 м. Траплялі да брамы па лёгкім драўляным



*Рыс. 44. Замак у Геранёнах. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

мосце, перакінутым праз роў. Магчыма, частка маста перад ёй падымалася на ланцугах.

Уезд у замак трымаўся пад абстрэлам як з верхняй часткі брамы, так і з прымыкаючых да яе. Акрамя таго, справа ад брамы існаваў бастыёнападобны выступ, тактычнае прызначэнне якога несумненна: ён фланкіраваў агнём і мост, і бліжэйшыя подступы да брамы. Такі элемент абароны з'яўляецца адным з першых вядомых на Беларусі, датуемых пачаткам XVI ст. Гэта як бы праўобраз тых бастыёнаў і бастыённай сістэмы ўмацаванняў, якія знойдуць на Беларусі самае шырокае распаўсюджанне ў другой палове XVI ст. і асабліва ў XVII ст.

Не выпадкова, вядома, і месцаразмяшчэнне Геранёнскага мураванага касцёла, узведзенага ў 1519 г. Абнесены мураванай сцяной, ён прымыкаў непасрэдна да абарончага рова перад брамай і, такім чынам, з'яўляўся дадатковай перашкодай на шляху ў замак.

Геранёнскі замак з ваеннага пункту гледжання быў у пачатку XVI ст. магутным збудаваннем. Ён увабраў у сябе амаль усе вядомыя тады элементы фартыфікацыі, якія дазвалялі на працягу доўгага часу процістаяць тагачаснай тактыцы і тэхніцы аблогі.

Развіццё на Беларусі ваеннай думкі, тактыкі абароны і аблогі прымушала тагачасных ваенных дойлідаў вынаходзіць рацыянальныя сродкі абароны, найбольш прыстасаваныя да мясцовасці. Не выключана, што адным з фактараў, які паспрыяў узнікненню на Беларусі бастыёнаў, было спрадвечнае мысавае размяшчэнне большасці паселішч, што найбольш адпавядала тактыцы абароны.

Геранёнскі замак — яркі ўзор абарончага будаўніцтва рубяжа XV—XVI стст. Тут хаця і адчуваецца ўплыў еўрапейскай фартыфікацыі, але ўсё ж больш акрэслена і выразна вылучаюцца мясцовыя ваенна-будаўнічыя традыцыі. Аб гэтым сведчаць і будаўнічыя матэрыялы, і прынцып узвядзення валаў, і размешчаны на штучнай выспе 4-вугольны ў плане мураваны замак з чатырма вежамі па вуглах, што было адной з характэрных рыс беларускага ваеннага і інкастэляванага царкоўнага дойлідства тых часоў. Геранёнскі замак з'яўляецца як бы звязваючым звяном паміж старымі мясцовымі прыёмамі фартыфікацыі і будучай бастыённай сістэмай умацаванняў, якая атрымае ў Беларусі ў хуткім часе самае шырокае распаўсюджанне. У сувязі з гэтым відавочна памылковасць спроб асобных аўтараў звязваць сістэму ўмацаванняў Геранёнскага замка з замкамі ў Біржах (Літва) і ў Нясвіжы, а тым больш з замкам Бурэн (Галандыя) [67]. Якім бы прывабным ні было такое параўнанне, трэба ўсё ж прызнаць, што гэта зусім рознатыповыя і розначасовыя пабудовы. Найважнейшай асновай абароны названых замкаў з'яўляюцца магутныя земляныя бастыёны і самая шырокая сістэма абваднення. А гэта якраз адсутнічае ў Геранёнах. Таму, як нам здаецца, не мае падставы сцверджанне, што быццам бы замак у Геранёнах зрабіў пэўны ўплыў на абвалаванне замка Радзівілаў у Нясвіжы ў канцы XVI ст.[68] Тым больш што бастыённы замак у Нясвіжы не быў першым на Беларусі замкам з новай сістэмай умацаванняў. Як паказалі даследаванні, у яго былі папярэднікі, узведзеныя раней за яго.

## ЗАМКІ З БАСТЫЁННАЙ СІСТЭМАЙ УМАЦАВАННЯЎ

Бастыённая сістэма сваім нараджэннем абавязана Італіі, дзе ўжо ў канцы XV ст. асобныя гарады ўмацоўваліся бастыёнамі. У XVI ст. імёны італьянскіх фартыфікатараў Антоніо да Сангала, Мішэля Санмішэля, Франчэска да Маршы і іншых былі вядомыя ва ўсёй Еўропе. У розных краінах італьянцы ўзвялі нямала замкаў. Вядома, напрыклад, што ў сярэдзіне XVI ст. італьянскія ваенныя інжынеры былі запрошаны ў Венгрыю, якая вяла вызваленчую барацьбу супраць Турцыі. Праз чвэрць стагоддзя Венгрыя пакрылася замкамі, якія адпавядалі навейшым патрабаванням ваеннай навукі [69]. Вопыт італьянцаў садзейнічаў узнікненню ў еўрапейскіх краінах уласных нацыянальных фартыфікацыйных школ [70].

Італія стала радзімай дзвюх фартыфікацыйных сістэм — стараітальянскай і новаітальянскай.

---

[67] Morelowski M. Zarysy syntetyczne..., str. 51, rys. 14. Яго вывады і рэканструкцыю Геранёнскага замка безагаворачна прыняў і выкарыстаў У. А. Чантурыя ў сваёй «Истории белорусской архитектуры», с. 47, 48. Рыс. 6

[68] Чантурия В. А. История белорусской архитектуры. Минск, 1968, с. 49.

[69] Gero Łasło. Włoskie fortyfikacje bastionowe na Węgrzech.— KAU, t. 4, z. 1—2, 1959, str. 24, 25, 40.

[70] Langenskiöld E. Bastionssystemets upprinnelse och tidigare utveckling. Antiquariska Studier. I. Stockholm, 1943; Gerö L. Magyarországi várépitészet, cz. 13. Budapest, 1955.

Па стараітальянскай сістэме бастыёны будаваліся невялікіх памераў, тады як курціны — адрэзкі валаў паміж бастыёнамі — дасягалі 450 м. Гэта прымушала ўзводзіць на курцінах дадатковыя, прамежкавыя, бастыёны, так званыя піята-форма. Паступова, з другой паловы XVI ст., укараняецца новаітальянская бастыённая сістэма, сутнасць якой заключалася ў тым, што курціны сталі карацейшымі (да 1/6 памеру ўнутранага палігона), а бастыёны — значна большымі. Аднак аднолькавым у абедзвюх сістэмах заставалася тое, што земляныя валы ўмацаванняў на значную вышыню былі абмураваны каменем і часта мелі мураваны бруствер, які мог выступаць уперад, у бок абарончага рова. З сярэдзіны XVI ст. непасрэдна перад бастыёнамі пачалі ўзводзіць акруглыя мураваныя ўмацаванні — больверкі (рандэлі), якія яшчэ больш павышалі абарончыя якасці замкаў. У тоўшчы валаў рабілі цэйхгаўзы і іншыя неабходныя пабудовы, а таксама патаемныя вылазы.

Між тым такія ўмацаванні былі вельмі дарагімі. Да таго ж пры выбухах варожых ядзер утвараліся каменныя асколкі, якія ранілі абаронцаў.

На працягу XVI і XVII стст. італьянскую сістэму фартыфікацыі ўдасканальвалі галандцы, французы і немцы. Паступова адмовіліся ад каменнай абмуроўкі. Земляныя валы сталі рабіць больш нізкімі, ірвы — больш плоскімі і шырокімі. Ніжняя абарона рвоў праводзілася з дапамогай спецыяльна ўзведзеных валаў, так званых фасебрый [71]. Першым горадам, які быў поўнасцю ўмацаван землянымі бастыёнамі і равамі з вадою, быў Брэда ў Галандыі (1533). У XVI ст. пад кіраўніцтвам таленавітага інжынера-фартыфікатара Даніэля Спекля былі ўмацаваны гарады Германіі Інгальштадт, Страсбург, Базель, Ульм, Шлетштадт, Гагенау, Кольмар і інш.[72]

### Заслаўскі замак

Заслаўскі замак знаходзіцца ў 200 м на поўнач ад г. п. Заслаўе. Размешчан на высокім пагорку, па форме замак нагадвае прамавугольнік памерамі каля 200×100 м. Некалі ён аддзяляўся ад горада досыць шырокім і глыбокім вадзяным ровам. Сістэма ставаў на р. Княгіньцы значна павышала ўзровень вады і фактычна ператварала замак у астраўное ўмацаванне.

Даследчыкі XIX ст. К. Тышкевіч і Р. Ігнацьеў, якія ў свой час апісалі замак і яго ваколіцы, аднадушна сведчаць, што бастыёны і курціны Заслаўскага замка былі абмураваны каменем і цэглай, а пасярэдзіне курцін знаходзіліся дадатковыя ўмацаванні — бастыёны «піята-форма». Гэта бачна на плане замка, знятым К. Тышкевічам у 1840 г., калі дадатковыя бастыёны былі яшчэ цэлыя. Пазней, у 70-я гады XIX ст., па сведчанню Р. Ігнацьева, дадатковыя бастыёны былі разабраны мясцовымі жыхарамі для розных будаўнічых мэт. Захаваліся на розных участках курцін цэлыя адрэзкі мураваных сцен, што прымыкалі да бастыёнаў. Замак быў абведзен валамі, якія ўзвышаліся над паплавамі на 18—20 м, на двары мелася крыніца, адкуль гарнізон браў ваду пад час аблогі [73].

---

[71] А. фон Застров. Краткое описание преимущественнейших систем и способов искусств укреплений, составленных отличнейшими инженерами со времени изобретения пороха. Варшава, 1829.

[72] Энгельс Ф. Избранные военные произведения. М., 1958, с. 268.

[73] Tyszkiewicz K. Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych, rys. 2; Игнатьев Р. Местечко Заславль или Изяслав, город потомков Рогнеды.— «Минские губернские ведомости», 1878, № 1, 2.

З паўднёвага боку існаваў адзіны ўезд. Ён ішоў праз браму, якая хутчэй за ўсё была 2-павярховай. Таўшчыня муроў дасягала 2 м. Брама размешчана каля паўднёва-ўсходняга бастыёна, адкуль фланкіраваліся подступы да яе. Цераз роў некалі ляжаў драўляны мост, апошняя частка якога, перад брамай, магла быць пад'ёмнай.

Даследаваннямі ўстаноўлена, што насып валаў Заслаўскага замка зроблен з пяску, жвіру і гліны. Вышыня валаў дасягае 15 м над дном абарончага рова. У месцы прымыкання валаў да брамы выяўлена спе-




*Рыс. 45. Заслаўе: 1 — «замэчак», 2 — замак паводле К. Тышкевіча*

цыяльная цагляная сценка таўшчынёй 0,33 і вышынёй 2,5 м. Яна адыходзіла ад брамы па цэнтру трасы вала, не дасягаючы яго вяршыні і, відаць, прадухіляла апаўзанне насыпу.

Замак быў абведзен ровам з вадою і фактычна з'яўляўся востравам, звязаным з горадам толькі драўляным мостам.

Можна з упэўненасцю канстатаваць, што Заслаўскі замак пабудаван у традыцыях стараітальянскай фартыфікацыйнай школы і можа датавацца сярэдзінай XVI ст. Верагодней за ўсё, ён узведзен пры Івану



*Рыс. 46. Заслаўскі замак XVII ст. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

Глябовічу, які ў той час валодаў Заслаўем і пабудаваў там у 1557 г. мураваную царкву [74].

Замак у Заслаўі з'яўляецца адным з першых бастыённых замкаў на Беларусі і па часе свайго ўзвядзення апярэджвае Нясвіжскі.

## Нясвіж

Нясвіжскі замак стаў родапачынальнікам новага тыпу абарончых збудаванняў на Беларусі — умацаванняў бастыённага тыпу новаітальянскай сістэмы, якія былі прынцыпова новым, значным крокам наперад па шляху развіцця фартыфікацыі.

Нясвіж вядомы з XIII ст. Адзін з яго князёў — Юрый Нясвіжскі — прымаў удзел у бітве з татарамі на Калцы ў 1224 г. Нясвіжам у складзе Вялікага княства Літоўскага валодалі на ленных правах да пачатку XV ст. магнаты Неміровічы і Мантыгірды. У 1492 г. кароль Аляксандр перадаў горад магнату Пятру Кішку, а ў 1513 г. Анна Кішчанка ўзяла шлюб з Янам Радзівілам («Барадатым»), да якога і перайшоў Нясвіж.

У дакументах XV—XVI стст. спачатку згадваецца «двор нясвіжскі», а з 1533 г.— замак, які быў драўляным.

Пры Мікалаю Радзівілу («Сіротка»), вядомым тагачасным палітычным дзеячу і адным з найбагацейшых на Беларусі магнатаў, у маі 1583 г. і быў закладзен падмурак новага замка.

Мікалай Крыстоф Радзівіл вучыўся ва універсітэтах Германіі, Італіі, Аўстрыі і Францыі і, зразумела, быў знаёмы з дасягненнямі заходнееўрапейскай ваеннай навукі. Зіму 1580—1581 гг. ён правёў у Італіі, дзе мог на ўласныя вочы бачыць і па-належнаму ацаніць навейшыя дасягненні італьянскай фартыфікацыі. Відаць, тады ён і пазнаёміўся з архітэктарам Джыавані Марыя Бернардоні, які ў хуткім часе па запрашэнню Радзівіла прыехаў у Нясвіж. Цікава, што сам Радзівіл у час закладкі і пабудовы замка не прысутнічаў, бо ў верасні 1582 г. ён выехаў у паломніцкае падарожжа ў Палесціну, адкуль вярнуўся ў ліпені 1584 г. [75] Гэта яскравае сведчанне высокага аўтарытэту таленавітага італьянскага архітэктара.

---

[74] К а ц е р М. С. Белорусская архитектура. Минск, 1956, с. 53.

[75] SGKP, t. 7, str. 118—119; T a u r o g i ń s k i B. Z dziejów Nieświeża. str. 9; J a k u b o w s k i J. Nieśwież.— «Ziemia», t. 10, str. 210—211. Wilno, 1925; Pisarze dziejów Polskich. Archiwum domu Radziwillów. Kraków, 1885, str. 9—12.

Бернардоні, які ўзначальваў будаўніцтва Нясвіжскага замка на першым этапе (а гэта якраз і быў час узвядзення яго першакласных бастыёнаў і стварэння сістэмы абваднення), стварыў тып замка, які быў ужо даўно вядомы ў краінах Заходняй Еўропы і адпавядаў усім найноўшым патрабаванням тагачаснай ваеннай навукі. У гэтым нас пераконвае гравюра вядомага нясвіжскага картографа і гравёра Т. Макоўскага «Нясвіж», зробленая на рубяжы XVI і XVII стст., а таксама інвентар 1658 г. і іншыя гістарычныя дакументы [76].

Нясвіжскі замак узвялі на паўвостраве на правым беразе р. Ушы, падпёртай плацінаю, якая ўтварыла два штучныя возеры — Паненскае і Піянерскае. Абведзены шырокім ровам, дзе ўзровень вады рэгуляваўся, Нясвіжскі замак фактычна ператвараўся ў астраўны. Трапіць у яго з




*Рыс. 47. План Нясвіжа: 1 — замак канца XVI ст., 2 — брама Замкавая, 3 — брама Слуцкая, 4 — брама Клецкая, 5— брама Віленская, 6—9 — кляштары, 10 — ратуша (паводле А. Д. Квітніцкай)*

---

[76] Taurogiński B. Z dziejów Nieświeża, str. 33; яго ж. Nieśwież, str. 22; SGKP, t. 7, str. 118.

горада можна было толькі па доўгім драўляным мосце, які ў выпадку небяспекі лёгка разбіраўся. Драўляны мост даходзіў да абарончага рова, праз які перакідваўся пад'ёмны мост. Ён вёў да 2-павярховай мураванай брамы, прыстасаванай да абароны.

Замак меў у плане форму чатырохвугольніка памерамі 170×120 м, абведзенага высокім земляным валам з бастыёнамі ў нарожніках. Вал, як сведчыць інвентар, меў каменную абмуроўку да самага верху і пераходзіў там у такі ж бруствер. За брустверам размяшчаліся стралковыя ячэйкі і дарожка, па якой перамяшчаліся войскі ў час асады. З боку



*Рыс. 48. Нясвіж XVII ст. З гравюры Т. Макоўскага*

замкавага двара лінія агню баранілася яшчэ адной мураванай сцяной [77]. Яна, відаць, пераходзіла ў такі ж бруствер у выпадку, калі праціўнік прарываўся ўнутр умацаванняў. Унутры валаў меліся мураваныя канюшні і чатыры патаемныя выхады.

У нарожніках бастыёнаў стаялі, паводле інвентара 1658 г., чатыры абарончыя вежы. Параўноўваючы звесткі інвентара з гравюрай Т. Макоўскага, на якой, дарэчы, гэтых веж няма, можна дапусціць, што ў 1658 г. такія вежы існавалі, але ў такім выпадку гэта пабудовы, якія не адносяцца да першапачатковых умацаванняў, зробленых па праекту архітэктара Бернардоні. Патрэба ў іх з'явілася пазней.

Факт узвядзення на бастыёнах Нясвіжскага замка веж з'яўляецца яркім доказам таго, што найноўшыя замежныя фартыфікацыйныя дасягненні выкарыстоўваліся ў адпаведнасці з мясцовымі ваенна-будаўнічымі традыцыямі, а таксама з улікам кліматычных умоў. Менавіта ў гэтым асноўныя прычыны з'яўлення на бастыёнах звыклых для Беларусі нарожных веж.

На гравюры Т. Макоўскага добра бачна, што са знешняга боку вадзяного рова ішла шырокая дарога, якая таксама была абаронена невысокім земляным насыпам — гласісам. У гэтым насыпу меліся паўкруг-

[77] G r u s z e c k i A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu.— KAU, 1965, t. 10, str. 141; T a u r o g i ń s k i B. Nieśwież, str. 22.

лыя ўмацаванні — выступы розных памераў. Адзіночныя выступы былі большымі і размяшчаліся пасярэдзіне лініі гласіса (за выключэннем месца насупраць замкавай брамы). Здвоеныя выступы былі меншымі і знаходзіліся ў нарожніках гласіса. За імі хаваліся стралкі, што абараняді падыходы да замка, а таксама атрады, якія рабілі раптоўныя вылазкі. Гласіс з захаду і поўначы абараняўся равамі, а з астатніх бакоў — ставамі з вадой.

Падыход да брамы замка з захаду быў умацаван трохвугольным шанцам, ад якога адыходзілі дзве пад'язныя дарогі [78].



*Рыс. 49. Нясвіжскі замак. Рэканструкцыя (мастак Я. Кулік)*

Звесткі аб Нясвіжскім замку, прыведзеныя вышэй, даюць дастаткова падстаў для вызначэння яго тыпу. Між тым сярод даследчыкаў па гэтаму пытанню няма адзінства. Ю. Нарановіч-Наронскі, які жыў у сярэдзіне XVII ст., залічаў яго да стараітальянскай сістэмы. Аналагічнай думкі прытрымліваўся і Ф. Маркоўскі. А. Грушэцкі адносіў Нясвіжскі замак да старафранцузскай фартыфікацыйнай школы [79].

На нашу думку, бліжэй да ісціны Ю. Нарановіч-Наронскі і Ф. Маркоўскі. Аднак залічаць Нясвіжскі замак да стараітальянскай сістэмы, відаць, усё ж падстаў мала. Для гэтай сістэмы характэрны замкі з вельмі доўгімі курцінамі і бастыёнамі, якія далёка адстаялі адзін ад аднаго, што рабіла праблематычным як іх узаемную абарону, так і фланкіраванне курцін. Такія яўныя недахопы прымушалі фартыфікатараў узводзіць на курцінах дадатковыя прамежкавыя бастыёны — «піята-форма».

[78] M a r k o w s k i F. Zamek Mikołaja Krzysztofa Radziwilla Sierotki w Nieświeżu.— KAU, 1964, t. 9, str. 158—159; G r u s z e c k i A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu, str. 143.

[79] N a r o n o w i c z-N a r o ń s k i J. Budownictwo obronne. Warszawa, 1957, str. 53; M a r k o w s k i F. Zamek... w Nieświeżu, str. 158; G r u s z e c k i A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu, str. 144.

У Нясвіжы гэтыя абарончыя элементы адсутнічаюць, хаця даўжыня курцін перавышае 170 м.

Акрамя таго, для ўмацаванняў стараітальянскай сістэмы не характэрны крытыя дарогі перад абарончым ровам, а таксама адсутнічалі аслоненыя гласісам спецыяльныя пляцоўкі для абароны перадполля і для вылазкі. Характэрныя для новаітальянскай сістэмы такія пляцоўкі і былі ўпершыню ўжыты ў 1567 г. ваенным архітэктарам Гераламо Катанео з Навары, а потым стала прыжыліся ў фартыфікацыі [80]. Усё гэта,



*Рыс. 50. Натурны здымак замка. Фота В. Ждановіча*

што вельмі важна, ёсць у абароне Нясвіжскага замка і дае нам важкія аргументы для залічэння яго да новаітальянскай сістэмы, а не да стараітальянскай і тым больш да старафранцузскай. Не пярэчаць гэтаму і тыя факты, што ўзводзіў замак вядомы італьянскі архітэктар, які тварыў у перыяд развіцця новаітальянскай сістэмы фартыфікацыі і якому не трэба было шмат разважаць і выбіраць, а тым больш пазычаць ідэі ў французаў, каб прадставіць у 1582 г. Мікалаю К. Радзівілу найбольш дасканалы і прымальны план яго новага замка. Таму мы лічым, што Нясвіжскі замак адносіўся да новаітальянскай сістэмы фартыфікацыі.

Нясвіжскі замак у свой час быў на Беларусі адным з самых магутных

---

[80] К ю и К. Краткий исторический очерк долговременной фортификации. СПб, 1897. с. 20.

і дасканалых. У ім ніколі не бракавала артылерыі, заўсёды меўся вялікі гарнізон. Гэта дазволіла яму ў 1654 і 1659 гг. паспяхова вытрымаць доўгія асады рускіх войскаў. Толькі ў 1706 г. войскі шведскага караля Карла XII пасля працяглай асады і штурму ўзялі замак і ўзарвалі магутныя бастыёны [81].

Новаадбудаваны ў 20-я гады XVIII ст. Нясвіжскі замак паступова страчваў свае першапачатковыя рысы і істотна змяніў аблічча сваёй фартыфікацыі. Мураваныя бастыёны, узарваныя ў 1706 г., саступілі месца новым, узведзеным з зямлі.

Новыя жылыя будынкі надалі замку выгляд вялікасвецкага палацава-замкавага комплексу, абарончыя рысы адышлі на другі план. У залах гэтага замка-палаца захоўваліся немалыя багацці: бібліятэка ў 20 тысяч тамоў, партрэтная і карцінная галерэі, дзе налічвалася звыш 1000 палотнаў, выкананых вядомымі мастакамі, багатыя калекцыі старажытнай зброі, слуцкіх паясоў, карэліцкіх і нясвіжскіх шпалераў і інш., створаных рукамі таленавітых запрыгоненых беларускіх сялян і рамеснікаў.

Тым не менш яшчэ ў 1753 г. у замку было 30 гармат і шмат вогнестрэльнай зброі [82]. З цягам часу Нясвіжскі замак канчаткова страціў стратэгічнае значэнне, але і сёння сляды былых умацаванняў — валы і абарончыя равы, пад якімі з цяжкасцю ўгадваюцца яго першапачатковыя абрысы, пакідаюць моцнае ўражанне.

## Каролін

Помнікам новаітальянскай сістэмы фартыфікацыі з'яўляецца і замак у вёсцы Каролін (прыгарад Пінска). Мяркуючы па гістарычных звестках (старыя планы) і фартыфікацыйна-канструкцыйных элементах, ён узнік у канцы XVI ст. і меў форму падоўжанага 4-вугольніка памерамі 75,6×37,8×46,2×75,6 м, з бастыёнамі на вуглах. Курціны і 4-вугольныя з брустверамі бастыёны былі вымураваны з каменю. Унутры валаў ішоў падземны скляпеністы праход вышынёй 2 м і шырынёй 90 см. У скляпенні праз 4 м меліся невялікія адтуліны шырынёю 20 см для доступу паветра і святла. З падземнага праходу можна было трапіць на бастыёны [83]. Уязная мураваная брама замка фланкіравалася агнём з двух бастыёнаў.

Перад замкам меўся 9-мятровай шырыні роў з пад'ёмным мостам, а па знешнім краі рова, з напольнага боку, стаяла мураваная сцяна, якая дадаткова засланяла подступы да замка. Каб трапіць на замкавы мост, трэба было прайсці праз спецыяльную браму ў гэтай сцяне, пастаўленую пад вуглом і зробленую ў выглядзе захаба.




*Рыс. 51. План замка ў Кароліне*

Неабходна адзначыць, што бастыёны з напольнага боку былі значна большымі, чым з паўднёвага ўсходу, дзе замак бараніўся стромкім берагам і водамі р. Піны.

---

[81] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska, t. 3, str. 630.
[82] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв., с. 213.
[83] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 12, спр. 613, л. 1—2.

У другой палове XVII ст. замкам валодаў маршалак Вялікага княства Літоўскага Ян Дольскі, затым князі Вішнявецкія. У гэты час замак двойчы разбураўся: у ліпені 1660 г., у час аблогі рускімі войскамі, і ў 1704 г. войскамі Карла XII. У пачатку XIX ст. тут яшчэ былі цэлымі 2 бастыёны і курціна «с ветхими каменными одеждами» [84]. Цяпер замак не існуе.

## Ляхавіцкі замак

Шмат выпрабаванняў у XVI—XVIII стст. выпала на долю Ляхавіцкага замка. Ляхавічы, вядомыя з XV ст., доўгі час мелі драўляныя абарончыя збудаванні. Замак спачатку адносіўся да дзяржаўных уладанняў. У 1572 г. Ляхавічы, паводле дзённіка Ф. Еўлашэўскага, перайшлі да буйнога магната Яна Хадкевіча, які ў 1605 г. разбіў шведаў пад Кірхгольмам і ў 1621 г. турак — пад Хоцінам. Відаць, пры ім і пабудавалі магутны бастыённы замак, які лічыўся самым моцным з падобных збудаванняў не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Толькі зімою 1595—1596 гг. яго чатыры разы беспаспяхова штурмавалі казацкія загоны Налівайкі і Шаулы. Затым замак яшчэ чатыры разы вытрымліваў аблогі.

З 1621 г. гаспадаром замка стаў гетман Вялікага княства Літоўскага Павел Сапега [85].

На гравюры невядомага мастака, які паказаў Ляхавіцкі замак у час адной з асад у 1660 г., добра бачны яго размяшчэнне і планіровачныя асаблівасці. Замак меў у плане форму чатырохвугольніка з чатырма вялікімі бастыёнамі развітай канфігурацыі і брустверамі, у якіх былі байніцы для гармат і стралкоў. Ён знаходзіўся на левым беразе р. Ведзьмы, на высокім пагорку. Дзякуючы сістэме рвоў і рацэ, вада ў якіх падымалася спецыяльнай плацінай, замак фактычна быў астраўным.

Паводле гістарычных звестак, земляныя ўмацаванні замка былі абмураваны каменем і цэглай.

На гравюры відаць, што траплялі ўнутр замка па разводным мосце, перакінутым цераз вадзяны роў, і затым праз мураваную абарончую браму, на версе якой знаходзілася гадзіннікавая вежа. У глыбіні двара, насупраць брамы, стаяў 2-павярховы каменны палац, пабудаваны ў форме літары «П». Злева і справа ад брамы, уздоўж курцін, размяшчаліся розныя гаспадарчыя службы.

Па гравюры цяжка вызначыць, з чаго былі зроблены брустверы на бастыёнах і курцінах. Толькі на бастыёнах, звернутых у бок горада, выразна відаць байнічныя праёмы бруствераў, разлічаныя на стральбу з гармат, што дае падставы лічыць, што яны былі мураванымі. Але маглі быць і драўлянымі. Гэта не пярэчыць фактам, вядомым з гісторыі. Дрэваземляныя ўмацаванні ў XVII і XVIII стст. былі шырока распаўсюджаны на польскіх і беларускіх землях. Прычым ролю бруствераў часта выконвалі парканы.

Ляхавіцкі замак за час свайго існавання неаднаразова трапляў у аблогу. Ужо ў самым пачатку руска-польскай вайны, у 1654 г., атрады рускіх войскаў «...заходили к городу Ляховичам, и посады и слободы

---

[84] SGKP, t. 3, str. 851; ЦДВГА СССР, ф. ВУА, спр. 18840, л. 74, 77 адв.; ЦДГА СССР, ф. 1350, воп. 312, спр. 90, л. 70, 74 адв.; ЦДВГА СССР, ф. 349, воп. 1, спр. 186, л. 1.
[85] Baliński M., Lipiński T Starożytna Polska, t. 3, str. 654—656; Ткачоў М. А., Цярохін С. Ф. Ляхавіцкая фартэцыя.— ПГКБ, 1973, № 1, с. 22.

около Ляхович пожгли, которых литовских людей застали в посаде и слободах, тех побили и языков поимали»[86]. Аднак да аблогі магутнага замка войска не прыступіла. Думаецца, галоўная прычына ў тым, што тады ў Ляхавіцкай фартэцыі быў значны гарнізон, які меў добрае ўзбраенне, у тым ліку нямала гармат. З інвентара замка за 1658 г. вынікае, што на бастыёнах стаяла 30 гармат. На «бульверку ад саду» размяшчалася 8 гармат розных калібраў — ад 1,5 да 24 фунтаў. Прычым кожная з іх мела сваю назву: Пярун, Малпа, Кіт, Сокал, Воўк, Спявак і інш. На «бульверку Водным» мелася таксама 8 гармат калібрам ад 1 да 24 фун-



*Рыс. 52. Ляхавіцкі замак. Рэканструкцыя паводле гравюры XVII ст.*

таў; на «бульверку пры кавальеры Рынковым» — 9 гармат; на апошнім бастыёне, які лепш за іншыя быў абаронен прыродаю, стаяла толькі 5 гармат — Пелікан, Пішчык, Бурнікель, Шведскае, Маленькае. Нямала было ручной вогнестрэльнай зброі — гакаўніц, шмыгаўніц, мушкетаў, «янычарак» і інш., а таксама значных запасаў ваеннага рыштунку[87].

У пачатку 1660 г. войскі князя А. І. Хаванскага пачалі асаду замка, якая зацягнулася на шэсць месяцаў. У канцы чэрвеня 1660 г. на дапамогу гарнізону падышлі войскі гетмана П. Сапегі і ваяводы С. Чарнецкага, якія разбілі асаджаўшых і захапілі вялізны абоз з ваенным рыштункам. Пасля гэтага Ляхавічы, вызваленыя на 9 гадоў ад усіх падаг-

[86] ЦДАСА СССР, ф. 210, стб. 274, л. 124.
[87] Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с нею владений (1387—1710 гг.), ч. 1. Вильно, 1858, с. 116—117.

каў спецыяльнай пастановай сейма 1661 г., аж да пачатку XVIII ст. не ведалі войнаў. Тым не менш сейм Рэчы Паспалітай дазволіў Сапегу за кошт дзяржавы трымаць гарнізон у 200 чалавек. Частку гармат, 19 штук, перавезлі ў 1703 г. у Слуцкі замак [88]. Толькі ў 1706 г. у Ляхавічах зноў загрымелі гарматы: войскі Пятра I, што заселі ў замку, адбівалі шалёныя штурмы войск шведскіх генералаў Траутфэтэра і Крэйца. У 1709 г. рускія войскі аблажылі Ляхавіцкі замак, дзе сядзеў гетман Мазепа. У 1775 г. сейм Рэчы Паспалітай адабраў замак у віленскага біскупа I. Масальскага і вярнуў дзяржаве па прычыне яго вялікага значэння для абароны [89]. Апынуўшыся ў складзе Расійскай імперыі, Ляхавіцкі замак страціў сваё ранейшае стратэгічнае значэнне. У першай палове XIX ст. яго прадалі гандлярам, якія разабралі абмуроўку замка і мураваныя пабудовы. Цяпер ад яго захаваліся толькі сляды былых валаў ды заплыўшыя равы, якія дасягаюць 15 м шырыні.

Планава-кампазіцыйны і структурны аналіз Ляхавіцкага замка не дазваляе нам пагадзіцца з вывадам Ф. Маркоўскага, які адносіць яго да мадыфікацыі стараітальянскай школы [90]. На нашу думку, гэта помнік новаітальянскай сістэмы ўмацаванняў.

Несумненна, узвядзенне ў Заслаўі, Нясвіжы і Ляхавічах замкаў з умацаваннямі новага тыпу было заўважана і ацэнена іншымі беларускімі магнатамі, якія па сваіх багаццях не ўступалі Глябовічам, Хадкевічам і Радзівілам. Аднак перш чым іншыя феадалы пачалі будаўніцтва новых замкаў, у еўрапейскай ваеннай фартыфікацыі адбыліся значныя змены, у выніку чаго карэнным чынам змянілася структура бастыённых умацаванняў. Бясспрэчныя перавагі галандскай сістэмы ўмацаванняў, у першую чаргу высокая таннасць і скарачэнне тэрміну пабудовы, здабылі ёй паўсюдны аўтарытэт. У Нідэрланды пачынаюць спецыяльна ездзіць вучыцца з многіх краін Еўропы, у тым ліку і з Беларусі. Напрыклад, Януш Радзівіл вучыўся ў вядомага матэматыка і фартыфікатара Адама Фрэйтага і нават прымаў удзел у асадзе горада Геды. Галандскіх архітэктараў сталі запрашаць да сябе. Вядома, што ў канцы XVI — пачатку XVII ст. на Беларусі і ў Літве працавалі галандцы Ван Лаер, Нонхард, Голанд, Валон, Данден і інш. [91]

У пачатку XVII ст. на Беларусі з'явіліся прыватнаўласніцкія замкі, пабудаваныя на прынцыпах старагаландскай фартыфікацыйнай сістэмы. Сярод іх трэба адзначыць замкі Жаберскі, князя Чартарыйскага, Новы замак у Слуцку і інш.

## Жабер

Рэшткі Жаберскага замка знаходзяцца паблізу в. Жабер Драгічынскага раёна, у 3 км на паўночны захад ад яе. Тут на правым беразе р. Ясельды на высокім пясчаным пагорку ў XVII — пачатку XVIII ст. стаяў замак князёў Вішнявецкіх.

---

[88] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв., с. 151, 209.
[89] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska, t. 3, str. 659; t. 5, str. 56.
[90] Markowski F. Zamek Mikałaja Krzysztofa Radziwilla Sierotki.— KAU, 1964, t. 9, str. 158.
[91] AGAD (Warszawa) Archiwum Radziwillowskie, N 3877, dz. 5, teka 86, list 1632; Квитницкая Е. Д. Белоруссия. Архитектура XVII в.— У кн.: Всеобшая история архитектуры, т. 6. М., 1968, с. 477; Чантурия В. А. История белорусской архитектуры, с. 27.

Па тых часах гэта было першакласнае ўмацаванне, якое мела форму, блізкую да правільнага чатырохвугольніка, з вялікімі бастыёнамі на вуглах, абведзенае высокімі валамі-курцінамі. Брустверы замкавых земляных умацаванняў былі зроблены ў выглядзе звычайнага дубовага палісада.

З трох бакоў — з поўначы, усходу і поўдня — вакол замка ішоў вадзяны роў шырынёю да 20 м і глыбінёю каля 5 м. З чацвёртага — заходняга — боку ён надзейна бараніўся водамі р. Ясельды і яе левым балоцістым берагам. Схілы бастыёнаў і вала з боку ракі былі абкладзены бярвеннем, відаць, для таго, каб прадухіліць размыванне пясчанага насыпу павадкавымі водамі. Плошча замкавага двара каля 1,5 га.

Замчышча на 5—7 м узвышаецца над раўніннай мясцовасцю, і гэта ў спалучэнні са штучнымі ўмацаваннямі мела немалое значэнне ў яго абароне.

Трапіць унутр замка можна было толькі па мосце цераз вадзяны роў, які некалі размяшчаўся з усходняга боку. Верагодна, тут, як і ў іншых аднатыпных замках, таксама мелася мураваная ўваходная брама. Цяпер ад яе засталіся толькі руіны і падмуркі, якія добра бачны з усходняга боку замка. Ёсць звесткі аб існаванні ў замку калодзежа.




*Рыс. 53. План Жаберскага замка*

У час Паўночнай вайны на долю Жаберскага замка выпалі суровыя выпрабаванні. Польскі кароль Станіслаў Ляшчынскі, прыхільнік шведскага караля Карла XII, 13 мая 1706 г. акружыў яго са сваім войскам і прапанаваў абаронцам здацца. Гарнізон колькасцю ў 700 чалавек, які меў дастаткова боепрыпасаў, адхіліў прапанову і адказаў на яе гарматнымі залпамі. Пасля некалькіх няўдалых спроб захапіць умацаванні С. Ляшчынскі атрымаў дадатковае войска ад шведаў, якое ўзначальваў генерал Майерфельд. Але і яму нічога зрабіць не ўдалося. Тады сам Карл XII прыбыў сюды з новым войскам. Шведы аблажылі замак шчыльным кольцам. З Пінску па загаду Карла XII падцягнулі цяжкую артылерыю, з дапамогай якой шведы спадзяваліся разбіць бастыёны, а затым зламаць упартую абарону гарнізона рашаючым штурмам. Але справа да гэтага не дайшла. Камендант замка немец Ботман, падкуплены за 2 тысячы дукатаў, загадаў гарнізону здацца без бою і адчыніць вароты. Пасля гэтага Карл XII загадаў зраўняць умацаванні з зямлёй, спаліць дамы і магазіны, а трафейныя гарматы закляпаць. Па некаторых звестках гарматы былі затоплены ў р. Ясельдзе ў вадзяным рове.

Жаберскі замак меў настолькі важнае ваеннае значэнне, што Карл XII, пакідаючы Пінск, яшчэ раз прыехаў сюды, каб пераканацца, што яго загад аб знішчэнні ўмацаванняў выканан [92].

Вядома, што ў пачатку XX ст. 8 гармат былі выцягнуты мясцовымі жыхарамі. (Адна з іх захоўваецца цяпер у музеі Варшавы.) Тады ж

---

[92] B a l i ń s k i M., L i p i ń s k i T. Starożytna Polska, t. 3, str. 794; SGKP, t. 14, str. 182.

было знойдзена некалькі ядзер, польскія і шведскія манеты XVII—XVIII стст. [93]

Пры археалагічным абследаванні пляцоўкі былога замкавага двара сабраны керамічныя вырабы XVII—XVIII стст., кавалкі цэглы і чарапіцы, паліванай і непаліванай кафлі і манета 1660 г. Цяпер пляцоўка былога ўмацавання разворваецца. Валы знесены.

## Замак князя Чартарыйскага

У XVII ст. бастыённая сістэма ўмацаванняў настолькі шырока распаўсюдзілася, што яе пачалі ўжываць пры абароне глыбінных маёнткаў асобных магнатаў. Цікавым прыкладам мясцовай мадыфікацыі гэтай сістэмы з'яўляецца замак князя Чартарыйскага, размешчаны паміж вёскамі Налезнікі і Крыўляны Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці.




*Рыс. 54. План замка князя Чартарыйскага*

Перш за ўсё трэба адзначыць, што ў адрозненне ад вышэйразгледжаных замкаў гэты не мае той правільнай геаметрычнай формы ў плане, якой вызначаюцца Нясвіжскі, Ляхавіцкі, Жаберскі і інш. Па-другое, здзіўляе плошча самога замчышча, якая перавышае 11 га. З заходняга боку адсутнічаюць штучныя земляныя ўмацаванні, паколькі размешчаныя тут балоты, балоцістая рачулка і вадзяны роў, відаць, надзейна баранілі замак. У гэтым жа куце замчышча размяшчаўся штучны стаў для гадавання рыбы, плошчай у чвэрць гектара. Ён быў абведзен земляным валам і злучаўся спецыяльным ровам з рачулкай.

Найбольшую магутнасць земляныя ўмацаванні маюць з паўднёва-ўсходняга боку, дзе існаваў праезд у замак. Тут земляныя валы дасягаюць 7—8 м шырыні ў аснаванні і вышыні 4 м над пляцоўкай замчышча. Перад валам ляжыць роў глыбінёй да 4 м і шырынёй 13—15 м.

## Маладзечна

Маладзечна па пісьмовых крыніцах вядома з 1388 г., калі яно належала да велікакняжаскіх уладанняў [94]. Спачатку тут існаваў традыцыйны «двор», і толькі з цягам часу, калі паселішча разраслося і эканамічна ўзмацнела, на процілеглым ад яго правым дрыгвяністым беразе р. Вушы быў узведзен замак. Будаўнікі ўдала скарысталі рэльеф і прыродныя ўмацаванні, якія адыгрывалі важную ролю ў абароне прыват-

---

93 ЦДГА БССР у Гродна, ф. 14, воп. 1, спр. 74, л. 202.
94 Каханоўскі Г. А. Маладзечна. Мінск, 1971, с. 7.

наўласніцкага замка. Спачатку фартыфікатары праклалі па балоце грэблю ў два ярусы і вымасцілі бярвеннем участак памерам 120×80 м, потым насыпалі з пяску і жвіру штучную пляцоўку вышынёю каля 4 м. Па яе краях былі зроблены глініста-пясчаныя валы вышынёю да 3,5 і шырынёю 11 м. Уезд у замак быў з заходняга боку, дзе ў тоўшчы вала стаяла брама з шырынёю праезжай часткі ў 4 м. Унутры вала, у месцах яго прымыкання да брамы, меліся спецыяльныя мураваныя сценкі, якія прадухілялі апаўзанне насыпу вала. Яны дасягалі 3,5 м даўжыні і 0,7 м таўшчыні.

На вяршыні валаў стаялі драўляныя сцены венчатай канструкцыі, а на вуглах — вежы. Паколькі Маладзечна неаднойчы аказвалася ў па-




*Рыс. 55. План Маладзечанскага замка*

ласе ваенных дзеянняў XVI—XVIII стст., сцены яго неаднаразова знікалі ў полымі пажараў.

У планава-кампазіцыйных адносінах Маладзечанскі замак не вылучаўся сярод тагачасных роднасных яму пабудоў: гэта было прамавугольнае ў плане збудаванне са скругленым усходнім бокам.

У XVII ст. на вуглах замка ўзвялі бастыёны галандскага тыпу, што адпавядала зменам у тактыцы абароны і аблогі. Ля аснавання насыпаў бастыёнаў для прадухілення апаўзання зямлі былі пастаўлены загародкі слупавай канструкцыі.

На замкавым падворку ў XVIII ст. быў узведзен мураваны рэпрэзентантны палац князёў Агінскіх, пакрыты чарапіцай-дахоўкай, з вялікімі і светлымі пакоямі, распісанымі фрэскамі сценамі, з пячамі з паліванай кафлі розных малюнкаў. Цяпер ад палаца засталіся толькі падмуркі і сляды скляпоў.

Яшчэ адзін замак з бастыённай сістэмай умацаванняў маецца ў г. Высокае (Камянецкі р-н Брэсцкай вобл.). Паселішча, вядомае па гістарычных дакументах з XIV ст., у пачатку XVI ст. ужо атрымала Магдэбургскае права і было значным гандлёвым цэнтрам. Размешчанае па берагах р. Пульвы на скрыжаванні гандлёвых шляхоў, яно належала драгічынскаму намесніку маршалку Івану Храптовічу, а ў 1647 г. перайшло да Сапегаў. Відаць, пры Паўлу Сапегу, ваяводзе віцебскім, тут і ўзвялі земляныя ўмацаванні з бастыёнамі. Будаўнікі выкарысталі правы высокі бераг ракі, якую падпёрлі плацінаю, і, такім чынам, стварылі штучнае абвадненне. Замак з усіх бакоў абкружала вада.

З паўночнага ўсходу, дзе размяшчаўся ўезд, меўся шырокі стаў. Праз яго быў перакінут пад'ёмны мост, які падводзіў да 2-павярховай з трыма варотамі цаглянай вежы-брамы, схаванай у тоўшчы землянога вала. У ёй размяшчалася кардыгарда, збраёўня і пад'ёмны механізм




*Рыс. 56. Высокае. План замка XVII ст.*

моста. Падыходы да брамы фланкіраваліся з двух магутных наражных бастыёнаў і дзвюх курцін. Невялікія бастыёны меліся таксама з поўначы і захаду. На вялікім замкавым дзядзінцу стаялі драўляны палац і гаспадарчыя службы.

Замак моцна пацярпеў у час руска-польскай вайны сярэдзіны XVII ст. і Паўночнай вайны, але потым зноў быў адноўлен. Цяпер існуюць земляныя валы і брама замка.

Мясцовае мураванае дойлідства XVII ст. працягвала развівацца ў русле даўніх традыцый і з улікам тагачаснай тактыкі аблогі і абароны, творча выкарыстоўвала дасягненні агульнаеўрапейскай і мясцовай фартыфікацыі. У гэтым плане вельмі паказальныя замкі ў Мядзелі, Гальшанах і Гайцюнішках.

### Мядзел

Старажытны Мядзел — пагранічны горад Полацкай зямлі — узнік у XI ст. на востраве воз. Мядзел [95], ад якога і атрымаў сваю назву. Гарадзішча захавалася добра. Яно мае авальную форму, памеры 70×52 м і ўзвышаецца ўсходнім краем над возерам на 10 м. З трох бакоў гарадзішча абмывалася вадой, а з чацвёртага — заходняга — мела 20-мятровай шырыні роў, глыбіня якога цяпер перавышае 4 м. Стромкія схілы паселішча надзейна баранілі жыхароў ад раптоўных нападаў. Важную ролю ў гэтым адыгрывалі і дрэваземляныя ўмацаванні, узведзеныя па краю пляцоўкі паселішча. З напольнага заходняга боку вал узвышаўся над паселішчам больш за 5 м, засланяючы сваім грэбнем з драўлянымі канструкцыямі ад прамога паражэння стрэламі праціўніка. З астатніх бакоў вал быў слабейшы, аднак таксама ўзведзены з гліны вельмі шчыльнай структуры і з абодвух бакоў забрукаваны валунамі. Тройчы гарэлі драўляныя ўмацаванні парубежнага горада, пакуль дзесьці ў канцы XIV — пачатку XV ст. ён не спыніў свайго існавання. Даследчыкі лічаць прычынаю таму моравую пошасць, якая прымусіла жыхароў пакінуць горад і пасяліцца на беразе воз. Мястра, дзе яны заснавалі новае паселішча з такою ж назваю. Да XX ст. горад падзяляўся на Новы і Стары Мядзел, якія вядомы ў гістарычных дакументах з сярэдзіны XV ст. Стары Мядзел быў уласнасцю многіх буйных магнатаў. Новы Мядзел лічыўся каралеўскім уладаннем. Абнесены знешнім абарончым валам, ён быў разбуран у 1519 г. пад час вайны з Рускай дзяржавай і пазней моцных умацаванняў не меў [96].

У другой палове XVI — пачатку XVII ст. на востраве воз. Мястра быў пабудаван каралеўскі мураваны замак, які злучаўся з горадам драўляным мостам.

Замак стаяў на пагорку, насып якога часткова штучна падвысілі, а схілы ўмацавалі глінай. Замчышча ўзвышаецца над возерам і балоцістым поплавам на 3,5—4 м. Вакол замка, з поўдня, захаду і поўначы, некалі існаваў дадатковы абарончы вал з невялікімі землянымі бастыёнамі. Цяпер гэты вал захаваўся толькі часткова — з заходняга боку вышынёй 2 м пры шырыні аснавання 12 м. Перад валам меўся шырокі і глыбокі роў, які злучаўся з водамі воз. Мястра. Асобныя ўчасткі гэтага рова і цяпер дасягаюць шырыні 10—12 м і глыбіні 1,5—2 м.

Характэрнай асаблівасцю Мядзельскага замка з'яўляецца тое, што

---

[95] Алексеев Л. В. Полоцкая земля. М., 1966, с. 82.
[96] Чарняўскі М. М., Роўда С. І. Мядзел.— БелСЭ, т. 7, с. 335—336.

яго ўмацаванні спалучаюць як элементы заходнееўрапейскай фартыфікацыі, так і мясцовыя абарончыя элементы.

Уся пляцоўка замчышча, якая мае форму выцягнутага прамавугольніка, абведзена традыцыйным для Беларусі мурам. Ніжняя зона падмурка складзена на гліне. Прычым самы ніжні рад камянёў ляжыць на дубовых плахах. Гэта характэрна для тагачаснага ваеннага дойлідства не толькі Беларусі, але Літвы і Маскоўскай Русі [97]. З боку горада таўшчыня замкавых муроў найбольшая — да 2 м, а з іншых бакоў, надзейна прыкрытых возерам, яна меншая — ад 1,5 да 1,7 м. У паўднёва-ўсходнім куце замка выяўлены падмуркі цыліндрычнай вежы. Яна мела 2-мятровай таўшчыні сцены і дыяметр 10 м.

У паўночна-ўсходнім куце замкавых сцен знаходзіўся жылы будынак, верагодна, палац, памерамі 20×10 м. Пад будынкам існавалі падвалы са скляпеністымі перакрыццямі, часткова ўцалелыя да сённяшніх дзён. Складзен будынак з камянёў і баразёначнай цэглы і меў таўшчыню сцен каля 2 м.

Побач з гэтым у Мядзельскім замку існавалі ўмацаванні іншага тыпу — паўкруглыя мураваныя бастэі, разлічаныя, верагодней за ўсё, на размяшчэнне тут гармат і стральбу ўздоўж сцен. Бастэі меліся з найбольш небяспечных бакоў — паўночнага і ўсходняга. На ўсходнім прасле сцяны іх тры, на паўночным і заходнім — па адной. Таўшчыня іх сцен дасягала 2,5 м. Вядома, што бастэі ўжываліся ў XVI ст. [98]




*Рыс. 57. Мядзельскі замак на востраве воз. Мястра*

Паводле гістарычных звестак, у арсенале замка ў 1564 г. акрамя ручной вогнестрэльнай зброі меліся гарматы: 2 сярэднія фальканеты і 2 серпянтыны [99].



*Рыс. 58. Малюнак замка з карты XVII ст.*

[97] Михайлов Онисим. Устав ратных, пушечных и других дел, касающихся до военной науки, ч. 1. СПб, 1777, с. 93.

[98] Шперк В. Фортификационный словарь. М., 1946, с. 11.

[99] Nowak T. Z dziejów techniki wojennej w dawniej Polsce. Warszawa, 1965, str. 113.

Мураваныя сцены, вежы і бастэі ў спалучэнні з ніжнім поясам абароны — земляным валам з бастыёнамі, вадзяным ровам і, нарэшце, водамі воз. Мястра доўгі час былі месцам надзейнага сховішча мясцовых жыхароў.

Разбуран замак у гады Паўночнай вайны.

### Гальшаны

Паселішча Гальшаны з драўляным замкам, вядомае па летапісах з XIII ст., знаходзілася на высокай самароднай гары над р. Карабель на паўночны ўсход ад сённяшняй вёскі Гальшаны, якая размясцілася на левым беразе р. Лусты (Жыганкі). Князі Гальшанскія валодалі замкам да 1525 г., а потым, пасля шлюбу княжны Алены Гальшанскай з Паўлам Сапегай, ён перайшоў да роду Сапегаў.

Драўляны нагорны замак дзесьці ў XV ст. часткова быў заменен мураваным, але на мяжы XVI і XVII стст. яго пакідаюць, і новая рэзідэнцыя будуецца ўнізе — на беразе р. Лусты.

Гальшанскі мураваны замак, пабудаваны ў пачатку XVII ст. на сродкі ашмянскага старасты Паўла Сапегі, з'яўляецца нагляднай ілюстрацыяй тых значных змен у архітэктуры, якія адбыліся на працягу стагоддзя. Сваёй кампазіцыяй ён аддалена нагадвае Мірскі замак і ў плане набліжаецца да квадрата (88,6×95,6 м). Жылыя карпусы з вежамі на вуглах утвараюць замкнёны (каля 60×60 м) квадратны двор. Магутныя абарончыя сцены, характэрныя для замкавага будаўніцтва XVI ст., у Гальшанах саступілі месца фасаду 3-павярховага жылога дома. Тут ужо няма надбрамнай вежы і ўезд зроблен па цэнтру ўсходняй сцяны. Вуглавыя 6-кантовыя вежы сталі меншыя і больш стройныя. Яшчэ па адной вежы мелі паўночная і паўднёвая сцены. У іх размяшчаліся жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Хаця вежы яшчэ канчаткова не страцілі свайго абарончага значэння, аснова абароны Гальшанскага




*Рыс. 59. Гарадзішча ў Гальшанах. План паводле Я. Г. Звяругі*

замка яўна перамясцілася на земляныя ўмацаванні — магутныя валы і вадзяныя равы, што абкружалі замак. Сваёй планава-кампазіцыйнай схемай Гальшанскі замак нагадвае сучасныя яму галандскія замкі Бэсенштэен і Клейдаець пад Антверпенам, хаця і адрозніваецца ад іх прапорцыямі, масіўнасцю і дэталямі планіроўкі [100].

Такое падабенства тлумачыцца тым, што Беларусь, знаходзячыся ў складзе Рэчы Паспалітай, адчувала моцны ўплыў галандска-фламандскай архітэктуры, што было вынікам ажыўленых сувязей Польшчы з краінамі Паўночнай Еўропы. З канца XVI і да пачатку XVIII ст. на



*Рыс. 60. Гальшанскі замак. Малюнак Я. Драздовіча*

землях Рэчы Паспалітай рэзідэнцыі магнатаў будаваліся з анфіладнай планіроўкай памяшканняў, якія абкружалі ўнутраны двор — курданёр з аркаднымі галерэямі і нарожнымі вежамі. Па такому прынцыпу былі пабудаваны польскія замкі Баранаў (1579—1602), Красічын (1592—1614), Суха (1614) [101]. Гальшанскі замак па архітэктурнай кампазіцыі, планіроўцы і часткова памерах вельмі падобны да іх. Аднак ён не мае багатай дэкаратыўнай апрацоўкі фасада, а таксама адрозніваецца памерамі і формай вуглавых веж. Затое ўнутранае ўбранне замка ў Гальшанах не ўступала польскім. Сцены жылых пакояў і залаў, калоны і сценкі аконных праёмаў былі ўпрыгожаны роспісам. Столь і абрамленне камінаў і вокнаў аздабляла разнастайная лепка. У паўночным куце замка на першым паверсе знаходзілася раскошная парадная зала, крыжовыя скляпенні якой абапіраліся на чатыры стройныя калоны. Уздоўж сцен віселі партрэты прадстаўнікоў роду Сапегаў, жывапісныя палотны і зброя. Вокны, што выходзілі на замкавы двор, мелі вітражы з тоўстага шкла. Каменныя пліткі падлогі гарманіравалі з дарагой мэбляй: крэсламі, мармуровымі столікамі, бронзай падсвечнікаў. Сучаснікі лічылі

---

[100] Квитницкая Е. Д. Белоруссия. Архитектура XVII в., с. 480.

[101] Захватович Ян. Польская архитектура. Варшава, 1967, с. 155—156. Рыс. 59, 60; Квитницкая Е. Д. Белоруссия. Архитектура XVII в., с. 481.



*Рыс. 61. Вуглавая вежа замка. Малюнак Я. Драздовіча*



*Рыс. 62. Гальшанскі замак. Рэканструкцыя*

Гальшанскі замак самым выдатным і прыгожым замкам Беларусі і Літвы.

У гады Паўночнай вайны замак большай часткай быў разбуран шведамі. Давяршыў яго знішчэнне ў 1880 г. апошні гаспадар Гарбанёў. Ён узарваў вежы і сцены, а цэглу пусціў на пабудову карчмы. Часткова ўцалелі дзве вежы і ўсходняе крыло палаца. Але і ў такім стане велічныя руіны рабілі незабыўнае ўражанне на сучаснікаў [102].

### Гайцюнішкі

Яркай і рэдкай ілюстрацыяй эпохі сярэдневякоўя, па берагі перапоўненага войнамі, феадальнымі міжусобіцамі і звадамі, з'яўляецца мініяцюрны замак феадала ў в. Гайцюнішкі Воранаўскага раёна Гродзенскай

[102] J a n k o w s k i Cz. Powiat Oszmiański, cz. 1. Peterburg, 1896, str. 204; SGKP, t. 3, str. 102; L o r e n t z St. Wycieczki po województwie Wileńskim, str. 43—45; Tygodnik Illustrowany, 1900, N 6, str. 115.

вобласці. Ён узведзен у 1611—1612 гг. па ўласным праекце гаспадара галандца Пятра Нонхарта, які быў шэфам фартыфікацыйных збудаванняў у Вялікім княстве Літоўскім. Мяркуецца, што ў будаўніцтве прымаў удзел і галандскі інжынер-фартыфікатар Ван Лаэр [103].

Замак мае ў плане прамавугольнік 34×15 м, на кожным рагу якога стаіць невялікая вежа цыліндрычнай формы. Сцены веж праразаюць вокны-байніцы. Замак 2-павярховы, і толькі рызаліт яго ў выглядзе 3-павярховай вежы ўзвышаецца па цэнтру фасада. Замак меў тыповы для XVII ст. партал. Над першым паверхам зроблена скляпеністае перакрыцце, над другім паверхам — перакрыцце па бэльках. Будынак




*Рыс. 63. Гайцюнішкі. Абмерныя чарцяжы паводле У. Л. Чантурыі*

абкружаў вадзяны абарончы роў. Як і ў большасці замкаў Беларусі, тут на фасадах амаль поўнасцю адсутнічае архітэктурная дэкарыроўка. Мастацкая выразнасць дасягаецца за кошт аб'ёмнасці будовы, круглых веж, высокіх дахаў і кампактнасці плана. Разам з тым у архітэктуры будынка відавочна сувязь з архітэктурай замкаў Галандыі.

Пасля смерці гаспадара ў 1633 г. замак перайшоў да Юрыя Храптовіча, ваяводы навагрудскага, затым да мастака Шрэтэра, які ўпрыгожыў сцены роспісамі бытавога жанру і сцэнамі з палявання. Пазней замкам валодалі Рымшы, Сакены і інш. Вядома, што ў перыяд Паўночнай вайны замак значна пацярпеў [104]. Цяпер замак у добрым стане.

[103] Morelowski M. Zarysy syntetyczne..., str. 223—224; Квитницкая Е. Д. Белоруссия. Архитектура XVII в., 1968, с. 481.
[104] Morelowski M. Zarysy syntetyczne..., str. 223—226

Як бачым, у XV—XVII стст. на землях Беларусі атрымалі шырокае распаўсюджанне прыватнаўласніцкія замкі. У канцы XV — пачатку XVI ст. яны сталі набываць рысы свецкай архітэктуры, ператвараючыся ў палацава-замкавыя комплексы. Функцыі абароны паступова пераходзяць з замка на знешнія лініі ўмацаванняў — земляныя валы і равы. Развіваючыся ў рэчышчы мясцовых будаўнічых традыцый, беларускае ваеннае дойлідства з сярэдзіны XVI ст. узбагачалася навейшымі дасягненнямі заходнееўрапейскай фартыфікацыі. У выніку гэтага тут і быў створан цэлы шэраг першакласных замкаў.

# IV. АБАРОНЧЫЯ ЗБУДАВАННІ ГАРАДОЎ. ІНКАСТЭЛЯВАНЫЯ ХРАМЫ

## ПРЫВАТНАЎЛАСНІЦКІЯ ГАРАДЫ, ПРЫНЦЫПЫ І СТРУКТУРА ІХ АБАРОНЫ

Значная колькасць беларускіх гарадоў (больш 40%) у XVI—XVIII стст. з'яўлялася прыватнай уласнасцю асобных магнатаў. Да іх адносіліся Друя, Нясвіж, Мір, Клецк, Копысь, Тураў, Шклоў, Стары і Новы Быхаў, Глуск, Давыд-Гарадок, Капыль, Слуцк і інш. [1]

Як і гарады Заходняй і Усходняй Еўропы, беларускія гарады характарызуе развітая сістэма ўмацаванняў. Клопаты магнатаў аб стане гарадской фартыфікацыі былі прадыктаваны неабходнасцю мець моцныя абарончыя цэнтры. Таму іх пабудова ў значнай ступені залежала ад ініцыятывы магнатаў, якія такім чынам імкнуліся ўмацаваць сваю ўладу і палітычныя пазіцыі сваіх родаў на прыдбаных землях, а таксама застрахавацца на выпадак антыфеадальных выступленняў прыгнечаных мас [2].

Аднак не ўсе з такіх гарадоў мелі фартыфікацыйныя збудаванні вялікага стратэгічнага значэння, бо магнаты не бачылі неабходнасці мець умацаваныя гарады ў цэнтры кожнага феадальнага ўладання, тым больш у глыбіні сваіх даменаў.

Невялікія прыватнаўласніцкія гарады звычайна мелі фартыфікацыйныя збудаванні самых розных тыпаў.

Любча, паводле інвентара 1651 г., была ўмацавана парканам, з захаду — вежамі і мела дзве брамы «прускага муру» — фахверкавай канструкцыі: «пры вуліцы Наваградскай брама па-пруску з цэглы ў дрэва муравана, з вежай, аздобленай і высока ўзнятай», і «пры вуліцы Сенненскай ад поля брама па-пруску з цэглы ў дрэва муравана з вежай» [3].

У Койданаве меўся абарончы вал, на якім стаяў старажытны мураваны замак з вежамі [4]. Мураваныя ўмацаванні меў спачатку і сярэдневяковы замак у Клецку.

Умацаванні Лагойска складаліся з землянога вала і драўляных умацаванняў, спаленых у 1505 г. татарамі і ў 1706 г.— шведамі [5]. Валам з парканам быў умацаван і Давыд-Гарадок. Прычым на замку ў 1724 г., паводле інвентара, яшчэ меліся паркан і ўязная 2-павярховая драўляная брама, перад якой быў мост «на быках» [6].

[1] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Минск, 1975, с. 5.
[2] Hryckiewicz A. P. Warowne miasta magnackie na Białorusi i Litwie.— Przegląd historyczny, 1970, t. 11, str. 429.
[3] Rewieńska W. Miasta i miasteczka w północno-wschodniej Polsce. Wilno, 1938, str. 42. Існаванне парканаў аспрэчвае С. Александровіч (гл.: Aleksandrowicz St. Opis zabudowy m-ka Lubcza w 1644 r.— KHKM, 1962, z. 3—4, str. 618).
[4] Валахановіч А. І. Дзяржынск. Мінск, 1977, с. 9.
[5] Tyszkiewicz K. Wiadomość historyczna o zamkach..., str. 205.
[6] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 2, спр. 1701, л. 2.

Умацаванні, падобныя вышэйпрыведзеным, былі ў многіх прыватных гарадах Заходняй Беларусі: Чашніках, Сянно, Друі, Друцку, Маладзечна, Лоску і інш. Сцверджанне польскай даследчыцы В. Рэвеньскай аб адсутнасці тут (за выключэннем Нясвіжа, Клецка, Дісны і Слоніма) гарадскіх умацаванняў не мае падстаў, што адзначыў А. П. Грыцкевіч.

Слуцк, Нясвіж і Стары Быхаў, найбуйнейшыя сярод прыватнаўласніцкіх гарадоў, вылучаліся спецыяльным тыпам планіроўкі і забудовы, а таксама першакласнымі абарончымі збудаваннямі. Яны былі абкружаны рвамі, валамі, на некаторых з якіх стаялі муры, а таксама бастыёнамі і равелінамі. Кожны горад меў вялікую колькасць сучаснай артылерыі і ручной вогнестрэльнай зброі — гакаўніц, мушкетаў, карабінаў і інш.

Спецыяльная планіроўка такіх гарадоў давала магчымасць весці вулічныя баі ў выпадку, калі непрыяцельскае войска прарывалася цераз знешнюю лінію абароны. Вузкія гарадскія вулачкі і завулкі ўскладнялі дзеянні штурмуючых войск. Асаблівая роля адводзілася мураваным культавым пабудовам, якія размяшчаліся на стратэгічных напрамках абароны. Важнае месца ў абароне горада адводзілася брамам — выдатнай з'яве сярэдневяковага беларускага ваеннага дойлідства.

Вывучэнне старадаўніх гарадскіх планаў паказвае, што фартыфікацыя прыватнаўласніцкіх гарадоў амаль цалкам была падпарадкавана адной мэце: абараняць магнацкія замкі ў выпадках знешняй небяспекі або выступлення незадаволеных мяшчан.

Натурныя абследаванні рэштак былых умацаванняў Нясвіжа і Слуцка ў супастаўленні з гістарычнымі звесткамі пераканальна паказалі, што яны адносяцца да розных еўрапейскіх школ фартыфікацыі другой паловы XVI—XVII ст. Па сваёй планіроўцы, структуры і магутнасці яны не ўступалі абарончым збудаванням многіх сучасных ім заходнееўрапейскіх гарадоў.

Прыватнаўласніцкія гарады Беларусі мелі сваё апалчэнне, якое ў перыяд небяспекі разам з пастаянным гарнізонам і шляхецкім апалчэннем прымала на сябе асноўны цяжар абароны горада.

Гарадское апалчэнне існавала ўжо ў пачатку XVI ст. у часы наездаў крымскіх татар на землі Вялікага княства Літоўскага. У ім былі зацікаўлены як феадалы, так і самі жыхары. Ва ўмовах феадальнай анархіі, частых войнаў і аслаблення цэнтральнай улады гарадское апалчэнне станавілася адзінай сілай, здольнай абараніць горад і яго жыхароў. Таму гарадскія магістраты ў выпадку небяспекі абавязвалі як мяшчан, так і людзей прыезджых, апынуўшыхся на той час у горадзе, выходзіць на гарадскія валы з любой зброяй.

Колькасць апалчэнцаў залежала ад колькасці насельніцтва горада. Апалчэнцы падзяляліся на палкі, сотні і дзесяткі, якімі кіравалі афіцэры і сержанты гарадскога гарнізона.

З мэтай ваеннай падрыхтоўкі гараджан гарадскія ўлады арганізоўвалі трэніровачныя стрэльбы, ваеннае навучанне, праводзілі нарады па пытаннях абароны, а таксама спаборніцтвы на лепшага стралка [7]. Для падтрымкі ваеннай дысцыпліны рэгулярна рабіліся перапісы ўсіх апалчэнцаў, якія абавязваліся прыходзіць на іх са сваёй зброяй [8].

---

[7] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии ..., с. 236.

[8] Hryckiewicz A. Milicje miast magnackich na Białorusi i Litwie.— KH, 1970, t. 1, str. 56, 59.

Структура ўмацаванняў і прынцыпы абароны прыватнаўласніцкіх гарадоў выразна выяўляюцца пры разглядзе гісторыі двух з іх — Нясвіжа і Слуцка.

## Нясвіж

Гарадскія ўмацаванні Нясвіжа ў асноўным былі ўзведзены пры жыцці князя Мікалая Радзівіла, які гэтаму пытанню ўдзяляў шмат увагі. (гл. рыс. 47). У прывілеі 1586 г. ён паставіў нясвіжцам важную задачу: пры ўзвядзенні гарадскіх умацаванняў памураваць 2 брамы, «абы места замкнёным было». Мяшчане таксама абавязваліся ўзводзіць мураваныя ўмацаванні. Згодна з магістрацкай пастановай ад 18 чэрвеня 1596 г., работы па насыпанню валаў вакол «места» павінны былі праводзіцца штогод, прычым жыхары кожнага заселенага ўчастка ўзводзілі «па пруту насыпу» [9].

Гравюра Т. Макоўскага, зробленая каля 1600 г., падае нам выгляд горада, калі фартыфікацыйныя работы былі скончаны. Пры ўзвядзенні абарончых збудаванняў горада, як і замка, удала выкарыстана спецыфіка рэльефу. Нясвіжскія ўмацаванні ўзводзіліся па-над р. Ушою, на вялікім паўвостраве, добра абароненым вадою.

Аснову абароны горада складаў высокі земляны вал, абмураваны з вонкавага боку. Ён меў выгляд 5-вугольніка з 7 бастыёнамі. Тры брамы — Слуцкая, Клецкая і Віленская — былі вымураваны ў курцінах. Чацвёртая — Замкавая — размяшчалася паміж вежай-званіцай езуіцкага касцёла, узведзенага Джыавані Марыя Бернардоні ў 1584—1593 гг., і паўночным участкам вала. Несумненна, кожная брама была прыстасавана да абароны.

Не апошняе месца ў абароне Нясвіжа займалі чатыры мураваныя кляштары — бенедзіктынскі, дамініканскі, бернардзінскі і езуіцкі. Прычым апошні непасрэдна засланяў дарогу з горада ў замак, а яго вежа-званіца фланкіравала подступы да Замкавай брамы.

Гарадская фартыфікацыя была абведзена вадзяным ровам без крытай дарогі. Роў злучаўся з р. Ушою. Перад кожнай брамай праз вадзяны роў быў перакінут мост, які падымаўся ноччу і ў выпадку асады горада.

Гаворачы аб нясвіжскіх гарадскіх умацаваннях, трэба адзначыць, што бастыёны тут былі невялікія: без арылонаў, часткова абнесеныя палісадам. Па гравюры Т. Макоўскага складаецца ўражанне, што памураванымі былі толькі курціны, а бастыёны насыпаны цалкам з зямлі.

На левым беразе р. Ушы, насупраць замка, меўся яшчэ адзін, вялікі, бастыён з арылонамі і поўнай абмуроўкай, так званы тэт-дэ-пон. Як мяркуюць даследчыкі, ён быў узведзен для абароны подступаў да замка з паўночнага боку [10]. Гэта, дарэчы, адзінае ўмацаванне на ўзвышаным левым беразе р. Ушы, дзе размяшчалася даволі значная частка Нясвіжа — Новае места.

Новае места было фактычна неўмацаваным, і таму непрыяцель, лёгка заняўшы яго, мог размяшчаць тут свае батарэі і без перашкод абстрэльваць увесь Нясвіж.

---

[9] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, спр. 1337, л. 55; спр. 1338. л. 28; спр. 1361, л. 8; Hryckiewicz A. Warowne miasta magnackie..., str. 434.

[10] Gruszecki A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu.— KAU, t. 10, z. 2, 1965, str. 45.

Пабудова ўмацаванняў, як і самога «места», вялася па спецыяльнаму плану, вызначанаму князем. У прывілеі ад 18 чэрвеня 1596 г. Мікалая Радзівіла адзначана, што рэшта чыншу з валок павінна быць выкарыстана магістратам на «...пабудову ратушы і брамы адной вялікай ад Міра і другой — меншай (верагодней за ўсё, Слуцкай.— *М. Т.*). А будаваць так, як ад нас (г. зн. князя М. Радзівіла.— *М. Т.*) указана і размерана будзе, памураваць і клапаціцца, каб замкнёным было».

Усе цяжкасці па ўзвядзенню ўмацаванняў цалкам ляжалі на плячах гараджан. Той жа прывілей абавязваў іх выходзіць пагалоўна на рамонт валаў, млыноў, грэблі, на абарону замка і «места» [11].

27 верасня 1592 г. са згоды ўсіх мяшчан магістратам была прынята спецыяльная «Ухвала места Нясвіжскага», дзе абвяшчаліся асноўныя абавязкі гараджан па абароне горада. Паводле «Ухвалы», кожны мешчанін з кожнага пляца павінен быў штогод даваць магістрату 30 грошай літоўскіх. Іх выкарыстоўвалі на гарадскую варту, направу паркана, насыпку валаў і рамонт дарог. «А на рамонт паркану выходзілі ўсе, як на гвалт, таксама ж на паправу дарог і грэблі». Далей «Ухвала» абавязвала «...рушніцу абы кожны меў, порах, кулі згодна першай патрэбы. За парушэнне — поўкапы грошай літоўскіх. А па ўдару ў бубен ...мужчынам з'яўляцца так, як трэба, пад пагрозай штрафу ў 12 грошай» [12].

Аб тым, як выкарыстоўваліся грошы, выдзеленыя для патрэб абароны горада, яркае ўяўленне дае адзін з дакументаў сярэдзіны XVII ст.— «кантракт» — працоўны дагавор паміж Нясвіжскім магістратам і брыгадай муляраў ад 29 ліпеня 1652 г. У ім гаворыцца, што магістрат у складзе войта, бурмістра, райцаў і лаўнікаў разгледзеў і запісаў у акты кантрактны ліст, складзены «паміж Янам Гановічам, бурмістрам і будаўнічым места Нясвіжскага, і дастаслаўным майстрам — мулярам Якубам Бязменам з чатырма таварышамі», якія падрадзіліся правесці рамонт гарадскіх умацаванняў. Муляры абяцалі, што яны вымуруюць 2 сцяны: адну — з боку ракі, а другую — папярэчную — ад грэблі, што вяла ў замак, і што паставяць іх і вымуруюць «...за 4 тыдні жніўня месяца. І ў тых сцен адхоны паправяць з канца ў канец». Таксама трэба было «...браму мураваную Капыльскую вытынкаваць са споду і аправіць з абедзвюх старон згодна патрэбы. Аркі брамныя паправіць абедзьве, атынкаваць і пабяліць праезды з абодвух бакоў, і тры камені, якія выпалі, управіць і затынкаваць. 1 рог брамы ад става, што вада падмыла, направіць з цэглы і каменя і затынкаваць».

Па сканчэнні рамонтных работ магістрат абавязваўся заплаціць мулярам 20 коп грошай літоўскіх. Было таксама вырашана даць ім 6 коп грошай адразу, а астатнія 14 коп аддаць па даканчэнні ўсёй работы.

У дакуменце спецыяльна падкрэслена, што памочнікаў для тварэння вапны і падрыхтоўкі будаўнічых матэрыялаў у час работы муляры павінны наймаць за свой кошт. Пасля падпісання кантракта, для таго каб муляры «...латвей каля муру таго хадзілі», выдаў ім бурмістр тры злотых, піва і гарэлкі на 2 злотых 15 грошай» [13].

Вышэйпрыведзены дакумент, дзе гаворка ідзе аб мурах, якія ўзводзіліся ў 1652 г. з усходняга (ад р. Ушы) і паўночнага (ад грэблі) бакоў, дазваляе зразумець звесткі аб умацаваннях Нясвіжа больш рання-

---

[11] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии ..., с. 210.
[12] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, спр. 1338, л. 30 адв., 31.
[13] Там жа, воп. 2, спр. 4963, ч. 2, л. 167, 167 адв.

га часу. У прывілеі караля Уладзіслава IV, дадзеным нясвіжскім мяшчанам 2 сакавіка 1633 г., адзначалася: «...выведзеныя высокія і грунтоўныя муры Нясвіжа, дагледжаныя і забяспечаныя абарончымі ўмацаваннямі» [14]. Значыць, у 1633 г. мураваныя ўмацаванні меліся толькі з захаду і поўдня, а з усходу і поўначы, верагодней за ўсё, на валах стаяў паркан. Апошняе, відаць, і прымусіла нясвіжцаў у 1652 г. пачаць мулярскія работы з усходу і поўначы.

Такім чынам, пабудова абарончых умацаванняў Нясвіжа не была хуткім і аднаразовым працэсам, а расцягнулася на шмат гадоў. Гэты факт з'яўляецца наглядным адлюстраваннем магчымасцей гараджан, на якіх ляжаў цяжкі падаткавы прэс, і магнатаў Радзівілаў, якія здолелі на працягу 1584—1598 гг. не толькі пабудаваць першакласны замак, але і закласці 2 касцёлы, 2 кляштары і вялікі калегіум для 200 манахаў. Пад час руска-польскай вайны 1654—1667 гг. Нясвіж двойчы — у 1654 і 1659 гг.— быў узят штурмам, а яго ўмацаванні моцна пашкоджаны [15].

Прывілей караля Міхала Вішнеўскага ад 29 кастрычніка 1669 г. упамінае аб аднаўленні ўмацаванняў каля замка і гарадскіх валаў, якія пачалі папраўляць нанава ад самага фундаменту. Каб падахвоціць мяшчан да хутчэйшай адбудовы гарадскіх умацаванняў, іх часова вызвалілі ад падаткаў: «...звычайнага, старога, новага і чопавага» [16].

У сакавіку 1706 г., у час Паўночнай вайны, фартыфікацыя горада была пашкоджана шведскім атрадам на чале з падпалкоўнікам Траутфэтэрам, які ўзяў горад штурмам.

Праз месяц, у маі 1706 г., горад зноў быў разбуран шведамі. Аднак яго ўмацаванні хутка аднавілі, паколькі Нясвіж з'яўляўся важным стратэгічным пунктам, дзе аж да канца XVIII ст. размяшчаліся атрады прыватнай арміі князёў Радзівілаў. Стратэгічнае значэнне горада таксама падкрэслівае той факт, што ў другой палове XVIII ст. яго неаднаразова асаджалі рускія войскі.

Па ўзору гарадоў Еўропы ў Нясвіжы і ў іншых «местах» Беларусі штогод наладжваліся спаборніцтвы на лепшага стралка, ці «караля курка». Спаборніцтвы звычайна праводзіліся летам і мелі на мэце агульнае павышэнне ваеннай падрыхтоўкі гараджан. У гарадской ратушы пераможца ўзнагароджваўся аксамітным пасам, аздобленым сярэбранымі нашыўкамі. Акрамя таго, ён вызваляўся на год ад усялякіх павіннасцей і дзяржаўных падаткаў [17].

Структура ўмацаванняў сярэдневяковага Нясвіжа, якая ўключала элементы як заходнееўрапейскай, так і традыцыйный мясцовай фартыфікацыі, у аснове сваёй мела цягу да новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы. Думаецца, што першапачатковыя бастыённыя ўмацаванні горада, якія, праўда, спачатку мелі толькі частковую абмуроўку, былі ўзведзены не без удзелу Джыавані Марыя Бернардоні, які стала пражываў у Нясвіжы да 1599 г. І хаця некаторыя польскія даследчыкі аўтарства Бернардоні аспрэчваюць [18], у нас адносна гэтага сумненняў няма.

---

[14] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, спр. 1361, л. 11.
[15] Markowski F. Zamek Mikołaja K. Radziwilla Sierotki w Nieświeżu.— KAU, 1964, t. 9, str. 57.
[16] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 4, спр. 1361, л. 13—14.
[17] Tauroginski B. Z dziejów Nieświeża, str. 62, 65—66.
[18] Gruszecki A. Fortyfikacje zamku w Nieświeżu, str. 144—145.

## Слуцк

Адным з наймагутнейшых умацаванняў у Вялікім княстве Літоўскім аж да канца XVIII ст. лічыліся ўмацаванні Слуцка, час узнікнення якога датуецца XI—XII стст. [19] Раскінуўшыся па абодвух берагах ракі Случы пры ўпадзенні ў яе ручая Бычка, ён меў замкі Верхні і Ніжні, умацаваныя валамі, драўлянымі сценамі і вежамі. Верхні замак згадваецца ў 1409 г. [20] У 1444 г. гораду было дадзена Магдэбургскае права, што яшчэ больш паспрыяла яго эканамічнаму развіццю.

Гісторыя сярэдневяковага Слуцка значна адрозніваецца ад гісторыі іншых прыватнаўласніцкіх гарадоў Беларусі. Пасля ажыццяўлення ў




*Рыс. 64. План Слуцка: 1 — Верхні замак, 2 — Ніжні замак, 3 — Новы замак*

пачатку XVI ст. цэнтралізатарскай палітыкі вялікіх князёў і ліквідацыі ў дзяржаве ўдзельнай сістэмы ён да 1791 г. заставаўся цэнтрам адзінага ў Вялікім княстве Літоўскім удзельнага Слуцкага княства. З 1595 па 1612 г. ім валодалі князі Алелькавічы, а потым яно перайшло да Радзівілаў [21].

Умацаванні Слуцка не аднойчы падвяргаліся жорсткім выпрабаванням. У 1502, 1503, 1505 і 1506 гг. яго спрабавалі захапіць перакопскія

---

19 Лысенко П. Ф. Города Туровской земли. Минск, 1975, с. 150.
20 Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. 1. Вильно, 1868, с. VII.
21 Грицкевич А. П. Социально-экономическое развитие частновладельческого города Белоруссии в XVI—XVIII вв. (на примере Слуцка). Автореф. канд. дис. Минск, 1963, с. 6—7.

татары, якіх узначальвалі Біці-Гірэй і Бурнаш[22]. У 1508 г. двойчы асаджаў горад князь М. Глінскі. Толькі раз, у 1595 г., удалося заняць Слуцк. Гэта зрабіў Севярын Налівайка са сваімі казакамі, і то таму, што гараджане перайшлі на яго бок і адчынілі браму[23].

Паводле слоў дзяка маскоўскага пасольства Трыфана Карабейнікава, які пабываў у горадзе ў 1593 г., «...Слуцк невелик... а около городка острог на городовое дело, а в остроге торги, да двор панский, да жилецких дворов з двести. ...А Менска Слутцкий град больше... а у града в воротах и у острогу стоят воротники и стрелцы с рушницами а в острог иноземца, не сказав, не пустят»[24].

На рубяжы XVI і XVII стст., калі на беларускіх землях пачалі шырока распаўсюджвацца земляныя ўмацаванні старагаландскага тыпу, горад Слуцк быў абведзен магутным валам і вадзяным ровам. Старыя замкі — Верхні і Ніжні — у спалучэнні з Новым замкам сваёй трываласцю і дасканаласцю прынеслі гораду славу сапраўднага «бастыёна Літвы».

Непрыступнасць слуцкіх умацаванняў праявілася ўжо ў 1655 г., калі 20-тысячнае войска рускага князя А. Н. Трубяцкога 2—6 верасня беспаспяхова вяло аблогу горада. Пазней сярод гараджан толькі адзін чалавек быў забіт. З 27 па 30 верасня войска Трубяцкога, да якога далучылася яшчэ 5 тысяч казакаў І. Залатарэнкі, паўтарыла аблогу і зноў няўдала. Спаліўшы прадмесці, навакольныя вёскі і фальваркі, аб'яднанае войска мусіла адступіць[25]. У гады Паўночнай вайны горад займалі шведскія і рускія войскі.

Паводле інвентарных апісанняў Слуцка пад 1687, 1728, 1791, 1793 і 1800 гг., у найстарэйшай частцы горада, так званым Старым месце, знаходзіліся Горны і Дольны замкі. Горны, або Верхні, замак. колішні дзядзінец, меў круглявую форму, займаў плошчу каля 1,5 га і размяшчаўся на сыпаным «капцы». Цераз абарончы вадзяны роў быў перакінут пад'ёмны мост. Па ім траплялі да ўваходнай замкавай брамы, якая мела 4 ярусы бою і дзе яшчэ ў 1791 г. размяшчаліся тры гарматы.

На восі ўезду знаходзіўся аднапавярховы палац, зроблены з цёсаных брусоў на падмуроўцы. Драўляныя ўмацаванні Верхняга замка — сцены і вежы — узвышаліся не толькі над горадам, але і над усёй ваколіцай, што дазваляла паспяхова адбіваць наступы праціўніка.

Дольны (Ніжні) замак меў форму няправільнага многавугольніка, таксама ўмацаванага валам і драўлянымі абарончымі збудаваннямі. У 1687 г. тут стаялі тры палацы, зробленыя з цёсанага бруса на падмуроўцы, вазоўня, замкавая стайня і іншыя гаспадарчыя пабудовы[26].

Абодва замкі амываліся водамі Случы і Бычка, паднятымі плацінамі.

---

[22] G w a g n i n u s A. Cronika Sarmaceye Europskiej, cz. 1, ks. 2. Kraków, 1611, str. 70—71; ПСРЛ, т. 2, стб. 364; ПСРЛ, т. 32, с. 101, 169—171.

[23] G w a g n i n u s A. Cronika Sarmaceye Europskiej, cz. 1, ks. 2, str. 77; H r y c k i e w i c z A. Warowne miasta magnackie..., str. 431.

[24] Второе хождение Трифона Коробейникова. Чтения в императорском обществе истории и древностей Российских при Московском университете, кн. 1, ч. 2. М., 1897, с. 7.

[25] Biblioteka Czartoryskich w Krakowie. Rksp. nr. 148. Z dyaryusza miasta Słucka, str. 529—534; А. М. Мальцаў называе іншую дату: 23—29 жніўня, што малаверагодна (гл.: М а л ь ц а ў А. М. Россия и Белоруссия в XVII веке. М., 1973, с. 99). М. М. Улашчыку, перадаўшаму нам гэтыя звесткі, аўтар выказвае сардэчную падзяку.

[26] ЦДГА БССР, ф. КЛМ № 5, воп. 1, спр. 3835/2, л. 13, адв.; ф. 694, воп. 2, спр. 7396, л. 23; ф. КЛМ № 5, воп. 1, спр. 3834, л. 3—13 адв.

Другая частка Слуцка, так званае Новае места, размяшчалася на левым беразе р. Случы. Цэнтрам абароны Новага места быў Новы замак. Узведзены ў канцы XVI ст., ён меў форму квадрата з адным равелінам і 4 бастыёнамі. На вуглах бастыёнаў стаяла, як і ў Нясвіжскім замку, па адной вежы. Земляныя курціны засланялі драўляны палац, які знаходзіўся на процілеглым ад уваходу баку разам з гаспадарчымі пабудовамі, размешчанымі злева і справа ўздоўж курцін [27]. Інвентар за 1728 г. паведамляе таксама аб нейкіх «вежах у вале». Наяўнасць на курцінах дадатковых умацаванняў у выглядзе веж, што для заходнееўрапейскай фартыфікацыі з бастыённай сістэмай увогуле не характэрна, з'яўляецца асаблівасцю мясцовай фартыфікацыі.

Новы замак быў абведзен шырокім вадзяным ровам, які злучаўся з р. Случчу праз спецыяльны скрыты шлюз. Праход у цытадэль даволі складаны: перад пад'ёмным мостам знаходзілася спецыяльная абарончая брама з рагаткай. Перайшоўшы мост, трэба было прайсці другую — уваходную — вежу-браму. Яна размяшчалася ў вале, была двухпавярховай, мела вароты з двума палотнішчамі, збітымі з дубовых дошак [28].

Увесь Слуцк, за выключэннем двух прадмесцяў — Астроўскага і Трайчанскага, акружаў земляны вал з бастыённымі ўмацаваннямі і вадзяным ровам.

Увайсці на тэрыторыю горада можна было толькі праз брамы, якіх было чатыры: Віленская, Капыльская, Астроўская — у Старым месце і Навамейская — у Новым месце. Першыя тры брамы былі «ў валу вымураваны», адна Навамейская была драўляная.

Інвентар Слуцка за 1728 г., калі вымяраліся гарадскія пляцы і ўмацаванні, дазваляе вызначыць памеры брам Старога месца. Так, плошча, якую займала Віленская брама, раўнялася 7×10 прутоў. Улічваючы, што 1 прут меў даўжыню 12 футаў (1 фут=30,5 см), атрымаем памеры 25,6×36,6 м. Першая лічба, відаць, будзе азначаць шырыню, а другая— даўжыню гарадской брамы. Акрамя таго, лічба 36,6 м дазваляе нам прыблізна вызначыць шырыню гарадскога вала, паколькі ў ім, як сведчыць інвентар, вежа была «вымурована». А гэта азначае, што вал меў шырыню аснавання не менш 36,6 м. Праўдападобнасць вызначаных намі памераў пацвярджаецца, напрыклад, памерамі ўязной брамы Нясвіжскага замка, дзе даўжыня праезду 28 м. Нарэшце, можна для параўнання прыгадаць памеры валаў такіх старажытных гарадоў, як Мінск і Пінск. У першым яна дасягала 25 м, у другім — 30 м.

Брама Капыльская мела такія ж памеры, як і Віленская. Астроўская брама «з вежаю і вартоўняй», хаця і была мураванай, удвая меншая — 3×5 прутоў [29], або 9,15×15,25 м. Памеры Навамейскай брамы невядомыя. Перад брамамі цераз роў былі перакінуты пад'ёмныя масты.

На прыкладзе Слуцка можна добра ўявіць тыя прынцыпы і структуру абароны, якія панавалі ў сярэднія вякі ў большасці беларускіх прыватнаўласніцкіх гарадоў.

Паводле звестак за 1655 г. у Слуцку было 4 палкі гарадскіх апалчэнцаў агульнай колькасцю 1800 чалавек, якія дзяліліся на сотні і дзесяткі. Гэта давала магчымасць феадалу і магістрату выкарыстоўваць жыха-

---

[27] ЦДГА БССР, ф. 1825, воп. 1, спр. 5, л. 28 адв.; ф. 694, воп. 2, спр. 7396, л. 25 адв; ЦДГВА СССР, ф. ВУА, спр. 18 840, л. 90.

[28] ЦДГА БССР, ф. 1825, воп. 1, спр. 5, л. 28 адв; ф. КЛМ № 5, воп. 1, спр. 3834/2, л. 22; ЦДГВА СССР, ф. ВУА, спр. 18840, л. 90.

[29] ЦДГА БССР, ф. 1825, воп. 1, спр. 5, л. 5, 21 адв.

роў і ў мірны час для рамонту валаў і аховы ўмацаванняў, а таксама арганізавана збіраць падаткі і іншыя плацяжы.

Узбраенне слуцкіх апалчэнцаў адпавядала тагачаснаму ўзроўню ваеннай тэхнікі. Заможныя мяшчане мелі мушкеты, шаблі, стрэльбы, пісталеты і гакаўніцы. Тыя ж, хто не меў вогнестрэльнай зброі, абавязваліся набыць бярдыж, рагаціну або жалезныя вілы. Зброя павінна была быць спраўнай, за чым пільна сачылі гарадскія чыны. У час штурму ўсе з'яўляліся на гарадскія валы, прычым тыя, хто не меў вогнестрэльнай зброі, павінны былі прынесці з сабою па 5 камянёў, велічынёю з кулак, для кідання ў праціўніка [30].

Рамонт гарадскіх умацаванняў і грэблі рабіўся ў Слуцку штогод вясною. Усе мяшчане былі абавязаны выходзіць на гэтыя работы пад пагрозай штрафу ў 12 злотых. Аднак часам дазвалялася ад іх адкупіцца, заплаціўшы ў магістрат 3 злотых у тыдзень.

Для правядзення земляных работ і рамонту драўляных умацаванняў загадзя рыхтаваліся рыдлёўкі, тачкі і розны рыштунак. У бліжэйшай пушчы пілаваўся дубовы і сасновы лес, з якога выраблялiся брусы, палі, дылі, дошкі і аполкі, патрэбныя для правядзення работ. Аднак жыхары Слуцка выконвалі, відаць, другарадныя работы, паколькі мелася група спецыяльных будаўнікоў-рамонтнікаў. Так, пад час рамонту гарадскіх умацаванняў у маі 1655 г. у склад такой групы ўваходзілі майстар-цясляр, пяць цесляроў-рабочых і шэсць парабкаў-«капачоў» (землякопаў). За сваю работу яны атрымлівалі кожны тыдзень грошы: майстар — 4 злотых, цясляр — 3, «капачы» — 2 злотых [31].

У мірны час зброя і ваенны рыштунак мяшчан захоўваліся ў гарадскіх цэхгаўзах, адкуль браліся толькі ў час перапісаў. Генеральны перапіс апалчэнцаў звычайна заканчваўся спаборніцтвамі стралкоў, якія праводзіліся ўрачыста ў прысутнасці гарадскіх адміністрацыйных і ваенных улад. Тром лепшым стралкам выдаваліся спецыяльныя пасведчанні, іх на год звальнялі ад уплаты чыншу і ад розных гарадскіх павіннасцей, акрамя абароннай. Стралковыя спаборніцтвы праводзіліся кожны месяц, але не для ўсіх, а толькі для жадаючых. Уладар горада выдаваў са свайго арсенала 3 прызы: мушкет — за першае месца, шаблю—за другое і піку — за трэцяе [32].

Умацаванні Слуцка заўсёды былі забяспечаны навейшай артылерыяй, а гарнізон меў дастатковую колькасць ручной вогнестрэльнай зброі. Так, у 1595 г. казакі С. Налівайкі ў якасці трафеяў вывезлі з горада 12 гармат, 80 гакаўніц і 700 рушніц. У 1620 г. тут мелася 26 гармат, 130 гакаўніц і 83 рушніцы, не лічачы 150 рушніц, раздадзеных выбранцам і атраду пяхоты. У 1746 г. у Слуцку было 66 гармат, а ў 1760 г.— 29 медных і 25 жалезных гармат, 12 мартыр і 100 штук ручной вогнестрэльнай зброі. У 1767 г.— 103 гарматы, сярод іх 7 розных мартыр, 79 гармат розных калібраў, 3 шмыгаўніцы (невялікія гарматкі з доўгімі ствaламі, якія стралялі ядрамі вагою ад 200 да 350 г), 4 дванаццаціствольныя «арганы» і іншая зброя [33].

Нават у 1791 г. тут яшчэ мелася 28 медных гармат (з іх 9 навальных

---

[30] H r y c k i e w i c z A. Milicje miast magnackich.., str. 54.
[31] РАБАН ЛітССР, фонд Lauda abo uchwały do obrony, porządku i osdoby miasta Słucka, str. 28, 66, 72.
[32] H r y c k i e w i c z A. Milicje miast magnackich.., str. 59.
[33] H r y c k i e w i c z A. Warowne miasta magnackie..., str. 433; L e c h M. J. Milicje Radziwillów jako oręż feudałów w walce z ruchami chłopskimi na Białorusi i Litwie.— RB, t. 3. Białystok, 1962, str. 44—45

без лафетаў), 16 гакаўніц навальных, 4000 ядзер і 1430 артылерыйскіх зарадаў, 477 карабінаў, 19 000 зарадаў да ручной вогнестрэльнай зброі, шмат волава, а таксама рознай халоднай зброі і ваеннага рыштунку[34].

Калі ўлічыць, што ў другой палове XVIII ст. уся артылерыя войска Вялікага княства Літоўскага складалася з 10 гармат, то становіцца зразумелым, чаму да канца XVIII ст. Слуцк называўся «бастыёнам Літвы».

## УМАЦАВАННІ БЕЛАРУСКІХ ВОЛЬНЫХ ГАРАДОЎ

Як мы ўжо адзначалі, у XV і XVI стст. на змену зацяжным аблогам, якія прымушалі гарады здавацца пад пагрозай голаду і смагі, прыйшоў актыўны штурм з дапамогай гармат. Выкарыстанне жалезных ядраў, замяніўшых каменныя, дазваляла рабіць праломы ў гарадскіх мурах, праз якія праціўнік урываўся на тэрыторыю горада. Адным з метадаў захопу гарадоў з драўлянымі ўмацаваннямі быў абстрэл распаленымі ядрамі, выклікаўшымі знішчальныя пажары. Удасканаленне артылерыі прывяло да істотных змен у структуры сцен і веж, планіроўцы гарадоў.

У канцы XIV — сярэдзіне XV ст. у сувязі з аслабленнем ваеннай напружанасці, эканамічным уздымам і наданнем беларускім гарадам Магдэбургскага права вулічная сетка стала паступова набываць рэгулярную форму. Акрамя замка — старога цэнтра гарадоў, тут, як і ў Заходняй Еўропе, узнік новы адміністрацыйны цэнтр—ратуша. Яна стаяла звычайна разам з гарадскім саборам на рыначнай плошчы. Прынцыпы такой планіроўкі былі ўласцівы як вялікім, так і малым гарадам Беларусі, у тым ліку і прыватнаўласніцкім.

Умацаванні ўзводзіліся тады галоўным чынам з дрэва і зямлі. Акрамя гэтага, гарады бараніліся равамі і воднымі перашкодамі. Зямля, вынятая з рова, выкарыстоўвалася для насыпкі валаў. Сцены рабіліся ў выглядзе вастраколу або горадняў, засыпаных зямлёй. Па перыметру валаў на рознай адлегласці адна ад адной ставіліся драўляныя вежы. Яны рабіліся квадратнымі, 6-, 8-граннымі ў 1, 2 ці 3 сцяны і падзяляліся перакрыццямі — «мастамі» — на ярусы. Вежы былі глухімі або праездымі і дзяліліся на ўласна вежы, «бычкі» і «раскаты» для ўстаноўкі гармат. У асобных гарадах умацаванні рабіліся адначасова і з дрэва, і з каменю (Орша, Віцебск). Для іх узвядзення прыцягвалася ўсё працаздольнае насельніцтва — і самога горада, і навакольных вёсак. Ад «замкавай» павіннасці не вызваляліся нават царкоўнікі. Агульнае кіраўніцтва пабудовай умацаванняў ажыццяўлялі спецыялісты фартыфікацыйнай справы — валмейсцеры.

Па раду прычын у каралеўскіх вольных гарадах і гарадскіх замках бастыённая сістэма ўмацаванняў стала ўжывацца значна пазней. Аднак пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. яна ўсё больш распаўсюджваецца, а ў канцы XVII ст. у большасці гарадоў былі толькі бастыённыя ўмацаванні.

Для паспяховай абароны гарадоў велізарнае значэнне мела забеспячэнне іх правіянтам і вадою. Вада была патрэбна не толькі для гатавання ежы, але і для тушэння пажараў. Недахоп яе заўсёды выклікаў катастрофу. Вядома, што пры асадзе польскага горада Місьні немцамі яго абаронцы былі вымушаны тушыць пажары нават мёдам[35]. Таму нез-

---

[34] ЦДГА БССР, ф. 694, воп. 2, спр. 7396, л. 30, 30 адв.
[35] Miśkiewicz B. Rozwój stałych punktów oporu w Polsce do połowy 15 wieku. Poznań, 1964, str. 238.

дарма ў адным з ваенных настаўленняў канца XVI ст. спецыяльна падкрэслівалася: «Вада абы была на замку, гдзе бы студней не было, тады... к таму бочкі, кадзі ў чым ба ваду хаваць, абы тае быў дастатак. А всяко ж, гдзе можа быць, з пільнасцю аб студні старацца, а гдзе вады мала, тады яе абчокам даваць, а роўна яе дзяліць, як аднаму, так і другому» [36].

У XV—XVIII стст. фартыфікацыя беларускіх гарадоў змянілася як колькасна, так і якасна. Акрамя адной лініі абароны — уласна замка, узнікае другая — умацаванае падзамча. Прымітыўныя брамныя пабудовы ў XVI ст. замяняюцца дасканалымі брамамі, звычайна мураванымі, з тоўстымі сценамі і некалькімі ярусамі баёў. Іх ставілі ў месцах перасячэння валаў асноўнымі дарогамі. Такія брамы былі вядомы яшчэ ў першай палове XVII ст. Аднак у сярэдзіне XVII ст. з'явіўся новы тып брам — бязбежавых. Узмоцненыя магутнымі контрфорсамі, з падоўжанай праезджай часткай, яны вызначаліся масіўнасцю і непрыступнасцю.

Значна павялічылася агнявая магутнасць абароны гарадоў. Прычым рашаючая роля ад лукаў і арбалетаў перайшла да вогнестрэльнай зброі. На ўзбраенні гараджан меліся гакаўніцы (пішчалі зацінныя), кіі (мушкеты), карабіны (з XVIII ст. шмакаўніцы-карцечніцы), шратоўніцы, якія зараджаліся дробнымі каменьчыкамі, цвікамі, кавалкамі сечанага жалеза, ланцугамі і іншымі падобнымі рэчамі. У вежах на валах гарадскіх умацаванняў меліся гарматы калібрам ад 1 да 5 фунтаў і больш.

У ваенных адносінах насельніцтва беларускіх каралеўскіх, або вольных, гарадоў падзялялася на сотні. Кожная ўзначальвалася сотнікам і пад час асады горада была абавязана бараніць адведзены ёй участак гарадскіх умацаванняў, а ў выпадку разбурэння — рамантаваць яго. Рэкруцкай базай пры абароне гарадоў служылі ўсе гараджане — рамеснікі розных спецыяльнасцей, гандляры і купцы, што, дарэчы, існавала тут спрадвеку [37].

З атрыманнем Магдэбургскага права і стварэннем рамесніцкіх цэхаў апошнія станавіліся адначасова і ваеннай адзінкай. Членаў цэха абавязвалі мець асабістую зброю — вогнестрэльную і сечную — і з'яўляцца ўсім цэхам на вызначаны яму ўчастак абароны — сцяну або вежу. Магістраты пільна сачылі за тым, каб у кожнага цэха была зброя, свая баявая харугва, сігнальная труба або бубен і каб цэхі ў выпадку трывогі з'яўляліся ў поўным складзе. Асобныя цэхі павінны былі набываць нават за свой кошт гарматы, што, дарэчы, рэгістравалася цэхавымі статутамі. Так, напрыклад, у артыкуле 38 брэсцкага аб'яднання шавецкага цэха, створанага яшчэ ў XVI ст. (сюды ўваходзілі шаўцы, гарбары, саф'яннікі, гардыбаннікі, шапавалы і інш.), было запісана, што члены цэха «...абавязаны мець супольныя гарматы ...бубен і харугву... для абароны места» [38].

Спачатку кожны гарадскі цэх меў свой арсенал, а членам цэха дазвалялася насіць зброю. Але пазней з абвастрэннем унутры- і міжцэхавай барацьбы, а таксама класавай барацьбы ўвогуле нашэнне зброі было забаронена, і яна захоўвалася ў гарадскім арсенале. Гэта спецы-

---

[36] Oprawiania zamków albo miast. Archiwum Komisji Historii wojskowości, N 3. Kraków, 1937, str. 314.

[37] Łowmiański H. O składzie spolecznym wczesnośredniowiecznym sił sbrojnych na Rusi.— KH, 1960, N 2, str. 438 i inne.

[38] ЦДГА БССР у Гродна, ф. 1342, воп. 1, спр. 2, л. 695, 703.

яльна агаворвалася ў цэхавых статутах. Напрыклад, у артыкуле 20 цэхавага статута мінскіх злотнікаў, кавалёў, катляроў, меднікаў, слесараў, гадзіншчыкаў, мечнікаў і нажоўшчыкаў, зацверджаным 2 снежня 1591 г., забаранялася з'яўляцца ў цэх са зброяй «...пад пагрозай штрафу ў 1/4 каменя воску» [39].

Аналіз разнастайных гістарычных звестак аб сярэдневяковых гарадах Беларусі паказвае, што ў мірны час пастаянныя гарнізоны войск меліся толькі ў асобных гарадах, якімі пераважна былі важныя парубежныя гарады, цэнтры адміністрацыйна-гаспадарчага кіравання і гандлю. У перыяд ваеннай небяспекі іх гарнізоны значна павялічваліся. Глыбінныя ж гарады, як правіла, сталых гарнізонаў не мелі. У мірны час іх замкі звычайна пуставалі, знаходзячыся пад наглядам і аховай невялікай колькасці спецыяльна вызначаных людзей.

## Брэст

Яркае ўяўленне аб умацаваннях тагачасных гарадоў даюць інвентары. На прыкладзе аднаго з іх, брэсцкага, добра бачна структура ўмацаванняў і прынцыпы абароны горада, які называўся сучаснікамі «прыстанню і варотамі ў літоўскія і рускія землі».

Аб умацаваннях Брэста канца XV — пачатку XVI ст. вядома мала. Ва ўсякім разе ў 1500 г. горад падвергся нападу татар і, мяркуючы па ўсяму, яго замак не паддаўся, хаця горад быў значна разбуран.

Значэнне і стратэгічная важнасць Брэста для дзяржавы былі падкрэслены тым, што на гарадскім гербе, зацверджаным у 1544 г., быў намаляван замак у сутоцы дзвюх рэк (гл. рыс. 7).

Структура замкавых умацаванняў Брэста ў другой палове XVI ст. добра прасочваецца па інвентары 1566 г. Паводле яго, Брэст складаўся з замка, «места ў паркане» і «места за парканам». Прычым самая значная частка «места» знаходзілася за парканам. Горад быў абведзен глыбокім ровам, валам і моцным парканам. У інвентары ўпамінаецца адна — Віленская — брама, але іх было, безумоўна, больш. Умацаванні замка складаліся з 5 спраўных веж. У 2 з іх меліся брамы, да якіх вялі развадныя масты; праз першую браму з замка выходзілі на гарадскі рынак, праз другую — да стайняў. Існавала яшчэ і старая брама, якая выводзіла на Замухавечча. На ёй знаходзіўся «звон вялікі», а пад ёй — «2 тарасы для саженья вязнев». Мелася тут і гадзіннікавая вежа, па якой «...зекгар ад места ...завжды бьёт». Сцены замка былі зроблены ў выглядзе традыцыйных гарадняў. У некаторых з іх размяшчаліся розныя «коморы». На версе знаходзілася «бланковане», куды траплялі па сходках, накрытых гонтавымі стрэшкамі.

Цікава, што ў замку меўся спецыяльны «рурмус, або млын, з которага вада рурами до замку идёт, аб одном колесе... в котором суть помпы медяныя або спижные за штемпелями железными и иными потребами к тому належачими, железом оправёным». Тут жа знаходзіўся «фалюш або ступа на толчение пороху»[40].

У замкавым цэхгаўзе, акрамя «зброі сечнай», знаходзілася 100 панцыраў, 12 гармат, 96 гакаўніц, кіёў жалезных 7, вялікая мартыра і розныя іншыя ваенныя прыпасы і рыштунак. Варта ў замак прызначалася

---

[39] Беларускі архіў, т. 3. Менск, 1930, с. 54.
[40] Документы и материалы архива Министерства юстиции, т. 1. СПб, 1898, с. 205, 209, 216, 219, 444, 445.

з усіх двароў і валасцей, прыпісаных да замка. Прычым вартаўнікоў выдзялялі «на кождый тыдзень 12, а кликунов — 12»[41].

У сярэдзіне XVII ст. пад час нападу Швецыі на Рэч Паспалітую Брэст ужо меў бастыённую сістэму ўмацаванняў, якімі бараніўся як горад, так і замак. Праўда, у 1657 г. умацаванні горада не вытрымалі асады войск шведскага караля Густава і семіградскага князя Ракашы. Аднак упартая абарона была настолькі актыўнай і значнай, а ўмацаванні такімі дасканалымі, што па загаду караля быў знят іх спецыяльны план і намалявана гравюра. У 1661 г. умацаванні Брэста былі адноўлены па загаду караля Сігізмунда Аўгуста, аднак у 1706 г. яны зноў не вытрымалі асады войск шведскага генерала Мейерфельда.

Рэшткі земляных бастыёнаў Брэсцкага замка былі яшчэ добра бачны ў самым пачатку XIX ст., калі яны саступілі месца найноўшым умацаванням — Брэсцкай крэпасці.

Цікава, што абарончая вежа-данжон XIII ст., відаць, адыгрывала немалую ролю ў абароне замка яшчэ ў XV—XVIII стст. І хаця аб гэтым прамых гістарычных звестак няма, але самі факты, што яна пададзена на ўсіх вядомых нам планах канца XVIII і пачатку XIX ст. і была разабрана толькі ў 30-х гадах XX ст. у час узвядзення новых умацаванняў, гавораць самі за сябе.

## Кобрын

На прыкладзе Кобрына, вядомага з XIII ст., можна добра ўявіць структуру сярэдневяковых умацаванняў велікакняжаскіх і каралеўскіх гарадоў. Паводле інвентароў XVI ст. умацаванні Кобрына складаліся з Ніжняга («прыгародак») і Верхняга («Высокага») замкаў. На падыходзе да Ніжняга замка шлях перагароджвала р. Кобрынка, праз якую меўся мост. На яго траплялі праз вежу-браму. На другім канцы моста, апошні пралёт якога быў пад'ёмным, стаяла яшчэ адна 2-павярховая вежа-брама. Ніжні замак абараняўся 5 вежамі, гараднямі і парканам. У адной вежы размяшчаўся млын.

Шлях у Верхні замак ішоў праз вежу-браму і мост праз абарончы роў, які раздзяляў замкі. Мост быў на палях з лазняй пасярод. Ён упіраўся ў вежу-браму Верхняга замка. Пад'ёмны механізм, размешчаны ў ёй, падымаў перад брамай апошні пралёт моста, адсякаючы дарогу нападаючым. Акрамя брамы, тут стаялі яшчэ 4 вежы з гараднямі і парканам, на якіх размяшчаліся баявыя пляцоўкі — «бланкаванне» з крытымі дранкаю стрэшкамі. Усе вежы былі накрыты гонтам[42]. Рамонт замкаў рабіла феадальна залежнае насельніцтва «водле давнее повинности свое», прычым не толькі сяляне. У «Рэвізіі» за 1563 г. чытаем: «А волоку... дано тым же млынарам на тесельство, вольную, с которое они службу тесельскую с топором пешо ку замку Кобринскому... два дни в тыйдень служити повинни»[43].

Узбраенне кобрынскіх замкаў у 1597 г. складалася з 2 «дел ляных», 5 серпянтынаў, 16 гакаўніц, 17 рушніц, 2 кіёў, серы, волава і іншага рыштунку. Ведаў «стрэльбай» пушкар, а рамонт рабіў спецыяльны слесар. Апошні да таго ж абавязан быў вырабляць у год 6 рушніц. Тры ганта-

---

[41] Документы и материалы архива Министерства юстиции, т. 1, с. 446.
[42] АВАК, т. 14, с. 552—553.
[43] Ревизия Кобринской экономии. Вильна, 1876, с. 108.




*Рыс. 65. План Кобрына. XVIII ст.: 1 — Верхні замак, 2 — Ніжні замак*

рэзы, якім было дадзена па 1 валоцы зямлі, штогод абавязваліся даваць на патрэбы замка 300 коп гонту [44].

Кобрынскія замкі ў канцы XVIII ст. былі скапаны па загаду А. В. Суворава, які валодаў тады горадам. Замкавыя насыпы знеслі ў 40-х гадах XIX ст. пры пракладцы Маскоўска-Варшаўскай шашы.

## ІНКАСТЭЛЯВАНЫЯ ХРАМЫ НА БЕЛАРУСІ

У XV—XVII стст. у Беларусі, як і ў іншых землях, назіралася энергічная інкастэляцыя храмаў, г. зн. ператварэнне іх у своеасаблівыя замкі. У ходзе інкастэляцыі цэрквы, касцёлы, кляштары і сінагогі сталі набываць элементы абароны: сцены будаваліся высокія і тоўстыя, на вуглах узводзіліся вежы з байніцамі і машыкулямі. Абарончыя прыстасаванні рабіліся і ў франтонах будынкаў. Унутры храмаў будаваліся скляпы для ваеннага рыштунку і запасаў прадуктаў. У вежах нярэдка ўстанаўлівалі студні.

Вакол такіх храмаў, акаймоўваючы значную тэрыторыю, узводзіліся валы з драўлянымі ці мураванымі сценамі, а нярэдка — і з вежамі або бастыёнамі. Такія пабудовы ўсім сваім выглядам нагадвалі невялікія, але моцна ўфартыфікаваныя замкі, тым больш што часта замест вокнаў былі толькі байніцы. У абароне гарадоў і асобных зямель такія храмы адыгрывалі немалую ролю.

На землях Старажытнай Русі да XIII ст. існаванне спецыяльных абарончых храмаў невядома [45], у той час як у краінах Заходняй і Паўночнай Еўропы яны існавалі ўжо ў XI—XII стст. [46] У XIII ст. пражскі епіскап Табар з прычыны абароны ад нямецкай экспансіі правёў значную інкастэляцыю многіх храмаў Чэхіі. У Польшчы, як сведчыць храніст Длугаш, у XIII ст. былі прыстасаваны да абароны касцёлы ў Енджэеве, Скальміры, касцёл св. Анджэя ў Кракаве. Умацаванне касцёлаў назіралася і пад час барацьбы Конрада Мазавецкага з Генрыхам

---

[44] АВАК, т. 14, с. 556.
[45] Раппопорт П. А. Очерки по истории русского военного зодчества X—XIII вв.— МИА, 1956, № 52.
[46] Miśkiewicz B. Rozwój stałych punktów oporu..., str. 208—209.

Барадатым [47]. У Англіі, на граніцах графства Чэмберлен, абарончыя храмы існавалі ў XIV ст.[48]

Перыядам актыўнай інкастэляцыі храмаў у краінах Заходняй і Усходняй Еўропы з'яўляюцца XV—XVII стагоддзі. Гэта быў час, калі адбываўся працэс утварэння вялікіх і малых еўрапейскіх дзяржаў, калі вяліся частыя і працяглыя феадальныя і рэлігійныя войны.

Вядома, што час найвялікшай інкастэляцыі сакральных пабудоў у Францыі прыпадае на XV, XVI і нават XVII стст.— на перыяд войнаў з Англіяй і ўнутранай рэлігійнай барацьбы [49]. Інкастэляцыя храмаў Германіі асабліва ўзрасла ў 1618—1648 гг., у перыяд Трыццацігадовай вайны. Для Аўстрыі, Венгрыі і Чэхаславакіі асноўнай прычынай дзейснай інкастэляцыі была пагроза турэцкай небяспекі ў пачатку XVI ст. [50] Класічнай зямлёй, якая пабудавала сваю абарону выключна на абарончых храмах, была Трансільванія. Тут іх мелася ў XVI—XVII стст. некалькі сот. Прычым асобныя пабудовы ўзводзіліся нават і ў XVIII ст. [51]

У Маскоўскай дзяржаве працэс інкастэляцыі набыў крыху іншую форму: тут у канцы XVI ст. пачалося ўзвядзенне манастыроў. Сярод іх асабліва вылучаліся Новадзевічы, Сіманаў, Андроннікаў і Данскі пад Масквою, а таксама шырокавядомыя Троіца-Сергіева лаўра, Пскова-Пячэрскі, Кірыла-Белазерскі, Барысаглебскі, Салавецкі і іншыя манастыры.

Характэрнай рысай рускіх манастыроў з'яўляецца тое, што іх абарончыя функцыі цалкам акцэнтаваны на знешніх лініях абароны — сценах і вежах. Самі культавыя пабудовы для абароны прыстасаваны не былі.

Асобныя ўмацаваныя храмы ў XVI—XVII стст. меліся ў Польшчы (Брохаўскі і Ленчыцкі касцёлы) і на Украіне (цэрквы Астрожская і Суткавецкая)[52].

Інкастэляцыя храмаў не абмінула і зямель Вялікага княства Літоўскага, і ў прыватнасці Беларусі. Новы напрамак у беларускай архітэктуры быў выклікан да жыцця пэўнымі ўнутранымі і знешнімі гістарычнымі прычынамі, надзённымі сацыяльна-палітычнымі патрэбамі тагачаснага грамадства.

Паспяховае развіццё інкастэляцыі храмаў на беларускіх землях забяспечвалася трывалай эканамічнай базай, даўнімі будаўнічымі традыцыямі і наяўнасцю высокакваліфікаваных кадраў дойлідаў. Як і ў суседніх народаў асноўнай прычынай была пагроза знешняй небяспекі. Сваю ролю адыгралі таксама Рэфармацыя і Контррэфармацыя — вастрэйшая рэлігійная барацьба, якая асабліва ўзрасла ў XVI—XVII стст.

Таму ў гэты час у гарадах Беларусі, асабліва ў парубежных, узнікла шмат абарончых храмаў. Іх будавалі ля гарадскіх брам, на подступах да замкаў і ў іншых стратэгічна важных месцах. Знаходзячыся адзін

---

47 Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси.— У кн.: Древности, т. 6. М., 1915, с. 170.

48 Toy Sidnej. A history of fortification. Melbourne — London, 1955, p. 186—187.

49 Enlart Camille. Manuel d'archeologic frąсaise. Paris, t. 2, ed. 2, p. 617.

50 Sokołowski M., Worobjew G., Zubrycki J. Kościoły i cmentarze warówne w Polsce.— SKHS, t. 7. Kraków, 1906, str. 495.

51 Rozpendowski J. Inkastelacje kościołów polskich w sredniowieczczu.— KAU, 1966, z. 4, str. 358.

52 Szyszko-Bogusz A. Warowne zabytki architektury kościelnej w Polsce i na Litwie.—SKHP, t. 9, z. 3—4. Kraków, 1914, str. 321—341; Памятники архитектуры Украины. Киев, 1954, табл. 19, 20.

пры адным, такія будынкі стваралі дадатковы мураваны пояс абароны, які праціўніку даводзілася браць штурмам.

Узнікаюць інкастэляваныя храмы і ў сельскай мясцовасці. Яны ўзводзіліся на сродкі простага вясковага люду, які моцна цярпеў ад пастаянных войнаў паміж магнатамі. У іх уласных інтарэсах было мець умацаванае сховішча, якім звычайна станавіўся касцёл ці царква — нярэдка адзіны ў акрузе мураваны будынак. Паколькі беларусы па веравызнанню былі і праваслаўнымі, і каталікамі, то і абарончымі храмамі былі і цэрквы, і касцёлы. Прыстасоўвалі да абароны таксама кальвінскія зборы і асобныя сінагогі.

Безумоўна, пераацэньваць абарончыя якасці гэтых пабудоў нявартa, бо былі яны ўсё ж слабымі, каб процістаяць значнаму войску. Аднак яны служылі пунктамі арганізацыі адпору тым невялікім варожым атрадам, якія ў час ваенных падзей рабавалі і спусташалі край. У выпадку сялянскага паўстання за мурамі храма шукаў паратунку мясцовы прыгнятальнік-феадал. Але захоплены паўстанцамі, храм мог стаць для іх моцным апорным пунктам.

У канцы XV — пачатку XVI ст. на Беларусі ўзнік, атрымаў развіццё і стаў характэрным для беларускай сярэдневяковай готыкі тып цытадэльнага царкоўнага будынка, умацаванага з дапамогай вуглавых веж. Уцалелі да нашых дзён тры помнікі гэтага тыпу — Сынковіцкая, Маламажэйкаўская і Супраслеўская цэрквы (апошняя разбурана ў гады другой сусветнай вайны фашыстамі). Яны вельмі падобны паміж сабой і адрозніваюцца толькі некаторымі дэталямі. Гэтыя храмы як бы вызначаюць асноўныя этапы ў паступовым развіцці і афармленні таго своеасаблівага стылю беларускіх гатычных пабудоў, які, маючы свае вытокі ў замкавым дойлідстве больш ранніх часоў, даў у першай палове XVI ст. арыгінальныя ўзоры беларускай архітэктуры, цалкам непадобныя ні на адзін архітэктурны помнік іншых краін.

## Сынковіцкая царква

Сынковіцкая Міхайлаўская царква знаходзіцца ў Зэльвенскім раёне Гродзенскай вобласці. Даследчыкі лічаць канец XV — пачатак XVI ст. найбольш верагодным часам яе ўзвядзення [53].

У плане Сынковіцкая царква нагадвае крыху выцягнуты і перакошаны прамавугольнік памерамі 17,5×13 м з 3-нефным чляненнем. Усе нефы маюць амаль аднолькавую 4-мятровую шырыню. Мураваныя сцены 1,5-мятровай таўшчыні, муроўка гатычная, часткова змешаная, з цэглы памерамі 26,5×15×7 см, пакладзенай на вапне. Высокі двухсхільны дах, які ўзнімаецца над будынкам, надае яму абрысы стромкасці і лёгкасці. Архітэктура храма вызначаецца манументальнай прастатой і выразна акрэсленым абарончым характарам.

Чатыры баявыя вежы, размешчаныя па вуглах будынка, адрозніваюцца паміж сабой памерамі і архітэктурнымі формамі. Дзве з іх, што фланкіруюць заходнюю сцяну і ўваход, пабудаваны на квадратных аснаваннях, умацаваных у трох вуглах контрфорсамі. На палавіне сваёй вышыні вежы пераходзяць у 8-граннік з 3 ярусамі рознавялікіх байніц. Ніжні рад байніц разлічан на абстрэл бліжэйшых падыходаў да сцен будынка. Гэта фактычна байніцы ніжняга бою. Дзве ўсходнія вежы

[53] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, т. 1. Менск, 1928, с. 242—243.

маюць цыліндрычную форму ад самага аснавання і таксама забяспечаны байніцамі.

Унутры веж ёсць лесвіцы, з якіх можна было трапіць да абарончага поясу байніц, размешчаных у франтоне і 2 сценах на паддашку. Верхняя частка ўсіх сцен, апрача ўсходняй, ахоплена магутнай аркатурай, абапёртай на шэраг ступеньчатых патроеных кранштэйнаў. У прамежках паміж аркамі размяшчаюцца круглявыя байніцы, якія зліваюцца ў адзін рад з ніжнімі байніцамі веж. Уверсе над байнічнымі праёмамі знаходзіцца рад круглых шчылін, якія дазвалялі абаронцам сачыць за дзеяннямі праціўніка і весці агонь на далёкую адлегласць.



*Рыс. 66. Сынковіцкая царква*

Асаблівай умацаванасцю вылучаецца заходні бок царквы, дзе знаходзіўся ўваход. У шчыту франтона размяшчаліся ярусы разнастайных байніц. У яго самай верхняй частцы знаходзіўся своеасаблівы і рэдкі архітэктурны элемент — так званы ліхтарык, які служыў назіральным пунктам. Дзверы зачыняліся жалезнаю кратаю-герсаю.

Сістэма і планіроўка абарончых прыстасаванняў Сынковіцкай царквы сугучна з падобнымі прыстасаваннямі ў помніках замкавай архітэктуры тых часоў, і ў першую чаргу з Геранёнскім замкам Гаштольдаў і Мірскім замкам.

Разглядаючы ўнутраную планіроўку помніка, трэба адзначыць, што яго інтэр'ер мае зальны характар. Гэта ўражанне не парушаюць нават 6 гранёных слупоў, на якія абапіраюцца крыжовыя скляпенні з нервюрамі, паколькі слупы займаюць нязначную частку ўнутранай прасторы, і тры паўкруглыя апсіды, якімі заканчваецца інтэр'ер. Падобная структура будынка ўласціва еўрапейскай цаглянай готыцы і невядома рускаму будаўніцтву [54].

---

[54] Квитницкая Е. Д Белоруссия. Архитектура XIV—XVI вв.—ВИА, 1968, т. 6, с 464.

У архітэктуры храма выразна выдзяляюцца элементы псеўдараманскай і гатычнай архітэктуры. Да першай адносяцца круглыя вежы, што фланкіруюць апсідальны фасад; неглыбокія, разнастайныя па форме і памерах атынкаваныя і пабеленыя нішы ў шчыту франтона, якія вельмі падобны на нішы Мірскага замка. Яны пазбаўляюць франтон важкасці і масіўнасці, надаюць яму пэўную яркасць і лёгкасць, ствараюць звязаную ярусную кампазіцыю. Па ўсходніх вежах, а таксама па алтарных апсідах, прыблізна на вышыні 3 метраў, праходзіць дэкаратыўны паясок у выглядзе плоскіх рэльефных паўцыркульных арак, якія абапіраюцца на маленькія трохкутныя кранштэйны. Аркадны фрыз арганічна спалучаецца з арачным поясам асноўных насценных байніц. Ён дапаўняе арачны пояс і вытрыман з ім у адным характары і рытме. Гэта стварае своеасаблівы эфект у алтарнай частцы, грунтоўна відазмяняючы звычайную трактоўку надворных, апсідальных паўкружжаў. Вартай увагі формай з'яўляецца высокі конусападобны дах, якім пакрыты алтарныя апсіды. Гэта супярэчыць традыцыйна візантыйскаму плану апсід, але адначасова не сустракаецца і ў помніках царкоўнай готыкі, і




*Рыс. 67. План, абмерныя чарцяжы храма паводле У. А. Чантурыі*

таму хутчэй за ўсё набліжаецца да таго прыёму перакрыццяў, якія сустракаюцца ў замкавых вежах [55].

Да яўных элементаў готыкі трэба аднесці спічастыя аркі аконных праёмаў, якія зачыняліся жалезнымі кратамі; зорчатае скляпенне правай апсіды храма; высокі 2-схільны дах з вострым шчыпцом; 8-гранныя вежы галоўнага фасаду; стройныя 8-гранныя апоры ўнутры храма.

Сынковіцкая царква, такім чынам, сінтэтычна спалучае старажытнарускі царкоўны план з архітэктурнай апрацоўкай яго ўнутраных частак у характары гатычнага царкоўнага будынка. Гэта надае помніку выключную яркасць і самабытнасць, вылучаючы яго, як справядліва адзначаюць даследчыкі, у разрад помнікаў сусветнага значэння [56].



*Рыс. 68. Натурны здымак храма.*
*Фота В. Ждановіча*

Новыя архіўныя дакументы, выяўленыя аўтарам, пацвярджаюць думку М. М. Шчакаціхіна і Ст. Лёрэнтца аб узвядзенні храма не ў XV ст., а ў першай палове XVI ст. «Акт візітацыі Сынковіцкай царквы» за 1760 г. прама паведамляе, што «царква пад тытулам св. Міхаіла Архангела фундацыі старажытнай каралевы Боны» [57]. Маючы на ўвазе распаўсюджаную на Беларусі гістарычную традыцыю занадта многае звязваць з дзейнасцю гэтай сапраўды вельмі энергічнай каралевы і робячы на гэта пэўную скідку, адзначым, што архіўныя звесткі на гэты раз вельмі блізкія да праўды. Бона, якая жыла ў Рэчы Паспалітай з 1518 па 1556 г., валодала Зэльвай і яе ваколіцамі [58]. Магчыма, Сынковічы таксама ўваходзілі ў яе ўладанне.

Гэты ж «Акт» паведамляе, што тады ў чатырох вежах храма меліся скляпы, а перад уваходам у будынак — мураваны бабінец з моцнымі дзвярыма. Раней даследчыкі лічылі, што яго ўзвялі ў XIX ст.[59] Важным, на нашу думку, з'яўляецца паведамленне 1760 г. і аб тым, што над старым гонтавым дахам, па цэнтру яго, вежападобна ўзвышаўся купал [60].

---

[55] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, с. 251; Lorentz St. Wycieczki Słonimskie..., str. 30—31.
[56] Янкявічэне А. С. Самабытныя рысы беларускай готыкі.— ПГКБ, 1974, № 1, с. 20.
[57] ЦДГА УССР у Львове, ф. 201, воп. 4, спр. 684, л. 5.
[58] Спірыдонаў М. Ф. Бона.— БелСЭ, т. 2. Мінск, 1970, с. 368—369.
[59] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне..., с. 292, 296.
[60] ЦДГА УССР у Львове, ф. 201, воп. 4, спр. 684, арк. 5.

У XIX ст. яго ўжо не існавала і аб ім нічога не было вядома. Натурнае вывучэнне царквы паказвае, што на вуглах бабінца спачатку меліся дзве невялікія вежы з байніцамі, што яшчэ больш узмацняла абарону будынка. Уваход у бабінец даўней размяшчаўся ў яго паўднёвай сцяне.

Нягледзячы на рамонты 1841 і 1880—1881 гг., знешні і ўнутраны выгляд царквы ў аснове сваёй застаўся нязменным да нашых дзён. Толькі вакол будынка ў 1888—1889 гг. была зроблена мураваная агароджа. У 1891 г. перад уваходам узвялі таксама мураваную званіцу, якая, на жаль, стылістычна не дапасоўваецца да самой царквы.

## Маламажэйкаўская царква

Храм абарончага тыпу, вядомы як Маламажэйкаўскі ці «Муравbooка», знаходзіцца на паўднёвым ускрайку вёскі Мураванкі і чыгуначнай станцыі Скрыбаўцы Лідскага раёна Гродзенскай вобласці, у 3 км ад вёскі Маламажэйкава.

Узведзены ў першай палове XVI ст., паміж 1516 і 1542 гг.[61], храм уяўляе сабой 4-стоўпную аднаапсідную пабудову памерамі каля 15×13,5 м, са сценамі амаль 2-мятровай таўшчыні. Высокі двухсхільны дах пакрывае будынак, на вуглах якога стаяць чатыры цыліндрычныя абарончыя вежы. У адрозненне ад Сынковіцкай царквы, дзе вежы з'яўляюцца як бы самастойнымі пабудовамі, прымкнутымі да асноўнага аб'ёму храма, у Маламажэйкаве вежы, наадварот, арганічна звязаны з асноўным корпусам. Яны нібы ўцягнуты ў вуглы будынка царквы, сцены якой паступова пераходзяць у іх цыліндрычныя целы, ствараючы ўражанне адной суцэльнай архітэктурнай масы. Дзякуючы гэтаму дасягаецца больш кампактнае і закончанае адзінства плана.

Дзве заходнія вежы найбольшыя. Іх дыяметр каля 4,5 м, таўшчыня сцен блізкая 1,8 м, а першапачатковая вышыня каля 14 м. Дзве ўсходнія вежы меншыя — дыяметр толькі 3 м, таўшчыня каля 1 м, хаця вышыня блізкая да вышыні заходніх веж. У вежах спачатку размяшчаліся вінтавыя лесвіцы, якія давалі выхад да двух ярусаў байніц і да байніц баявой галерэі, зробленых на паддашку ў сценах і заходнім франтоне храма. Байніцы складаліся з вялікай пячуры і самога праёму, перакрытага круглявай арачкай. Расшыраючыся вонкі і ўніз, яны дазвалялі рабіць абстрэл непасрэдных подступаў да будынка. Над кожнай такой байніцай меўся невялікі праём-адтуліна для назірання за праціўнікам. Раней у паўночнай і паўднёвай сценах існавала па 7 байніц[62], цяпер большая частка іх закладзена і захавалася 6 штук — па 3 з кожнага боку. У шчыту франтона храма размяшчаліся два ярусы байніц, падобных па сваёй структуры на байніцы сцен. Ніжні ярус складаўся з 4, а верхні — з 3 байніц, якія трымалі пад агнём подступы да ўваходу.

Фасады «Мураванкі» аздоблены значнай колькасцю дэкаратыўных элементаў. Гэта ў асноўным шматлікія неглыбокія нішы разнастайных абрысаў, раскіданыя па плоскасцях сцен, шчыту франтона і вежах. Пабеленыя, яны выдзяляліся яркімі плямамі святла на фоне цаглянай кладкі будынка і зніжалі ўражанне манументальнасці. Своеасаблівымі элементамі архітэктуры будынка з'яўляюцца спараныя паўцыркульныя нішы з невялікім замком і круглае акно ў цэнтры заходняй сцяны, уласцівае помнікам раманскай і гатычнай архітэктуры.

---

[61] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне..., с. 272—274.
[62] Szyszko-Bogusz A. Warowne zabytki..., str. 347.

Дэкор будынка вынесен за межы заходняга франтона і пашыран на бакавыя фасады, алтарную апсіду і вежы. Увесь будынак унізе падпаясан стужкай традыцыйнага парэбрыка.

Царква мае адзіны ўваход з захаду, які раней зачыняўся жалезнымі дзвярыма і абарончай кратаю — герсай, што спускалася зверху на ланцугах праз спецыяльны праём [63].

Унутраны архітэктурна-планіровачны аб'ём «Мураванкі» характарызуецца выразнасцю. Адзіная апсіда займае ўсю шырыню храма і ўспрымаецца як арганічны працяг яго ўнутранай прасторы. Чатыры калоны



*Рыс. 69. Маламажэйкава. Малюнак В. Гразнова*

падтрымліваюць скляпенні і падзяляюць памяшканні на тры амаль аднолькавыя па вышыні нефы, з якіх сярэдні каля 12 м вышыні.

У параўнанні з Сынковіцкай Маламажэйкаўская царква робіць як бы яшчэ адзін крок да готыкі. Асабліва выразна гэта набліжэнне праявілася ў плане і ва ўнутранай канструкцыі. Увесь будынак перакрыт вельмі складанымі зорчатымі скляпеннямі з рэзка прафіляванымі нервюрамі. Апошнія ў некаторых месцах пераходзяць у так званыя сотавыя скляпенні, дзе нервюрны касцяк зліваецца з распалубкамі перакрыццяў. Нервюры густымі пучкамі зыходзяцца да цэнтральных слупоў, абапіраючыся з другога боку на кранштэйны сцен будынка, утвараючы ром-

---

[63] Szyszko-Bogusz A. Warowne zabytki..., str. 347.

бы і трохвугольнікі. Уся іх сістэма ў параўнанні з Сынковіцкай царквой і яе звычайнымі крыжовымі скляпеннямі з'яўляецца больш развітай, выяўляючы значнае ўдасканаленне прыёмаў гатычнага будаўніцтва і шырокае разуменне багатых дэкаратыўных магчымасцей гатычных канструкцый [64].

За час свайго існавання «Мураванка» не аднойчы падвяргалася выпрабаванням. Так, у 1656 г., пад час руска-польскай вайны, яна была значна пашкоджана і адноўлена толькі праз некалькі гадоў. У 1706 г. войскі Карла XII, ідучы праз Жалудок да Палтавы, абстралялі па загаду караля замак-царкву, які здзівіў яго сваім незвычайным выглядам.

Пасля гэтых падзей храм запуставаў і быў адноўлен толькі ў 1822 г. Рамонт 1871—1872 гг. значна змяніў першапачатковае аблічча будынка: заходнія вежы былі падняты на 1 сажань і ў адной з іх зроблена звані-




*Рыс. 70. План, абмерныя чарцяжы храма паводле У. А. Чантурыі*

64 Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, с. 256.



*Рыс. 71. Натурны здымак храма*

ца. Ва ўсходніх вежах зніклі лесвіцы [65]. Частку байніц замуравалі, з'явіўся бабінец, а над уваходам знялі герсу.

З невялікімі зменамі фасада Маламажэйкаўская царква захавалася да сённяшніх дзён.

## Супраслеўская царква

Супраслеўскі абарончы храм пабудаван у 1503—1510/11 гг. старастам берасцейскім і ваяводам навагрудскім маршалкам Вялікага княства Літоўскага Аляксандрам Хадкевічам у глухой Блудаўскай пушчы, на р. Супраслі, непадалёку ад Беластока (цяпер тэрыторыя ПНР). Вялікі ўдзел ва ўзвядзенні храма прымаў смаленскі епіскап Іосіф Солтан, які пазней стаў кіеўскім мітрапалітам і асвячаў храм [66].

Царква ўзводзілася ў гады актыўных ваенных дзеянняў Вялікага княства Літоўскага з Рускай дзяржавай і крымскімі татарамі. Якраз тады назіраецца інтэнсіўная пабудова фартыфікацый у суседніх Беластоку, Тыкоціну, Кнышыну і іншых гарадах. Сам А. Хадкевіч будуе ў Гарадку ўмацаваны замак і ўласныя харомы, а ў 1510 г. заканчвае ўмацаваную Супраслеўскую царкву, значэнне якой ён недвухсэнсоўна падкрэсліў у сваёй грамаце: «Абы тот монастырь... на нашей отчизне твердо на веки стоял нашим воможением» [67].

У плане будынак мае выгляд выцягнутага і крыху перакошанага на ўсходзе 4-вугольніка памерамі 33×13 м, з 4 круглымі нарожнымі вежамі, арганічна злучанымі з мурамі і 3-граннай апсідай. Адзіны ўваход з захаду бараніўся герсаю, якая спускалася ў спецыяльным праёме зверху на ланцугах. Двухсхільны дах памяшкання меў 4 франтоны —

---

[65] Szyszko-Bogusz A. Warowne zabytki..., str. 356.

[66] Арх. Николай (Далматов). Супрасльский Благовещенский монастырь (далей Далматов). СПб, 1892, с. 5—7, 44—45; Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне..., с. 254—255; Kochanowski W. Pobaziliański zespół architektoniczny w Supraslu.— RB, t. 4. Białystok, 1963, str. 362.

[67] Kochanowski W. Pobaziliański zespół architektoniczny w Supraslu, str. 371.

шчыты, размешчаныя паміж вежамі. Над дахам узвышаўся высокі вежападобны купал, які дасягаў 28 м [68].

Цокальная частка будынка ўпрыгожвалася ўзорамі сетчатага арнаменту з цэглы-жалезняка. Уверсе ішлі пояс байніц-машыкуляў і зубчасты арнамент.

У адрозненне ад Сынковіцкай і Маламажэйкаўскай цэркваў у Супраслеўскім храме байніцы існавалі і з усходу, над алтаром.

Чатыры вежы па вышыні дасягалі канька даху будынка і пераходзілі ў 8-граннік. Асаблівая ўвага акцэнтавана на абароне заходняга фасаду будынка, дзе размяшчаўся ўваход. Ён фланкіраваўся агнём з веж, а падыходы абстрэльваліся з байніц франтона і машыкуляў.

Элементы гатычнай архітэктуры праглядваюцца ў Супраслеўскай царкве значна выразней, чым у Маламажэйкаўскай і Сынковіцкай. Гэта — спічастыя аркі вакконных праёмаў і парталаў і сам інтэр'ер з яго разнастайнымі скляпеннямі — зорчатымі, крыжовымі, сеткаватымі або сотавымі [69].



*Рыс. 72. Супраслеўскі храм. Малюнак В. Гразнова*

Супраслеўская царква, бясспрэчна, займае выдатнае месца сярод тых 4-вежавых будынкаў, у якіх своеасаблівы архітэктурны стыль беларускай готыкі знайшоў сваё найбольш поўнае праяўленне. Будынак з'яўляецца яркім узорам сінтэтычнасці і арганічнасці гэтага стылю, які ўдала спалучаў усе папярэднія асновы грамадзянскай і ваеннай архітэктуры. Ён дазваляе ўбачыць, з якіх элементаў вырас і выкрышталізаваўся новы архітэктурны стыль і праз якія папярэднія этапы развіцця паслядоўна прайшло старажытнае беларускае дойлідства.

Нарэшце, Супраслеўскі храм мае важнае значэнне ў вырашэнні пытання генэзы 4-вежавага абарончага храма на Беларусі, у вызначэнні канкрэтнага месца ўзнікнення першага такога будынка.

Да гэтага часу ў гістарычнай літаратуры была пашырана думка, што дойлідамі Супраслеўскай царквы былі віленскія майстры [70]. Адны лічылі будынак віленскага Бернардзінскага касцёла своеасаблівым родапа-

---

[68] Kochanowski W. Pobaziliański zespół architektoniczny w Supraslu, str. 362.
[69] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, с. 256; Чантурия В. А. История белорусской архитектуры. Минск, 1968, с. 61.
[70] Kochanowski W. Pobaziliański zespół architektoniczny w Supraslu, str. 368.

чынальнікам тыпу 4-вежавых абарончых храмаў на Беларусі[71], другія называлі прататыпам царкву ў Зімне (1495), на Валыні.

Безумоўна, калі шукаць найбольш верагоднае месца ўзнікнення помнікаў такога тыпу, то перавагу належыць аддаць не Сынковічам, Маламажэйкаву і Супраслі, а менавіта Вільні, сталіцы Вялікага княства Літоўскага, па той простай прычыне, што першыя тры помнікі ўзніклі ў самай натуральнай глухамані, далёка ад гарадоў — цэнтраў каменнага дойлідства. Аднак нам, між тым, хочацца звярнуць увагу на некалькі важных акалічнасцей.



*Рыс. 73. План і разрэз храма*

[71] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, с. 235—242; Янкявічэне А. С. Самабытныя рысы беларускай готыкі, с. 20.

Віленскі храм быў пабудаван у 1512—1516 гг., а па некаторых звестках — нават у 1525 г.[72] Супраслеўскі ж храм — з 1503 па 1510/11 гг. Вільня хаця і была ў той час сталіцай Вялікага княства Літоўскага, але знаходзілася ў самай глыбіні дзяржавы і знешняя небяспека пагражала ёй куды менш, чым тым гарадам, якія стаялі на паўднёвых і ўсходніх рубяжах. Гэта дае падставы лічыць радаводную віленскага Бернардзінскага касцёла недастаткова аргументаванай для таго, каб прызнаць гэты помнік родапачынальнікам, а Вільню — месцам узнікнення новага напрамку ў беларускім царкоўным дойлідстве. Адначасова прыведзеныя факты заканамерна прымушаюць шукаць на Беларусі такі цэнтр сярэдневяковай культуры, дзе б існавалі даўнія будаўнічыя традыцыі, меліся высокакваліфікаваныя кадры дойлідаў і трывалая эканамічная база, а рэальная пагроза знешняй небяспекі рашуча б паставіла на парадак дня пытанне інкастэляцыі храмаў. Такім горадам быў старажытны Полацк — адзін з буйнейшых гандлёва-рамесных цэнтраў на Заходняй Дзвіне, важны парубежны горад на ўсходзе Вялікага княства Літоўскага. Навейшыя ж архіўныя росшукі прыводзяць нас да пераканання, што першым цытадэльным храмам з чатырма нарожнымі вежамі была Сафія Полацкая.

## Сафія Полацкая

Асноўнымі дакументамі для пацверджання такой думкі з'яўляюцца два графічныя дакументы: апублікаваны польскім даследчыкам С. Александровічам невядомы раней малюнак С. Пахалавецкага «Аблога Полацка войскамі Стэфана Баторыя 11—30 жніўня 1579 г.»[73] і выяўлены намі план Полацка 1707 г., дзе гарадскія храмы, у тым ліку Сафія, пададзены ў аб'ёмным малюнку [74].

Гэтыя дакументы, дапаўняючы адзін аднаго, робяць зразумелымі скупыя звесткі аб Полацкай Сафіі, змешчаныя ў розных пісьмовых крыніцах. Яны набываюць асаблівую важнасць яшчэ і таму, што на іх захаваліся два розначасовыя і назаўсёды страчаныя «партрэты» славутага полацкага храма, аб якіх раней мы не мелі ніякага ўяўлення.

Абодва малюнкі падаюць вобраз полацкага храма ў выглядзе невялікага, дужа ўмацаванага замка, разлічанага на самастойную абарону. У чатырох вуглах будынка стаялі высокія цыліндрычныя вежы даволі значнага дыяметру. Яны былі пакрыты шатровымі дахамі і мелі па тры ярусы байніц. Над Сафіяй узвышалася цэнтральная вежа, якая, верагодна, была 6-граннай з двума ярусамі байніц. Хаця яна і нагадвае традыцыйны цэнтральны купал, але не выключана, што яе маглі выкарыстоўваць у час абароны.

Мяркуючы па малюнку 1579 г., можна думаць, што Сафійскі сабор, як і Супраслеўскі храм, меў чатыры франтоны, размешчаныя паміж вежамі. Заходні франтон меў байніцы. Уваход у будынак быў, мяркуючы па ўсяму, адзіны і размяшчаўся з захаду. Ён фланкіраваўся агнём з нарожных веж і байніц франтона. Акрамя таго, яго перакрывала герса, што апускалася зверху.

---

[72] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, с. 235.
[73] Aleksandrowicz St. Nowe źródło ikonograficzne do oblężenia Połocka w 1579 r., str. 3—29.
[74] ЦДГВА СССР, ф. ВУА, спр. 22375 — План Полацка 1707 г.; Ткачоў М. А. Новае пра Сафійскі сабор.— ПГКБ, 1972, № 2, с. 18—23.

На жаль, гравюра 1579 г. не дазваляе нам гаварыць аб умацаваннях сцен царквы. Але маючы перад вачыма аднатыпныя помнікі XVI ст. у Сынковічах, Маламажэйкаве і Супраслі, мы не зробім, відаць, памылкі, калі будзем лічыць, што сцены Сафіі таксама мелі байніцы і машыкулі.

Хаця два новыя дакументы і з'яўляюцца важным фактам, аднак і раней у пісьмовых крыніцах сустракаліся звесткі, якія ўскосна сведчылі аб тым, што Сафійскі сабор з'яўляўся апошняй цытадэллю абаронцаў Верхняга замка і месцам знаходжання кіраўнікоў абароны. Так,





*Рыс. 74. Сафія Полацкая. З малюнка 1579 г.* *Сафія Полацкая. З плана 1707 г.*

Лебедзеўскі летапіс, паведамляючы аб зацяжной, двухтыднёвай аблозе Полацка войскамі Івана Грознага ў 1563 г., сведчыць: «Ваявода ж Полацкі (Давойна.— *М. Т.*) з усімі сваімі бліжнімі і з сем'ямі жыве ў царкве святой Сафіі»[75]. Тое ж самае было ў 1579 г., калі кіраўнікі рускага гарнізона і ўладыка Кіпрыян запёрліся ў Сафіі і апошнімі здаліся на міласць караля Стэфана Баторыя[76]. Сучаснікі адзначалі, што «храм у замку — велізарны, на выдатнай мясцовасці і цудоўна пабудаваны з каменю»[77]. Цяпер, калі мы маем графічныя «партрэты» Сафіі 1579 і 1707 гг., гэтыя словы набываюць новы і глыбокі сэнс.

Несумненна, у час войнаў храм значна пацярпеў і хаця быў пасля 1579 г. адноўлен, але ўжо страціў сваё былое багацце і хараство. У канцы XVI ст. ён перайшоў да уніятаў. У гістарычнай літаратуры ўсталявалася думка, што ў 1607 г. Сафійскі сабор быў разабран[78]. Між тым,

---

[75] ПСРЛ, т. 29, с. 311.

[76] Сементовский А. Полоцкая Софийская церковь — Памятная книжка Витебской губернии на 1878 г. Витебск, 1878, с. 67; Сапунов А. Полоцкий Софийский собор. Витебск, 1888, с. 11.

[77] Цыт. па кн.: Сапунов А. Витебская Старина. Витебск, 1885, т. 4, с. 215—217.

[78] Сементовский А. Полоцкая Софийская церковь, с. 63; Сапунов А. Полоцкий Софийский собор, с. 3.

як слушна заўважыў С. Александровіч, гэта сцверджанне грунтуецца на недакладнасці перакладу аўтарамі тэксту крыніцы. На самай жа справе, калі ў 1607 г. у час пажару сабор згарэў, сейм Рэчы Паспалітай, уважыўшы просьбу паслоў Полацкага ваяводства, дазволіў «...руіны царквы старой св. Сафіі забудаваць і направіць, абы там, коштам сваім абывmember ваяводства Полацкага збудаваўшы, кнігі земскія і гродскія свайго ваяводства хавалі» [79].

Рамонт сабора, які закончыўся ў 1618 г., прыпадае на гады зацятай барацьбы паміж каталіцкай і праваслаўнай рэлігіямі. Абарончыя якасці храма, відаць, былі ўлічаны, бо нездарма яго адбудовай кіраваў вядомы уніят, архіепіскап полацкі і віцебскі Іасафат Кунцэвіч. Як сведчыць архімандрыт Гродзенскага кляштару базыліянаў Ігнацi Кульчынскі, Кунцэвіч аднавіў і шыкоўна аздобіў абшарпаны, забруджаны і разбураны будынак Сафіі: «А ў чатырох нарожных вежах вярхі непатрэбныя і царкве ніякай красы не прыдаваўшыя скінуў, а сярэднюю вежу, прыгожа аздобіўшы, зрабіў яшчэ больш высокай» [80].

Вышэйзгаданая цытата невядома чаму прывяла С. Александровіча да катэгарычнага сцверджання, што перабудова, зробленая І. Кунцэвічам, увогуле «...знішчыла чатыры нарожныя вежы» [81], хаця размова, як бачым, ішла толькі «аб вярхах», відаць, безнадзейна пашкоджаных. Самі ж вежы, канчаткова не страціўшыя свайго значэння, засталіся. Гэта, як убачым ніжэй, пацвярджае план Полацка 1707 г.

Пажар горада і замка ў 1643 г. (паводле А. Сапунова, у 1642 г.) не абмінуў Сафію. Яна згарэла, але праз год была адноўлена стараннем архіепіскапа полацкага і віцебскага Антонія Сялявы [82]. У такім стане Сафійскі сабор захаваўся да пачатку XVIII ст.

На плане Полацка 1707 г. мы зноў бачым Сафію ў выглядзе цытадэльнага храма. Праўда, яна ўжо крыху не падобна на тую, што паказана на гравюры 1579 г. Чатыры нарожныя вежы сталі ніжэйшымі і мелі толькі па два ярусы бою. Над будынкам узняўся высокі дах, у выніку чаго пятая вежа стала больш падобная на барабан звычайнага царкоўнага купала. Іншыя абрысы атрымаў шчыт франтона. Вакол храма замест сцен і веж драўлянага замка бачым разгалінаваную сістэму магутных бастыённых умацаванняў.

Вядома, што з 1705 па 1710 г., у час Паўночнай вайны, у Полацку знаходзіліся рускія войскі Пятра І. Сафійскі сабор быў ператворан у склад ваеннага рыштунку і боепрыпасаў. 1 мая 1710 г. у падзямеллях царквы нечакана ўзарваўся порах. Выбух знішчыў адну сцяну, левы прыдзел, пашкодзіў падмурак, скляпенні і калоны [83].

Апошняя перабудова Полацкай Сафіі адбылася паміж 1738 і 1750 гг. па ініцыятыве полацкага архіепіскапа Фларыяна Грабніцкага. Імя аўтара праекта перабудовы невядома. Усе будаўнічыя работы, як сведчаць даследчыкі, зрабіў «варшаўскі абывацэль Блажэй Касінскі» [84]. Новы храм паглынуў ранейшую Сафію, але асобныя рэшткі сабора

[79] Volumina Legum. СПб, 1859, с. 450.
[80] Kulczyński J. Monołogium bazyliańskie to jest żywoty swiętnych Pańskich obojej plci z zakonu S. Bazylego W. na miesiące rozłożone. Wilno, 1777, t. 2, str. 206.
[81] Aleksandrowicz St. Nowe źródlo ikonograficzne..., str. 25—26.
[82] Załęski St. Jezuici w Polsce. t. 4. Kraków, 1905, str. 201—202.
[83] Ткачоў М. А. Новае пра Сафійскі сабор,— ПГКБ, 1972, № 2, с. 18, 21; Deruga A. Piotr Wielki a unici i unia Kościelna 1700—1711. Wilno, 1936, str. 109—110, 234—236, 262; Aleksandrowicz St. Nowe źródło ikonograficzne..., str. 29.
[84] Morelowski M. Katedra unicka w Połockie.— PKHS, t. 2. Kraków, 1922, str. 89—90.

ўцалелі. Яны ўдала ўвайшлі ў архітэктурны вобраз новага будынка, данёсшы да нас аснову ўсяслававай Сафіі XI ст.

Хацелася б адзначыць, што гравюра 1579 г. ярка пацвярджае правату даследчыкаў М. М. Шчакаціхіна, І. Л. Хозерава, П. А. Раппапорта і інш., якія лічылі, што заходнія апсіды — прыбудова позняя, зробленая не ў XI, а ў XVIII ст. Сапраўды, на заходняй сцяне Сафіі XVI ст. такіх апсід не відаць.

Але калі ж адбылася інкастэляцыя храма, на якія гады яна прыпадае? Параўноўваючы Сафійскі сабор з храмамі ў Сынковічах, Маламажэйкаве і Супраслі, нельга не заўважыць іхняга вялікага знешняга падабенства. Асабліва вылучаецца Супраслеўская царква. Як і ў Сафіі, у яе 4 нарожныя вежы і пятая — над цэнтрам будынка, тая ж герса над уваходам і аднолькавы прынцып фланкіравання сцен будынка. Тое ж самае можна сказаць пра Сынковіцкі храм, над якім даўней узвышаўся вежападобны купал. Які ж з гэтых храмаў паўстаў раней і паслужыў для іншых узорам пры будаўніцтве?

Адказ на пытанне можа быць, як нам здаецца, толькі адзін — першы цытадэльны храм на Беларусі ўзнік у Полацку — багацейшым сярэдневяковым горадзе Беларусі, цэнтры даўняй і высокай будаўнічай культуры. І гэтым будынкам была славутая Полацкая Сафія. Нарэшце, немалаважным фактам у карысць Полацка трэба лічыць наяўнасць у ім яшчэ адной цытадэльнай царквы — амаль дакладнай копіі Сафіі. Яна стаяла, як бачна з плана Полацка 1707 г., на ўсход ад Верхняга замка, сярод гарадскіх пабудоў, прыблізна на тым самым месцы, дзе на іншых планах горада значыцца Мікольская царква.

Прызнаўшы гэта, можна вырашыць пытанне і аб часе перабудовы Сафіі з 7-купальнай у 5-вежавы абарончы храм. Тым больш што дата закладкі Супраслеўскай царквы (1503) сумненняў не выклікае.

Такімі гадамі, як мы лічым, маглі быць 1494—1501 гг. І вось чаму. Вядома, што Полацк быў «ключом Лівоніі і самой Літвы». Валодаць ім аднолькава хацелі і Вялікае княства Літоўскае, і Лівонія, і Руская дзяржава. За Полацк у канцы XV і пачатку XVI ст. вяліся зацятыя і шматлікія ваенныя дзеянні, што прымушала клапаціцца аб яго абароне. Так, у 1494 г., нягледзячы на заключэнне міру з праціўнікам, вялікі князь літоўскі Аляксандр загадаў «прывесці ў абарончы стан замкі Полацкі і Віцебскі»[85]. Затым ваенныя падзеі лета 1500 г. прымусілі яго яшчэ больш умацаваць парубежныя гарады, асабліва Полацк, Віцебск, Смаленск і Оршу. Гэта энергічнае ваеннае будаўніцтва не магло не закрануць Полацкай Сафіі, якая стаяла ў самым цэнтры Верхняга замка — асновы абароны горада. У 1501 г. Полацк, на думку даследчыкаў, быў умацаван так, як ніколі раней[86].

Пасля перабудовы Сафіі, верагодней за ўсё, у канцы XV ст., яе выкарысталі ў якасці ўзору пры ўзвядзенні другога полацкага храма, дату пабудовы якога, на жаль, высветліць не ўдалося, затым у 1503—1510 гг. — і Супраслеўскага. Фундатар апошняга А. Хадкевіч, думаецца, сам быў не раз у Полацку, а магчыма, выбраць такі тып храма падказаў яму смаленскі епіскап І. Солтан (пазней мітрапаліт кіеўскі), які мог ведаць аб перабудове Полацкай Сафіі. Ён, як ужо адзначалася вышэй, прымаў дзейсны ўдзел пры ўзвядзенні Супраслеўскай царквы.

---

[85] Сапунов А. Полоцкий Софийский собор, с. 9; яго ж. Віцебская Старына, т. 4, с. 19—20.

[86] Даўгяла З. Polocеае moenia.— «Запіскі аддзелу гуманітарных навук». Менск, 1928, кн. 3, т. 2, с. 218.

Архітэктурныя формы, якія атрымала Сафія пасля перабудовы, не з'яўляліся чымсьці новым і нечаканым на землях Вялікага княства Літоўскага, і ў прыватнасці на Беларусі. Тып 4-вугольнага будынка з баявымі нарожнымі вежамі быў у тыя часы ўласцівы для беларускага дойлідства, як свецкага, так і ваеннага. Дарэчы, ён стаў настолькі распаўсюджаным і традыцыйным у XVI—XVII стст., што ў такім стылі будаваліся нават тыя храмы, якія ўвогуле не прызначаліся для выканання ваенных функцый.

Планіроўка цытадэльных храмаў тыпу Полацкай Сафіі родная планіроўцы 4-стоўпных храмаў заходнерускіх зямель XII—XIII стст.




*Рыс. 75. План Полацка 1707 г.: 1 — першапачатковае гарадзішча Полацка, 2 — Верхні замак, 3 — Сафійскі храм, 4 — Мікольская царква (?)*

Гэта сведчыць аб пераемнасці традыцый старажытнага будаўніцтва, няспыннасці працэсу развіцця беларускага дойлідства, генетычныя вытокі якога бяруць пачатак з глыбінь стагоддзяў. Няспыннасць гэтага працэсу пацвярджаецца хаця б тым, што ў цытадэльных праваслаўных храмах больш позняга часу — Сынковіцкім і Маламажэйкаўскім — ужо няма верхняга вежападобнага купала, які мелі два полацкія і Супраслеўскі храмы. Сістэма перакрыццяў залы, пазбаўленая купала, ускладнілася новым канструкцыйным рашэннем, уласцівым готыцы.

У Сынковіцкім і Маламажэйкаўскім храмах становіцца прыкметнай яшчэ адна рыса арганізацыі абароны тагачасных цытадэльных храмаў — паступовае паслабленне абароны ўсходняй часткі будынкаў, дзе вежы пачалі рабіць значна меншымі па дыяметру і таўшчыні сцен. Назіраецца канцэнтрацыя сіл і сродкаў абароны з заходняга боку, дзе звычайна размяшчаўся адзіны ўваход. Галоўную прычыну гэтага, вера-

годна, трэба шукаць у далейшым развіцці вогнестрэльнай зброі і змене тактыкі асады ў другой палове XVI ст.

У канцы XVI ст. на Беларусі ўжо сустракаюцца праваслаўныя мураваныя храмы з дзвюма абарончымі вежамі, якія фланкіравалі ўваход у памяшканне. Адным з іх з'яўляецца Брэсцкая царква св. Мікалая, дзе была абвешчана вядомая царкоўная унія 1596 г. У вежах меліся па тры ярусы байніц, якія былі, паводле іканаграфічнага матэрыялу, і ў сценах памяшкання. Улічваючы ўсё гэта, становіцца зразумелым, чаму сабор адбыўся менавіта ў гэтай царкве, а не ў якой іншай, бо, як сведчаць сучаснікі, у Брэст з'ехалася тады нямала актыўных праціўнікаў уніі [87].

## АБАРОНЧЫЯ КАСЦЁЛЫ, КЛЯШТАРЫ І РЭФАРМАЦКІЯ ЗБОРЫ

Выразныя абарончыя рысы мелі таксама старажытныя каменныя касцёлы і рэфармацкія храмы, якія былі шырока распаўсюджаны на Беларусі ў XVI—XVII стст. Увядзенне ў архітэктуру касцёлаў высокіх цыліндрычных веж можна растлумачыць жыццяздольнасцю мясцовых традыцыйных прыёмаў будаўніцтва. Тым больш што, як справядліва адзначаюць даследчыкі, асноўнымі будаўнікамі касцёлаў былі муляры-беларусы, якія перадавалі свой вопыт з пакалення ў пакаленне, а майстры-іншаземцы таксама аказваліся пад уплывам мясцовай культуры [88].

Аднак усё гэта не выключае прамых уплываў польскай архітэктуры, дзе ўмацаваныя касцёлы часцей за ўсё мелі 1—2 і вельмі рэдка 3 абарончыя вежы.

Жорсткая барацьба, якая разгарэлася на Беларусі ў XVI ст. паміж прыхільнікамі і праціўнікамі Рэфармацыі, знайшла адлюстраванне ў своеасаблівай архітэктуры кальвінскіх збораў і каталіцкіх кляштараў.

### Камайскі касцёл

Гатычны касцёл у Камаях — адзін з самых позніх і апошніх храмаў абарончага тыпу на землях Беларусі пабудаван у 1603—1606 гг. Янам Рудамінай Дусяцкім. Сваімі памерамі касцёл пераўзыходзіць вышэйразгледжаныя інкастэляваныя храмы і мае на галоўным фасадзе толькі 2 асадзістыя цыліндрычныя вежы з ярусамі разнастайных байніц. Таўшчыня іх сценак дасягае 2 м і дыяметр — 6 м. Вежы арганічна звязваюцца з асноўным корпусам будынка і сціплым 3-кутным шчытом франтона, ствараючы ўражанне адной суцэльнай архітэктурнай масы. Сляды дзвюх веж з боку алтара сведчаць, што першапачаткова касцёл таксама быў 4-вежавым, але потым вежы, фланкіруючыя апсіды, знеслі.

Да сярэдзіны XVII ст. касцёл быў 2-нефны, перакрыты скляпеннямі, якія абапіраліся на 4 слупы. У сярэдзіне XVII ст. пад час руска-польскай вайны скляпенні рухнулі, і пазней, пры аднаўленні касцёла, іх разам са слупамі поўнасцю разабралі. Адноўлены касцёл у гады Паўночнай вайны моцна пацярпеў. Як напамінак аб тых даўніх выпрабаваннях — ядры ад шведскіх гармат, умураваныя ў фасаднай сцяне. Касцёл рэстаўрыраваўся і дабудоўваўся ў 1726—1736 гг., 1778 і 1861 гг. [89] Цяпер

---

[87] Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва. СПб, 1890, с. 141. Примечания, с. 132—133.
[88] Чантурия В. А. История белорусской архитектуры, с. 70—71.
[89] Lorentz St. Z materiałów do historji architektury na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego, str. 335—337; яго ж. Wycieczki po województwie Wileńskim, str. 73—74.



*Рыс. 76. Камайскі касцёл*




*Рыс. 77. План касцёла*

касцёл — адnанефны з перакрыццямі на бэльках. Абкружае яго магутны мур, узведзены ў традыцыях мясцовага дойлідства з валуноў на вапне.

Кальвінскія зборы не падобныя на касцёлы і грунтоўна адрозніваюцца ад праваслаўных храмаў, хаця ў элементах планаў і дэталях абароны сустракаецца нязначнае падабенства. Зборы ў Асташыне, Койданаве, Заслаўі з'яўляюцца помнікамі новага этапа ў развіцці бясстоўпных храмаў Беларусі, якія прыйшлі на змену шматпралётнай гатычнай сістэме. У архітэктуры збораў спалучаліся элементы позняй готыкі і рэнесансу.

Кальвінскія зборы звычайна абносіліся мураванымі сценамі з вежамі або землянымі валамі і бастыёнамі. Некаторыя будынкі ўзводзіліся на замкавых дварах.

## Асташынскі збор

Рэфармацкі храм у Асташыне быў пабудаван Я. Швыкоўскім у канцы XVI ст. Невялікі па сваіх памерах (8,5×12 м) храм меў у плане форму выцягнутага прамавугольніка, які заканчваўся апсідай формы ўсечанага трохвугольніка. Тоўстыя, да 2 м, сцены праразалі 6 маленькіх акон, якія нагадвалі замкавыя байніцы. З поўдня да памяшкання прыбудавана вежа памерамі 5,9×7,1 м з масіўным контрфорсам. Яна складалася з чатырох прамавугольных ярусаў, якія памяншаліся ў аб'ёме і вышыні ад ніжняга яруса да верхняга. Пабудаваны на невялікім пагорку храм узвышаўся над ваколіцай маналітнай мураванай глыбай. Уражанне яшчэ больш узмацняла агарожа 2-мятровай таўшчыні, якая абкружала збор у выглядзе прамавугольніка памерамі 37×30 м.



*Рыс. 78. Асташынскі збор*

### Заслаўскі храм

Блізка да Асташынскага храма стаіць Заслаўская Праабражэнская царква, пабудаваная князем Іванам Глябовічам у 1577 г. Яна прыземістая, з тоўстымі сценамі, упрыгожанымі глухімі байніцамі ў выглядзе вісячага аркатурнага пояса. Мяркуецца, што ў верхніх частках сцен некалі меліся байніцы, але потым, у час перабудовы храма, відаць, былі заменены дэкаратыўнымі [90].

Прапорцыі Заслаўскай царквы ў параўнанні з Асташынскім зборам больш лёгкія. Амаль 30-мятровая вежа яе з 6 ярусамі байніц, прыбудаваная пазней, выдаецца стройнай і ўдала дапасаванай да прамавугольнага блока асноўнага будынка. Знутры і звонку сцены храма расчлянены пілястрамі, а карнізы апрацаваны рустамі. Аднак у адрозненне ад Асташынскага храма тут няма алтара. Стаіць Праабражэнская царква ў цэнтры магутнага бастыённага замка.



*Рыс. 79. Заслаўскі храм*

### Койданаўскі храм

Цікавым помнікам сярод групы кальвінскіх збораў з'яўляецца храм у Койданаве, узведзены ў першай палове XVI ст. Ён стаяў на высокім пагорку, так званай Гаштольдавай гары, і быў абведзен вадзяным ро-

[90] Кацер М. С. Белорусская архитектура. Минск, 1956, с. 53.

вам, які злучаўся з р. Няцечай. Праз роў пераходзілі па пад'ёмнаму мосту, які падводзіў да каменнага муру з 9 вежамі, прыстасаванымі да абароны. Уваход унутр бараніўся традыцыйнай брамай, увенчанай гербам Радзівілаў. Сцены і вежы, відаць, з'яўляюцца ўмацаваннямі ранейшага існаваўшага тут замка, пад аховай якога і ўзвялі рэфармацкі храм.

У плане збор меў форму прамавугольнай 3-нефнай залы і гранёную апсіду. У бакавых фасадах размяшчаліся круглыя байніцы. Магутная вежа ўзведзена ў тарцы будынка. Квадратная ў плане, яна ўверсе пераходзіла ў васьмярык і таксама была забяспечана байніцамі [91].

Заканчваючы разгляд храмаў абарончага тыпу, трэба адзначыць, што ў асобных беларускіх гарадах яны адыгрывалі даволі значную ро-



*Рыс. 80. Койданаўскі збор*

лю, бо стаялі ля вусцяў гандлёвых магістралей або на важных скрыжаваннях гарадскіх вуліц. Гарадамі, якія ў XVII ст. асноўвалі сваю абарону на сістэме мураваных касцёлаў і кляштараў, былі Слонім і Гродна.

Так, напрыклад, памяшканні кляштарнага комплексу брыгітак у Гродна (1642—1651) былі абнесены высокім (каля 5 м) мурам з вугла- вымі 8-кантовымі вежамі, прыстасаванымі для стральбы. Францысканскі кляштар у Гальшанах на рагах корпуса таксама меў баявыя вежы. Значныя ўмацаванні ў кляштары картузіянцаў (Бяроза Картузская, 1648—1689). Велізарны комплекс кляштара меў выгляд горада, абкружанага абарончым ровам, валам і мураванымі сценамі, у заломах якіх стаялі 8-кантовыя вежы з 4 ярусамі байніц [92]. Уваход на тэрыторыю кляштара знаходзіўся ў 2-павярховай магутнай браме, перакрытай скляпеннямі. Яна таксама была забяспечана байніцамі. Уваход у касцёл, які меў выгляд 3-нефнай базілікі, закрываў і абараняў мураваны, завершаны купалам барбакан. За хорам галоўнага нефа стаяла велізарная вежа-званіца, якая была своеасаблівым данжонам. У 2,5-мятровай таўшчыні сцен вежы ішла вінтавая лесвіца. Яна выходзіла на кожны

[91] Иодковский И. И. Церкви, приспособленные к обороне..., с. 202—203.
[92] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska, t. 3, str. 772.

ярус, дзе размяшчаліся гарматы. У 1915 г. кляштар згарэў, а касцёл быў разбуран. Захаваліся толькі асобныя памяшканні, дзве вежы, брама, руіны вежы-званіцы [93].

Вялікая ўвага царкоўным пабудовам адводзілася і ў абароне прыватнаўласніцкіх гарадоў. Яркім прыкладам таму з'яўляецца Нясвіж, дзе на стратэгічна важных напрамках абароны, асабліва на подступах да замка, стаялі масівы мураваных кляштараў—бенедзіктынскага, езуіцкага, бернардзінскага і дамініканскага. Вядома, што ў сакавіку 1706 г., у час Паўночнай вайны, шведскі атрад падпалкоўніка Траўтфэтара пасля штурму ўзяў горад. Аднак казакі, якія заселі ў мурах езуіцкага калегіума і ў мураваных дамах, нанеслі непрыяцелю значныя страты. За ўвесь час аблогі шведы так і не здолелі заняць будынка калегіума [94]. Як мы бачым, адной з яркіх і адметных рыс беларускага ваеннага дойлідства сярэдніх вякоў з'яўляецца шырокая інкастэляцыя храмаў, якім адводзілася значная роля ў абароне насяленняў ад знешняй небяспекі.

[93] Квитницкая Е. Д. Белоруссия. Архитектура XVII в., с. 492; яе ж. Кляштар у Картузскай Бярозе.— ПГКБ, 1973, № 4, с. 21—22

[94] Kotłubaj E. Galeria nieświeżska portretów Radziwillowskich Wilno, 1857, str. 409.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Аналіз разнастайных матэрыялаў па гісторыі старажытнабеларускага ваеннага дойлідства, высвятленне асаблівасцей яго эвалюцыі на розных этапах даюць магчымасць прасачыць і зразумець заканамернасці развіцця ваенна-інжынернага мастацтва заходніх зямель Беларусі. Яно, як і ўсе іншыя з'явы грамадскага жыцця, сваім удасканаленнем абавязана зменам ва ўзроўні вытворчых сіл і вытворчых адносін. Таму асноўныя этапы ў развіцці ваеннага інжынернага мастацтва ў значнай ступені адпавядаюць асноўным этапам гістарычнага развіцця Беларусі.

Ваеннае дойлідства заходніх зямель Беларусі ў дафеадальную пару прайшло шлях ад прымітыўных драўляных загарадак да шматрадовых земляных умацаванняў з моцнымі драўлянымі сценамі.

Дасягненні тых часоў з'явіліся трывалым грунтам, на якім у канцы IX—XI ст. адбыўся пераход да якасна новага этапа ў развіцці ваеннага дойлідства, звязанага з узнікненнем на Беларусі гарадоў, складваннем класавага грамадства і раннефеадальнай дзяржавы. Гэта адкрыла вялікія эканамічныя магчымасці для ваеннага будаўніцтва, дазволіла мабілізоўваць значна болей рабочай сілы і сродкаў. Адначасова з'явіліся лепш арганізаваныя і добра ўзброеныя вайсковыя сілы, якія перайшлі да больш складанай тактыкі — асады-аблогі. У параўнанні з раней існаваўшай тактыкай раптоўных нападаў аблога была значным крокам наперад у ваеннай справе. Абарончыя якасці рэльефу у тыя часы адыгрывалі яшчэ даволі значную ролю, аднак галоўным фактарам абароны паступова станавіліся штучныя збудаванні — валы, равы і драўляныя сцены.

Умацаванні старажытных гарадоў Беларусі вызначаліся ўнушальнай магутнасцю і складанасцю абарончых збудаванняў.

У канцы XII — першай палове XIII ст. адбыліся істотныя змены ў тактыцы нападу і абароны ўмацаваных пунктаў. Пасіўная аблога ўсё часцей замянялася прамым штурмам, які падтрымліваўся дзеяннямі камнямётных машын. Новая тактыка захопу ўмацаванняў выклікала да жыцця новыя прыёмы арганізацыі абароны і новыя формы абарончых збудаванняў. Так, ужо ў XII ст. у Гродна існавалі мураваныя абарончыя вежы. У сувязі з далейшым развіццём мясцовага ваенна-інжынернага мастацтва і пад уплывам ваеннага дойлідства заходніх, паўночных і паўднёва-заходніх краін на заходніх землях Беларусі ў XIII ст. сфарміравалася новая тактычная схема арганізацыі абароны гарадоў, асноўным вузлом якой стала магутная мураваная вежа-данжон.

Несумненныя перавагі мураваных веж перад драўлянымі паспрыялі далейшаму развіццю каменнага дойлідства на Беларусі, якое стымулявалася пастаяннай знешняй небяспекай з боку крыжаносцаў, татар і шведаў.

Тактыцы крыжакоў, якія вялі заваяванне зямель Прыбалтыкі і Беларусі з дапамогай замкаў-кастэляў, у першай палове XIV ст. была процiпастаўлена адпаведна тактыка абароны: на галоўных напрамках рыцарскіх паходаў узніклі магутныя заслоны — мураваныя замкі ў Лідзе, Крэве, Медніках.

Гродзенскі 5-вежавы і Навагрудскі 7-вежавы замкі, узведзеныя на высокіх пагорках у канцы XIV ст., удала спалучалі абарончыя якасці мясцовасці і магутнасць каменных муроў.

Аднак з прычыны вялікай дарагоўлі і працаёмкасці будаўніцтва мураваных замкаў у тыя часы было няшмат. Пераважная большасць глыбінных гарадоў і замкаў мела яшчэ дрэваземляныя ўмацаванні.

Канец XV — пачатак XVI ст. азнаменаваўся шматлікімі гвалтоўнымі нападамі крымскіх татар. Палітычныя супярэчанні паміж пануючымі класамі Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржавы ў другой палове XVI—XVII ст. выліліся ў шэраг вострых ваенных канфліктаў і сутыкненняў, пад час якіх Беларусь станавілася галоўным тэатрам ваенных дзеянняў, а яе гаспадарка на працягу паўтараста гадоў падвяргалася спусташэнням і разбурэнням.

Вышэйадзначаныя ўнутраныя і знешнія прычыны паклалі пачатак новаму этапу ў развіцці беларускага ваеннага дойлідства. Ён характарызуецца ўзмоцненым будаўніцтвам прыватнаўласніцкіх замкаў, далейшым умацаваннем абароны парубежных гарадоў і энергічнай інкастэляцыяй як гарадскіх, так і сельскіх храмаў.

Феадальныя замкі Беларусі XV і XVI стст. вызначаюцца невялікімі памерамі. Асноўная роля адводзіцца магутным вежам вышынёю ў 2—5 ярусаў, разлічаным на фланкіруючую стральбу з разнастайнай вогнестрэльнай зброі. Вялікая ўвага ўдзялялася ўваходу ў замак, які дадаткова ўмацоўваўся засцерагальнымі рашоткамі-герсамі, барбаканамі і г. д. Важную ролю па-ранейшаму ігралі прыродныя фартыфікацыйныя якасці мясцовасці.

Хаця феадальныя замкі той пары яшчэ захоўвалі суровыя рысы цытадэлей, аднак усё часцей яны аздабляліся, улічваючы задачы прадстаўніцтва і параднасці. За замкавымі мурамі сталі ўзводзіць пышныя і велічныя палацы.

Яркай і адметнай рысай беларускага сярэдневяковага дойлідства з'яўляюцца інкастэляваныя храмы. На рубяжы XV і XVI стст. на Беларусі склаўся своеасаблівы тып інкастэляванага храма ў выглядзе прамавугольнага будынка з чатырма баявымі нарожнымі вежамі, які захаваў тып плана царквы дамангольскай пары. Да ліку такіх храмаў-замкаў адносяцца пабудаваныя на рубяжы XV—XVI стст. Полацкая Сафія, Полацкі Мікольскі (?) храм, Супраслеўская, Сынковіцкая і Маламажэйкаўская цэрквы.

У XVI — першай палове XVII ст. на Беларусі таксама будаваліся 2-вежавыя абарончыя храмы, як праваслаўныя, так і каталіцкія. Іх стылявое і вобразнае падабенства сведчыць аб тым, што беларусы, нягледзячы на разнастайнасць вераванняў, развівалі сваю культуру супольна і ў адным рэчышчы. Абставіны ўнутранага палітычнага і рэлігійнага жыцця стымулявалі таксама інкастэляцыю рэфармацкіх храмаў і каталіцкіх кляштараў.

Развіццё вогнестрэльнай зброі рэзка актывізавала тактыку аблогі гарадоў і замкаў, выклікаўшы істотныя змены ў прынцыпах і сродках абароны. Акцэнт абароны паступова стаў перамяшчацца на знешнія лініі ўмацаванняў — земляныя валы з драўлянымі ці мураванымі аба-

рончымі канструкцыямі. З сярэдзіны XVI ст. на Беларусі пачалі ўзводзіцца бастыённыя ўмацаванні ў традыцыях стараітальянскай, а затым новаітальянскай і старагаландскай фартыфікацыйных сістэм.

Носьбітамі перадавых ваенных ідэй былі як самі магнаты, якія не раз падарожнічалі па Еўропе, удзельнічалі ў еўрапейскіх войнах і вучыліся ў еўрапейскіх універсітэтах, так і асобныя замежныя архітэктары-фартыфікатары, трапляўшыя на Беларусь рознымі шляхамі.

Ваеннае дойлідства Беларусі тых часоў, нават калі тут працавалі замежныя інжынеры і архітэктары, заўсёды было арганічнай часткай нацыянальнай культуры, а не касмапалітычным прадметам заходнееўрапейскага экспарту. Пад уплывам канкрэтных мясцовых умоў і даўніх народных традыцый творчасць замежных спецыялістаў настолькі змянялася, што станавілася часткаю мясцовай культуры і тутэйшага ваенна-інжынернага мастацтва. Аднак важнейшым фактарам у гэтай з'яве быў пастаянны актыўны ўдзел шырокіх слаёў насельніцтва гарадоў і вёсак у ваенна-манументальным будаўніцтве. Сваёй нялёгкай працай, талентам і энергіяй працоўныя масы няспынна ўзбагачалі, дэмакратызавалі ваеннае дойлідства, садзейнічалі яго развіццю на аснове рацыяналізму, лепшых нацыянальных тэхнічных і мастацкіх традыцый, якія стагоддзямі выпрацоўваліся і ўдасканальваліся. Зерні новых ідэй еўрапейскай фартыфікацыі траплялі ў Беларусі на ўжо падрыхтаваную глебу, таму тагачаснае мясцовае ваеннае дойлідства не толькі адпавядала ўсім ваенным патрабаванням, але і захоўвала свае выразныя нацыянальныя рысы, мела свой каларыт і аблічча, ішло ўпоравень з часам.

Пастаянная сувязь з культурай як бліжніх суседзяў — паўночна-заходнімі раёнамі Русі, Прыбалтыкай, Польшчаю, так і заходнееўрапейскімі краінамі — Чэхіяй, Германіяй, Францыяй, Італіяй, Нідэрландамі — важная рыса ваенна-інжынернага мастацтва Беларусі эпохі сярэдневякоўя.

Адыграўшы сваю ролю ў абароне беларускіх зямель у XIV—XVIII стст., старыя замкі саступілі месца новым магутным даўгачасным умацаванням з многакіламетровымі лініямі абароны, з гарнізонамі салдат рэгулярнага войска, з фортамі і цытадэлямі, у падмурку магутнасці якіх ляжалі ўсе дасягненні фартыфікацыі папярэдніх эпох.

# ЗМЕСТ

**Михаил Александрович Ткачев**

**ОБОРОНИТЕЛЬНЫЕ СООРУЖЕНИЯ ЗАПАДНЫХ ЗЕМЕЛЬ БЕЛОРУССИИ XIII—XVIII вв.**

На белорусском языке

Рэдактар *Л. А. Шрубок*
Мастак *Г. Н. Рапінскі*
Мастацкі рэдактар *Ю. С. Сергачоў*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*
Карэктар *М. А. Вячорка*

ІБ № 380

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 12024. Здадзена ў набор 24.08.77. Падпісана да друку 26.01.78. Фармат 70×100$^{1}/_{16}$. Папера друк. № 1. Друк. арк. 9,0. Ум. друк. арк. 11,61. Уч.-выд. арк. 11,25. Тыраж 1050 экз. Выд. № 149. Зак. № 1749. Цана 1 р. 50 к.
Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

**Выдавецтва**

**«НАВУКА І ТЭХНІКА»**

***выпускае ў 1978 годзе манаграфію***

**кандыдата гістарычных навук**

**А. Г. МІТРАФАНАВА**

**ЖАЛЕЗНЫ ВЕК СЯРЭДНЯЙ БЕЛАРУСІ**
**(VII—VI стст. да н. э.— VIII ст. н. э.)**

*На рускай мове. Цана 1 р. 55 к.*

У кнізе падводзяцца вынікі даследаванняў старажытных паселішчаў, якія адносяцца да жалезнага веку. На тэрыторыі сярэдняй Беларусі — у Мінскай, Гродзенскай, паўднёвых і ўсходніх раёнах Віцебскай, паўночных раёнах Магілёўскай і Гомельскай абласцей — помнікаў гэтай эпохі не менш 250. На 20 з іх рабіліся раскопкі. Аўтар расказвае аб культуры, гаспадарцы, грамадскім ладзе продкаў славян, якія засялялі гэтыя землі ў VII ст. да н. э.— VIII ст. н. э., падрабязна апісвае выяўленыя ім паселішчы.

Разлічана на археолагаў, этнографаў, гісторыкаў, выкладчыкаў ВНУ і школ, студэнтаў і тых, хто цікавіцца мінулым нашай Радзімы.

*Заказы накіроўваць па адрасу: 220668 Мінск, плошча Свабоды, 19. Магазін «Кніга — поштай».*